**М. І. Верціхоўская, В. У. Верціхоўская**

# Тэставыя заданні па беларускай мове і літаратуры

*матэрыялы да экзамену*

Мінск
Кніжны дом
2003

**УДК 808.26(075.3)**
**ББК 81.2Беи-922**
В31



**Р э ц э н з е н т ы :**

старшы выкладчык кафедры беларускай мовы і методыкі яе выкладання Белдзяржпедуніверсітэта імя Максіма Танка *Акаловіч* Л.А.

старшы выкладчык Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа *Сіўковіч В.М.*

**Верціхоўская М.І., Верціхоўская В.У.**
**В31 Тэставыя заданні па беларускай мове і літаратуры: Матэрыялы да экзамену. - Мн.: Кніжны Дом. 2003. -- 272 с.**

ISBN 985-428-614-2.

Кніга ўяўляе сабой інтэграваныя тэставыя заданні па мове і літаратуры, складзеныя паводле мастацкіх твораў, большасць з якіх вывучаецца ў школе.

Адказы да ўсіх заданняў, іменны і прадметны паказальнікі спрыяюць зручнасці карыстання кнігай у час самастойнай падрыхтоўкі да экзамену. Паспяхова карыстацца кнігай змогуць і настаўнікі ў час падрыхтоўкі і правядзення факультатываў, курсаў на выбар, пры падрыхтоўцы вучняў да алімпіяд, а таксама да напісання водгукаў.

**УДК 808.26(075.3)**
**ISBN 985-428-614-2** **ББК 81,2Беи-922**

## Ад аўтараў

Адметнасцю і унікальнасцю кнігі (аналагаў ёй пакуль што няма) з'яўляецца тое, што да ўсіх прапанаваных пытанняў і заданняў паводле мастацкіх тэкстаў ёсць адказы. Пытанні і адказы выводзяць чытача за межы аналізуемых урыўкаў на абсягі ўсведамлення творчасці пісьменнікаў наогул.

Амаль тры чвэрці зместу кнігі складаюць якраз адказы, што і робіць яе надзвычай зручнай пры выкарыстанні. Чытач пераканаецца, што кніга насычана інфармацыяй, якая дазволіць сістэматызаваць веды і па мове, і па літаратуры.

Большасць пытанняў і заданняў разлічана на самы высокі - 5-ы ўзровень навучання, які ў сучаснай школе ацэньваецца 9-10 баламі. Гэта дазваляе настаўніку выкарыстаць кнігу і на выніковых праверачных працах амаль па ўсіх раздзелах, як па мове, так і па літаратуры. Пяты ўзровень прадстаўлены заданнямі на прымяненне ведаў і ўменняў у незнаёмай сітуацыі. Для адказу патрабуюцца такія прыёмы разумовай дзейнасці, як аналіз, сінтэз, параўнанне, супастаўленне, самастойны творчы падыход да выканання заданняў.

Пра інфармацыйнасць кнігі сведчаць іменны і прадметны паказальнікі, змешчаныя ў канцы. Зварот да іх зробіць зручным карыстанне кнігай. Чытач заўважыць, што не толькі адказы, але ўжо самі пытанні і заданні сфармуляваны так, што нясуць багатую інфармацыю ці скіроўваюць чытача на "бачанне" глыбіні тэксту, разуменне падтэксту мастацкіх твораў, на ўсведамленне стылістычнай ролі лінгвістычных і мастацкіх сродкаў.

У кнізе засведчаны вопыт працы з таленавітай моладдзю, з тымі, хто на Рэспубліканскай алімпіядзе па беларускай мове і на ўступных экзаменах у прэстыжныя ВНУ дамагаўся поспехаў. Уласны вопыт аўтараў кнігі

пераканаўча даказвае, што самы эфектыўны шлях да перамогі вядзе праз комплексныя, асацыятыўныя формы падрыхтоўкі. Спасціжэнне і аваладанне словам эфектыўней пры комплексным успрыманні ўсіх моўных і мастацкіх сродкаў, а гэта магчыма толькі ў кантэксце.

Кніга напісана так, што паступова вучань авалодае алгарытмам "бачання" і "прачытання" твора, спасцігне заканамернасці яго аналізу; вобразна кажучы, - навучыцца сам лавіць рыбу і не будзе чакаць, калі нехта яе наловіць і "нафаршыруе" яго памяць разрозненай інфармацыяй. Такая інфармацыя страчваецца і не спрацоўвае пры неабходнасці прымяніць яе ў нестандартнай сітуацыі ці пры першай жа перагрузцы памяці. Асацыятыўная інфармацыя жывіць менавіта асацыятыўную памяць, а яна - вышэйшы і самы надзейны тып памяці і складаемае асацыятыўнага, г. зн. творчага мыслення.

Кніга будзе асабліва карыснай настаўніку, які дбае пра свой прафесіяналізм. Як кожны матэматык-прафесіянал сам многа рашае складаных задач "для сябе", а не толькі тыя, якія рашае з вучнямі на ўроках, так і славеснік павінен многа чытаць і аналізаваць тэксты. Пытанні і заданні да кожнага мастацкага тэксту скіроўваюць і настаўніка на глыбокі комплексны аналіз, як лінгвістычны, так і літаратуразнаўчы. Кніга дазволіць настаўніку-славесніку не толькі праверыць, але і павысіць свой прафесійны ўзровень.

Кніга пры ўсёй сваёй кампактнасці ўтрымлівае інфармацыю амаль па ўсіх раздзелах школьных курсаў і мовы, і літаратуры. Гэта, па сутнасці, гатовы канспект факультатыва і курса на выбар, якія наведваюць самыя здольныя вучні. Многае з матэрыялаў кнігі можна выкарыстаць непасрэдна на ўроках і мовы, і літаратуры, а таксама пры падрыхтоўцы да ўрокаў. Нездарма гэтай кнігай, толькі пад другой назвай, шырока карыстаюцца выкладчыкі ліцэяў, гімназій, каледжаў. Настольнай кнігай

назвалі яе многія настаўнікі вышэйшай катэгорыі ў час праходжання курсавой перападрыхтоўкі. Да таго ж настаўнікі назвалі гэту кнігу унікальнай і таму, што яшчэ няма кнігі, дзе б інтэгравана быў пададзены курс беларускай мовы і літаратуры. А дарэчы, менавіта ў такім плане, комплексна, праводзіліся лінгвістычныя туры ўсіх алімпіяд, найперш - рэспубліканскай. Адзін з аўтараў гэтай кнігі ў свой час меў гонар быць таксама і аўтарам адной з рэспубліканскіх алімпіяд па беларускай мове.

Гэтай кнігай паспяхова змогуць карыстацца і абітурыенты ў час самастойнай падрыхтоўкі да ўступных экзаменаў і па мове, і па літаратуры, у тым ліку і да экзамену ў форме тэставання ці водгукаў на прачытаны твор. У кнізе не падаюцца варыянтныя, няправільныя, адказы, бо гэта наогул супярэчыць прынцыпам дыдактыкі. У адказах, і нават у саміх пытаннях, - ключ да разумення ідэі, філасофіі твораў і сродкаў іх рэалізацыі. Паступова, авалодаўшы алгарытмам аналізу мастацкага твора, ім, як ключом, можна "адамкнуць" любыя дзверы - гэта значыць, прааналізаваць, усвядоміць любы самастойна прачытаны твор як факт мастацтва.

Камплект № 1

## Залатое правіла законаў вечнасці

(паводле Евангелля ад Мацвея)

Не судзіце, каб вас не судзілі, бо, якім судом судзіце, такім і вас судзіцьмуць, якою меркаю мерыце, такою і вам адмерыцца. І што ты глядзіш на трэсачку ў воку брата твайго, а калоды ў воку тваім не адчуваеш? Крывадушнік, вымі спачатку калоду з вока твайго, і тады ты ўбачыш, як выняць сучок з вока брата твайго. Не давайце святыні сабакам і не кідайце жэмчугу перад свіннямі, каб яны не растапталі яго нагамі сваімі і, абярнуўшыся, вас не разарвалі.

Прасіце, і вам дасца; шукайце, і знойдзеце; стукайце, і адчыняць вам, бо кожны, хто просіць, атрымае, і хто шукае, знаходзіць, і хто стукае, таму адчыняюць. Ці ёсць паміж вамі такі чалавек, які, калі сын у яго папросіць хлеба, падаў бы яму камень?

І ва ўсім, як хочаце, каб людзі рабілі з вамі, так і вы рабіце з імі, бо ў гэтым закон і прарокі.

Уваходзьце праз цесную браму,
бо шырокая брама і праcторная дарога
вядуць у пагібель,
і многія ходзяць імі,
бо цесная брама і вузкая дарога
вядуць у жыццё,
і нямногія знаходзяць іх.

*Евангелле паводле Мацвея. З Нагорнага казання*

1. Растлумачце знакі прыпынку ў сказах 1, 3, 5, 6; зрабіце іх схемы.
2. Вызначце стыль* тэксту, абгрунтуйце сваё меркаванне.

* Тэрміны. азначэнні і заданні, пазначаныя зорачкай (*), вынесены ў адпаведны паказальнік для зручнасці карыстання пры неабходнасці выбарачнай, мэтавай працы з кнігай.

3. Вызначце стылістычную ролю лексічных* і сінтаксічных* сродкаў.
4. Растлумачце сэнс словазлучэнняў і выразаў, выкарыстаных у пераносным значэнні*.
5. Звярніце ўвагу на афармленне апошняга абзаца*. Чым яно абумоўлена? Вызначце філасофскі сэнс апошняга абзаца-страфы*.
6. Прывядзіце доказы (аформіце тэзісна) таго, што Біблія* з'яўляецца адным з найвялікшых здабыткаў духоўнай культуры свету і высокамастацкім літаратурным творам. Якім крытэрыям шэдэўра мастацтва адпавядае ўрывак з Бібліі - Нагорнае казанне?
7. Прыгадайце некалькі біблейскіх фразеалагізмаў* і растлумачце іх сэнс.
8. Зрабіце поўны сінтаксічны* разбор сказаў: *Не давайце святыні... і І ва ўсім, як хочаце...* .
9. У чым праявілася ідэйная* і жанравая* сувязь творчасці Кірылы Тураўскага з Бібліяй?
10. Прыгадайце прыклады біблейскіх матываў* у творах класічнай і сучаснай беларускай літаратуры.
11. Зрабіце фанетычны* аналіз слоў *адчыняюць, уваходзьце.*

## Камплект № 2

### "**Сцеражыцеся лжывых пракокаў...**"

(паводле Евангелля ад Мацвея)

Сцеражыцеся лжывых пракокаў, якія прыходзяць да вас у авечай адзежы, а ў сярэдзіне ваўкі драпежныя: па іх пладах пазнавайце іх. Ці ж збіраюць з цярноўніку вінаград альбо з дзядоўніку смоквы? Так усякае дрэва добрае родзіць і плады добрыя, а кепскае дрэва родзіць

**Заўвага**. Тэрміны, азначэнні і заданні ў адказах, якія адпавядаюць пытанням і заданням, не падаюцца: іх можна лёгка адшукаць па адпаведных тэрмінах у пытаннях, вынесеных у паказальнік.

Усе віды разбораў падаюцца часткова, з акцэнтам толькі на самыя складаныя моманты.

і плады кепскія: не можа дрэва добрае радзіць плады кепскія, ні дрэва кепскае радзіць плады добрыя. Усякае дрэва, што не родзіць добрага плода, сякуць і кідаюць у агонь. Дык вось па пладах іх і пазнаеце іх.

…Дык вось кожнага, хто слухае гэтыя словы Мае і выконвае іх, прыпадобню да мужа разумнага, які збудаваў свой дом на камені; і паліўся дождж, і разліліся рэкі, і бура ўзнялася на той дом, і ён не ўпаў, бо пастаўлены быў на камені. А кожны, хто слухае гэтыя словы Мае і не выконвае іх, прыпадобніцца да чалавека неразумнага, які паставіў свой дом на пяску; і паліўся дождж, і разліліся рэкі, і бура ўзнялася і налегла на дом той, і ён упаў, і было знішчэнне яго вялікае.

*Евангелле паводле Мацвея.*
*З Нагорнага казання*

1. Растлумачце знакі прыпынку ў сказах 1, 3; зрабіце іх схемы.
2. Параўнайце структуру двух апошніх сказаў, пабудуйце іх схемы. Вызначце ў кожным складаным сказе тып галоўнага *Дык вось кожнага…* і А *кожны…* . Назавіце (падкрэсліце) граматычную аснову гэтых сказаў.
3. Выпішыце словы з асімілятыўнай мяккасцю* (праз транскрыпцыю).
4. Зрабіце марфемны* і словаўтваральны* аналіз слоў *прыпадобніцца, знішчэнне, неразумнага.*
5. Зрабіце фанетычны* разбор слоў *дождж, разліліся.*
6. Якой часцінай мовы з'яўляюцца словы *і, ні* ў трэцім сказе?
7. Растлумачце сэнс словазлучэнняў і выразаў з пераносным значэннем*.
8. Вызначце стылістычную ролю лексічных* і сінтаксічных* сродкаў у тэксце.
9. Прыгадайце і запішыце ўсе вядомыя вам народныя выслоўі*, якія па сэнсе адпавядаюць біблейскаму *не можа*

*дрэва добрае радзіць плады кепскія, ні дрэва кепскае радзіць плады добрыя;* вызначце іх жанр*

10. Растлумачце сэнс біблейскіх фразеапагізмаў*: *соль зямлі; манна нябесная; святое святых; несці крыж; узысці на Галгофу; не хлебам адзіным.*
11. Напішыце пераказ біблейскай прытчы* (на выбар), вызначце яе філасофскі змест.
12. Вызначце асаблівасці прытчы* як жанру. Хто з беларускіх пісьменнікаў выкарыстоўваў у сваей творчасці біблейскія і народныя прытчы? Назавіце гэтыя творы і вызначце прытчавую ролю ў выражэнні ідэі.

Камплект № 3

## "Жыціе Ефрасінні Полацкай" - помнік нацыянальнай культуры

Кыим убо языком, братие, достоит ми похвалити светозаръную память преблаженныя невесты Христовы Еуфросиние? Бяшет бо помощница обидимым, скорбящим утешение, нагим одение, больным посещение, и спроста рещи, всем всяка бысть Еуфросиния убо сердце свое напаяще Божиа премудрости. Еуфросиниа неувядающий цвет райского сада. Еуфросиниа - небопарный орел, попарившия от запада до въстока, яко луча солнечьнаа, просветившия землю Полотьскую. Тем же, братие, хвалится Селунь о святом Димитрии, а Вышегород мученикома Борисом и Глебом; аз же хвалюся: блажен сей ты, граде Полоцкый, такову леторасль возрастивый - преподобную Еуфросинию. Блажении людие, живущеи во граде том. Блажении родители твои, блажена утроба, от нея же изыде преподобнаа госпожа Еуфросиниа. Блажено рожество ся, блажено воспитание ся, блажен и

возрастся, Еуфросинии достохвалныя. Блажен труд твой и подвизи, яже к Богу. Блажен и монастырь твой, блажени и живущии в монастыри святого Спаса и святыя Богородица. Блажении людие, послуживший тебе. Но, о преблаженая невеста Христа Бога нашего, молися к Богу о стаде своем, еже еси совокупила о Христе, яко тому подобает всякая слава, честь и покланяние с Отцем и со святым Духом ныне и присно и в веки веком Аминь.

*З "Жыція Ефрасінні Полацкай "*

1. Перакладзіце на сучасную беларускую мову. Зрабіце поўны сінтаксічны разбор аднаго (на выбар) перакладзенага сказа.
2. Назавіце моманты кампазіцыі жыццяў* як жанру. Якім кампазіцыйным момантам з'яўляецца гэты ўрывак?
3. Прывядзіце канкрэтныя факты і доказы ўздзеяння жыццяў* і летапісаў* на літаратуру наогул і сучасную беларускую ў прыватнасці.
4. Назавіце ў тэксце дзеепрыметнікі і дзеепрыметныя звароты. Якія з іх не характэрны для сучаснай беларускай мовы? Чым трэба карыстацца, каб пазбегнуць непажаданых форм дзеепрыметнікаў пры перакладзе з рускай мовы? Прыгадайце асноўныя правілы перакладу* і прывядзіце прыклады.
5. Да перыфразы *нявеста Хрыста* падбярыце слова-адпаведнік. Прыгадайце яшчэ колькі перыфраз* і да іх адпаведнікі па ўзору:

   *лясныя рыцары* - партызаны;
   *сейбіт разумнага, добрага, вечнага* - настаўнік;
   *чорнае золата* - нафта.
6. Назавіце сродкі сувязі* ў тэксце.
7. Назавіце мастацкія і лінгвістычныя сродкі, якімі дасягаецца лірызм, узрушанасць, эмацыйнасць тэксту.

Камплект № 4

**" Як промень сонечны..."**

**Еўфрасіння Полацкая - нябесная заступніца зямлі беларускай**

Якою мовай, братове, належыць уславіць светлую памяць найшчаснейшай нявесты Хрыстовай Еўфрасінні! Была яна дапамогай пакрыўджаным, суцяшэннем засмучаным, распранутым - адзеннем, хворым - наведаннем ці, проста кажучы, - для ўсіх была ўсім. Еўфрасіння сэрца сваё паіла Божаю мудрасцю. Еўфрасіння - незвядальны квет райскага саду. Еўфрасіння - арол, што, лунаючы ў небе, праляцеў ад захаду і да ўсходу, як промень сонечны, прасвятліў зямлю Полацкую. Вось, братове, Селунь хваліцца святым Дзімітрыем, Вышгарад - пакутнікамі Барысам і Глебам; я ж хвалюся: шчаснае ты, места Полацкае, што ўзрасціла такі парастак - найпадобнейшую Еўфрасінню! Шчасны люд, што жыве ў месцы тым! Шчасныя бацькі яе; шчаснае ўлонне, з якога выйшла найпадобнейшая панна Еўфрасіння! Шчаснае нараджэнне яе, шчаснае гадаванне, шчаснае і ўзрастанне найпачэснейшай Еўфрасінні! Шчасная праца яе і подзвігі дзеля Бога! Шчасны і манастыр, шчасныя і насельнікі манастыроў Святога Спаса і Святой Багародзіцы! Шчасны люд, што табе паслугаваў! Але, о найшчаснейшая нявеста Хрыста, Бога нашага, маліся да Бога аб статку сваім, які ты спалучыла ў Хрысце, Якому належыць усялякая слава, гонар і пакланенне з Айцом, і Сынам, і Святым Духам цяпер і заўжды і давеку! Амін.

*З "Жыція Ефрасінні Полацкай".*
*Пераклаў з царкоўнаславянскай*
*Аляксей Мельнікаў*

1. Растлумачце знакі прыпынку і вызначце стылістычную ролю сінтаксічных* сродкаў.

2. Зрабіце поўны сінтаксічны разбор шостага сказа. Якімі часцінамі мовы з'яўляюцца словы *пакрыўджаным, засмучаным, распранутым, хворым* і якая іх сінтаксічная роля ў другім сказе?
3. Да слоў *места, манастыр* падбярыце сінонімы*.
4. Да выразаў *насельнікі манастыра, нявеста Хрыста* падбярыце словы-адпаведнікі. Як называюцца такія выразы?
5. Якое кантэкстуальнае* значэнне слова *статак* у апошнім сказе?
6. Назавіце ў тэксце мастацкія тропы* і вызначце іх ролю.
7. У якім значэнні* ўжыта слова *мова* ў першым сказе? Раскрыйце ўсе значэнні гэтага слова і складзіце з ім словазлучэнні ці сказы.
8. Назавіце вядомых вам людзей, якія таксама праславілі "места Полацкае"; коратка напішыце, чым яны яго праславілі.
9. Ефрасіння Полацкая, Лазар Богша, Вацлаў Ластоўскі, Уладзімір Арлоў. Якая сувязь паміж гэтымі імёнамі? Складзіце адзін сказ, інфармацыйнасць якога прадстаўлена ўсімі гэтымі ўласнымі назоўнікамі.
10. Назавіце (напішыце) вядомыя вам творы У. Арлова. Якая, на вашу думку, самая адметная асаблівасць* яго творчасці?
11. Выпішыце з тэксту прыклады-ілюстрацыі фанетычных асаблівасцей беларускай мовы; зрабіце фанетычны* аналіз трох слоў, якія ілюструюць фанетычныя асаблівасці.
12. Зрабіце марфемны* і словаўтваральны* аналізы слоў *пакрыўджаныя, распранутыя.*

Камплект № 5

**"Слова пра паход Ігаравы" - помнік славянскай культуры**

1.1. На Немизъ снопы стелють головами,
молотять чепи харалужными,

на тоцъ животъ кладуть,
въють душу отъ тъла.
Немизъ кровави брезъ
не бологомъ бяхуть посъяни -
посгяни костьми рускихъ сыновъ.

*"Слово о полку Ігореве "*

1.2. На Нямізе снапы сцелюць
Галовамі,
А малоцяць жа стальнымі
Іх цапамі.
На таку жыццё кладзецца
Неспадзейна,
І душу ад цела веюць
Безнадзейна.
Берагі ў крыві Нямігі
Па калені;
Не дабро на іх пасеяў
Сейбіт жменяй,
А былі яны гусценька
Ў процьмах вузкіх
Там засеяны касцямі
Сыноў рускіх.

*Пераклад Янкі Купалы*

1.3. На Нямізе галовы сцелюць снапамі,
харалужнымі малоцяць цапамі,
жыццё кладуць на таку злюцела,
веюць душу ад цела.
Нямігі крывавыя берагі
не збожжам былі засеяны зноў -
засеяны косцьмі рускіх сыноў.

*Пераклад Р. Барадуліна*

1. Параўнайце пераклады Я. Купалы і Р. Барадуліна з арыгіналам. Даследчык "Слова..." В. Чамярыцкі пісаў пра пераклад Купалы, што ён "надзвычай арыгінальны і паэтычны", што "ён нясе моцны адбітак творчай манеры паэта, яго магутнага таленту". Адбіткам і выяўленнем якіх асаблівасцей стылю*, творчай манеры Купалы з'яўляецца яго пераклад "Слова..."? У чым яго арыгінальнасць і паэтычнасць?
2. Выпішыце са "Слова..." крылаты выраз*. У якім перакладзе ён не зменены?
3. Каму належыць першая спроба данесці да беларускага чытача на яго роднай мове мастацкае хараство славутай паэмы? Пад якою назваю па-майстэрску быў перакладзены невялікі ўрывак з гэтага твора?
4. Якія старажытныя марфалагічныя рысы* мовы помніка захаваліся ў беларускай мове ў адрозненне ад рускай, дзе яны гістарычна былі заменены іншымі, новымі? Ва ўрыўках "На НемизЪ..." і "Ярославна рано плачеть..." (гл. наступны камплект лінгвістычных заданняў, дзе ёсць прыклады гэтых марфалагічных рыс).
5. З урыўкаў-перакладаў выпішыце словы з асімілятыўнай мяккасцю*.
6. Апошні сказ з урыўка купалаўскага перакладу разбярыце па членах сказа (графічна).
7. Прывядзіце доказы (выпішыце з тэксту і абгрунтуйце) мастацкай вартасці і арыгінала, і перакладаў.
8. Як вымаўляюцца* (пакажыце праз транскрыпцыю) спалучэнні слоў *сейбіт жменяю, ад цела веюць безнадзейна?*
9. Што агульнае і што living рознае паміж арыгіналам і купалаўскім перакладам?
10. Прывядзіце прыклад рэтраспекцыі* ў "Слове...". Якое яе прызначэнне? Як гэта характарызуе аўтара "Слова..." як асобу і пісьменніка? Назавіце рэтраспекцыю і вызначце яе ролю ў паэме Міколы Гусоўскага "Песня пра зубра".

Камплект № 6

**Параўнальны аналіз перакладаў "Слова..."**
**на сучасную беларускую мову**

1.1. Ярославна рано плачеть
въ Путивлѣ на забралѣ, аркучи:
"О вѣтрѣ, вѣтрило!
Чему, господине, насильно вѣеши?
Чему мычеши хиновъскыя стрѣлкы
на своею нетрудною крилцю
на моея лады вой?
Мало ли ти бяшетъ горѣ под облаки вѣяти,
лелѣючи корабли на синь морѣ?
Чему, господине, мое веселие
по ковылию развѣя?"

*"Слово..."*

1.2. Яраслаўна рана плача
У Пуціўлі на сцяне,
Наракаючы зязюлькай,
Долю горкую кляне:
"О вецер, вятрыска!
Чаму, ўладар, летам
Сваім гэтак вееш

У вочы сіротам?
Чаму ты на крыллях -
І вольны і смелы -
На мужніх ваякаў
Мчыш ханскія стрэлы?

Ці ж веяці мала
Табе пад аблокі -

Ўгары, ў паднябессі
Шырокім, далёкім?

Або ў сінім моры
Лялеяць, гайдаці
Чаўны з караблямі
Да ціхае гаці?

Чаму ты, ўладару,
Мне радасць асіліў,
Вясёласць развеяў
Па дзікім кавыллі?"

*Пераклад Янкі Купалы*

1.3. Яраслаўна рана плача
ў Пуціўле на забрале, прыгаворваючы:
"О ветру, вятрыска!
Чаму, валадару, вееш процi?
Чаму імкнеш палавецкія стрэлы згубныя
на сваіх лёгкіх крылах
на воінаў майго любага?
Ці ж табе пад аблокамі не стала пrасторы,
караблі люляючы на сінім моры?
Чаму, валадару, весялосць маю
па кавылю развеяў?"

*Пераклад Р. Барадуліна*

1. Чым адрозніваецца барадулінскі пераклад* "Слова..." ад купалаўскага? Якая, на вашу думку, самая адметная вартасць перакладу Р. Барадуліна?
2. Прывядзіце доказы сувязі "Слова..." з фальклорам*.
3. У традыцыях якога жанру* напісаны славуты плач Яраслаўны? У перакладзе Р. Барадуліна вызначце ролю фанетычных сродкаў (асанансу*) у рэалізацыі гэтага жанру.

4. У сучаснай беларускай мове захавалася форма клічнага склону (у рускай мове яна страчана). З тэкстаў выпішыце назоўнікі ў форме клічнага склону. Прыгадайце свае прыклады.
5. У купалаўскім перакладзе ёсць сучасная беларуская назва, роднасная слову *зегзица* ў помніку. Назавіце гэта сучаснае беларускае слова.
6. Лексема *сыновець* (О *моя сыновчя, Игорю и Всеволоде!)* захоўваецца ў беларускім дыялектным* *сыновец.* Што яно азначае?
7. Зрабіце марфемны* і словаўтваральны* аналіз слоў *весялосць, прыгаворваючы.*
8. Прывядзіце доказ уздзеяння "Слова..." на іншыя жанры мастацтва. Назавіце некалькі паэтычных рэмінісцэнцый*.
9. У якіх творах Я. Купалы, на ваш погляд, уплыў і ўздзеянне "Слова..." асабліва моцнае? Прывядзіце доказы традыцый "Слова..." у творах Я. Купалы.
10. Як вы разумееце выраз В. Чамярыцкага: "Адметная асаблівасць светабачання аўтара "Слова..." - **анімістычнае*** ўспрыманне прыроды"? Чым адрозніваецца апісанне прыроды ў "Слове..." ад прыроды ў словах К. Тураўскага?
11. Хто быў першым перакладчыкам "Слова..." у савецкі перыяд? Назавіце рускіх і ўкраінскага перакладчыкаў "Слова...".

Камплект № 7

**Параўнальны аналіз твораў**
**Кірылы Тураўскага і Францыска Скарыны**

Ныне солнце красуяся к высоте восходить
и радуяся землю огреваеть, -
Везде бо нам от гроба праведное Солнце-Христос
и вся верующая ему спасаеть.

Ныне луна с вышняго соступиши степени
большему светилу честь подаваеть, -
Уже бо ветхий закон по писанию с суботами
преста и пророки
Христову закону честь подаеть.
Ныне зима греховная покаянием престала есть
и лед неверия богоразумием растаялся.
Зима убо язычьскаго кумирослужения
апостольским учением и Христовою
верою престала есть,
Лед же Фомина неверия
показанием Христов ребр растаялся.

*Кірыла Тураўскі. Слова на Вялікдзень*

1. Зрабіце вольны пераклад* на сучасную беларускую мову.
2. У перакладзеным тэксце вызначце від усіх сказаў паводле структуры. Зрабіце поўны сінтаксічны* разбор аднаго складанага сказа (на выбар).
3. З арыгінальнага тэксту выпішыце словы і словазлучэнні з пераносным значэннем*, вызначце від мастацкіх тропаў* і іх ролю.
4. Якая істотная розніца выявіцца пры параўнанні апісанняў прыроды ў творах К. Тураўскага і "Слове пра паход Ігаравы"?
5. Праілюструйце прыкладамі з урыўка адну са старажытных марфалагічных* рыс, якая захавалася ў сучаснай беларускай мове ў адрозненне ад рускай, дзе яна гістарычна была заменена новымі.
6. З уласнага перакладу выпішыце праз транскрыпцыю словы з асіміляцыяй* гукаў па мяккасці і глухасці, а таксама словы, у якіх колькасць гукаў і літар не супадае.
7. Адзін з даследчыкаў творчасці К. Тураўскага Юрый Лабынцаў лічыць Ф. Скарыну яго непасрэдным спадкаемцам. Параўнайце тэкст "Слова на Вялікдзень" К. Тураўскага з тэкстам Ф. Скарыны:

Да подай нам на землю мир,
грехом очищение, немощным здравие,
смутным потешение, ненадежным надежду,
воюющимся за веру Христову победу,
пленникам избавление, нагим одеяние,
сиротам хлебокормление,
по морю плавающим тишину,
во путь шествующим пристанище,
обидимым споможение,
и всем християном спасение,
а по смерти царство небесное,
яко один человеколюбец и Бог наш.

У чым вам бачыцца пэўная пераемнасць Скарыны, выкарыстанне ім створанага Кірылам Тураўскім? Што агульнае паміж гэтымі асобамі і іх творчасцю?

8. Перакладзіце* тэкст Ф. Скарыны на сучасную мову.
9. Якога знака прыпынку будзе вымагаць пры перакладзе сучасная пунктуацыя і чаму?
10. З тэксту Ф. Скарыны і з уласнага перакладу выпішыце субстантываваныя* словы. Якімі часцінамі мовы яны з'яўляюцца? Чаму пры перакладзе субстантываваных слоў будзе менш?
11. Назавіце спадкаемцаў К. Тураўскага і Ф. Скарыны ў жанры* маленняў і малітваў сярод пісьменнікаў XIX і XX стст. Якія істотныя адрозненні ў вершах-малітвах гэтых пісьменнікаў ад малітваў іх папярэднікаў?

Камплект № 8

## "Другі Златавуст" Кірыла Тураўскі

... Радуйся, святителю честный и учителю наш! Другий Златоустый нам в Руси паче всех восиа. Радуйся, святителю, иже пресветлым учением своим конца Рус-

кыа просветив. Радуйся, яко солнце, амрачоныа и темныа богоразумием просвещаа.

*(Цытуецца па "Кнізе жыцій і хаджэнняў ".)*

1. У гонар якога асветніка сказана гэта хвалебнае слова? Чым праславіў ён нашу зямлю і за якія заслугі быў названы другім Залатавусным?
2. Перакладзіце* тэкст на беларускую мову і растлумачце знакі прыпынку ў перакладзеным тэксце.
3. Назавіце ў тэксце перыфразу*. Прывядзіце свае прыклады.
4. Параўнайце спосаб і сродкі ўтварэння дзеепрыслоўяў у беларускай і рускай мовах (ілюструйце прыкладамі з хвалебнага слова і сваімі ўласнымі).
5. Выпішыце з тэксту прыклады захавання старажытных марфалагічных* рыс сучаснай беларускай мовы, якія страціліся ў рускай.
6. "Шасцёра сыноў знакамітага князя-вешчуна ўзбагацілі радаводнае дрэва полацкай дынастыі Рагвалодавічаў шматлікімі атожылкамі. Нямала ... нашчадкаў увайшло ў гісторыю. Але найбольшую славу прынясуць Полацку пасля ... не ваяры. Зрабіць гэта наканавана было яго ...".

   Замест кропак устаўце імёны тых, каму прысвячаюцца гэтыя радкі.

   На падставе дапоўненага вамі тэксту зрабіце выснову, каму паводле стылю і зместу напісанага могуць належаць гэтыя словы.
7. Які твор сучаснай беларускай літаратуры прысвечаны гэтаму "знакамітаму князю-вешчуну"? Хто аўтар рамана?
8. Прыгадайце адну з вядомых вам прытчаў*, выкарыстаных у творах Кірылы Тураўскага. Перакажыце яе і зрабіце вывад, у чым яе павучальны сэнс. Што сцвярджае гэтай прытчай паэт?

9. Прыгадайце рэмінісцэнцыі* біблейскіх прытчаў у сучаснай літаратуры і параўнайце іх вытлумачэнне Кірылам Тураўскім і сучаснымі пісьменнікамі. Якая жанравая адметнасць прытчы*?
10. Зрабіце сінтаксічны разбор 2-3 сказаў з уласнага пераказу прытчы* ў творы К. Тураўскага і сказа, які выражае галоўную думку твора.

Камплект № 9

**Францыск Скарына - паэт и мовазнавец**

1.1. ...Притчи или присловия, понеже иными словы всегда иную мудрость и науку знаменують, а иначей ся разумеють, нежели молвены бывають, а болши в собѣ сокритых тайн замыкають, нежели ся словами пишуть.

*З прадмовы да кнігі "Прытчы Саламона "*

1.2. А зовътся Псалтырь гудба, едина подобна к гуслям. Яко сам царь и пророк поет, глаголя: "Хвалите Господа во Псалтыри и в гуслѣх". ...Ест же той роздел Псалтыри от гуслей. Гуслѣ имеють много струн, Псалтырь же толико имать десеть струн, яко пишеть о том: "Хвалите Господа во Псалтыри десятиструннѣй!"

*З прадмовы да "Псалтыра"*

1.3. Горлица - сівоворонка;
хлябіни - продукт;
холми - узгоркі;
арътемиде - богыни;
крижали - дъски;
да насладится - приятна будеть;
тмами темъ - десяти тысещми.

*Скарынінскія глосы*

1.4. Не копай под другом своим ямы,
Сам ввалишся в ню.
Не став, Амане, Мардохею шибенище,
Сам повиснеш на ней.

*З прадмовы да кнігі "Эсфір "*

Каментарый. *Амана* - біблейскі герой, царадворац персідскага цара; з зайздрасці да свайго саперніка Мардахея вырашыў знішчыць усіх яўрэяў у Персіі, але сам паплаціўся за гэта жыццём.

1. Перакладзіце* 1.1, 1.2, 1.4 тэксты на сучасную беларускую мову.
2. Пералічыце і абгрунтуйце, якія аспекты асветніцкай дзейнасці Ф. Скарыны ілюструюць прыведзеныя ўрыўкі з яго прадмоў і прыклад глосаў. Што агульнае паміж 2-м і 3-м фрагментамі?
3. Прывядзіце вядомы вам прыклад аспекту дзейнасці Ф. Скарыны, аналагічны 4-му тэксту.
4. Якое значэнне* слова *псалтыр* (тэкст 1.2) растлумачана Ф. Скарынам? Раскрыйце другое значэнне гэтага слова.
5. З прыведзеных урыўкаў выпішыце лексічныя* і марфалагічныя* рысы мовы Ф. Скарыны, нарматыўныя і характэрныя для сучаснай беларускай мовы ў адрозненне ад рускай.
6. У прадмове да кнігі "Выхад" Ф. Скарына пісаў: "Затым, яко... господь бог десятеро приказание им дал, написано на досках каменных".

   Словазлучэнне *на досках каменных* замяніце адпаведным словам. Якое яго сучаснае значэнне*?
7. З тэксту Ф. Скарыны выпішыце прыказку* і вызначце яе стылістычную ролю. Да гэтай прыказкі прыгадайце сінанімічныя.
8. Успомніце назвы кніг Бібліі* і растлумачце сэнс іх назваў.
9. Назавіце паслядоўнікаў Ф. Скарыны ў галіне кнігадрукавання, мовазнаўства і вершаскладання старажытнай пары.

10. Растлумачце значэнне* слова *сігнет.* Апішыце сігнет Ф. Скарыны.

Камплект № 10

**"Закон прироженый..."**

(паводле твораў Францыска Скарыны)

Закон прироженый в том наболей соблюдаем бывает: то чинити иным всем, что самому любо ест от иных всех, и того не чинити иным, чего сам не хощеши от иных имети... Сей закон прироженый написан ест в серци единого кажного человека.

...Наиболей любовь ко всем да соблюдает, ежели ест совершенна над все иные дарования, без нея же ничто поспешно ест.

*Ф. Скарына*

1. Перакладзіце* на сучасную мову выказванні Францішка Скарыны з яго прадмовы да Бібліі.
2. Пабудуйце ступеньчатую (вертыкальную) схему 1-га перакладзенага вамі сказа. Зрабіце поўны сінтаксічны і пунктуацыйны аналіз гэтага сказа.
3. Вызначце стыль* тэксту і абгрунтуйце сваю думку.
4. Зрабіце вывад аб жанры* пісьменніцкай дзейнасці Ф. Скарыны, доказам чаго і з'яўляецца дадзены тэкст. Якія яшчэ жанры літаратурнай творчасці Ф. Скарыны вам вядомы?
5. Прыведзены тэкст з прадмовы з'яўляецца тлумачэннем, папулярызацыяй і прапагандай самага дасканалага ў мастацкіх адносінах моманту Бібліі. Якога? Прывядзіце доказы гэтай мастацкай дасканаласці.
6. ...Понеже от прирожения
звери, ходящие в пустыни,

знають ямы своя;
птицы, летающие по возъдуху,
ведають гнёзды своя,
рыбы, плавающие по морю и в реках,
чують виры своя;
пчелы и тым подобныя
боронять ульев своих, -
тако ж и люди,
игде зродилися и ускормлены суть по бозе,
к тому месту великую ласку имають.

Напісаны для нагляднасці вершам урывак з прадмовы Ф. Скарыны да кнігі "Юдзіф" падказвае накірунак у пошуку ўстанаўлення адметнасці, адрознення публіцыстыкі* Ф. Скарыны ад публіцыстыкі яго паслядоўнікаў Ф. Багушэвіча і К. Каліноўскага. У чым гэта адрозненне?

7. Зрабіце пераклад* урыўка на сучасную мову. Зрабіце сінтаксічны разбор перакладзенага вамі сказа, пабудуйце яго схему.
8. Якімі правіламі вы кіраваліся, перакладаючы* дзеепрыметныя звароты? Зрабіце вывад аб гэтай і некаторых іншых сінтаксічных асаблівасцях беларускай мовы, дапоўніўшы адказ і сваімі прыкладамі.
9. Які мастацкі прыём скарыстаў Ф. Скарына і якімі лінгвістычнымі сродкамі рэалізаваны гэты прыём?
10. Ф. Скарына і В. Цяпінскі, С. Будны, У. Ліпскі. Якая сувязь паміж гэтымі асобамі?

Камплект № 11

"**Багацце духоўнае - злата дзяржавы**"

(паводле Міколы Гусоўскага)

Княжанне Вітаўта лічаць усе летапісцы
Росквітам княства Літоўскага, нашага краю,

І называюць той век залатым. Разбяромся:
Мне так здаецца, што гэтай шаноўнаю назвай
Век той названы па простай прычыне: дзяржаўца
Перад багаццем і шчасцем зямным пастаянна
Ставіў багацце духоўнае - злата дзяржавы.

...Прагнасць нажыцца пад шыльдаю
варты закона,
Сквапнасць - загрэбці кавалак у бліжняга з рота -
Ён тыранічнымі сродкамі так пратараніў,
Што на вякі нават завад іх вывеўся ў княстве.
Кім бы і чым бы ні быў ён пры іншых заслугах,
Нават за гэта адно я пяю яму славу.
Густа ён справамі век насяліў свой, і водгук
Спраў тых вячыстых патрапіў і ў гэтую песню.

*М. Гусоўскі. "Песня пра зубра"*

Годы княжения Витовта названы веком
Самым прекрасным совсем не за то, вероятно,
Что возвышала правителя бранная слава.
Нет же, скорее за то, что превыше богатства
и счастья
Ставил он духа богатство и благоговейно
С верой глубокою чтил всемогущего Бога.

...Всякий вид алчности искоренил он, и этим
Ныне и присно заслуженно славиться будет.
Много блистательных дел совершилось при нем;
их причина
Общепонятна, ясна, как и песни моей,
между прочим.

1. У абодвух тэкстах растлумачце знакі прыпынку і вызначце від кожнага простага сказа паводле наяўнасці ў іх

саставе галоўных членаў сказа; падкрэсліце граматычную аснову.

2. Хто пераклаў "Песню..." на беларускую і рускую мовы?
3. Якія сінтаксічныя асаблівасці беларускай і рускай моў улічаны перакладчыкам? Выпішыце для доказу словазлучэнні. Назавіце іншыя сінтаксічныя асаблівасці беларускай мовы з адпаведным перакладам* на рускую.
4. З перакладу* на беларускую мову выпішыце мнагазначнае* слова. У якіх значэннях яно ўжыта? Вызначце стылістычную ролю лексічных* сродкаў.
5. Што такое "безэквівалентная лексіка"* і як яна ўплывае на багацце мовы? З першага тэксту выпішыце словы безэквівалентнай лексікі і з другога - пераклад* аднаго з іх на рускую мову. Прывядзіце як мага больш прыкладаў безэквівалентнай лексікі беларускай мовы. Як называецца слоўнік такой лексікі, хто аўтар?
6. З першага тэксту выпішыце фразеалагізмы*. Якая асаблівасць іх выкарыстання? Падбярыце да іх сінанімічныя.
7. З першага сказа першага тэксту выпішыце словазлучэнні*, вызначце іх тып і від сувязі.
8. Выпішыце з тэксту перыфразы*.
9. З абодвух тэкстаў выпішыце архаізмы* і вызначце іх стылістычную ролю.
10. Назавіце праблемы*, узнятыя ў паэме "Песня пра зубра", актуальныя і ў наш час.
11. Праз якія вобразы* ў паэме Гусоўскага і паэме "Слова пра паход Ігараў" рэалізавана ідэя* дзяржаўнасці і незалежнасці? Прывядзіце прыклады рэтраспекцый* у абодвух творах.
12. Што, на вашу думку, уключае ў сябе паняцце *багацце духоўнае - злата дзяржавы?*
13. Да слоў *вячысты, дзяржаўца* падбярыце сінонімы*.
14. Зрабіце марфемны* і словаўтваральны* аналізы слоў *вячысты, дзяржаўца, тыранічныя, прагнасць.*
15. Прывядзіце з тэксту прыклады фанетычных асаблівасцей беларускай мовы.

Камплект № 12

**"Думкі мае..."**

(паводле Яна Баршчэўскага)

Думкі мае, акрыленыя ўспамінамі, імчаць да празрыстых вод Палаты. Памятаю грандыёзныя купалы горада, які магу назваць родным, сціплую дахоўку святога для мяне будынка, яго доўгія калідоры і прыцемак свечак у вялікім касцёле, і хваласпевы пад яго стракатым скляпеннем, і працяжны гул арганаў, што ўлівае пабожнасць у сэрца. Памятаю пляц, запоўнены людам у час чуллівае працэсіі з абразом Святога Немаўляці, і знаёмае гучанне прыемнае музыкі з касцельнага ганка; памятаю нашых добрых настаўнікаў і адданых сяброў, высокі вал і мост над задуменнаю рэчкаю, і ля самотнага слупа сярод залатога калосся роўны пясчаны гасцінец да Спаса, і нявінныя гульні на зялёным выгане, і спякоту прамяністага сонца, і халадок густога гаю, і блакітнае неба, і чысціню душы, маладой, бясхмарнай,- шчаслівай! Там, там калыска мае маладосці!

*Ян Баршчэўскі. "Шляхціц Завальня... "*

1. Растлумачце знакі прыпынку. Зрабіце сінтаксічны аналіз 2-га сказа, пабудуйце яго схему.
2. Назавіце ў тэксце сінтаксічныя* стылявыя сродкі, якія выкарыстаны пісьменнікам для выяўлення лірычнага настрою, патрыятычных пачуццяў, а таксама сродкі сувязі ў тэксце. Якое прызначэнне аўтарскага* знака?
3. З 1-га сказа выпішыце словазлучэнні*, назавіце іх тып, укажыце від сувязі.
4. Назавіце ў тэксце амонім* і амаформ*. У якім лексічным значэнні яны ўжыты? Як вызначыць лексічнае значэнне амонімаў наогул?

5. Назавіце ў тэксце перыфразу*, прывядзіце яшчэ колькі прыкладаў перыфраз.
6. Зрабіце марфемны* і словаўтваральны* аналізы слоў *пабожнасць, акрыленыя, нявінныя.*
7. Выпішыце з тэксту словы, якія ілюструюць фанетычныя* і марфалагічныя* асаблівасці беларускай мовы, а таксама прыклады фанетычнага падаўжэння* і марфалагічнага падваення*.
8. Вызначце стыль* тэксту і ролю ў ім мастацкіх тропаў*.
9. Зрабіце фанетычны* аналіз слоў *сціплую, пясчаны.*
10. "...І ў міг вока стаіць пасярод пакоя кабета чароўнае красы, рост высокі, твар ружовы, вочы вялікія, поўныя прывабнасці, на галаве і на ўсім адзенні зіхацяць **дыяменты** і каштоўныя камяні".

*Ян Баршчэўскі*

У чым парадаксальнасць* апісання аднаго з вобразаў* апавядання Яна Баршчэўскага? Які гэта вобраз і якое яго назначэнне? З якім тэкстам, прыведзеным у адным з камплектаў, асацыіруецца апісанне гэтага вобраза і яго ідэя*?
11. Выдзеленае слова перакладзіце* на рускую мову.
12. Назавіце скразныя вобразы* ў кнізе Яна Баршчэўскага, якая складаецца з кампазіцыйна і сюжэтна завершаных паасобных апавяданняў. Вызначце ідэю* аднаго з гэтых вобразаў.

## Камплект № 13

### Урокі Яна Баршчэўскага і шляхціца Завальні

Край, дзе чалавек жыў у шчаслівую пару свае маладосці, дзе ў размовах і забавах сустракаў сапраўдную шчырасць і даверлівасць душы зычлівых і добрых сяброў, настаўнікаў і маладых прыяцеляў, - гэты край

у памяці ў выгнанніка заўсёды паўстае ў найпрыгажэйшых колерах; там, здаецца, яшчэ не скончыўся той залаты век, калі чалавек не разумеў, што такое нядоля і пакуты; і рэчкі там з малака і мёду. Хто ж з краёў далёкіх не сумуе па сваіх ваколіцах? Там нашыя жаданні і думкі жывуць; туды хацеў бы ляцець я на крылах!..

*Ян Баршчэўскі. "Шляхціц Завальня... "*

1. Растлумачце знакі прыпынку і пабудуйце схему першага сказа; вызначце сродкі сувязі* ў тэксце.
2. Дайце стылістычную* характарыстыку тэксту.
3. Вызначце стылістычную ролю лінгвістычных (лексічных* і сінтаксічных*) сродкаў.
4. Словы з асіміляцыяй* гукаў па мяккасці выпішыце праз транскрыпцыю.
5. Да запазычанага слова "дысідэнт" выпішыце з тэксту сінанімічнае*. Прыгадайце імёны тых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, асветнікаў, лёс якіх звязаны з такой з'явай, як дысідэнцтва.
6. Твор Яна Баршчэўскага надзвычай багаты на фразеалагізмы*, прыказкі* і прымаўкі*. Да прыведзеных з кнігі "Шляхціц Завальня..." падбярыце адпаведныя ў рускай мове.

6.1. Калі родзіцца жарабя з лысінкай, дык з той самай лысінкай і ваўкі з'ядуць.

6.2. Пераначуем - болей пачуем.

6.3. Пазнаў роўны роўнага, будзе пара поўная.

6.4. Як паслаў, так і выспішся.

Зрабіце вывад аб перакладзе* фразеалагізмаў на іншыя мовы.

7. З тэксту выпішыце фразеалагізм* і перакладзіце яго на рускую мову (знайдзіце яму адпаведнік у рускай).

8. Праблема* шляхетнасці - адна з філасофскіх праблем твора "Шляхціц Завальня...". Пісьменніцкае разуменне

гэтага паняцця выяўляецца праз афарыстычнае* і ёмістае: "Той чалавек шляхетны, які, жывучы на гэтым свеце, ...". Прадоўжыце сказ так, каб выявіць веданне тэксту і сутнасць пісьменніцкай канцэпцыі. Напішыце сваё разуменне шляхетнасці. Ці згодны вы з пісьменніцкім? Падбярыце сінонімы да слова *шляхетнасць.*

9. Да рускага выслоўя *Яблоко от яблони недалеко падает* напішыце як мага больш адпаведных прыказак* і фразеалагізмаў* з роднай мовы. Якія з іх ужываюцца (падкрэсліце іх) толькі ў вашай мясцовасці?
10. Якое назначэнне фантастычнага* ў апавяданнях Яна Баршчэўскага?
11. Чым адрозніваецца алегарычнасць* вобразаў Яна Баршчэўскага ад алегарычнасці вобразаў народных казак?
12. Вызначце ідэю* вобраза шляхціца Завальні (коратка пералічыце ўсе назначэнні вобраза). Чаму менавіта імя гэтага персанажа вынесена ў загаловак кнігі?
13. З якой мовы і хто зрабіў пераклад "Шляхціца Завальні..." на беларускую мову?

Камплект № 14

## "І такой прыгажосцю надзяліў Гасподзь старонку нашу..."

(паводле А. Пагоскага)

І такой прыгажосцю надзяліў Гасподзь старонку нашу, што, куды ні глянь, аж душы светла: лясы цяністыя, воды светлыя, пагоркі быццам золатам абсыпаны, лугі, як паркаль дарагі, разнастайнымі кветкамі **стракацяць;** і амаль з кожнага пералеску віднеецца, быццам кавалак люстэрка, край сіняга гладкага возера. А паветра чыстае, мяккае, нябёсы бязвоблачныя, і з кожным ветрыкам нясецца да цябе які-небудзь прыкметны пах:

то смолка чутна з хвою густота, то **дзяцеліна** салодкая ад зялёных лугоў, то **ядлоўцам** ды чаромхай дыхне! І вельмі простыя і душэўныя нашы людзі, у кожнага твар вясёлы, сэрца добрае, і няшмат яму і трэба: крышку адыдзе гора, крышку прамігне радасць - усё забыў!

*А. Пагоскі*

1. Растлумачце знакі прыпынку. Вызначце від першага сказа, пабудуйце яго схему.
2. Вызначце стылістычную ролю сінтаксічных* сродкаў мовы.
3. Дайце стылістычную* характарыстыку тэксту. Выдзеленыя словы перакладзіце* на рускую мову.
4. З першага сказа выпішыце словы з асіміляцыяй* гукаў па мяккасці. Пакажыце гэтую з'яву праз транскрыпцыю.
5. Першы сказ разбярыце па членах сказа, зверху напішыце, якімі часцінамі мовы яны выражаны.
6. На тэму тэксту напішыце як мага больш прыказак*, прымавак* і крылатых выслоўяў*.
7. З тэксту прывядзіце прыклады залежнасці тыпаў сказаў ад парадку слоў.
8. Зрабіце фанетычны* разбор слоў *даводзь, б'юся.*

Камплект № 15

**"О, край родны, край прыгожы!"**

(паводле Якуба Коласа)

О, край родны, край прыгожы!
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей у свеце божым
Гэтых светлых берагоў,
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе бары-лясы гудуць,

Дзе мядамі пахнуць грэчкі,
Нівы гутаркі вядуць;
Гэтых гмахаў безгранічных
Балатоў тваіх, азёр,
Дзе пад гоман хваль крынічных
Думкі думае прастор;
Дзе увосень плачуць лозы,
Дзе вясной лугі цвітуць,
Дзе шляхом старым бярозы
Адзначаюць гожа пуць?

Край мой родны!
Дзе ж у свеце
Край другі такі знайсці,
Дзе б магла так, поруч з смеццем,
Гожасць пышная ўзрасці?
Дзе бы вобруку з галечай
Расквітнеў багацтва цуд,
І дзе б з долі чалавечай
Насмяяліся, як тут?..

*Я. Колас. "Сымон-музыка"*

1. Растлумачце знакі прыпынку. Пабудуйце ступеньчатую схему 3-га сказа першага тэксту.
2. Які стылістычны прыём у абодвух тэкстах узмацняе напал выказвання, заключае ў сабе сцвярджэнне?
3. Якімі сінтаксічнымі адзінкамі з'яўляюцца выразы:

3.1. О, край родны, край прыгожы!
Мілы кут маіх дзядоў!

3.2. Край мой родны!

3.3. Мой родны кут! (З "Новай зямлі".)

3.4. Мілая моладзь, слаўная моладзь
Нашай бязмежнай краіны!

*(Верш Я. Купалы. За гэтымі радкамі: "Горы і моры можаш ты здолець, сэрцам расплавіць ільдзіны". )*

4. Параўнайце абодва тэксты, вызначце іх галоўную думку. Што агульнае і што рознае ў выбары лінгвістычных сродкаў для выражэння ідэі* тэксту? Зрабіце вывад аб залежнасці выяўленчых сродкаў мовы ад ідэі тэксту.
5. З тэксту выпішыце прыклад стылістычнай таўталогіі*. Прывядзіце прыклады таўталогіі як парушэння лексічнай нормы.
6. Якія гукі адпавядаюць прыназоўніку *з* у словазлучэннях *з смеццем; з галечай; з долг, з зямлёй; з келіхам; з жыцця; з шапаценнем* (напішыце праз транскрыпцыю)?
7. Якая фанетычная з'ява вызначыла арфаэпічныя* нормы ў словах і словаспалучэннях *насмяяліся; у свеце; цвітуць; светлых; гожасць; узрасці; расквітнеў; з смеццем; знайсці* (напішыце іх праз транскрыпцыю)? Якое слова лішняе і чаму?
8. Выявіце сваё ўсведамленне аўтарскай канцэпцыі, разумение ім таго, чаму стала магчымым у такой меры спалучэнне неспалучальнага ў нашым краі, дзе "поруч з смеццем гожасць пышная" цвіце, дзе "багацтва цуд" поруч з галечай народа, са здзекам з яго, знявагай, паняверкай і гвалтам. Падмацуйце сваё ўсведамленне вырашэння гэтай праблемы* аўтарскім тэкстам з паэмы.
9. Вуснамі Гарнака (з п'есы "Забастоўшчыкі") Я. Колас так вызначыў сутнасць афарызма*: "Гэта разумна выказаная думка, якая жыла ў галаве філосафа, а зараз будзе вісець на кручку мудрасці". Толькі ў першых чатырох тамах (з 14) збору твораў Я. Коласа не менш за 500 выслоўяў, якія можна аднесці да афарызмаў. Прывядзіце некалькі прыкладаў афарыстычнай творчасці народнага пісьменніка.

Камплект № 16

**"Для вас, душою чулых..."**

(паводле Якуба Коласа)

Ад роднае зямлі, ад гоману бароў,
Ад казак вечароў,
Ад песень дудароў,
Ад светлых воблікаў закінутых дзяцей,
Ад шолаху начэй,
Ад тысячы ніцей,
З якіх аснована і выткана жыццё
І злучана быццё і небыццё, -
Збіраўся скарб, струменіўся няспынна,
Вясёлкавым ірдзеннем мне спяваў,
І выхаду шукаў
Адбітак родных з'яў
У словах-вобразах, у песнях вольнаплынных.
І гэты скарб, пазычаны, адбіты,
У сэрцы перажыты
І росамі абмыты
Дзянніц маіх, дзянніц маіх мінулых,
Для вас, душою чулых,
Як доўг, як дар,
Дае пясняр.

*Я. Колас. Уступ да паэмы "Сымон-музыка "*

1. Каму прысвяціў паэму* "Сымон-музыка" Якуб Колас? Як галоўны вобраз* і філасофскі змест твора адпавядаюць прысвячэнню?
2. Што маюць агульнае і чым адрозніваюцца паводле
   тэматыкі* і праблематыкі*,
   жанру* і яго разнавіднасцей,
   галоўных вобразаў*,
   сюжэтнай* асновы

творы Я. Коласа "Сымон-музыка", Я. Купалы "Бандароўна", "Курган", "Магіла льва", М. Танка "Люцыян Таполя", З. Бядулі "Салавей"?

3. Уступ да паэмы ўяўляе сабой разгорнутую перыфразу*. Што яна абазначае? Якая роля гэтага лінгвістычнага сродку?
4. Якой сінтаксічнай адзінкай з'яўляецца першы сказ уступу да паэмы? Якая стылістычная роля гэтай сінтаксічнай адзінкі і іншых лінгвістычных сродкаў у тэксце?
5. З уступу да рамана "Яўген Анегін" назавіце перыфразу*, лексічнае значэнне якой тоеснае перыфразе з уступу да паэмы "Сымон-музыка".
6. Назавіце класічныя ўзоры перыяду* як сінтаксічнай адзінкі з твораў М. Багдановіча і М. Танка.
7. Зрабіце поўны сінтаксічны аналіз другога сказа. Якая сінтаксічная роля ў ім параўнальных зваротаў?
8. Растлумачце лексічнае значэнне* слова *дзянніца,* падбярыце да яго сінонімы.
9. Дайце лексічнае значэнне* слова *літаратура.* Пра якую адметную асаблівасць літаратуры як віду мастацтва сказаў ва ўступе да паэмы Якуб Колас? Падмацуйце сваё меркаванне выразамі з тэксту.
10. Выпішыце з тэксту прыклады марфалагічнага падваення* і фанетычнага падаўжэння*.
11. Праілюструйце прыкладамі з тэксту фанетычныя і марфалагічныя* асаблівасці беларускай мовы.
12. Да слова *пясняр* падбярыце сінонімы.
13. Зрабіце марфемны* і словаўтваральны* аналіз слоў *закінутых, няспынна, струменіўся.*

## Камплект № 17

### "І прыйдзе новых пакаленняў..."

(паводле Янкі Купалы)

І прыйдзе новых пакаленняў
На наша месца грамада

Судзіці суд, ці мы сумленна
Жыццё прайшлі, ці чарада
Зняваг мінулых нас не з'ела,
Пакінуўшы свой дым і чад,
І мы па-даўняму нясмела
Жылі не ўлад і неўпапад?
Ці аб свой гонар дбайна дбалі,
І дабравольна, без прынук,
Самі сабой не гандлявалі,
Не неслі ў петлі дум і рук?
І ці пакінуці на памяць
Мы песень гэтакіх змаглі,
З якіх бы можна было ўцяміць,
Што мы свабоднымі былі?
А ўжо свой выдасць непадкупны
Аб нас гісторыя прысуд,
Калі аглядам гляне рупным
І разбярэ, ў чым справа тут.
У сведкі запісы пакліча,
Паданні клікне ў час такі
І ўсё паліча, пераліча...
А суд гісторыі цяжкі!..
І засумуецца патомак,
Калі дазнаецца аб нас,
Што нейкі з нас, хоць быў не зломак,
А плечы гнуў у крук не раз;
Не йшоў з адкрытымі вачыма
У свет і сцежкі не прастаў,
А ўсёй магчымасці магчымай
Таптаў сляды, сябе таптаў.

*Я. Купала. "І прыйдзе "*

1. Растлумачце знакі прыпынку; зрабіце пунктуацыйны аналіз тэксту.
2. Пабудуйце схемы першага, трэцяга і апошняга сказаў.

3. Якое аўтарскае пачуццё дамінуе ў вершы? Выпішыце з тэксту роднасныя* словы і вызначце іх стылістычную ролю.
4. Выпішыце словазлучэнні, ужытыя ў пераносным значэнні*, і вызначце від мастацкіх тропаў*.
5. Выпішыце фразеалагізмы* і растлумачце іх сэнс.
6. Выпіш'ыце з тэксту таўталагічныя* словаспалучэнні і вызначце іх ролю.
7. З тэксту выпішыце матываваныя* словы. Прыгадайце свае прыклады матываваных слоў. Дакажыце, што слова *нашчадкі* з'яўляецца матываваным.
8. Да якога стылістычнага* пласта належаць словы *зломак, скеміць, уцяміць?*
9. Выпішыце дыялектызмы* і дайце адпаведныя ім словы літаратурнай мовы.
10. Да слоў *патомак, знявага, гонар* падбярыце сінонімы*. Словазлучэнне *новых пакаленняў* замяніце адным словам.
11. Якая сінтаксічная норма адпавядае словазлучэнню *аб свой гонар дбайна дбалі?*
12. Зрабіце фанетычны* разбор слова, у якім ёсць асіміляцыя* гукаў па мяккасці і глухасці.
13. Вызначце стылістычную ролю сінтаксічных* сродкаў (аднародных членаў, інверсіі, складаных сказаў, пытальных сказаў і інш.), і асноўны сродак сувязі* ў тэксце.
14. Якой аўтарскай ідэяй* аб'ядналы паэмы Я. Купалы "Безназоўнае" і вершы "Час", "І прыйдзе", "На сход!", "Свайму народу"?
15. Афарыстычнымі* радкамі аднаго з твораў Я. Купалы вызначце галоўную праблему названых твораў.

## Камплект № 18

**"Гісторыя пакліча на суд"**

(паводле Янкі Купалы)

Самы найлепшы прыяцель, самы найлепшы збаўца наш ад нашага ліхалецця - гэта мы самі. І калі не

хочам загінуць, калі не хочам быць вечнымі рабамі, - павінны пакінуць мы благую прывычку думаць, што нехта прыйдзе і выратуе нас з нашай бяды, з нашай няволі. Гэта ж не можа быць, каб нехта быў лепшым прыхільнікам да нас, як мы самі для сябе.

Не, браты, гэтакім ладам мы далека не заедзем. Час праявіць нам і свае сілы ў будаванні новага жыцця для сваёй бацькаўшчыны, для сваіх сяліб і хат, для нашага падрастаючага пакалення! Пройдуць гады, падрастуць сыны і ўнукі нашы і спытаюць нас тады: "Што зрабілі вы ў той бурны і векапомны час для сваіх патомкаў, для свайго краю?"

Сама гісторыя пакліча на суд і загадае даць адказ. А які ж мы дадзім адказ, калі мы цяпер на другіх гэты адказ ускладаем?

Дык больш самачыннасці, больш смеласці к будаванню свайго новага незалежнага жыцця.

*Я. Купала. "Больш самачыннасці"*

1. Растлумачце знакі прыпынку; зрабіце поўны сінтаксічны аналіз, пабудуйце схему другога сказа.
2. З тэксту выпішыце ўсе сінанімічныя* рады (і кантэкстуальныя сінонімы), дапоўніце іх сваімі.
3. З тэксту выпішыце міжмоўны амонім*, падбярыце да яго сінонім. Што абазначае гэта слова ў рускай мове? Прыгадайце свае прыклады міжмоўных амонімаў.
4. Выпішыце мнагазначныя* словы. У якім значэнні яны ўжыты ў кантэксце?
5. Якімі членамі сказа з'яўляюцца інфінітывы ў тэксце?
6. Вызначце стыль* тэксту і абгрунтуйце сваё меркаванне.
7. Чым адрозніваюцца амонімы* ад мнагазначных* слоў? Як падаюцца амонімы і мнагазначныя словы ў слоўніках?
8. Падбярыце сінонімы* і антонімы* да слова *самачыннасць.*
9. Вызначце жанр* твора "Больш самачыннасці". У чым яго сучаснасць?

10. Устанавіце агульнае паміж паэмамі* "Бандароўна", "Магіла льва", "Курган".
11. Зрабіце марфемны* і словаўтваральны* аналіз слоў *прыхільнік, бацькаўшчына.*
12. Якой часцінай мовы з'яўляецца *і* ў сказе *Час праявіць нам і свае сілы... ?*
13. Зрабіце фанетычны* аналіз слоў *смеласці, адказ, жыцця.*

Камплект № 19

**Янка Купала пра незалежнасць**

І вось толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу.

Край наш сам па сабе багаты, толькі чужыя гаспадары яго знішчылі. Зямлі маем шмат, лесу яшчэ болей; маем вялікія рэкі, азёры, чыгункі, багатыя месты, а ў іх фабрыкі, заводы, ды і шмат іншага дабра. К таму ж, на лік народ мы вялікі - каля 12 мільёнаў. Гэта не тое, што якая-небудзь Швейцарыя, Данія ці Грэцыя!

Дык чаму ж нам, браты-беларусы, не дамагацца сваей дзяржаўнай незалежнасці?

Мы павінны яе дамагацца і мірна, і з аружжам у руках, бо жыццё не чакае і ворагі нашы на дрэмлюць.

*Я. Купала. "Незалежнасць"*

1. Растлумачце знакі прыпынку; зрабіце поўны сінтаксічны аналіз апошняга сказа, пабудуйце яго схему.
2. Вызначце стыль* тэксту, яго лексічныя і сінтаксічныя сродкі.
3. Да слоў *незалежнасць, месты.* падбярыце сінонімы*.
4. Словазлучэнні з твора "Незалежнасць" размяркуйце на 3 групы, вызначце агульнае і рознае паміж імі, растлумачце іх, замяніўшы адным словам ці словазлучэннем.

4.1. Вушы вянуць.
4.2. Соллю ў вочы.
4.3. Утапіць у лыжцы вады.
4.4. Пераступіць Беларусь.
4.5. Растаптаць Беларусь.
4.6. Не было і звання.
4.7. Нікому не сакрэт.
4.8. Прадавалі сябе.
4.9. Пальцам не кіўнуў.
4.10. Глядзелі скоса.
4.11. Пагрэць рукі.
4.12. Беларуская культура высока трымала свой сцяг.
4.13. Ворагі не дрэмлюць.
5. Яшчэ пакінулі нам асляпленне,
Пашану да пакут,
А мы пакінем песню вызвалення
І вольны бацькаў кут.

*Я. Купала. З паэмы "Безназоўнае "*

Якім лексічным сродкам з'яўляецца словаспалучэнне *пашану да пакут?* Растлумачце яго сэнс.

6. Якімі лексічнымі сродкамі з'яўляюцца купалаўскія радкі:
6.1. "Людзьмі звацца".
6.2. "Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі".
6.3. "Не скуеш толькі дум ланцугамі".
6.4. "Мне сняцца сны аб Беларусі".
6.5. "На беларускую дзяўчыну,
Калі ўжо праўду вам сказаць,
Ніхто йшчэ **каменем не кінуў**
І не асмеліцца кідаць".
6.6. "Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына".

6.7. "Дабро і зло ў аднолькай мерцы".
6.8. "Няпраўда праўду акілзала
І едзе людскасці на спіне".
6.9. "Пан сахі і касы".
6.10. "Не шукай ты шчасця, долі на чужым далёкім полі".
6.11. "Хто ж дужэй ад грамады"?

Размяркуйце гэтыя выразы на дзве групы і абгрунтуйце свой падзел.

Растлумачце сэнс выдзеленага словазлучэння.

7. У якой кнізе сабраны такога кшталту выслоўі?

Камплект № 20

"**Колькі талентаў звялося...**"

(паводле Якуба Коласа)

Брацце мае, беларусы!
У той кнізе людскіх спраў
Сам лес, мусіць, для **спакусы**
Гэты край нам адзначаў.
Тут схадзіліся плямёны
Спрэчкі сілаю канчаць,
Каб багата адароны
Мілы край наш зваяваць;
А нас цяжка ў сэрца раніць,
Пад **прыгон** узяць навек,
Нашы **скарбы** апаганіць,
Душу вынесці на здзек,
Каб у віры той **ашукі**
Знішчыць нашы ўсе сляды,
Каб не ведалі і ўнукі,
Хто такія іх дзяды.
І лілася кроў нявінна,

Швед набытак наш паліў,
А ўрад царскі самачынна
Тут **гвалтоўнасці** тварыў,
Будаваў астрог народу
**І барбарскім капылом**
Мерыў волю і свабоду,
А культуру нёс з калом.
І без жалю капытамі
Конь казацкі тут ступаў
І збажынку з ярынамі
Талачыў і драсаваў.

Эх, чаго нам не прыйшлося,
Брацце мілыя, ужыць!
Колькі талентаў звялося,
Колькі іх і дзе ляжыць,
Невядомых, непрызнаных,
Не аплаканых нікім,
Толькі ў полі адспяваных
Ветру посвістам пустым!
Ды хіба ж мы праў не маем
Сілы шлях свой адзначаць
І сваім уласным краем
Край свой родны называць?

*Я. Колас "Сымон-музыка"*

1. Растлумачце знакі прыпынку. Зрабіце поўны сінтаксічны аналіз 3-га сказа першага ўрыўка; пабудуйце яго схему.
2. Выпішыце з тэкстаў крылаты выраз* і перыфразы*, растлумачце іх, замяніўшы словам ці словазлучэннем.
3. Вызначце стылістычную ролю лексічных*, сінтаксічных* і мастацкіх* сродкаў.

4. Якімі стылістычнымі прыёмамі дасягаецца напал выказвання, узрушанасць, эмацыйнасць?
5. Выпішыце з тэксту прыклад сінекдахі*.
6. Вызначце сродкі сувязі* ў тэкстах.
7. Растлумачце напісанне* *не* з дзеепрыметнікамі.
8. Напішыце праз транскрыпцыю, як вымаўляюцца* словы і словаспалучэнні *адспяваных, посвістам, без жалю, з калом, з ярынамі.*
9. Выпішыце з тэкстаў словы, у аснове напісання якіх ляжаць а) фанетычны, б) марфалагічны, в) лексіка-сінтаксічны прынцыпы* беларускай арфаграфіі*.
10. Выпішыце з тэксту словы, якія паводле правапісу да 1933 года пісаліся з мяккім знакам. Якая фанетычная з'ява паводле сучаснага правапісу на пісьме не перадаецца?
11. Зрабіце марфемны і словаўтваральны аналіз слоў *непрызнаных, гвалтоўнасць, казацкі, людскіх.*
12. Перакладзіце на рускую мову выдзеленыя словы. Да якога слова нельга падабраць аднаслоўны адпаведнік? Як называюцца такія словы? Як характарызуюць яны мову?
13. Якое жанравае адрозненне паміж творамі "Сымон-музыка" і "Новая зямля"?
14. Якое значэнне часціцы **не** ў першым сказе другой часткі "Эх, чаго нам не прыйшлося..."? Складзіце сказ з часціцай **ні** з тым жа значэннем. Якім правілам кіруецеся пры выбары часціцы **не** і **ні?** Ад чаго залежыць іх выбар?
15. Якой часцінай мовы з'яўляецца *і* ў другім сказе першай часткі *каб не ведалі і ўнукі?* Абгрунтуйце свае меркаванні.

Камплект № 21

**"Стану песняй у народзе..."**

(паводле Цёткі)

1.1. Бедны той, хто, апрача грошы, апрача багацця, каторае пры першым няшчасці счэзне дазвання, не

мае скарбаў вечных - скарбаў душы. Такі скарб, каторы ніхто і ніколі адабраць ад нас не здолее, гэта любоў да бацькаўшчыны, да свайго народу, да роднай мовы...

*Цётка*

1.2. На вас - моладзі - ляжыць вялікая павіннасць: развіваць далей родную мову, узбагачваць свой народ знанием і культурай. Вы здабываеце навуку для сябе, дык дзяліцеся ёю з тымі, хто для вас цяжкай працай здабывае кусок хлеба. Толькі не кідайце роднай мовы: бо сапраўды для свайго народа тады вы ўмёрлі!

*Цётка*

1.3. Захавайце ж сэрцы вашы чыстымі на ўсё жыццё і памятайце, што светлыя сны вашы аб волі, роўнасці і брацтве збываюцца, што з усходам сонца яны не рассейваюцца разам з цемрай начной, а становяцца праўдай жыццёвай. Гартуйце душы вашы, каб халодны сівер іх не замарозіў, каб вечна асталіся маладымі, і ніякая сіла не здолее забіць у іх жаданне працаваць для святой ідэі.

*Цётка*

1. Растлумачце знакі прыпынку. Зрабіце поўны сінтаксічны аналіз сказаў з урыўка 1.1 і другога сказа з урыўка 1.3; пабудуйце схемы сказаў.
2. Вызначце стыль* тэкстаў і ролю ў іх лексічных* і сінтаксічных* сродкаў.
3. "Хто адрокся мовы бацькоў сваіх, хто ўздзеў чужую апратку - той адышоў ад народу далёка-далёка". (З артыкула Цёткі "Шануйце роднае слова!".) Што азначае алегарычны выраз *уздзець чужую апратку?* Назавіце вядомыя вам творы Ф. Багушэвіча з такой жа ідзяй. Якая фраза Цёткі з'яўляецца рэмінісцэнцыяй* неўміручага і вельмі надзённага сёння заклiку Ф. Багушэвіча?

4. Складзіце сказы, якія выявяць ваша ўсведамленне ідэі* ўсіх трох тэкстаў.
5. З тэксту 1.2 выпішыце прыклад ужывання дзеяслова прошлага часу ў значэнні будучага. Якімі членамі сказа з'яўляюцца інфінітывы ў тэкстах?
6. З першага сказа ўрыўка 1.2 выпішыце ўсе словазлучэнні*, вызначце іх тып і від сувязі.
7. З тэкстаў выпішыце прыклады марфалагічнага падваення* і фанетычнага падаўжэння*.
8. Выпішыце слова, у якім гукаў у два разы больш, чым літар, а таксама словы з асіміляцыяй* гукаў па мяккасці.
9. Да нетрадыцыйных, арыгінальных Цётчыных перыфразаў* падбярыце сінонімы ці апісальна растлумачце іх сэнс.

9.1. Даткаць старасць.
9.2. Завязаць апошні вузялок.
9.3. Слязой абліць.
9.4. Унучка паломанай ліры.
9.5. Прасці доўгую нітку быцця.
9.6. Выбалелыя разоры твару.
9.7. Карэнні людскасці.
9.8. Закрасаваўшыя кветкі людскасці.

10. Якому слову сінанімічныя гэтыя перыфразы* Цёткі:
цвет, толькі раз цвітучы;
першае дыханне вясны без хмарак;
надзея ў брыльянтавым вянку над бяздоннай глыбай?

Камплект № 22

**I. Г. Бураўкін пра Максіма Багдановіча**
**II. Рыгор Барадулін - паэт-філосаф**

I. Усяго 25 свечак адпалала на зямным бяседным стале Максіма Багдановіча. Калі ў маі 1917 года па-

гасла апошняя, тоненькая і пахілая, побач не было ні сваякоў, ні сяброў, і выпадковыя людзі, якія паклалі ў камяністую крымскую зямлю высушанае туберкулёзам маладое цела, не здагадваліся нават, што хавалі аднаго з найвыдатнейшых беларускіх паэтаў, аднаго з самых любімых сыноў нацыі.

За 25 гадоў жыцця большасць з людзей паспяваюць толькі закончыць адукацыю ды яшчэ ажаніцца або сустрэць сваю нарачоную. А Максім Багдановіч за гэтыя кароткія імгненні вечнасці паспеў стаць адным з самых дасведчаных мужоў свайго часу, класікам роднай літаратуры. Народжаны ў Менску, асірацелы ў Гродне, вывезены пяцігадовым з Беларусі, ён на доўгія гады быў адарваны ад роднай зямлі, ад матчынай мовы і бабуліных казак, ад пошуму наднёманскіх бароў і вясёлага булькатання крынічак. Вучыўся ён у Ніжнім Ноўгарадзе і Яраслаўлі, каханне сваё напаткаў над матухнай-Волгай, а ўсе сілы і магутны талент аддаў да астатку, да апошняй кроплі "краіне-браначцы" - Беларусі.

...Самым гарачым, самым трапяткім, самым святым пачуццём Максіма была любоў да Радзімы, да маці-Беларусі. Яна зрабіла яго паэтам, яна дала сэнс ягонаму самаахвярнаму жыццю, яна пакінула яго ў памяці нашчадкаў.

*Г. Бураўкін. "І жыве сёння з намі... "*

1. Растлумачце знакі прыпынку; зрабіце поўны сінтаксічны разбор другога сказа, пабудуйце яго схему.
2. Вызначце стыль* тэксту, абгрунтуйце сваё меркаванне; назавіце сродкі сувязі ў тэксце.
3. З першага абзаца выпішыце словазлучэнні, ужытыя ў пераносным сэнсе*, і вызначце від мастацкага тропу* ці моўнага сродку.

4. Выпішыце ўсе роднасныя* словы і вызначце агульную частку іх.
5. Выпішыце матываваныя* словы і абгрунтуйце сваё разумение матываванасці слоў. Зрабіце марфемны* і словаўтваральны* аналізы чатырох (на выбар) выпісаных матываваных слоў. Дакажыце, што слова *нашчадкі* матываванае.
6. Зрабіце фанетычны* аналіз слоў *пасяваюць, адукацыю, дасведчаных, матчынай.*

II. Лёс да кожнага прыходзіць босы,
Як Хрыстос,
Каб бядзілі кожнага турботы,
Як абуць свой лёс у лапці, ў боты,
А яму не занасіць калёсы:
Боссю - каб нячутна! -
Ходзіць лёс.
Ты, нявольнік, вольны выбраць путы,
Пасталы змяніць на кірзачы,
Грукай збітым, як парог, абцасам,
Смелы і ў руцэ з кавалкам ласым,
Помні заўсягды пра лёс разуты,
Ногі босаму не адтапчы.

*Р. Барадулін*

1. Знайдзіце ў вершы словы і словазлучэнні, ужытыя ў пераносным сэнсе*. Растлумачце іх значэнне.
2. Назавіце ў вершы кантэкстуальныя сінонімы* і антонімы*, дыялектызм*, аўтарскія неалагізмы* і перыфразы*, аксюмаран*, гістарызмы* і вызначце стылістычную ролю гэтых лексічных* сродкаў.
3. Што азначае выраз *занасіць калёсы?*

Камплект № 23

**"І прад высокаю красою..."**

(паводле Максіма Багдановіча)

... Калі ж асеннія навіны
Змянілі сад, калі з бяроз
Рваў лісце вецер, а мароз,
Наліўшы ягады рабіны,
Траву губіў, і мы нагой
Узрывалі прэлых лісцяў слой;
Калі патроху чырванелі
Чаромха, ліпа, стройны клён,
А гнёзды змрочныя варон
Між голага галля чарнелі,
І грозны вечара пажар
Пылаў між бура-шызых хмар;
Калі асенні вецер дзіка
Стагнаў і глуха па начах
Грымеў у наш жалезны дах, -
Тады да лета Вераніка
Ад нас знікала ў інстытут
І не будзіла згадак тут.

... І мела дзеўча выгляд маці,
Калі тады ка мне яна,
Трывожнай ласкаю паўна,
Схілілася, як да дзіцяці,
Зіяючы перада мной
У новай пекнасці жывой,
У тэй, што з постаццю дзяўчыны
Злівала мацеры чэрты.
О, як прыгожы-дзіўны ты,
Двайной красы аблік ядыны!
Ажыў у ім твой вечны цэль,
Мадонн тварыцель, Рафаэль!

І прад высокаю красою,
Увесь зачараваны ёй,
Скланіўся я душой маёй,
Натхненнай, радаснай такою,
А ў сэрцы хораша было,
Там запалілася цяпло.

*М. Багдановіч. "Вераніка"*

1. Растлумачце знакі прыпынку; зрабіце поўны сінтаксічны аналіз першага сказа, пабудуйце яго схему.
2. Якой сінтаксічнай адзінкай з'яўляецца першы сказ? Вызначце ролю ўсіх сінтаксічных* сродкаў* у прыведзеных урыўках з твора "Вераніка" і зрабіце вывад пра асаблівасць аўтарскага сінтаксісу М. Багдановіча.
3. Да ліку "найбольш тонкіх сродкаў паэтычнага ўздзеяння" М. Багдановіч адносіў алітэрацыю* і асананс*. Прывядзіце прыклады алітэрацыі ў творы. Якая яе роля, які эфект ствараецца дзякуючы інструментоўцы на зычныя гукі? Прывядзіце яшчэ прыклады алітэрацыі ў лірыцы* М. Багдановіча і іншых паэтаў.
4. Творчасць М. Багдановіча надзвычай афарыстычная. Не выключэнне і твор "Вераніка". Выпішыце з тэксту крылаты выраз*. Чым крылатыя выразы* адрозніваюцца ад афарызмаў*? Назавіце зборнік крылатых слоў. Хто яго аўтар? Напішыце ўсе вядомыя вам афарызмы і крылатыя выразы М. Багдановіча.
5. Выпішыце з тэксту дыялектызмы* і аўтарскія неалагізмы*. Якая асаблівасць аўтарскіх неалагізмаў М. Багдановіча, чым абумоўлена іх пашыранае выкарыстанне ў творах паэта? Назавіце зборнік М. Багдановіча на рускай мове. Да дыялектызмаў* і русізмаў у творы падбярыце адпаведныя нарматыўныя словы сучаснай мовы.
6. Развітым звароткам ці адасобленым прыдаткам з'яўляецца словаспалучэнне *двайной красы аблік ядыны* ў сказе *О, як прыгожы-дзіўны ты...?*

7. У апошнім сказе назавіце слова, напісанне якога не адпавядае нарматыўнаму. Чым, на вашу думку, абумоўлены такі "аўтарскі правапіс"?
8. Да слоў *пекнасць, згадка* падбярыце сінонімы*. Да кантэкстуальнай перыфразы* *вечны цэль* назавіце аднаслоўны адпаведнік.
9. Вызначце рыфму* і страфу* твора "Вераніка" і аднаго (на выбар) твора М. Багдановіча.
10. Жанр твора "Вераніка" сам паэт.вызначыў як вершаванае апавяданне. Назавіце прыкметы верша* і апавядання* ў творы.
11. Растлумачце сэнс перыфразы* ў выслоўі Джаванні "Яна - выдумка маёй галавы", якое М. Багдановіч узяў за эпіграф* да "Веранікі". Як гэта выказванне адпавядае эмацыйнаму і сэнсаваму зместу твора?
12. *У краіне светлай, дзе я ўміраю,*
*У белым доме ля сіняй бухты,*
*Я не самотны, я кнігу маю*
*З друкарні пана Марціна Кухты.*

У гэтым чатырохрадкоўі дзве перыфразы*. Назавіце да іх словы-адпаведнікі. Як марыў ён назваць іншыя свае зборнікі, разумеючы, што "ўкласці гэтыя кніжачкі, пэўна, не паспею, але думаць аб іх прыемна"?
13. Які зборнік твораў М. Багдановіча, адрасаваны школьнай моладзі і прымеркаваны да 100-годдзя песняра, укладальнікам С. Панізнікам названы так, як марыў паэт?
14. Зрабіце фанетычны* разбор слоў *схілілася, зіяючы,* а слоў *пекнасць і зачараваны* - марфемны* і словаўтваральны*.

## Камплект № 24

### "Апошні свой скарб аддаю..."

(паводле Максіма Багдановіча)

1. **Самадыктант.** Напішыце па памяці верш М. Багдановіча "Санет" ("Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі") і зрабіце

поўны сінтаксічны разбор апошняга сказа *Зварушаны нарэшце дух* ...; пабудуйце яго схему. (Дапушчальна ў самадыктанце не аўтарская, а адпаведная нормам пунктуацыя.)

2. Вызначце тып сказа *Вось сімвал твой* і тып зваротка ў ім, асаблівасць яго выражэння. Прыгадайце яшчэ колькі прыкладаў такога выражэння зваротка з твораў М. Багдановіча і Я. Купалы.

3. Пра якую адметную асаблівасць творчасці* сведчаць радкі паэта:

3.1. Жывеш не вечна, чалавек, перажыві ж у момант век.

3.2. Жыві і цэльнасці шукай, аб шыраце духоўнай дбай.

3.3. Рупная пчала ўмее ў соты мёд сабраць і з горкіх кветак.

3.4. Хваробы лечаць і атрутамі.

3.5. І прад высокаю красою.

3.6. Беларусь, твой народ дачакаецца залацістага яснага дня.

3.7. Усе знікае, праходзіць, як дым, светлы след будзе вечна жывым.

3.8. Чым болей сходзіць дзён, начэй, тым імя мілае вышэй.

3.9. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?

Якія з гэтых выказванняў з'яўляюцца афарызмамі*, а якія - крылатымі словамі*? Як вы разумееце сэнс 3.3, 3.4, 3.9 выказванняў?

4. Прыгадайце афарызмы* і крылатыя словы* з твораў Я. Купалы і Я. Коласа.

5. Сяргей Вакар пісаў пра М. Багдановіча: "Паэзія яго ўразіла глыбока, па-сапраўднаму. Гэта быў свет, увайшоўшы ў які аднойчы, ужо нельга забыць яго. Ён усё больш і больш уладна кліча да сябе".

Як пачуццё захаплення, удзячнасці М. Багдановічу, гонару і гордасці за яго ўвасоблена ў творчасці С. Вакара?

6. Уюцца змейкай срабрыстай дарожкі,
Брызгі золата ў небе блішчаць,

І маркотныя месяца рожкі
Праз марозную мглу зіхацяць.

*М. Багдановіч. "Зімовая дарога "*

Назавіце ўсе квадры Месяца. Чаму яны так называюцца? Літаратуразнаўчая і лінгвістычная "экспертыза" дапаможа вам даведацца, у якой квадры быў Месяц ноччу, што натхніла паэта на верш "Зімовая дарога". У якой жа?

7. З чатырохрадкоўя выпішыце ўсе словы і словазлучэнні з пераносным значэннем* і вызначце віды мастацкіх тропаў*. Выпішыце прыклады полісеміі* і аманіміі*.

8. Бывае, вада перапоўніць
Ставок і праз бераг памкнецца;
Калі ж з яго выбежыць лішак,
Дык далей вада не бяжыць.

Бывае і так, што руйнуе
Плаціну вада; у гэту пору
Струяцца апошнія хвалі
І сохне няшчасны ставок.
З паэтамі так жа бывае:
Адзін дае людзям ізлішкі,
Другі ўсё, што мае. Я гэткі:
Пяю я з надтрэснутым сэрцам,
Апошні свой ска(эб аддаю.

Растлумачце знакі прыпынку; зрабіце поўны сінтаксічны разбор другога сказа *Бывае і так...,* пабудуйце яго схему.

9. Устанавіце агульнае паміж гэтым вершам і "Санетам" (паводле асноўнага мастацкага сродку) і адметнае (паводле тэмы* і ідэі*).

10. Да слова *ставок* падбярыце сінонім* і перакладзіце яго на рускую мову.

11. Да слова *скарб* падбярыце сінонімы* і кантэкстуальныя сінонімы.

**"...Нашто каласы, калі няма васількоў?"**

(паводле Максіма Багдановіча)

20. -1 адказаў яму Хрыстос: няма красы без спажытку, бо сама краса і ёсць той спажытак дзеля душы.

21. І, паўчаючы іх, прамовіў: агляніцеся навокал! Ці ж не ніва калыхаецца каля нас?

22. Цяжка працаваў ля яе гаспадар і вось бачыць: паміж збожжа ўзраслі васількі.

23. І сказаў ён у сэрцы сваім: хлеб адбіраюць у мяне гэтыя сінія кветкі; бо поўныя вагі каласы магліся бы ўзрасці на месцы васількоў.

24. Але яшчэ з маленства краса іх прыйшлася мне да душы. Таму я не вырву з каранём іх, як усякае благое зелле. Няхай растуць і радуюць, як у маленстве, сэрца мае.

25. Так сказаў гаспадар у сэрцы сваім і думках сваіх. І не падняў ён рукі на васількі.

26. Я ж гавару вам: добра быць коласам; але шчасліў той, каму давялося быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?

27. І, кажучы так, пачуў ён песню жнеек і прамовіў: слухайце, што кажуць словы гэтай песні. Яе складалі людзі, каторыя ведаюць, чаго варты хлеб.

28. Яны ж пачулі, што словы тэй песні кажуць: няма лепш цвяточка над васілёчка.

29. І босыя ногі Хрыста пакідалі на цёплым і мяккім пылу дарогі сляды.

30. Але гора вам, людзі, бо даўно ўжо затапталі вы іх. Амін.

*М. Багдановіч. Урывак з "Апокрыфа"*

1, Растлумачце знакі прыпынку; дапушчальны і не аўтарскія, а адпаведныя нормам.

2. Растлумачце сэнс назвы твора.
3. Выпішыце з тэксту афарызм*, растлумачце яго філасофскі сэнс. Як гэты афарызм адпавядае ідэі* твора?
4. Да слова *васілёк* падбярыце сінонім*. Назавіце іншыя беларускія назвы грыбоў, кветак і зёлак. Якія з прыведзеных вамі назваў з'яўляюцца матываванымі* словамі?
5. З тэксту выпішыце міжмоўны амонім*, падбярыце да яго сінонімы* з беларускай і рускай моў; складзіце словазлучэнні з гэтым словам і іншымі міжмоўнымі амонімамі.
6. Вызначце месца і ролю біблейскага* і апакрыфічнага* ў выражэнні ідэі* твора, яго філасофскага зместу.
7. Пытальнымі сказамі сфармулюйце філасофскую праблему* твора.
8. Выпішыце з тэксту словы і выразы з пераносным значэннем* і растлумачце іх.
9. Выпішыце матываваныя* словы і назавіце спосаб іх утварэння.
10. Назавіце словы, напісанне якіх не адпавядае нормам сучаснага правапісу.

Да спалучэння *няма лепш цвяточка над васілёчка* напішыце адпаведнае нарматыўнае; перакладзіце* на рускую мову. Назавіце іншыя сінтаксічныя асаблівасці* беларускай мовы.

Камплект № 26

**"Найлепшы баечнік"**

(паводле Ядвігіна Ш.)

Каля крыжавых дарог пад узгоркам разрасліся кусцікі: пад'яловец, сухадрэўка і лаза. Кусцікі былі дробныя. Гулялі ветры лютыя і абрывалі лісточкі з іх; праляталі навальніцы страшэнныя і крышылі галінкі іх; каціліся паводкі глыбокія і падмывалі карэньчыкі ім. Дрэнна, зусім дрэнна стала жыць і кусцікам...

Вось у цёмныя ночкі сталі шаптацца паміж сабой кусцікі, каб як долю сваю паправіць. Раіліся, раіліся і ўрэшце прыдумалі ўзгадаваць паміж сябе такое велізарнае дрэва, каторае бы густымі лістамі сваімі ад лі-хіх вятроў закрывала іх, вялікімі галінамі сваімі ад страшэнных навальніц сцерагло, тоўстымі каранямі сваімі ад глыбокіх паводак бараніла.

*Ядвігін Ш. "Гадунец "*

1. Растлумачце знакі прыпынку. Вызначце від кожнага сказа і сінтаксічную ролю інфінітываў.
2. Вызначце стыль* тэксту і абгрунтуйце сваё меркаванне.
3. Вызначце стылістычную ролю ўсіх сінтаксічных сродкаў, а таксама сродкі сувязі* ў тэксце.
4. Вызначце лексічнае значэнне* слова *гадунец.* Гадунец - абласное, дыялектнае* слова. Назавіце адпаведнае яму літаратурнае. Падбярыце да яго сінонімы.
5. Выпішыце з тэксту два дзеяслоўныя словазлучэнні* з прыназоўнікавым кіраваннем, у якіх адно і тое ж залежнае слова, але ўжыта ў розных формах.
6. Праз транскрыпцыю выпішыце словы і словаспалучэнні з асіміляцыяй* гукаў па мяккасці і глухасці.
7. Назавіце часціцу, напісанне якой у тэксце не адпавядае сучаснаму правапісу. Вызначце яе разрад.
8. Назавіце ў тэксце злучальнае слова і падбярыце да яго сінонім. Зрабіце вывад, калі мэтазгодна карыстацца сінанімікай* злучнікаў і злучальных слоў.
9. Некалькімі сказамі дапішыце пачатак твора Ядвігіна Ш. (свой варыянт ці пераказ пісьменніцкага, калі яго ведаеце), вызначце жанр* і алегарычны* сэнс.
10. Назавіце ўсе вядомыя вам жанры* (пажадана з прыкладамі) творчасці Ядвігіна Ш. і асаблівасці яго стылю*.
11. Што мае агульнае і чым адрозніваецца творчасць Ядвігіна Ш. і К. Крапівы?

Камплект № 12

**"Бываюць раны большыя і меншыя"**

(паводле Ядвігіна Ш.)

**Раны**

*Памяці С. Палуяна*

Бываюць раны большыя і меншыя.
Меншыя - гояцца, і па іх знаку няма.
Большыя - гояцца, але па іх астаюцца рубцы.
Гэтак на цел е.
Бываюць раны большыя і меншыя.
Меншыя - гояцца; па іх астаюцца рубцы.
Большыя - заўсёды крывавяцца.
Гэтак на сэрцы.
Бываюць раны большыя і меншыя.
Меншыя - заўсёды крывавяцца.
Большыя - залечвае толькі ... смерць.
Гэтак на душы.

*Ядвігін Ш.*

1. Вызначце жанр* твора, назавіце ўсе прыкметы гэтага жанру. Прыгадайце вядомыя вам творы такога жанру ў іншых пісьменнікаў.
2. Назавіце ў творы градацыю* і анафару* і вызначце іх ролю.
3. Растлумачце пастаноўку працяжніка і шматкроп'я.
4. Колькі разоў гукі, якія ўваходзяць у слова *счэзлі,* сустракаюцца ў трэцяй страфе?
5. "Амаль не ўся вёска зайздросціла мне майго надзелу. Шнур быў, праўду кажучы, ані большы, ані выгаднейшы, ані зямліца на ім не лепшая,- можа, нават горшая, - бо пры канцы шнура была страшэнная гара, дзе апроч грэчкі ды ярыцы нічога не радзіла, але на самым версе гэ-

тай гары рос такі дуб, што аж дзівіўся народ: веліч, таўсціня, а сукі так разрасліся, што, здавалася, свет бы пад сябе хацеў падгарнуць".

*Ядвігін Ш. "Дуб-Дзядуля"*

Растлумачце знакі прыпынку; у другім сказе вызначце від даданых; пабудуйце схему другога сказа; напішыце, чым ускладнены ў ім кожны просты.

6. З першага сказа *Амаль не ўся веска...* выпішыце словазлучэнні*, вызначце іх тып і від сувязі. У якім словазлучэнні сувязь паміж галоўным і залежным словам не адпавядае норме літаратурнай мовы?
7. Як змянілася значэнне часціцы ***ні*** *з* далучэннем да яе часціцы **а**?
8. Выпішыце слова і словаспалучэнне, граматычна не звязаныя з іншымі членамі сказа. Якая іх стылістычная роля?
9. Вызначце стыль* тэксту і абгрунтуйце сваё меркаванне.
10. Выпішыце якасныя прыметнікі і зрабіце іх марфемны* і словаўтваральны* аналізы.
11. Вызначце жанр* і сэнс назвы твора "Дачэсныя". Хто з дачэсных, на вашу думку, увасабляе найбольшае зло?

## Камплект № 28

### "Гнілякі на балоце свецяцца, а не агонь"

(паводле Якуба Коласа)

Гэтая бярозка толькі нядаўна асталявалася тут. Кароткае жыццё выдарылася ёй, і незайздросная доля гадавала яе. Закрытая, заціснутая з усіх бакоў старымі дзеравякамі, не бачыла яна сонца, рэдка калі патыхаў на яе свежы ветрык. А як яна не бачыла іншага свету і жыцця, дык і не наракала ніколі на сваё сірочае існаванне. Яна няясна пачувала волю, прастор, сонца і, стоячы тут, сярод гэтых дрэў, як -чужаніца, ні з кім не гаварыла пра свае думкі і лятункі.

Адна толькі ўцеха падтрымлівала яе. Уночы, калі заціхалі вакол птушкі і пераставалі гусці і звінець мошкі, і толькі адны зоркі свяціліся ў небе, ды часамі месяц сумным вокам азіраў зямлю, - гарэў дзесьці агонь, бледны, неразгаданы і прыемны. І блішчаў той агонь з-пад нізу, з нейкіх невядомых абшараў зямлі.

Балота, на якім прыгожа раскінуўся астравок, дзе расла разам з другімі дрэвамі і гэтая маладая бярэзінка, здавалася, не мела канца-краю.

*Я. Колас. "Балотны агонь "*

1. Растлумачце знакі прыпынку, зрабіце поўны сінтаксічны разбор другога сказа другога абзаца *Уночы, калі...* і апошняга *Балота, на якім....* Пабудуйце схемы гэтых сказаў.
2. Напішыце праз транскрыпцыю, як вымаўляюцца* словы і словаспапучэнні *сярод гэтых; ні з кім; падтрымлівала; свяцілася; з-пад нізу; з нейкіх; раекінуўся; сярод тыдня; не бачыла.*
3. Да слоў *лятункі, доля, уцеха, неразгаданы, не наракала* падбярыце сінонімы* і перакладзіце* на рускую мову.
4. Вызначце стыль* тэксту, абгрунтуйце сваё меркаванне.
5. Вызначце стылістычную ролю лінгвістычных сродкаў і на-. завіце сродкі сувязі* ў тэксце.
6. Напішыце свой працяг казкі "Балотны агонь" ці кароткі пераказ (калі чыталі)..

## План:

1. "Гэта гнілякі на балоце свецяцца, а не агонь".
2. Радасці ў жыцці не стала.
3. Дрэвы спрачаюцца, ці добра зрабіў вяз, развеяўшы прыгожы туман.

7. Зрабіце марфемны* і словаўтваральны* аналізы слоў *бярэзінка, неразгаданы, наракала.*

8. Мым адрозніваецца алегорыя* навелаў Я. Коласа ад алегорыі баек К. Крапівы?
9. Вызначце філасофскі* сэнс навелы "Балотны агонь" і яшчэ дзвюх навелаў (на выбар) са зборніка "Казкі жыцця".
10. Што агульнае паміж байкамі* К. Крапівы і камедыямі* А. Макаёнка?

Камплект № 29

### "**Рагатала ўся Беларусь**"

(паводле І. Навуменкі пра Кандрата Крапіву)

Кандрат Крапіва... Гэтае шырокавядомае, акружанае народнай любоўю імя прыйшло ў літаратуру праз досціп смеху, які цэлай ракой хлынуў з баек, сатырычных вершаў, што ўбачылі свет у пачатку дваццатых гадоў. Стыхія камічнага, якая выбухнула ў крапівінскім таленце, была такой напорыстай, магутнай, што адразу забяспечыла паэту-сатырыку самую шырокую і ўдзячную аўдыторыю. Рагатала ўся Беларусь: байкі, вершы К. Крапівы чыталі, атрымаўшы свежую газету і пасеўшы на прызбы, вясковыя дзядзькі, без іх не абыходзіліся самадзейныя спектаклі, сходкі...

Паэт-гумарыст і сатырык размаўляў са сваім чытачом на вельмі зразумелай і блізкай яму мове. Гэтая мова нібы ўвабрала, паяднала ў адно спрадвечную дасціпнасць вострых на язык людзей, якіх ва ўсе часы меў кожны сялянскі куток, усіх гэтых жартаўнікоў, перасмешнікаў, складальнікаў небывала дзіўных гісторый. Сапраўдны вялікі талент заўсёды ўсімі сваімі каранямі ўваходзіць у родную глебу, жывіцца яе сокамі.

*Іван Навуменка*

1. Растлумачце знакі прыпынку; зрабіце поўны сінтаксічны аналіз 2, 3 і 4-га сказаў, пабудуйце іх схемы.

2. Вызначце сродкі сувязі* і стыль* тэксту і абгрунтуйце сваё меркаванне па плану:
   а) сфера выкарыстання;
   б) асноўная функцыя;
   в) стылёвыя адзнакі (эмацыйнасць, ацэначныя адно - сіны і інш.);
   г) моўныя сродкі і іх стылістычная роля.
3. Растлумачце значэнне* слоў у тэксце *аўдыторыя, гісторыя.* Якія яшчэ значэнні маюць гэтыя словы? Складзіце сказы, ужыўшы гэтыя словы ва ўсіх вядомых вам значэннях. Як адрозніць полісемію* ад аманіміі*? Прывядзіце прыклады полісеміі і аманіміі. Як падаюцца такія словы ў тлумачальных слоўніках?
4. Назавіце ў тэксце метанімію*.
5. Выпішыце з тэксту роднасныя словы і вызначце спосаб іх утварэння*; перакладзіце* іх на рускую мову.
6. Вызначце разрады ўсіх прыметнікаў і растлумачце напісанне* прыметнікаў *крапівінскі, Купалаў* (верш), *Коласавы* (паэмы), *Коласаўскія чытанні, коласаўскія аповесці.*
7. Да слова *свежая* ў словазлучэнні *свежая газета* падбярыце сінонім* і антонім*. Напішыце некалькі словазлучэнняў са словам *свежы (-ая, -ае*) у розных значэннях, даказваючы гэта падборам сінонімаў і антонімаў. Прыгадайце фразеалагізмы* з гэтым словам.
8. Што агульнае і што рознае паміж гумарам* і сатырай*? Якое назначэнне гумару і сатыры ў мастацкім творы? Прывядзіце прыклады гумарыстычных і сатырычных твораў і вобразаў у беларускай літаратуры.
9. Назавіце (напішыце) усе мастацкія жанравыя асаблівасці байкі*. Якая з іх самая галоўная, вызначальная і чаму?
10. Вызначце (пажадана цытатамі) камічныя сітуацыі некалькіх крапівінскіх баек. Якая іх роля ў выражэнні алегарычнага* сэнсу?
11. Зрабіце фанетычны* аналіз слова *дзядзькі.*

Камплект № 30

**"Што такое час?"**

(паводле апавядання Кандрата Крапівы "Мой сусед")

Што такое час? Гэта - нішто: яго нельга ўбачыць, пачуць, памацаць, панюхаць, папрабаваць на язык; ім нельга заткнуць дзірку ў страсе або ў бюджэце; яго нельга запрэгчы ў плуг, запрасіць на шклянку гарбаты.

Час - гэта нешта бясконца бясчулае і бесстароннее: якія б ні адбываліся акты найвышэйшай гуманнасці ці нечувалага здзеку над асобаю чалавека, ён застаецца спакойным і безудзельным.

Час - гэта нешта нечувана шпарка-імклівае. Шпаркасць яго прабегу нельга змераць самымі дакладнымі прыладамі. У той жа час нешта нязменнае і нерухомае, бо ўсе тыя адзінкі, якімі мы мераем час, - гэта не адзінкі часу, гэта толькі светлавыя, цеплавыя і іншыя з'явы, якія адбываюцца з пэўнай заканамернасцю і якія ніякага дачынення да часу не маюць.

Нягледзячы, аднак, на сваю нерухомасць і безудзельнасць, якую разнастайную афарбоўку прымае час у розных людзей і як па-рознаму скарыстоўваюць час гэтыя розныя людзі! Ёсць час наш і час даўнейшы, час залаты і час пракляты, час доўгі, час кароткі. Адзін у свой час быў вялікім чалавекам, а ў нашы часы нічога не варт. Другі стаў бы вялікім чалавекам, але ён не мае часу, каб заняцца сваёю вялікаю справаю. Адзін не мае часу носа ўцерці за работаю, а другі ные ад таго, што не ведае, куды яму дзець лішні час. Ёсць людзі, якія "ўбіваюць" час, скарыстоўваюць час, нават папярэджваюць час і проста марна трацяць час.

*К. Крапіва. "Мой сусед"*

1. Растлумачце знакі прыпынку; зрабіце пунктуацыйны аналіз тэксту; пабудуйце схемы 3-га і 7-га (*Нягледзячы, аднак...)* сказаў.

2. Вызначце стыль* і тып* маўлення, абгрунтуйце сваё меркаванне.
3. Назавіце сродкі сувязі* ў тэксце.
4. Выпішыце фразеалагізмы* і растлумачце іх сэнс. Як яны ўплываюць на інтанацыю і жанравую афарбоўку тэксту і ўсяго твора?
5. У якіх значэннях у тэксце ўжыта слова час? Якая стылістычная роля выкарыстання мнагазначнасці* слова?
6. Выпішыце з тэксту рады роднасных* слоў і зрабіце іх марфемны* аналіз.
7. Якою часцінай мовы ў тэксце з'яўляюцца словы *адзін* і *другг?*
8. Выпішыце з тэксту запазычаныя* словы і растлумачце іх значэнне ці падбярыце сінонімы*.
9. Выпішыце сінонімы* і антонімы*, вызначце іх стылістычную ролю.
10. Вызначце ролю "красамоўнага, гаваркога" прозвішча (Лукавіцын - Цыбульскі - Цыбулькевіч) у стварэнні вобраза* і выражэнні ідэі* твора. Назавіце іншыя "красамоўныя" прозвішчы персанажаў творчасці К. Крапівы і іншых беларускіх пісьменнікаў. Пра што гэтыя прозвішчы "гавораць"?
11. Што маюць агульнае гратэск* і гіпербала* і чым яны адрозніваюцца? Прывядзіце прыклады гэтых тропаў у мастацкай літаратуры.

## Камплект № 31

### "**Шукаю шчырых, а такіх няма**"

(паводле Ларысы Геніюш)

З прыполу хмар асенні дождж пасеяў
Грыбы, грыбы... Вось забірай дарма.
У бор прыбегла з кошыкам надзеяў.
Шукаю шчырых, а такіх няма.

Кругом паганкі, дробязь, мухаморы.
Не злічыш пачарнелых савякоў,
Размяклых ад расы і не ў гуморы,
Што апусцілі капялюш далоў.
Гараць рыжкі, ірдзяцца сыраежкі,
І слізгаюцца ў пальцах маслякі.
Чырвоныя галовікі на ўзмежку.
А ў сэрцы мраяцца баравікі.
Такія шчырыя, праўдзівыя, што крэмень,
Нібы браты, харошаю сям'ёй,
З'ядналыя грыбніцаю, карэннем,
Без чарвяточыны, пад галіной.
Шукаю шчырых, баравых, харошых,
Хоць сонейка ўжо падышло ўгару
І мой яшчэ зусім не поўны кошык.
Шукаю шчырых. Іншых не бяру.

*Ларыса Геніюш. "Баравікі"*

1. Растлумачце знакі прыпынку, вызначце від сказаў. Пабудуйце схемы складаных сказаў.
2. Чаму ў 4-й і 5-й строфах дадэныя члены сказа афармлены як самастойныя сказы? Як называецца такі сінтаксічны сродак? Вызначце стылістычную ролю і іншых сінтаксічных сродкаў* у вершы.
3. Выпішыце з тэксту матываваныя* словы, вызначце спосаб іх утварэння*, устанавіце, паводле "чаго ўзнікла матывацыя. Назавіце аўтарскі неалагізм*.
4. Да якога віду лірыкі* належыць верш? Якія асацыяцыі, эмоцыі, роздумы ён выклікае?
5. Якія мастацкія тропы* і моўныя сродкі дазваляюць аўтару пазбегнуць маралізавання, публіцыстычнасці, служаць выражэнню ідэі* і адпавядаюць жанру* твора?
6. Якое пераноснае значэнне* і філасофскае гучанне набываюць у кантэксце выразы і словазлучэнні: *з'ядналыя*

*грыбніцаю, карэннем, без чарвяточыны; хоць сонейка ўжо падышло ўгару і мой яшчэ зусім не поўны кошык?*

7. Чаму эпітэт* *шчырых* у тэксце з'яўляецца аўтарскім, філасофскім? У чым яго парадаксальнасць*?
8. Да слова *баравікі* падбярыце сінонімы*.
9. Праз транскрыпцыю выпішыце словы і словаспалучэнні з асіміляцыяй* гукаў па мяккасці і глухасці. Зрабіце фанетычны* разбор слоў *дождж* і *з'яднаныя.*
10. Што вам вядома пра лёс паэткі Ларысы Геніюш? Хто яшчэ з беларускіх пісьменнікаў падзяліў з ёй такі лёс? Назавіце іх творы, якія вы чыталі.
11. Назавіце творы беларускай літаратуры, у якіх адлюстраваны час і абставіны, што наканавана было перажыць Ларысе Геніюш, многім яе таварышам па пяру і ўсяму беларускаму народу.
12. "Калі я да іх (чэхаў) прыглядзелася, дык і народ наш не быў горшы ні ў чым за іх. "Слаўны бубны за гарамі, а як прыйдуць - роўны з намі", - падумала я сабе. Вось каб нам даць такую..., як маюць яны, і мы ўмелі б працаваць для сябе не горай за іх, бо й нашы людзі талковыя".

*Л. Геніюш. З кнігі "Споведзь "*

Устаўце прапушчанае слова, якога вымагае кантэкст, падбярыце да яго сінонімы*. Чым яшчэ вы кіраваліся ў пошуку слова? Прыказкай* ці прымаўкай* з'яўляецца ўстойлівы выраз у тэксце? Растлумачце яго сэнс, падбярыце сінанімічныя. Прыгадайце адпаведнік з рускай мовы.

## Камплект № 32

### "Ёсць яшчэ адзін куточак запаветны"

(паводле Пімена Панчанкі)

Добра ведаюць усе амаль з маленства,
Што паэтаў нараджаюць пад Смаленскам,

Ля падножжа Арарата і ў Сібіры
І на землях Руставелі і Сабіра,
Над Дняпром, дзе нешта п'юць з пякучым перцам,
І на Балтыцы, дзе людзі з мужным сэрцам.
Ёсць яшчэ адзін куточак запаветны,
Дзе растуць, нібы грыбы, здаўна паэты.
Там зязюлямі завуцца ўсе кукушкі,
Гэтым краем з Кішынёва ехаў Пушкін.
Там прыгонных шмат паэтаў замарылі,
Там Міцкевіч закахаўся ў Марылю.
З той пары там песняроў - нібыта маку,
Аж статыстыка дае ў падліках маху.
Край чаромхі і чабору, край прасторны,
Дзе і крытыкі вядуць сябе прыстойна.
Там маланкі аб дубы ламаюць коп'і,
Выдаўцы там не бяруць у рот ні кроплі.
Смела дзятлы пішуць вершы на бяросце,
Не вылазяць з-за стала па тыдню госці,
Бо ў возеры вугры,
А стронга ў рэчцы.
Там машыны з канюшынай не ў спрэчцы;
І з барамі ўсе заводы добра дружаць;
І салдат на службе служыць, а не тужыць,
Бо красуня перад ім не задаецца...
Там зубрыная гарэлка прадаецца.
Там чарнічныя ўсе ночы,
Сунічныя ранкі,
Там народ найболей любіць вершы Янкі.
Там дзяўчаты носяць белыя панчошкі,
Сто разоў цалуюць там і яшчэ трошкі.
Дзе ж той край залатакосы, край зялёны -
Рык ласіны,
Звон пчаліны,
Мора лёну?
Там, дзе Свіцязь, там, дзе Прыпяць і Ясельда,
Дзе танцуюць пад цымбалы на вяселлях;

Дзе жанчына, сінявокая і ласкавая,
Звонка чаравічкамі паляскавала.

*Пімен Панчанка. "Край паэтаў "*

1. Растлумачце знакі прыпынку; зрабіце сінтаксічны разбор першага сказа; пабудуйце яго схему.
2. Вызначце стылістычную ролю сінтаксічных сродкаў* і сродкі сувязі* ў тэксце.
3. Выпішыце з тэксту ўсе перыфразы* і назавіце разгорнутую перыфразу. Што яны абазначаюць? Прывядзіце прыклады перыфразаў з іншых мастацкіх твораў.
4. Выпішыце некалькі словазлучэнняў з пераносным значэннем*, растлумачце іх, вызначце від мастацкіх тропаў і іх ролю ў выражэнні ідэі*.
5. Выпішыце фразеалагізмы* і растлумачце іх сэнс, вызначце іх стылістычную ролю.
6. Зрабіце фанетычны* разбор слоў *б'юць, песняроў, рэчцы, Свіцязь.*
7. Назавіце ў тэксце слова, мэтавае напісанне якога не адпавядае правапісу. Растлумачце арфаграму; праілюструйце прыкладамі.
8. Перакладзіце* на рускую мову словы *панчошкі, чаравічкі, куточак*; вызначце ролю слоў з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі.
9. Прывядзіце прыклады лірычных, эпічных і сатырычна-публіцыстычных вершаў* П. Панчанкі.
10. Якім членам сказа з'яўлякэцца словазлучэнні *з пякучым перцам і з мужным сэрцамі*

Камплект № 33

**"Жывіце!.."**

(паводле Івана Сяркова)

Маці, маці, колькі слёз пралілі вашы вочы, колькі начэй недаспалі, калі вы, схіліўшыся над сынамі, адганялі

'ад іх бяду. Толькі нязгасныя вашы сэрцы, трапяткія і мужныя, пяшчотныя і суровыя, поўныя любві і гневу, могуць перажыць такія трывогі, якія выпадаюць на вашу долю. Рана адцвітаюць вашы вочы, пакрываюцца маршчынамі родныя твары, але не трэба вам ніякай узнагароды за гэта: жывіце толькі, дзеці, не памірайце, няхай вас міне хвароба, няхай не кране бяда-гора. Жывіце!

*І. Сяркоў. "Мы з Санькам..."*

1. Растлумачце знакі прыпынку; вызначце від кожнага сказа; зрабіце поўны сінтаксічны разбор 2-га сказа; пабудуйце схему 3-га сказа.
2. Вызначце стылістычную ролю ўсіх лінгвістычных сродкаў.
3. Зрабіце фанетычны разбор* слоў: *адцвітаюць, схіліўшыся;* марфемны* і словаўтваральны*: *нязгасныя, недаспалі.*
4. З фрагментаў аповесці выпішыце фразеалагізмы*, растлумачце і вызначце іх ролю і асаблівасць выкарыстання ў аповесці.

4.1. Мой бацька цясляр, і таму ў нас у сенцах на паліцы процьма, як кажа бацька, рознага жалязячча...

4.2. - Тое і кажу: не паспеў бацька за парог выйсці, а яму ўжо ўправы няма...

Адным словам, бабуля мяне наскрозь бачыць, яна ведае, чым я дыхаю, ёй здаецца, што ў мяне растуць рогі...

4.3. Цяпер гэтых сухароў і ў нас, і ў Санькі па два мяхі. Гэта на чорны дзень, які не за гарамі.

4.4. Цётка падазрона агледзела нас і паківала галавой:

- Ой, глядзі, біс, шчоб я цябе не ажаніла...

4.5. І зрабіць гэта - не чхнуць. Да таго ж фельчар ведае нас з Санькам як аблупленых.

4.6. Ды яно ўжо і так хутка будзем скусваць быркі. Іх скусваць - усё адно, што пакласці зубы на паліцу. Але што гэта за быркі такія, я не ведаю.

4.7. Паўліку мінай адарвала ногі. Яго насілі чэрці ў полі, ён сам шукаў сабе хваробы, а такім шустрым, як мы, на думку маёй бабулі, і галовы пазносіць.

4.8. - У вас папелі, а ў нас паелі,- бабуля сустрэла мяне са здзеклівай ветлівасцю.

4.9. А бабуля яму і паскардзілася, маўляў, Іван ад рук адбіўся.

4.10. Людзі казалі, быццам Санькаў бацька носіць цётку Марфешку на руках. Дзіўна, як такую мажную падняць, не тое што яшчэ насіць.

5. Назавіце адметныя асаблівасці твора. Якая з іх грунтуецца і на выкарыстанні фразеалагізмаў*? Прыгадайце іншыя фразеалагізмы, з якімі звязаны нават сюжэтныя моманты ў творы.

6. Якое назначэнне гумару* ў аповесці? Прыгадайце іншыя творы беларускай літаратуры, у якіх гумар - найважнейшы мастацкі прыём.

Камплект № 34

**Уладзімір Арлоў пра вечнасць і вечнае**

Ён даведаўся, што памрэ, у той самы дзень, калі карані ўпершыню пасля зімовага нябыту, спачатку насцярожана, а потым усё больш **прагна** пацягнулі з адталае зямлі яе бунтоўныя п'янкія сокі, і тыя пабеглі вышэй і вышэй, да галін і галінак, да сучка, што з восені ўчэпіста трымаў **выпетраны бурштынавы** лісток, які можна будзе скінуць толькі тады, калі пупышкі радасна і ўрачыста пырснуць новай пяшчотна-клейкай зелянінай.

Салодкая дрыготка прабегла па ўсім яго агромністым целе, і клён прачнуўся. Ён страпянуў веццем і ўсцешана ўбачыў са сваёй высачыні тое, што сніў усю доўгую **завейную** зіму: жоўта-блакітную, як ясны во-

сеньскі дзень, хату, сядзібу, усю невялікую, багатую на сады вёску, поплаў з белымі плямамі гусей і няроўны лілавата-зялёны мур лесу, дзе ён, клён, калісьці нарадзіўся і адкуль прыйшоў летась **ласы** на садавіну вожык, прыйшоў ды, зладзіўшы ў ямцы непадалёк **кубло,** так і застаўся ў садзе зімаваць - **порсткі** колкі клубочак, маленькую кволую цеплыню якога клён адчуваў скрозь сон у зімовую **халадэчу.**

*У. Арлоў. "Клён"*

1. Растлумачце знакі прыпынку, зрабіце сінтаксічны разбор першага і трэцяга сказаў, пабудуйце іх схемы.
2. Вызначце стыль* тэксту і абгрунтуйце сваё меркаванне.
3. Выпішыце словазлучэнні з пераносным значэннем* і вызначце від мастацкіх тропаў*, а таксама ролю персаніфікацыі* ў выражэнні ідэі* твора. Вызначце яе, прачытаўшы ўвесь твор.
4. Выдзеленыя словы перакладзіце* на рускую мову і падбярыце да іх сінонімы* адпаведна кантэксту.
5. Зрабіце фанетычны* разбор слоў *адталае, п'янкія, адчуваў.*
6. Размяркуйце ўсе прыметнікі паводле разрадаў, 2-3 прыметнікаў вызначце спосаб утварэння*.
7. Назавіце ў тэксце прыклад сінтаксічнай аманіміі. Якія варыянты пастаноўкі знакаў прыпынку магчымы ў 1-м сказе? Чым вы кіраваліся ў выбары свайго варыянта? Якой пастаноўкі знакаў прыпынку патрабуе аўтарскі тэкст і чаму? Прыгадайце яшчэ прыклады сінтаксічнай аманіміі.
8. Напішыце свой працяг апавядання і кароткі пераказ па плану:

1. Пагрозы суседа і мольбы гаспадара.
2. Гэта будзе заўтра.
3. Клён усё памятаў.
4. Розныя дзеці аднаго бацькі.
5. Апошняе пачуццё шкадавання загубленага вожыка.
6. Пасля смерці.

9. Перакладзіце* тэкст на сучасную мову.

...Да не изнесеться из манастыря никогда же, яко ни продати ни отдати. Аще се кто преслоушаеть изнесеть и от манастыря, да не боуди емоу помощникъ чьстьный кресть ни в се векъ ни въ боудоущий и да боудеть проклять святою животворящего троицею и святыми отци 300 и 50 (?) семию съборъ святыхъ отець, и боуди емоу часть с Июдою, иже преда Христа. Кто же дрьзнеть сътворити се... властинъ или князь или пискоупъ или игоуменья или инъ который любо человекъ а боуди емоу клятва си. Офросинья же, раба Христова, сътяжавъши крест сий, прииметь вечную жизнь съ всеми святыми...

10. Надпіс сведчыць пра ўплыў жывой беларускай мовы з яе асаблівасцямі, што з'яўляюцца нормай сучаснай літаратурнай мовы. Якія гэта асаблівасці?

11. Якая існуе версія аўтарства надпісу? Як характарызуе аўтара гэты надпіс?

12. Якая сувязь паміж творчасцю У. Арлова і імем, згаданым у тэксце (надпісе)?

## Камплект № 35

### "**Даруйце мне...**"

(паводле Уладзіміра Арлова)

Даруйце мне, усе мае родзічы, якіх я згадаю адно мімаходзь або не згадаю зусім. Каб канчаткова не зблытацца ў галінах і адгалінаваннях радаводнага дрэва, буду весці гаворку аб непасрэдных сваіх продках па бацьку і маці, або, як казалі даўней, па мячы і па кудзелі.

І яшчэ адна заўвага. У цывілізаваным свеце, калі вядомы заснавальнік роду ці, прынамсі, нехта са знакамітых продкаў, радаводнае дрэва, як і належыць, малююць з каранёў. У нас жа сем дзесяцігоддзяў гэтыя

карані нястомна выкарчоўвалі, бо трэба было ведаць не продкаў, а нешта іншае.

...У любы момант я магу легка выклікаць у памяці не толькі бабулін твар, але і голас, хаду, адчуванне ейнае сухой рукі, калі яна вяла мяне з сястрою на поплаў ці на гумнішча, каб пасадзіць на грудок і пачаць свой урок батанікі.

- Гэта здрыжнічкі, - казала бабуля, - гэта ястрэц, а вунь, на выжарыне, скрыпень зацвітае. Гэта во драсён, а гэта братаўка...

Калі цяпер я чытаю ў сяго-таго з нашых улаўраных майстроў прыгожага пісьменства пра "іван-чай", "маць-і-мачаху" і "іван-ды-мар'ю", пачынае здавацца, што безліч такіх прыгожых, трапных ды непаўторных назваў беларускіх красак і траваў ведаем ужо адно мы з сястрою.

*Паводле У. Арлова. "Мой радавод да пятага калена, або Спроба пазбегнуцъ выгнання "*

1. Растлумачце знакі прыпынку. Зрабіце сінтаксічны разбор усіх сказаў, акрамя сказа з простай мовай. Пабудуйце іх схемы.
2. Вызначце стыль* тэксту і абгрунтуйце сваё меркаванне.
3. Вызначце сінтаксічную ролю інфінітываў. Якой часцінай мовы з'яўляецца слова *адно* ў першым і апошнім сказах?
4. Чаму так даўней казалі - *па мячы і па кудзелі*? Да слова *продкі* падбярыце антонімы* і сінонімы*.
5. Слова *ўлаўраных* і словазлучэнне *прыгожага пісьменства* перакладзіце* на рускую мову. Якое кантэкстуальнае адценне гэтых слоў?
6. Вызначце галоўную думку тэксту і сродкі, якімі аўтар дасягае лірызму, пачуццёвасці. Назавіце ўсе аўтарскія пачуцці, якія віруюць у гэтых двух невялічкіх урыўках з твора, аб'яднаных у адзін тэкст.
7. Прыгадайце некалькі вядомых вам прыгожых, трапных ды непаўторных назваў беларускіх красак і траў. Як у

мове называюцца такія трапныя словы? Якое кантэкстуальнае значэнне словазлучэння *ўрок батанікі?*

8. У якіх слоўніках зберагліся назвы траў і красак? З дапамогай іх нагадайце "ўлаўраным" майстрам прыгожага пісьменства, як у народзе называюць "іван-чай", "мацьі-мачаху", "іван-ды-мар'ю" і чаму так называюць.
9. У 1978 г. Максім Танк пісаў:

Якіх толькі
Не навыдавалі слоўнікаў.
Нават збіраемся выдаць
Марсіянскія ці касмічныя
Для перагавораў з жыхарамі
Іншых планет.
А да гэтага часу
Не маем слоўнікаў
Рэк, азёр,
Лясоў, звяроў,
Птушак і рыб.
Можа, таму
Паміж імі і намі
Столькі
Нявырашаных спраў,
Прыкрых непаразуменняў
І трагічных памылак.

У якіх радках заключана галоўная думка, ідэя* верша? Ці згодны вы з такім сцвярджэннем паэта? Што змянілася ў гэтым накірунку за апошні час? Што агульнае паміж вершам М. Танка і фрагментам твора У. Арлова пра згубленыя народам назвы траў і красак?

10. Прыгадайце вядомыя вам гідронімы* (назвы водных аб'ектаў), суадносныя з найменнямі жывёльнага і расліннага свету. Пра што сведчаць такія назвы?

**Васіль Быкаў**

**пра "няўмольныя законы" мастацтва**

Але вельмі і вельмі памыляюцца тыя, хто лічыць, што ў мастацтве і літаратуры няма няўмольных законаў, што іх можна папіхаць, як захочацца. На жаль ці на шчасце, такія законы ёсць.

Галоўная цяжкасць для мастака заключаецца ў тым, што законы мастацтва нярэдка не супадаюць з дзеючымі на кожным этапе законамі грамадскага жыцця. Больш таго, яны амаль заўсёды ў супроцьстаянні. У жыцці ідэальнае грамадства тое, дзе як мага меней канфліктаў, а ў мастацтве наадварот. Для жыцця найлепей характары роўныя і празрыстыя, а для мастацтва - складаныя і супярэчлівыя. ...Прытым немагчыма падпарадкаваць законы мастацтва законам жыцця, таксама як і наадварот. Патрэбна гармонія, мера, тое, што прынята называць мастацтвам і што вызначаецца толькі талентам мастака.

...У жыцці на кожным кроку мы сустракаем горкае неразуменне літаратуры, неразуменне, якое выклікае сум і роспач, асабліва калі вядомыя ідэалагічныя рупліўцы пачынаюць рабіць паспешлівыя палітычныя вывады.

*В. Быкаў. З выступлення на V з'ездзе СП БССР, 1966 г.*

Здаецца, агульнавядома, што найпершы абавязак літаратуры - ускрываць гнойныя раны чалавецтва і тым дамагацца іх вылячэння.

...Ці даравальна мастаку забываць, што талент - гэта труба, вечавы звон, барабан, але не жалейка і не свісцёлка, што ён з'яўляецца на свет не для таго, каб усыпляць элегіямі, а каб гучаць як сігнал трывогі, які будзіць людзей для барацьбы за лепшую будучыню.

*В. Быкаў. "Пяром аналітыка". 1966 г.*

1. Растлумачце знакі прыпынку; зрабіце поўны сінтаксічны разбор першага сказа першага ўрыўка і другога сказа другога ўрыўка; пабудуйце іх схему.
2. Які стылістычны прыём у другім урыўку заключав ў сабе сцвярджэнне, узмацняе напал выказвання, нават катэгарычнасць яго?
3. Да слоў *талент, мастак, канфлікт, сігнал* падбярыце сінонімы*. Растлумачце лексічнае значэнне* слова *элегія.*
4. Растлумачце лексічнае значэнне* слоў ці падбярыце (да якіх магчыма) сінонімы: *камунікатыўны, эстэтычны, эўрыстычны, геданістычны.* Складзіце з гэтымі словамі словазлучэнні.
5. Назавіце 6 функцый мастацтва* і літаратуры як віду мастацтва. Якую з гэтых функцый не прымае, адмаўляе В. Быкаў у артыкуле "Пяром аналітыка" (другі тэкст)? Ці згодны вы з пісьменнікам? Абгрунтуйце сваё меркаванне. Якія функцыі літаратуры, на вашу думку, з асаблівай мастацкай сілай рэалізаваны ў творчасці В. Быкава?
6. Назавіце адметныя асаблівасці* творчасці В. Быкава і "няўмольны закон" мастацтва, якому Быкаў-пісьменнік асабліва паслухмяны, выкананне якога лічыць галоўнай вартасцю сваёй творчасці і не адступае ад яго, нягледзячы на "палітычныя вывады" ідэалагічных "рупліўцаў". Якімі мастацкімі прыёмамі забяспечана выкананне гэтага "няўмольнага закону" ў творчасці В. Быкава?
7. Коратка напішыце, якое назначэнне перамежаванага паказу сучаснага і мінулага, рэтраспекцый* у творах В. Быкава.
8. Вызначце стыль* абодвух тэкстаў і стылістычныя сродкі, якімі рэалізавана ў іх галоўная думка.
9. Зрабіце марфемны* і словаўтваральны* разборы слоў *рупліўцы, паспешлівыя, даравальна,* а слоў *грамадская, барацьба* - фанетычны*.
10. Праз транскрыпцыю выпішыце словы з асіміляцыяй* гукаў па мяккасці і па звонкасці.

11. Вызначце сінтаксічную ролю інфінітываў у тэксце.
12. Існуе меркаванне, што мастацтва нікога і нічому не вучыць, яно прызвана толькі ставіць пытанні. г. зн. ускрываць гнойныя раны чалавецтва і тым дамагацца іх вылячэння. Пытальнымі сказамі сфармулюйце галоўныя праблемы* твораў В. Быкава.

Камплект № 37

**Васіль Быкаў пра настаўніка**

... Гэта цяпер запытай якога падшыванца, кім ён будзе, калі вырасце, і ён скажа табе: інжынерам, урачом, лётчыкам, а то і касманаўтам. Да, цяпер ёсць такая магчымасць. І сапраўды так і бывае аж да касманаўта ўключна. А раней? Калі рос, бывала, харошы хлопчык, добра вучыўся, што пра яго казалі дарослыя? Вырасце - настаўнікам будзе. І гэта была найлепшая пахвала. Не ўсім вартым, вядома, удавалася дабіцца настаўніцкага лесу, але да гэтага імкнуліся. І правільна. І не таму, што пачотна ці легка. Ці заробкі харошыя - не дай бог настаўніцкага хлеба, ды яшчэ ў вёсцы. Ды ў тыя даўнія часы. Галеча, беднасць, чужыя куткі, вясковая глуш і ў канцы - ранняя магіла ад сухотаў... І тым не менш, скажу табе, не было нічога больш важнага і карыснага, як тая штодзённая, ціхая, непрыкметная праца тысяч бязвесных сейбітаў на гэтай духоўнай ніве. Я так думаю: у тым, **што** мы ёсць цяпер як нацыя і грамадзяне, - найпершая заслуга сельскіх настаўнікаў. Хай, можа, я і памыляюся, але я так лічу.

*В. Быкаў. "Абеліск"*

1. Растлумачце знакі прыпынку, зрабіце поўны сінтаксічны разбор першага і двух апошніх сказаў. Пабудуйце іх схемы.

2. Як мяняецца сэнс перадапошняга сказа з пастаноўкай націску* і лагічным* выдзяленнем слова *што*? Якім членам сказа і часцінай мовы яно з'яўляецца?
3. Вызначце стыль* і тып* маўлення тэксту, абгрунтуйце сваё меркаванне.
4. Аналізуючы ўсе стылістычныя сродкі, вызначце, каму можа належаць гэта разважанне - аўтару (як філасофскае і лірычнае адступленне) ці аднаму з герояў аповесці (як маналог*).
5. Выпішыце з тэксту перыфразу*, падбярыце да яе сінонімы. Прывядзіце яшчэ прыклады перыфразы.
6. Якой часцінай мовы з'яўляецца слова *хай* у апошнім сказе? Прывядзіце прыклад, каб гэта слова было іншай часцінай мовы. Якой? Вызначце яе разрад.
7. Да слова *сухоты* падбярыце сінонім*. Прыгадайце яшчэ колькі трапных народных назваў хвароб і падбярыце да іх адпаведнікі. Дакажыце, што народныя назвы - словы матываваныя*.
8. Зрабіце марфемны* і словаўтваральны* аналізы слоў *настаўніцкага, сейбітаў(бязвесных) і сейбітаў (пот).*
9. Назавіце жанравую*, тэматычную* і сюжэтную* асаблівасці аповесці "Абеліск".
10. Вызначце цэнтральную філасофскую праблему* аповесці "Абеліск" і растлумачце сэнс назвы твора.
11. Якое назначэнне трагічнага* ў творчасці В. Быкава?
12. Назавіце творы В. Быкава, у якіх галоўнай ці паралельнай з ваеннай з'яўляецца тэма* сталінскіх рэпрэсій і генацыду беларускага народа.

Камплект № 38

**Пятрок і Сцепаніда -**
**носьбіты векавой народнай маралі**

З гэтай хвіліны Сцепаніда не ведала, як адчуваць сябе, што думаць. Радасць яе азмрочылася, ёй стала ня-

ёмка, бы яе злавілі на якім злачынстве, і яна ведала, што вінаватая. Хай сабе ў думках і спадзяваннях, усё ж яна паквапілася на чужое, чаго ні разу не рабіла за ўсе гады свае службы ў Яхімаўшчыне, дзе яна з усяе сілы праз беднату і нястачу берагла свой гонар, старалася, каб ніхто ніколі і ні ў чым не папракнуў яе. А яна ж магла б і ўзяць, не спытаўшыся, у яе ж руках было шмат чаго, лічы, уся гаспадарка, але, калі было што трэба, яна казала гаспадару і не памятала, каб той ёй адмовіў. Ён быў не благі, пан Адоля, цаніў у ёй дбайную работніцу і яшчэ болей паважаў за сумленнасць у адносінах да яго гаспадаркі. Цяпер жа ўсё гэта стала ўпоперак яе сумлення: як быць? Як жыць, калі не ўзяць, адмовіцца ад тае зямлі, а калі ўзяць, дык як глянуць у вочы яе гаспадару, Петраковаму і яе дабрадзею?

Ноч, што настала пасля таго дня, была поўная пакут, развaг і хістанняў - абое яны з Петраком напакутаваліся на ложачку ў істопцы, і нашапталіся, і намаўчаліся, але ніхто з іх да ранку так і не прыдумаў нічога, чым бы можна было суцешыць сумленне. Уранку ж трэба было ісці ў Выселкі, у валвыканком. 1 тады Пятрок, падняўшыся на дасвецці, звесіў з ложка босыя ногі і, яшчэ трохі разважыўшы, вырашыў:

- Не пайду. Ну яе...

Сцепаніда ўскочыла з-пад коўдры:

- Як - не пойдзеш? Што ж тады?..

- Не пайду, і ўсё. Не магу я...

*В. Быкаў. "Знак бяды"*

1. Растлумачце знакі прыпынку. Зрабіце поўны сінтаксічны аналіз трэцяга сказа, пабудуйце схему гэтага і першага сказа другога абзаца. Вызначце сродкі сувязі ў тэксце.

2. Вызначце стыль* тэксту і ролю ў ім лінгвістычных сродкаў.
3. З першага абзаца выпішыце міжмоўныя амонімы*. Што абазначаюць гэтыя словы ў рускай і беларускай мове? Прыгадайце яшчэ некалькі міжмоўных амонімаў. Падборам сінонімаў і перакладу* пакажыце іх рознае лексічнае значэнне.

У з о р : *дыван* - кілім; *диван* - мяккая канапа.

4. З другога абзаца выпішыце ўстарэлае* слова. Гістарызмам* ці архаізмам* яно з'яўляецца? Прывядзіце свае прыклады гістарызмаў і архаізмаў.
5. Выпішыце антонімы*, якія з'яўляюцца кантэкстуальнымі сінонімамі*. Якія словы не ўтвараюць антанімічныя пары? Якая сувязь паміж антытэзай*, аксюмаранам* і антонімамі*? Прывядзіце прыклады антытэзы і аксюмарана.
6. Да словазлучэнняў *узяць, не спытаўшыся; як жыць, калі не ўзяць; не прыдумаў нічога, чым можна было суцешыць сумленне* падбярыце сінтаксічныя сінонімы.
7. З тэксту праз транскрыпцыю выпішыце словы з асіміляцыяй* гукаў па мяккасці, зрабіце фанетычны* разбор слова, у якім гукаў у два разы больш, чым літар, і слова, у якім на два гукі менш, чым літар.
8. Зрабіце марфемны* разбор слоў *нашапталіся, намаўчаліся, адчуваць.*
9. Чым адрозніваецца аўтарская мова* ў 1-м і 2-м абзацы ўрыўка?
10. У вашым успрыманні, Пятрок - пакутнік, бязвінная ахвяра, вартая жалю і спагады, ці моцная асоба, вартая захаплення? Як прызнанне *не пайду, і ўсё* стасуецца з крытэрыямі моцнай асобы?
11. На якую адметную мастацкую асаблівасць аповесці В. Быкава "Знак бяды" ўказвае сама назва твора?
12. Знакаў бяды ў аповесці шмат, аднак у назву вынесены адзін. Які ж, на вашу думку, знак бяды вызначае пісьменніцкую канцэпцыю, філасофію* твора?

Камплект № 36

## Урокі юнага паэта-філосафа
## Валерыі Куставай

### Грэх

Адкрыў я фіранку
і бачу наўкол,
Як у жанчын адбіраюць дзяцей,
А мужчын б'юць
бязлітасна плёткай…
І слёзы, і слёзы…
І грэшна наўкол,
і чорна наўкол. -
Гэта царства д'ябла.

І ўспомніў я грэх свой.
І ў гэты час з мае душы
Вылецелі асколкі чорнай скалы
І на маю душу
Паклаў
Сваю руку
Бог.

*Валерыя Кустава, мінская школьніца.*
*Верш напісала ў 9 гадоў*

1. Растлумачце знакі прыпынку; зрабіце поўны сінтаксічны аналіз першага сказа першай страфы і другога сказа другой страфы.
2. З верша выпішыце словы з асіміляцыяй* гукаў па мяккасці, пакажыце гэту з'яву праз транскрыпцыю.
3. Вызначце стылістычную ролю спалучэння знакаў прыпынку кропкі і працяжніка. Як называюцца такія знакі ў мастацкім творы?
4. Вызначце галоўную думку, ідэю* верша і ролю ў яе выражэнні: а) кампазіцыі; б) слоў з пераносным значэннем.

5. Параўнайце 1-ю і 2-ю часткі верша на прадмет наяўнасці ці адсутнасці слоў і словазлучэнняў з пераносным значэннем*. Якая роля іх'адсутнасці ці наяўнасці? Якімі мастацкімі тропамі* з'яўляюцца ў вершы выкарыстаныя ў пераносным сэнсе словы і словазлучэнні?
6. Якая роля лірычнага героя* ў выражэнні ідэі* верша? Дайце азначэнне "лірычнага героя".
7. З вядомых вам твораў беларускай літаратуры прыгадайце аналагічныя паводле рыфмы* і рытму* вершу 'Трэх". Як называюцца такія вершы? Што дае падставу (назавіце крытэрыі) лічыць такія творы вершамі, а не прозай?
8. Урывак з прадмовы Ф. Скарыны да кнігі "Юдзіф" "Поне-же от прирождения..." ці пераклад яго на сучасную беларускую мову запішыце вершам і назавіце аспекты філалагічнай дзейнасці Ф. Скарыны.
9. Да слова *фіранка* падбярыце сінонімы*. Вызначце пераносны сэнс* выразу *адкрыў я фіранку і бачу наўкол.*
10. Зрабіце марфемны* і словаўтваральны* аналіз слоў *адбіраюць і бязлітасна.*
11. У школьнай насценгазеце была змешчана заметка юнкора "Умей вучыцца". Малодшыя школьнікі таксама прачыталі гэту заметку, але некаторыя не зразумелі яе сэнсу. Вызначце прычыну гэтага неразумення і дапамажыце малодшым сябрам.

**Умей вучыцца**

Ваня зайшоў да свайго сябра Змітрака. Той цягнуў клас назад. Любіў ён бібікі біць, да вучобы ставіўся спусціўшы рукавы, таму і плёўся ў хвасце. "Зусім ад рук адбіўся, - падумаў пра аднакласніка Янка. - Пэўна, і цяпер б'е лынды".

Але сябра Янка застаў у глыбокім задуменні - аж ад сэрца адлягло.

- Ведаеш, ламаю галаву над гэтай задачай, б'юся як рыба аб лёд, зусім з сіл выбіўся, але ўсё дарэмна. Не атрымліваецца!

- Ну, запеў Лазара! Не вешай носа. Ты ўсё хочаш зрабіць адным махам. Не апускай рукі.

- Дык што ж рабіць?

- Хочаш, дам табе параду?

- Вядома!

- Тады слухай. Зарубі сабе на носе: на уроку не кісні са смеху, не круціся як вош апечаная, не лічы варон, а матай на вус усё, што настаўнік скажа...

- Я слухаў, ды з галавы ўсё вылецела...

- А трэба не толькі слухаць, але глуздом варушыць, тады не будзеш глупства пароць, што ўсе за жываты хапаюцца, слухаючы твае адказы. Давай я табе дапамагу задачу рашыць. Тэарэму ўжо вывучыў?

- А я яе потым вывучу!

- Э не! Так далека не пойдзеш! Тэарэмы і правілы заўсёды трэба найперш вучыць, а толькі потым рашаць задачы ці рабіць практыкаванні.

- Якая розніца?

- Розніца вялікая. Правілы сэкономяць твой час, бо дапамогуць хутчэй, а галоўнае - правільна рашыць задачу. Задача ж і ёсць праверка тваіх тэарэтычных ведаў.

- Я аднойчы так рабіў, але мне абрыдла. Сумна!

- А трэба не аднойчы, а заўсёды. Зубы сцяўшы даводзь справу да ладу. Абяцаў сабе і нам добра вучыцца - не кідай слоў на вецер. Толькі тады ты зможаш любога за пояс заткнуць не ў балбатні, а ў вучобе.

12. Вызначце стыль* тэксту і зрабіце яго стылістычны аналіз.

Камплект № 40

**"І толькі тады становішся чалавекам..."**

(паводле Максіма Танка)

Я помню звычай старадаўні:
Калі каго ў сяле хавалі,
Таму любімыя прылады
Заўсёды ў дамавіну клалі.

Аратаму - яго сявеньку,
Стральцу - рог, што будзіў дубровы,
Музыку - бубен ці жалейку,
А кавалю - гвозд ці падкову,
Шаўцу - капыл ці скрутак дратвы,
А вінакуру - коўш з дубіцай, -
Каб не з пустымі ім рукамі
Перад святым Пятром з'явіцца.
Таму і мне ў час развітання
Пяро з грамніцай дайце, дзеці,
Каб напісаў я вам пра тое,
Што ўсіх чакае на тым свеце.

*М. Танк*

1. Растлумачце знакі прыпынку, зрабіце поўны сінтаксічны аналіз усіх трох сказаў, пабудуйце іх схемы.
2. З тэксту выпішыце эўфемізм*, амограф*, матываваныя словы*, абгрунтуйце іх матывацыю.
3. Якой часцінай мовы з'яўляецца слова *таму* ў 1-м і ў 3-м сказах? Вызначце іх сінтаксічную ролю. Якой яшчэ часцінай мовы можа быць гэта слова? Прывядзіце прыклад.
4. Вызначце лексічнае значэнне* слоў *капыл, дратва, дубіца, сявенька, грамніца.*

   Са словам *капыл* прыгадайце фразеалагізмы*, растлумачце іх сэнс.
5. Што абазначае слова *Грамніцы*? Як называецца гукавое і структурнае падабенства розных па значэнні слоў? Напрыклад: *цікавы і цікаўны, факт і фактар, прыгонны і прыгоннік.* Прыгадайце свае прыклады такіх пар, складзіце з імі словазлучэнні, каб была відавочнай розніца ў іх значэнні. У якім слоўніку сабраны такія пары, групы, рады і растлумачана іх значэнне? Хто аўтар слоўніка?

6. Што робяць гэтыя людзі: *аб'ездчык, алейнік, гарбар, грабар, ганчар, каморнік, маляр, муляр, смаляр (смалакур), тынкоўшчык, цясляр, стэльмах, сталяр?*
7. Вызначце тэму* і ідэю* верша "Я помню...", ролю вобразных сродкаў* і сродкаў вобразнасці* ў выражэнні ідэі, вырашэнні цэнтральнай праблемы* твора.
8. Праз транскрыпцыю запішыце, як вымаўляюцца* словы і спалучэнні: *без свята, брат і дзядзька, смех і грэх, нягеглы, з шапкаю, адцадзіць, адсюль, адусюль, з мяне, з кім, Каспяровіч, скінуць, пад Цімкавічамі.*

9. Ты яшчэ толькі намёк на чалавека,
Калі ва ўсім спадзяешся на маці;
Ты яшчэ - чвэрць чалавека,
Калі ва ўсім спадзяешся на дружбу;
Ты толькі - паўчалавека,
Калі ва ўсім спадзяешся на любоў,-
І толькі тады становішся чалавекам,
Калі ўсе могуць спадзявацца
На цябе.

*М. Танк*

Голас незнаёмага можа здзівіць,
Голас друга - на хвіліну спыніць,
Голас любай - сагрэць сонца лета,
Голас маці - вярнуць з таго свету.

*М. Танк*

Растлумачце знакі прыпынку, пабудуйце схемы сказаў 1 -га і 2-га вершаў. Якая роля адсутнасці дзейніка *ты* ў анафарычным* 4-м сказе?
Чым адрозніваюцца дадзеныя ўмовы ў 4-м складаназалежным сказе ад дадзеных умовы ва ўсіх трох папярэдніх? (У сказе "Ты яшчэ толькі...".)
10. Назавіце агульнае паміж гэтымі вершамі: паводле віду лірыкі*; стылістычнай ролі сінтаксічных сродкаў*; павод-

ле 2-3 дамінуючых, галоўных у гэтых вершах мастацкіх сродкаў.

11. На падставе гэтых і іншых, вядомых вам, вершаў М. Танка зрабіце вывад пра аДметныя асаблівасці стылю паэта.

12. Вершы М. Танка: "Каб ведалі", "На камні, жалезе і золаце", "Мой хлеб надзённы", "Нарачанскія сосны". Што аб'ядноўвае назвы гэтых вершаў?

**АДКАЗЫ**

Камплект № 1

1. Першы сказ - складаназалежны. Галоўны сказ *Не судзіце* паясняюць тры даданыя. Першы *каб вас не судзілі*- мэты; другі і трэці *бо такт і вас судзіцьмуць* і *такою і вам адмерыцца* - аднародныя прычыны з агульным падпарадкавальным злучнікам *бо.* Чацвёрты даданы (азначальны) *якім, судом судзіце* паясняе ў другім даданым прычыны ўказальнае слова *такім.* Пяты даданы (таксама азначальны) *якою меркаю мерыце* паясняе ў трэцім даданым прычыны ўказальнае слова *такою.* Сказ з сузалежным і паслядоўным падпарадкаваннем. Для нагляднасці схема:




Паміж падпарадкавальным злучнікам *бо* і злучальным словам *якім* ставіцца коска, бо ў другой частцы сказа адсутнічае *то* ці *дык.* Коску не паставілі б, калі б было так: *бо якім судом судзіце, то такім...*

Трэці сказ - складаны, з рознымі відамі сувязі. Першая частка гэтага сказа - просты сказ, ускладнены зваротkам. Другая частка - складаназалежны сказ з дададзеным дапаўняльным, звязаным з галоўным падпарадкавальным злучнікам *як.* Першая частка з другой звязваецца злучальным злучнікам *і.*




Пяты сказ - складаны з рознымі відамі сувязі. Ён складаецца з трох аднатыпных частак. Першая - *Прасіце, і вам дасца, бо кожны, хто просіць, атрымае.*




У гэтай частцы ёсць агульнае для дзвюх астатніх *бо кожны,* якое ў двух дададзеных прычыны апушчана.

Другая частка - *шукайце, і знойдзеце* (другі сказ указвае на вынік таго, аб чым гаворыцца ў першым), і *хто шукае, знаходзіць.* Трэцяя частка - *стукайце, і адчыняць вам, і хто стукае, таму адчыняюць.* Схема ўсяго сказа:



У кожнай частцы паміж раўнапраўнымі простымі сказамі можна перад і паставіць не коску, а працяжнік, бо другі сказ указвае на вынік таго, аб чым гаворыцца ў першым:

*Прасіце - і вам дасца; шукайце - і знойдзеце; стукайце - і адчыняць вам.*

Шосты сказ *Ці ёсць паміж вамі...*- сцвярджальны з рытарычным пытаннем. Складаназалежны сказ з паслядоўным падпарадкаваннем. Першы дадзены азначальны *які падаў бы яму камень* паясняе ў галоўным сказе ўказальнае слова *такі.* Другі дадзены акалічнасны ўмовы з адценнем часу паясняе першы дадзены сказ:




2. Мастацкі. Вызначаецца вобразнасцю, афарыстычнасцю. Тэкст уяўляе сабой фрагмент самага дасканалага ў мастацкіх адносінах моманту Бібліі - "Залатога правіла" аднаго з Нагорных казанняў Ісуса Хрыста. Усе сказы - афарызмы, сэнс іх пераносны.

3. Тэкст насычаны аднароднымі членамі сказа, складанымі сінтаксічнымі канструкцыямі з абагульнена-асабовымі сказамі і дадзенымі мэты і прычыны, дзеясловамі загаднага ладу ў ролі выказнікаў у абагульнена-асабовых сказах, сінонімамі *(шырокая, просторная; цесная, вузкая),* антонімамі *(цесная брама* і *шырокая брама; просторная дарога і вузкая дарога; пагібель і жыццё; многія і нямногія),* кантэкстуальнымі антонімамі і антанімічнымі выразамі *(калоду з вока твайго* і *сучок з вока брата твайго; хлеба* і *камень),* кантэкстуальнымі сінонімамі *(прасіце, шукайце, стукайце),* а таксама канкрэтнымі назоўнікамі. Усе пералічаныя лінгвістычныя сродкі

спрыяюць паўнаце апісання самых розных выяў дабра і зла, вечнай барацьбы паміж імі, а галоўнае - сцвярджэнню актыўнай ролі чалавека ў гэтай барацьбе, перамога ў якой забяспечваецца найперш перамогай чалавека над самім сабой.

4. *Прасіце, шукайце, стуксійце...* Пераносны сэнс гэтага афарызма - у сцвярджэнні актыўнай ролі кожнага ва ўласным лёсе: дзейнічай, дамагайся, ідзі, не спыняйся, вер і спадзявайся на лепшае, змагайся да апошняга. Наогул, сэнс усіх выразаў у тэксце, акрамя аднаго (*I ва ўсім, як хочаце...),* - пераносны. І кожны, хто чытае і думае, напаўняе яго сваім, канкрэтным зместам.

*Не давайце святыні сабакам...* Біблія вучыць любіць і шанаваць сябе, не прыніжацца, не траціць сілы на марнае, не пераконваць таго, каго пераканаць нельга: сляпому не паказвай - не ўбачыць; глухога не дакрычышся - не пачуе. Прыгадаем, як на здзеклівае пытанне Понція Пілата, што ёсць ісціна, у служэнні якой Ісус Хрыстос бачыць сэнс свайго быцця, Ісус Хрыстос нічога не адказаў. Не таму, што не ведаў адказу, а таму, што Понцій Пілат яго ўсё роўна не зразумее.

5. Рытмізаванасць і філасафічнасць выразу забяспечвае яму права афармлення вершам, таму тэкст аформлены не абзацам, а страфой*. Рытмізаванасць дасягаецца паўторамі, аднатыпнасцю сказаў. Філасофскі* сэнс - у сцвярджэнні, што чалавек паста-янна знаходзіцца ў сітуацыі выбару, а права выбару належыць чалавеку. Біблія перасцерагае чалавека ад спакус, жадання пайсці па лёгкай дарозе, якую выбіраюць многія, але якая вядзе да пагібелі, страты душы, заклікае ісці праз "цесную браму" і па "вузкай дарозе", што вядзе ў жыццё, вечнасць.

6. Каштоўнасць Бібліі як факта мастацтва выверана часам, вечнасцю, бо яна і сцвярджае **вечныя ісціны, вечныя законы і вечныя каштоўнасці,** галоўная сярод якіх - **любоў,** пра што пісаў Ф. Скарына: "Наиболей

любовь ко всим да соблюдает, еже ест совершена над все иные дарования, без нея же ничто поспешно ест".

Па перакладах на іншыя мовы і па накладзе Біблія знаходзіцца на першым месцы ў свеце.

Біблія ўзбагаціла **сюжэтамі, вобразамі і матывамі** шэдэўры сусветнага мастацтва: жывапіс, скульптуру, музыку, літаратуру. Паводле біблейскіх сюжэтаў напісаны многія беларускія творы ("Страцім-лебедзь" і "Апокрыф") М. Багдановіча, ("Быў у чыстцы") Ф. Багушэвіча; біблейскія матывы выцазна гучаць у творах Ядвігіна Ш., Я. Купалы, Я. Коласа, В. Быкава ("Знак бяды"), Р. Барадуліна ("Евангелле ад Мамы"), Н. Гілевіча ("На высокім алтары"), Вітаўта Чаропкі ("Геній смерці") і інш. Біблейскія легенды, паданні, прытчы ўзбагацілі і мастацтва, і душы соцень пакаленняў людзей ва ўсім свеце. Біблія ўзбагаціла ўсе мовы свету фразеалагізмамі, афарызмамі: *манна нябесная; несці крыж; узысці на Голгофу; перакаваць мячы на плугі; лягчэй вярблюду пралезці ў ігольнае вушка, чым...; святое святых; альфа і амега* і інш.

Бібліі няма роўных сярод мастацкіх шэдэўраў свету і па вобразнасці*, іншасказальнасці, колькасці і якасці ўмоўнасцей, што таксама з'яўляецца адным з найважнейшых крытэрыяў мастацкасці.

7. *Несці крыж* - цярпліва пераносіць жыццёвыя цяжкасці, выпрабаванні;

*пацалунак Юды* - здрадніцкі ўчынак пад маскай добразычлівасці;

*узысці на Галгофу* - здзейсніць подзвіг, паахвяраваць сабой, прыняць пакуты за іншых;

*унесці лепту* - зрабіць свой пасільны ўклад у нейкую важную справу, паахвяраваць дзеля яе апошнім;

*кесару - кесарава, а Богу - Божае* - кожнаму належнае, тое, чаго заслужыў;

*Садом і Гамора* - крайняе бязладдзе, поўная неразбярыха, сумятня;

*вавілонскае стоўпатварэнне* - тое, што і *Садом і Гамора;*

*манна нябесная* - каму-небудзь вельмі лёгка, само сабой дастаюцца сродкі для пражыцця, набытак; што-небудзь вельмі патрэбнае, доўгачаканае;

*соль зямлі* - самае важнае, галоўнае, найлепшае;

*не хлебам адзіным* - пра ролю духоўнага ў жыцці.

8. Складаназалежны сказ з даданым прычыны, які паясняе галоўны сказ і звязваецца з ім падпарадкавальным злучнікам *каб.* Галоўны сказ - аднасастаўны, абагульнена-асабовы, ускладнены аднароднымі выказнікамі *не давайце* і *не кідайце,* выражанымі дзеясловамі загаднага ладу 2-й асобы множнага ліку. Даданы сказ - двухсастаўны, ускладнены аднароднымі выказнікамі *не растапталі* і *неразарвалі* і адасобленай акалічнасцю, выражанай адзіночным дзеепрыслоўем.



Сказ *I ва усім...* - складаназалежны з трыма даданымі. Першы даданы акалічнасны спосабу дзеяння *як хочаце* раскрывае ў галоўным сказе значэнне акалічнасці, выражанай прыслоўем *так.* Другі даданы прычыны бо *ў гэтым закон і прарокі* раскрывае прычыну таго, пра што гаворыцца ў галоўнай частцы. Трэці даданы дапаўняльны паясняе, дапаўняе выказнік *хочаце* ў першым даданым сказе і звязваецца з ім падпарадкавальным злучнікам *каб.* Хочаце чаго? *Каб людзі рабілі з вамі...* Схема сказа:



9. Старажытнабеларускі пісьменнік і прамоўца, дзеяч хрысціянскай царквы эпохі Кіеўскай Русі К. Тураўскі на аснове дасканалага вывучэння Бібліі выпрацаваў самабытны стыль урачыстага царкоўнага красамоўства. Ён пакінуў 8 "слоў"-казанняў, аповесціпрытчы, 30 малітваў і некалькі канонаў. Ужо сучаснікі называлі К. Тураўскага "Златоустом, паче всех воссиявших нам на Руси" ("Залатавусным, які ярчэй за ўсіх заззяў нам на Русі"). Яго творчасць, як і Біблія, вызначаецца сцвярджэннем вечных каштоўнасцей, выкарыстаннем прыёмаў іншасказання, алегорыі, сімвалізацыі, супастаўлення ўмоўнага і рэальнага.

10. Гл. адказ № 6.

*11. Адчыняюць* - [а-чы-н'а-јуц']... У слове 4 склады (націск на трэцім складзе), 9 літар і 8 гукаў.

*а - [а] - галосны, ненаціскны, абазначаецца літарай а;
д—7 [ч] - зычны, глухі, зацвярдзелы, шыпячы, падоўжа-
ч/ ны, абазначаецца спалучэннем літар *д* (дэ) і *ч* (чэ);
ы - [ы] - галосны, ненаціскны, абазначаецца літарай ы;
н- [н'] - зычны, санорны, мяккі, абазначаецца літарай *н* (эн);
а - [а] - галосны, націскны, абазначаецца літарай а; '
/[j] - зычны, санорны, заўсёды мяккі, абазначаец-
ю/ ца разам з наступным гукам [у] літарай *ю;*
\[у] - галосны, ненаціскны, абазначаецца літарай *у*;
ц - [ц'] - зычны, глухі, мяккі, свісцячы, абазначаецца спалучэннем літары *ц* (цэ) і *ь* (мяккага знака);
ь - гука не абазначае.

9 літар, 8 гукаў.

* Далей у словах, прапанаваных для фанетычнага разбору, будзе тлумачэнне толькі складаных выпадкаў: асіміляцыі гукаў па мяккасці, глухасці і звонкасці, падаўжэння і інш. У гэтым слове, напрыклад, адзін падоўжаны [ц'] абазначаны трыма літарамі *д, з* і *ц; ь* гука не абазначае.

*Уваходзьце* - [у-ва-хо-ц'э].

У слове 4 склады (націск на трэцім складзе), 10 літар і 7 гукаў.

у — [у] - галосны, ненаціскны, абазначаецца літарай *у;*

в - [в] - зычны, санорны, цвёрды, абазначаецца літарай *в* (вэ);

а - [а] - галосны, ненаціскны, абазначаецца літарай а;

х - [х] - зычны, глухі, цвёрды, абазначаецца літарай *х* (ха);

о-[о] галосны, націскны, абазначаецца літарай о;

[ц'] зычны, глухі, мяккі, свісцячы, падоўжаны, абазначаецца спалучэннем літар *д* (дэ), *з* (зэ), *ь* (мяккага знака) і *ц* (цэ);

е — [э] - галосны, ненаціскны, абазначаецца літарай е.

10 літар, 7 гукаў.

Камплект № 2

1. Першы сказ - складаны з рознымі відамі сувязі. Першая частка яго - складаназалежны сказ з двума даданымі азначальнымі, якія паміж сабой звязваюцца супраціўным злучнікам а. Паміж першай і другой часткамі бяззлучнікавая сувязь. Двукроп'е паміж часткамі таму, што другая частка ўтрымлівае параду, як менавіта сцерагчыся ад ілжывых прарокаў, заключаную ў галоўным сказе першага сказа, - *распазнаваць па справах, а не словах.* Схема:



У трэцім сказе паміж часткамі складанага сказа ставіцца двукроп'е, бо два сказы другой часткі паясняюць, раскрываюць сэнс, канкрэтызуюць тое, аб чым сцвярджаецца ў двух простых сказах першай часткі, звязаных паміж сабой супраціўным злучнікам а. Паміж простымі сказамі другой часткі бяззлучнікавая сувязь, *ні* ў другім сказе (у першым яна апушчана) - узмацняльная часціца, а не злучнік. *Ні-ні* з'яўляецца злучнікам пры пералічэнні падзей у адмоўных сказах: *Ні лісце не зашалясціць, ні птушка не праляціць.* У другім сказе другой часткі апушчана частка састаўнога дзеяслоўнага выказніка *не можа.*




2. Для параўнання схемы двух апошніх сказаў:




*Дык вось кожнага прыпадобню да мужа разумнага.*

Аднасастаўны, пэўна-асабовы, развіты.

*А <u>кожны прыпадобніцца</u> да чалавека неразумнага.*

Двухсастаўны, развіты.

3. [с'ц'э р а ж ы ц'э с'а], [з'б'ірäjуп'], [раз'л'іл'іс'а], [з'н'ішчэн'э], [уз 'н 'ал äс 'а].

4. *Прыпадобніцца, знішчэнн\е\, неразумн<u>\ага\</u>.*

*Прыпадобніцсі* - зваротны дзеяслоў;

*прыпадобніць да сябе;*

*прыпадобніцца* ← *прыпадобніць* (постфіксальны спосаб, у школе - суфіксальны).

*Знішчэнне* - назоўнік; дзеянне, працэс паводле дзеяслова *знішчаць;*

*знішчэнне* ← *знішчаць* (суфіксальны спосаб).

*Неразумны* - прыметнік; не ўласцівы разумнаму;

*неразумны* - *разумны* (прыставачны спосаб).

5. [дошч], [ра-з'л'і-л'і-с'а].

6. Узмацняльнымі часціцамі.

7. Вобразнасць у тэксце дасягаецца супастаўленнем умоўнага і рэальнага, прытчавасцю. Прытча* - павучанне ў прыкладзе. Выдатна сказаў пра асаблівасць прытчы Ф. Скарына: "Ест бо в сих притчах сокрита мудрость, якобы моць в драгом камени, и яко злато в земли, и ядро у в ореху. Кто ю знайдеть..." Канкрэтнымі прыкладамі Біблія перасцерагае ад наступстваў сустрэчы са злом, якое заўсёды прыходзіць у белых адзеннях. Зло часцей за ўсё бывае знешне прывабным, яркім, зіхоткім. Біблія вучыць нас быць мудрымі, абачлівымі. Сіла гэтых вечных законаў і мудрасці супастаўляецца, параўноўваецца з трывалым падмуркам, на якім мудры можа будаваць свой дом, і ніякія буры і віхуры яму не страшныя. Той жа, хто ігнаруе гэтыя законы, будуе свой дом на пяску, руйнуе сваю будучыню.

8. Тэкст насычаны сінонімамі* і кантэкстуальнымі сінонімамі *(дождж* і *бура; цярноўнік* і *дзядоўнік; вінаград* і *смоква),* антонімамі* *(добрыя* і *кепскія; на камені* і *на пяску; упаў і не ўпаў; мужа разумнага і чалавека неразумнага),* аднатыпнымі сказамі складанай сінтаксічнай канструкцыі, азначэннямі. Усё гэта спрыяе паў-

наце апісання зла ў белых адзеннях і наступстваў неабачлівасці. З дапамогай антонімаў ствараюцца кантрастныя карціны перспектывы, якая чакае мудрага, хто "слухае гэтыя словы", і нямудрага, хто "не выконвае" гэтыя словы. Прытчавасць, павучальнасць, пафаснасць і значнасць сцвярджэння дасягаюцца паўторамі, інверсіяй* *(і паліўся дождж, і разліліся рэкі; плады кепскія; мужа разумнага),* злучнікавай анафарай*. Да ўсяго такія сродкі робяць мову рытмізаванай, пачуццёвай. І гэты тэкст уяўляе сабой верш у прозе.

9. Які млын, такі і ставок, які бацька, такі і сынок.
Сава не родзіць сакала, а такога чорта, як сама.
Якія самі, такія й сані.
Які род, такі і плод.
Якая матка, такое і дзіцятка.
Якое дрэва, такі клін, які бацька, такі й сын.
Якое карэнне, такое і насенне.
Якая хатка, такі і тын, які бацька, такі і сын.

10. Гл. адказ № 7 камплекта № 1.

12. Слоўнік У. І. Даля тлумачыць прытчу як "павучанне ў прыкладзе". Усім вядомы сюжэт, упершыню зафіксаваны Эзопам, пра бацьку, які вычарпаў усе намаганні пераканаць сыноў жыць у згодзе і загадаў пераламаць венік. Як ні высільваліся сыны, нічога не атрымалася. Тады бацька развязаў венік і загадаў пераламаць кожны пруцік. Перад намі наглядны **прыклад для доказу маральнай ідэі:** наколькі непераможна згода, настолькі бяссільны разлад. У прытчы **абстрактная думка выяўлена праз канкрэтны вобраз ці параўнанне.** Прытча патрабуе ад чытача перанесці сябе ў сітуацыю, згаданую ў ёй, знайсці золата ў зямлі, ядро ў арэху, як вобразна сказаў Ф. Скарына. Прытча - **загадка,** якая патрабуе ад чытача актыўнага спасціжэння яе сэнсу. І яшчэ. Сэнс прытчы не ў тым, які чалавек у ёй паказаны, а ў тым, які **этычны выбар** зроблены чалавекам.

Любімыя тэмы прытчы - праўда і крыўда, жыццё і смерць, чалавек і Бог.

Прыгадаем прытчу пра жыта і васількі ("Апокрыф" М. Багдановіча): "Нашто каласы, калі няма васількоў", не хлебам адзіным жыве чалавек, не толькі матэрыяльнае, але і духоўнае патрэбна людзям - такая ідэя твора. І найпершая роля ў сцвярджэнні гэтай ідэі, філасофскай канцэпцыі пісьменніка належыць прытчавасці.

Асабліва плённа прытчу як жанр выкарыстоўваў Ядвігін Ш. ("Баба", "Чалавек", "Хлеб" і інш.), а з сучасных майстроў слова - М. Танк. Яго "Прытча пра хлеб" найлепшым чынам ілюструе тую асаблівасць прытчы, што сэнс яе ў залежнасці ад канкрэтнай сітуацыі можа расшырацца амаль да бясконцасці. Безумоўна, гэты філасофскі твор можна ўсведамляць як гімн хлебу - першааснове жыцця. Але не толькі. Сітуацыя, пакладзеная ў аснову твора, можа стаць выдатным урокам усім няўдзячным, пыхлівым, здрадлівым, якія з лёгкасцю пазбаўляюцца ад таго, хто іх вёў, урокам усім, хто *па часе розум мае,* да каго, як кажуць у народзе, *розум прыходзе па шкодзе* (па-руску: *задний ум хорош, да никуда не гож).*

Камплект № 3

*1. Еўфрасіння - арол, што, лунаючы ў небе, праляцеў ад захаду і да ўсходу, як прамень сонечны, прасвятліў зямлю Полацкую* (пераклад А. Мельнікава).

Складаназалежны сказ з даданым азначальным, які звязаны з галоўным сказам злучальным словам *што* ў ролі дзейніка.

Галоўны сказ двухсастаўны, неразвіты.

Даданы сказ двухсастаўны, ускладнены аднароднымі выказнікамі *праляцеў* і *прасвятліў,* адасобленай акалічнасцю, выражанай дзеепрыслоўным зваро-

там *(праляцеў* як? *лунаючы ў небе* - акалічнасць спосабу дзеяння) і акалічнасцю спосабу дзеяння, выражанай параўнальным зваротам *як променъ сонечны.*

2. Кампазіцыя большасці **жыцій** такая:

рытарычны ўступ;

аповед пра нараджэнне святога дзіцяці, дабрачыннасць бацькоў дзіцяці;

дзяцінства і юнацтва, пострыг;

апісанне вучэння падзвіжніка, яго подзвігу;

пахвала святому.

Дадзены ўрывак з'яўляецца апошнім момантам кампазіцыі - пахвала святому.

3. Жыцці і летапісы маюць вялікае культурна-гістарычнае значэнне не толькі як помнікі беларускай літаратурнай мовы, але і як помнікі нацыянальнай літаратуры, як каштоўная крыніца вывучэння багатага гераічнага мінулага нашага народа. Слушна сцвярджае А. Мельнікаў, што яны даюць магчымасць "зведаць, што думалі, чым захапляліся нашы далёкія і не вельмі далёкія продкі, у што верылі, чым ганарыліся, што любілі, чым грэбавалі. А гэта, далібог, не так і мала!"

З жыццяў, летапісаў, хаджэнняў чэрпалі звесткі для сваіх твораў М. Ермаловіч ("Старажытная Беларусь"), Л. Дайнека ("След Ваўкалака"), У. Арлоў ("Еўфрасіння Полацкая", "У пошуках загубленага скарба"), В. Чаропка ("Імя ў летапісе") і многія іншыя.

4. Дзеепрыметнікі: *неувядающий, попаривший, возрсістивый, живущеи, послужившей, обидимым, скорбящим* (два апошнія - субстантываваныя - назоўнікі). Дзеепрыметныя звароты: *послужившей тебе; такову леторасль возрастивый.*

У беларускай мове рэдка ўжываюцца дзеепрыметнікі залежнага стану цяперашняга і прошлага часу з суфіксамі *-уч- (-юч-), -ач- (-яч-), -ўш-,* -ш- Нехарактэрныя для беларускай мовы зваротныя дзеепрыметнікі, а таксама

дзеепрыметнікі цяперашняга часу залежнага стану з суфіксамі *-ем-, -ім-.* Гэта трэба ўлічваць у вуснай і пісьмовай мове, пры перакладзе з рускай мовы на беларускую. У апошняй сітуацыі. трэба кіравадца наступным:

4.1. Карыстацца паралельнымі сінтаксічнымі канструкцыямі. Дзеепрыметнік ці дзеепрыметны зварот перакладаць даданым сказам:

*строящийся город - горад, які будуецца.*

4.2. Абшарыць кішэні памяці" і пашукаць адпаведнікі, дзеепрыметнікі з уласцівымі нашай мове суфіксамі:

ненавидящие вас - ненавіснікі вашы;
злословящие вас - злоснікі вашы;
обижающие вас - крыўдзіцелі вашы;
гонящие вас - ганіцелі вашы;
поседевший - пасівелы;
трудящийся человек - працоўны чалавек;
невыносимая боль - невыносны боль;
невидимый луч - нябачны прамень;
трепещущие крылья - трапяткія крылы;
странствующий музыкант - вандроўны музыка;
почитаемый коллега - шаноўны калега.

*Уваскрэслы, пагаслы, заржавелы, адталы, счарнелы, намоклы, прынесены* - уласцівыя нашай мове дзеепрыметнікі.

4.3. Перакладаць адпаведнікамі (не абавязкова дзеепрыметнікамі):

на *открывающуюся выставку - на адкрыццё выставы;*
*плачущий голос - голас праз плач.*

4.4. Дзеепрыметнік замяніць дзеясловам:

*пахнущие свежей краской - пахлі свежай фарбай.*

4.5. Апусціць дзеепрыметнік, калі гэта не змяняе сэнс сказа:

*в открывшуюся ветром форточку влетела птица - праз адчыненую ветрам фортку...* ці проста: *праз фортку заляцела птушка.*

Выдатны ўзор перакладу дзеепрыметнікаў у тэксце пра Еўфрасінню Полацкую - Аляксея Мельнікава (№ 4).

5. *Манашка.*

*Белагрудыя госці веснія* - ластаўкі;
*другі хлеб* - бульба;
*салодкі корань* - цукровы бурак;
*чалавек вогненнай прафесіі* - сталявар;
*людзіў белых халатах* - урачы.

6. Паўторы: *Еуфросиниа; блажении;* азначэнні-эпітэты: *неувядающий цвет райского сада; преподобную, достохвалныя;* сінонімы: *Еуфросиниа; невеста Христа Бога нашего.*

7. Тэкст насыпаны азначэннямі-эпітэтамі, параўнаннямі *(Еўфрасіння* параўноўваецца з *арлом, з незвядальным кветам райскага саду),* параўнальнымі зваротамі, супастаўленнямі, **перыфразамі** *(насельнікі манастыра, нявеста Хрыстова),* **метафарамі** *(сэрца сваё паіла Божаю мудрасцю),* аднароднымі членамі сказа *(была яна дапамогай, суцяшэннем, адзеннем, наведаннем).* Лірызм, усхваляванасць, узрушанасць дасягаецца і стылістычнай роллю займенніка *я,* і звароткамі, і клічнымі сказамі, і шматлікімі паўторамі, і **інверсіяй,** што адначасна забяспечвае тэксту рытмізаванасць.

Камплект № 4

1. Клічныя сказы, шматлікія звароткі, аднародныя члены сказа, інверсія *(промень сонечны; сэрца сваё паіла; зямлю Полацкую),* азначэнні-эпітэты, няпоўныя сказы - усё падначалена адной мэце: выявіць пачуццё любові і захаплення Еўфрасінняй Полацкай, яе подзвігам, узбагаціць душы чытачоў гэтым пачуццём, уславіць, узвысіць святую і ўсё тое, што вяло яе па дарозе да Храма: і яе бацькоў, і люд, і места Полацкае (горад Полацк), і манастыр, і насельнікаў яго (манахаў).

2. Сказ клічны, складаны з рознымі відамі сувязі. Першыя два простыя сказы звязаны паміж сабой бяззлучнікавай сувяззю. Першы сказ - двухсастаўны, развіты, ускладнены звароткам *братове.* Другі сказ - няпоўны, у ім апушчаны выказнік *хваліцца,* чым і абумоўлена пастаноўка працяжніка. Паміж другім і трэцім сказам, трэцім і чацвёртым таксама бяззлучнікавая сувязь. Кропка з коскай паміж другім і трэцім сказам таму, што сувязь інфармацыйная паміж гэтымі часткамі складанага сказа меншая, чым паміж першым і другім. Трэці сказ двухсастаўны, неразвіты. Наступная частка сказа ўяўляе сабой складаназалежны сказ, які раскрывае, паясняе трэці сказ *я ж хвалюся,* таму паміж трэцім і чацвёртым сказамі трэба паставіць двукроп'е. Чацвёрты сказ з'яўляецца галоўным для пятага. Чацвёрты сказ двухсастаўны, ускладнены звароткам *места Полацкае.* Пяты сказ - даданы прычыны *(шчаснае* чаму? *што узрасціла...),* ён звязваецца з галоўным падпарадкавальным злучнікам *што.* Гэты сказ - не аднасастаўны, а няпоўны, у ім апушчаны дзейнік *ты,* што лёгка ўсведамляецца, дзякуючы папярэдняму сказу. Сказ ускладнены адасобленым развітым прыдаткам *найпадобнейшую Еўфрасінню.* Ён адасабляецца працяжнікам найперш таму, што стаіць у канцы сказа і нясе найбольшую сэнсавую нагрузку, аб чым сведчыць і клічнік. Схема сказа:




*Пакрыўджаным, засмучаным, распранутым, хворым* у сказе з'яўляюцца субстантываванымі назоўнікамі, у якія перайшлі дзеепрыметнікі і прыметнік *хворыя.* У сказе яны з'яўляюцца дапаўненнямі да аднародных частак састаўнога іменнага выказніка: *была дапамогай, суцяшэннем, адзеннем, наведаннем.*

3. *Места* - горад; *манастыр* - царква.

4. Пра перыфразу. Гл. адказ № 5 камплекта № 3.

5. *Статак* - паства, людзі, вернікі, падданыя.

6. Гл. адказ № 7 камплекта № 3 і адказ № 1 камплекта № 4.

7. Спосаб выяўлення думак і пачуццяў.

Пра ўсе значэнні слова *мова* чытайце ў "Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы". Мн., 1996. С. 349.

8. Першадрукар, асветнік-гуманіст Францішак Скарына.

Пісьменнік, перакладчык, педагог, асветнік, грамадскі і царкоўны дзеяч, друкар Пятроўскі-Сітніяновіч Самуіл Гаўрылавіч (Сімяон Полацкі).

Усяслаў Чарадзей, які княжыў ажно 57 гадоў і пры якім Полацкае княства дасягнула найвышэйшага росквіту.

Спіс можна доўжыць бясконца.

9. Полацкі майстар-залатар Лазар Богша паводле заказу Ефрасінні Полацкай у 1161 годзе зрабіў крыж; гэту нацыянальную рэліквію адшукаў і некаторы час (да 1929 г.) ашчадна зберагаў дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея Вацлаў Ластоўскі, аб чым распавядаецца ў кнізе У. Арлова "Еўфрасіння Полацкая".

10. "Добры дзень, мая Шыпшына!", "Дзень, калі упала страла", "Пяць мужчын у лесніцоўцы", "Сны імператара", "Час чумы", "Місія папскага нунцыя", "Міласць князя Гераніма" і інш. Гістарызм, даследаванне нашай мінуўшчыны; і на падставе архіўных матэрыялаў, летапісаў, жыццяў і іншых дакументаў вылучэнне і аргументацыя смелых версій, якія не толькі вытлумачваюць таямніцы мінулага, але і ставяць дыягназ сучаснасці, яе "хвароб" і праблем, матывы і вытокі якіх у мінуўшчыне, - адна з адметных асаблівасцей творчасці У. Арлова.

11. Аканне*, яканне*: *суцяшэннем, адзеннем, прасвятліў, манастыроў, маліся, зямлю.*

Дзеканне*, цеканне*: *уславіць, памяць, узрасціла, у месце, подзвігі.*

Фанетычнае падаўжэнне*: *Еўфрасіння, нараджэнне, узрастанне, паклаenenne, адзенне, суцяшэнне.*

Марфалагічнае падваенне*: *па**нн**а, уло**нн**е.*

Асіміляцыя* гукаў па мяккасці:

*светлую, узрасціла, у месце.*

12. <u>*Пакрыўджан*</u>|<u>*ыя*</u>|,

<u>*распранут*</u>|<u>*ыя*</u>|.

*Пакрыуджан*|ыя| (дзеепрыметнік → пакрыўджан|<u>ыя</u>| (назоўнік).

*Распранут*|*ыя*| (дзеепрыметнік) → распранут|ыя|(назоўнік).

Спосаб словаўтварэння гэтых слоў - марфолага-сінтаксічны (пераход адной часціны мовы ў другую).

Камплект № 5

1. Пераклад Янкі Купалы зроблены **свабодна,** з шырокім выкарыстаннем песеннай творчасці нашага народа. Паэту ў цэлым удалося захаваць паэтычны лад "Слова...", яго вобразна-выяўленчую сістэму, язычніцкі дух твора. Творчае выкарыстанне Купалам **фальклорнай** паэтыкі, яе выяўленчых сродкаў не пераходзіць у стылізацыю пад фальклор, а падкрэслівае і ўзмацняе народную сутнасць паэмы.

2. "Немизъ кровави брезъ".

"Нямігі крывавыя берагі". У перакладзе Р. Барадуліна.

3. Максіму Багдановічу. Ён у 1910 г. па-майстэрску пераклаў з гэтага твора невялікі ўрывак пад назваю "Песня пра князя Ізяслава Полацкага". Праўда, гэта не быў факт першага знаёмства беларусаў са "Словам...". У ліку першых сур'ёзных даследчыкаў "Слова..." быў беларус З. Даленга-Хадакоўскі. "Словам..." захапляўся

А. Міцкевіч і У. Сыракомля. Апошні нават выказаў меркаванне пра беларускае паходжанне шэдэўра.

4. Найперш гэта змяненне заднеязычных гукаў *г* і *к* у свісцячыя ў формах меснага склону назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду: на *Немазъ, на тоцъ, на ръцъ.*

Клічныя формы назоўнікаў-зваротkаў:

О *вътръ, господине.*

Дзеясловы 3-й асобы цяперашняга часу абодвух лікаў з мяккім канчаткам *-ть: плачешь, кладуть, вьють, стелють, молотять.*

5. *Сцелюць, гусценька, касцямі; злюцела, косцьмі.*

*6. Берагі ў крыві Нямігі па калені;*

Не дабро на іх пасеяў сейбіт жменяй, а былі яны гусценька ў процьмах вузкіх там засеяны касцямі сыноў рускіх.

7. Вобразнасць*, асацыятыўнасць*, насычанасць метафарамі *(душу ад цела веюць; засеяны касцямі),* эпітэтамі *(крывавыя берагі).* "Слова..." палоніць нас пластычнасцю і музычнасцю паэтычнай мовы, незвычайным багаццем асацыяцый, трапнасцю, дакладнасцю і мастацкай смеласцю. Бітву, напрыклад, паэт параўноўвае з малацьбой і пірам.

8. [с'эйб'ід жм'эн'аjу], [ац'эла в'эjудз' б'эзнадз'эйна].

9. Вобразнасць*, асацыятыўнасць, фальклорныя вытокі мастацка-выяўленчых сродкаў - агульнае. Купалаўскі пераклад свабодны, з шырокім выкарыстаннем усіх багаццяў, і рытмічных таксама, песеннай творчасці беларускага народа.

10. *Рэтраспекцыя* (ад лац. *retro* - назад і *specio* - гляджу), зварот да мінулага, агляд былых падзей.

У цэнтры "Слова..." - няўдалы паход старажытнарускіх князёў на полаўцаў вясной 1185 г. Апісваючы яго, аўтар разгортвае шырокую гістарычную панараму

роднай зямлі, якую падае ў святле свайго разумення яе мінулага і сучаснага. Паэт часта гаворыць пра славу дзядоў, славу продкаў, якой не ўсе нашчадкі вартыя. Сярод мінулых князёў паўстае перад намі вобраз незвычайнага полацкага князя, праўнука Уладзіміра Святаславіча і легендарнай Рагнеды, які цалкам, на думку аўтара, адпавядае крытэрыям ацэнкі гістарычнай асобы. Ні аднаму князю XI ст. не аддаў паэт столькі ўвагі, не сказаў столькі цёплых слоў, як Усяславу. Ён акружаны ў паэме таямнічым арэолам князя-чараўніка, які, бы казачны герой народнага эпасу, надзелены незвычайнымі, чарадзейнымі здольнасцямі ператварацца ў ваўка. Ён герой незвычайных прыгод, хітры, умелы, імклівы. Мудрым і дзейным валадаром паказаны Усяслаў. "Хоць і вешчую меў душу ў дзёрзкім целе, ды часта ад бедаў цярпеў ён" - так літаральна ў некалькіх ёмістых словах, напоўненых сардэчнай цеплынёй, аўтар змог раскрыць цяжкі лёс легендарнага князя і выразна выказаць сваё захапленне тым, каго лічыць ідэалам дзяржаўцы, ставячы яго ў прыклад сучасным яму князям. Патрыётам, выдатным знаўцам айчыннай гісторыі і таленавітым пісьменнікам паўстае перад намі аўтар "Слова...".

Кампазіцыйная роля рэтраспекцый у "Слове..." шмат у чым нагадвае другі выдатны помнік славянскай паэзіі - "Песню пра зубра" Міколы Гусоўскага. Менавіта праз рэтраспекцыі М. Гусоўскі таксама выявіў свой ідэал дзяржаўцы, паказаў яго ролю ў гісторыі і лёсе краіны. Паэт эпохі Адраджэння сцвярджае, што росквіт і моц краіны залежаць ад здольнасці дзяржаўцы "перад багаццем і шчасцем зямным пастаянна" ставіць "багацце духоўнае - злата дзяржавы".

Камплект № 6

1. Самая адметная вартасць перакладу "Слова...", зробленага Рыгорам Барадуліным, як сцвярджаюць

літаратуразнаўцы і даследчыкі помніка, у прыватнасці В. Чамярыцкі, - дакладнасць і паэтычнасць, блізкасць да арыгінала. У тым яго адрозненне ад купалаўскага - свабоднага - перакладу.

2. Да ўжо сказанага дададзім, што ў духу народных галашэнняў-замоў пададзены ў творы славуты плач Яраслаўны, што адносіцца да найболын паэтычных момантаў усёй паэмы.

Прырода ў "Слове...", як і ў фальклоры, адухоўлена, персаніфікавана*. Яна нібы жыве з людзьмі агульным жыццём, суперажывае і садзейнічае ў іх справах, дапамагае, перасцерагае альбо перашкаджае героям: "І заступіла шлях яму сонца сляпое, ноч разбудзіла птушак стогнамі навальніцы", "Нікне трава ад жалю, а дрэва з тугою да зямлі схілілася".

3. Як вядома, беларуская мова адносіцца да кансанантнага тыпу* моў (на 39 зычных прыходзіцца толькі 6 галосных). І тэкст "Слова...", і барадулінскі пераклад, у прыватнасці прыведзены тэкст перакладу плачу Яраслаўны, - яркі доказ галоснасці, мілагучнасці нашай мовы. Гэта дасягаецца найперш частотнасцю галосных, а ў прыведзеным урыўку яна мэтавая.

Падлічым гукі толькі першых трох сказаў для параўнання. Усіх зычных гукаў - 65, з іх 35 - санорныя, у якіх пераважае голас, а не шум. Галосных - аж 46, прычым гукаў *а, о, э, у,* якімі дасягаецца эфект плачу, галашэння - з 46 аж 35. Стылістычнае, мэтавае паўтарэнне аднолькавых ці падобных галосных, гармонія галосных - асананс, разнавіднасць гукапісу.

4. *Сынку, голубе, браце, "краю мой родны, як выкпяты богам..."* - прыклады формы клічнага склону, якія захаваліся і ў сучаснай беларускай мове. У тэксце Р. Барадуліна: *ветру, валадару,* у арыгінале *ветръ, господине.*

5. Зязюля.

6. *Сыновец* - пляменнік, сын сястры або брата.

7. *Ввсялосць|_|, прыгаворваючы.*

*Весялосць* - назоўнік; уласцівасць вясёлага.

*Весялосць* ← *вясёлы* (суфіксальны спосаб).

*Прыгаворваючы* - дзеепрыслоўе; дадатковае дзеянне паводле *прыгаворваюць.*

*Прыгаворваючы* *прыгаворваюць* (суфіксальны спосаб).

8. Паўтарэнне, выкарыстанне фрагмента чужога тэксту - рэмінісцэнцыя. Выкарыстоўвацца могуць самыя розныя элементы тэксту: сюжэт (міфалагічны, напрыклад), вобразы (Праметэй, Дон Кіхот), радкі, сінтаксічныя канструкцыі, строфіка, памер, цытата, філасофская думка і інш.

Шэраг паэтычных рэмінісцэнцый "Слова..." - у творах М. Танка, А. Куляшова, П. Броўкі, П. Панчанкі, К. Кірэенкі і інш.

Прыклад уздзеяння "Слова..." на жанры мастацтва - опера Барадзіна "Князь Ігар".

9. Ужо згадвалася пра выкарыстанне Купалам фальклорнай паэтыкі, выяўленчых сродкаў вусна-паэтычнай творчасці. Гістарызм, народнасць, глыбокі патрыятычны роздум над гістарычным лёсам Бацькаўшчыны - гэтыя традыцыі "Слова..." з незвычайнай мастацкай сілай рэалізаваны ў вершах, паэмах Я. Купалы ("Бандароўна", "Безназоўнае" і інш.).

10. Анімістычнае ўспрыманне прыроды - адухаўленне прыроды, персаніфікацыя*. Пра гэта ўжо гаварылася падрабязна. А ў словах Кірылы Тураўскага прырода мае сімвалічнае, пераноснае значэнне: сонца - Хрыстос; месяц - сімвал усяго, што меркне ад промняў сонца; зіма - сімвал грахоўнага; лёд - сімвал бязвер'я.

11. Янка Купала.

Дзмітрый Ліхачоў і Мікалай Забалоцкі пераклалі "Слова..." на рускую мову, Максім Рыльскі - на ўкраінскую.

Камплект № 7

1. Варыянт перакладу:

Сёння сонца іграе і ўвысь узыходзіць,
        радасцю зямлю саграваючы,
бо для ўсіх нас устаў з гроба Сонца-Хрыстос,
        каб нас, яго вернікаў, уратаваць.
Сёння месяц з вышыні сышоў,
        большае свяціла славячы,
бо ветхі закон і прарокі законы Хрыста славяць,
        як таму быць па Святому Пісанню.
Сёння праз пакаянне не стала зімы грахоўнасці
        і лёд нявер'я ўсведамленнем Бога растоплены.
Зіма язычніцкага куміраслужэння
        апостальскім вучэннем і вераю Хрыста мінулася,
лёд жа нявер'я людскога
        ўваскрашэннем, з'яўленнем Хрыстовым растоплены.

*Пераклад А. Мельнікава*

2. Першы сказ - сцвярджальны, складаны, складаназалежны. Галоўны сказ двухсастаўны, развіты, ускладнены аднароднымі выказнікамі *іграе* і *ўзыходзіць* і адасобленай акалічнасцю спосабу дзеяння, выражанай дзеепрыслоўным зваротам. Першы даданы прычыны звязваецца з галоўным падпарадкавальным злучнікам *бо.* Сказ двухсастаўны (дзейнік *Хрыстос,* выказнік - *устаў з гроба* (уваскрос). Другі даданы мэты звязваецца з першым даданым (і паясняе яго) злучнікам *каб.* Гэты сказ аднасастаўны, безасабовы, развіты, ускладнены адасобленым прыдаткам.

Другі сказ таксама складаназалежны з двума даданымі, звязанымі паслядоўным падпарадкаваннем.

Трэці сказ складаны, складаназлучаны. Два простыя сказы звязаны злучальным злучнікам і, перад якім коска не ставіцца, бо ёсць агульны для двух простых сказаў член - *сёння* (акалічнасць).

Апошні сказ - складаны, бяззлучнікавы.

3. "Солнце красуяся восходить..." -

сімвал* і метафара*, адухаўленне*.

Параўнанні*, эпітэты* *(зима греховная; языческого кумирослужения ).*

Біблейская рэмінісцэнцыя* *(Фомина неверия).*

4. У камплекце № 6.

5. *Восходить, огреваешь, спасаешь* - мяккі канчатак у дзеясловах 3-й асобы цяперашняга часу.

6. *Рада[с']цю, [с']вяціла* і інш.

*Сёння* - 5 літар, 4 гукі;

*узыходзіць* - 10 літар, 8 гукаў;

*людскога* - 8 літар, 7 гукаў.

7. Пэўная пераемнасць не толькі паводле жанру (малітвы, пераказ прытчаў у прадмовах, біблейскія рэмінісцэнцыі), але і паводле вобразных сродкаў, асацыятыўнасці, рытмізаванасці мовы - увогуле мастацкіх вартасцей створанага абодвума тытанамі; галоўнае - у сцвярджэнні імі вечных ісцін і каштоўнасцей, у іх ролі і ўздзеянні на культуру, асвету, духоўнасць нацыі.

8. Пашлі, прадвечны Валадару, усім нам мір
на зямлю,
грэшнікам - ачышчэнне, нямоглым - здароўе,
самотным - суцяшэнне, зняверaным - надзею,
змагарам за веру Хрыстову - перамогу,
палонным - волю, раздзетым - адзенне,
сіротам - хлеб і прытулак,
маракам - цішыню,
вандроўным - прыстанак,

пакрыўджаным - падмогу,
і ўсім хрысціянам - паратунак,
а па смерці - царства нябеснае,
як адзіны чалавекалюбец і Бог наш.

9. Працяжніка, бо ўсе простыя сказы ў складаным, акрамя першага і апошняга, - няпоўныя, у іх апушчаны выказнік *пашлі.*

10. Субстантываваныя назоўнікі: *немощным, смутным, ненадежным, воюющимся, нагим, плавающим, шествующим, обидимым.* У перакладзеным тэксце: *нямоглым, самотным, зняверанным, палонным, раздзетым, вандроўным, пакрыўджаным.* Не ўсе дзеепрыметнікі, якія перайшлі ў назоўнікі (субстантываваліся), можна "скалькаваць" на беларускую мову, ім трэба шукаць або адпаведнікі, або аналагічныя словы, але з уласцівымі нашай мове суфіксамі, бо суфіксы *-ющ-, -ущ-, -им-, -ем-* не характэрны для нашай мовы.

11. Да прыкладу, Н. Арсеньева ("Магутны Божа"), М. Танк ("Малітва"). Рэмінісцэнцыі* ў творы Н. Арсеньевай відавочныя: яны на ўзроўні жанру, некаторых момантаў кампазіцыі, мастацкіх сродкаў. І ўсё ж гэта мастацкі твор, у якім малітоўныя рэмінісцэнцыі толькі сродак выражэння філасофскай думкі, найвышэйшага дасягнення лірызму, выяўлення самага жаданага і запаветнага: бачыць свой народ і Бацькаўшчыну свабоднымі і шчаслівымі. Малітоўныя рэмінісцэнцыі відавочны і ў філасофскім адступленні паэмы "Новая зямля".

Зямля не зменіць і не здрадзіць, / Зямля паможа і дарадзіць, / Зямля дасць волі, дасць і сілы, / Зямля паслужыць да магілы, / Зямля дзяцей тваіх не кіне, / Зямля - аснова ўсёй айчыне.

Камплект № 8

1. У гонар Кірылы Тураўскага. Пісьменнік імкнуўся не павучаць, а мастапкімі сродкамі раскрываць сут-

насць той ці іншай рэлігійна-маральнай праблематыкі. Ён шырока выкарыстоўваў прыёмы іншасказання, алегорыі, сімвалізацыі, супастаўлення ўмоўнага і рэальнага. У аснове кампазіцыі яго твораў (пра іх у камплектах № 1 і 7) - рытарычная **ампліфікацыя*:** тая ці іншая тэма разгортваецца да таго часу, пакуль змест не будзе поўнасцю вычарпаны. Кожная думка "слова" набывае форму рытарычнай тырады, а ўвесь тэкст - гэта "ланцужок" тырад, як у "Слове на Вялікдзень", урывак з якога ў камплекце № 7.

2. ... Радуйся, святару шаноўны, настаўніча наш, другі Златавуст, што ярчэй за ўсіх праззяў на Русі! Радуйся, свяціцелю, бо найсвятлейшым вучэннем сваім асвятліў землі Рускія! Радуйся, сонца, што асвятляе розумам Божым азмрочаных і цёмных!

*Пераклад А. Мельнікава*

*3. Другі Златавуст - Кірыла Тураўскі.*

4. Дзеепрыслоўі: *восиа, просветив, просвещаа.* Спосаб утварэння дзеепрыслоўяў у рускай і беларускай мовах - суфіксальны, у рускай мове пры дапамозе суфіксаў -а- *(-Я-)* і *-в-,* а ў беларускай - *-учы- (-ючы-), -ачы- (-ячы-), -ўшы-* і *-шы-* (пасля зычных).

Пераклад А. Мельнікава - узор замены дзеепрыслоўяў уласцівымі беларускай мове дзеясловамі, а дзеепрыслоўных зваротаў - даданымі сказамі з адпаведнымі дзеясловамі - выказнікамі. І такі пераклад мэтазгодны, асабліва ў першым выпадку, дзе дзеепрыслоўе *воссиа* нельга перакласці менавіта дзеепрыслоўем, бо дзеепрыслоўе *заззяўшы* супала б з формай дзеепрыметніка, што выклікала б двухсэнсоўнасць сказа, непажаданую сінтаксічную аманімію.

5. *Святителю, учителю* - ужыванне клічнай формы назоўніка ў ролі зваротка.

6. Усяслава Чарадзея; Чарадзеевых; Усяслава; унучцы (Еўфрасінні Полацкай).

Гэта ўрывак (уступ) да эсэ* У. Арлова "Нібы промень сонечны", назва якога з'яўляецца рэмінісцэнцыяй з "Аповесці жыцця і смерці святой і блажэннай і найпадобнейшай Еўфрасінні...".

7. Раман Л. Дайнекі "След Ваўкалака".

8. Да прыкладу, "Прытча пра чалавечую душу і цела" (ці "Слова пра сляпога і кульгавага"). *Гэта таксама евангельская рэмінісцэнцыя* пра руплівага гаспадара, які паставіў ля варот двух сторажаў - сляпога і кульгавага - у надзеі, што злодзеяў кульгавы ўбачыць, а сляпы пачуе, самі ж яны не змогуць абакрасці гаспадара. Здарылася ж інакш: сляпы і кульгавы, аб'яднаўшы свае сілы (сляпы нёс кульгавага, а кульгавы паказваў дарогу), прабраліся ў сад гаспадара і прысвоілі яго дабро.* У вобразе сляпога К. Тураўскі паказаў чалавечую душу, у вобразе кульгавага - цела. Гаспадар - стваральнік свету. Бог карае іх абодвух, выганяючы з саду. *Гэтым аўтар сцвярджае, што чалавек адказны перад Богам, што за усе' на свеце трэба плаціць.* Але галоўная ідэя - у сцвярджэнні гармоніі цела і душы, перавагі духоўнага над матэрыяльным.

9. Амаль тая ж сітуацыя апісана, да прыкладу, у казцы* У. Дубоўкі "Усходняе апавяданне пра сляпога і бязногага", якія *ў паходзе, у такой пакуце і няўгодзе,* наперакор усяму, дайшлі *да пальмаў, да крыніц:*

...Тваім мы будзем бачыць зрокам,
Ісці маім мы будзем крокам.
І наш хаўрус сяброўскі гэты
паможа нам дайсці да мэты.

У. Дубоўка славіць *хаўрус сяброўскі,* саюз, еднасць, злучнасць, адзінства, супольнасць.

Гэтыя абедзве рэмінісцэнцыі выдатна даказваюць, што самая галоўная жанравая адметнасць прытчы - сітуацыя выбару.

10. Сказ *Гэта таксама евангельская рэмінісцэнцыя...* - сцвярджальны, складаны з рознымі відамі сувязі. Першая

частка гэтага сказа ўяўляе сабой складаназалежны сказ. Галоўны сказ двухсастаўны, поўны, развіты. Дзейнік выражаны ўказальным займеннікам *гэта,* а выказнік - назоўнікам. Першы даданы азначальны двухсастаўны, поўны, развіты, ускладнены адасобленымі аднароднымі прыдаткамі *(сляпога і кульгавага),* звязваецца з галоўным злучальным словам *які* (у сказе гэты адносны займеннік з'яўляецца дзейнікам). Другі і трэці даданыя азначальныя (аднародныя) паясняюць слова *надзеі* ў першым даданым і звязваюцца з ім падпарадкавальным злучнікам *што,* які ў трэцім даданым апушчаны. Другі даданы двухсастаўны, поўны, развіты, а трэці двухсастаўны, неразвіты, няпоўны, бо ў ім апушчаны даданы член *злодзеяў,* які ўзнаўляецца з папярэдняга сказа. Паміж сабой другі і трэці сказы звязваюцца супраціўным злучнікам *а.* Другая частка ўсяго складанага сказа ўяўляе сабой просты двухсастаўны, поўны, развіты сказ (граматычная аснова - *яны не змогуць абакрасці),* які звязваецца з аднароднымі даданымі бяззлучнікавай сувяззю. Схема сказа:




Наступны сказ - складаны бяззлучнікавы з устаўным складаназлучаным сказам. Першы сказ - аднасастаўны безасабовы, другі - двухсастаўны, поўны, развіты, ускладнены аднароднымі дзейнікамі, выражанымі субстантываванымі назоўнікамі *сляпы* і *кульгавы,* і аднароднымі выказнікамі *прабраліся* і *прысвоілі,* а таксама адасобленай акалічнасцю, выражанай дзеепрыслоўным зваротам. Другі просты сказ паясняе, раскрывае сэнс першага, таму паміж імі ставіцца двукроп'е. Першы ўстаўны сказ з

другім звязваецца супраціўным злучнікам *а,* абодва выдзяляюцца дужкамі. Схема сказа:




Апошні сказ, які выражае ідэю твора К. Тураўскага, - складаназалежны з двума аднароднымі дапаўненнямі, якія звязваюцца з галоўным падпарадкавальным злучнікам *што.*




Камплект № 9

1.1. Прытчы, ці прыпавесці, таму так называюцца, што заўсёды іншую навуку і мудрасць азначаюць, па-іншаму ўсведамляюцца, а не так, як сказаны бываюць, бо яны ў сабе вялікі сэнс і таямніцу хаваюць.

1.2. Псалтыр іграе падобна да гусляў, бо, як пяе сам цар і прарок: "Хваліце Госпада псалтыром і гуслямі". ...І раздзел Біблii назву мае ад псалтыра, што да гусляў падобны. Толькі гуслі маюць шмат струнаў, а псалтыр усяго дзесяць, як пра тое ў Бібліі сказана: "Хваліце Госпада псалтыром дзесяціструнным!"

1.4. Не капай на бліжняга свайго яму,
Сам жа ў яе і ўвалішся.
Не стаў, Амане, Мардахею шыбеніцу,
Сам жа на ёй і павіснеш.

2. Ф. Скарына - здатны тлумачальнік значэння слоў, наш першы лексікограф. Каб "люду паспалітаму" было зразумела значэнне слова *псалтыр,* ён параўноўвае гэты музычны інструмент з усім вядомымі гус-

лямі. Вычарпальна і проста тлумачыць ён, чаму так называецца раздзел Бібліі: бо ў ім змешчаны псалмы, малітвы - хваласпевы Богу.

Ф. Скарына не толькі лексікограф, але і літаратуразнаўца. Цяжка знайсці больш трапнае азначэнне прытчы* як жанру, вычарпальнай канстатацыі яе галоўных прыкмет - іншасказальнасці і павучальнага сэнсу. А далей - вобразнае параўнанне загадкі-мудрасці прытчы з ядром у арэху, з золатам у зямлі, з сілай каштоўнага каменя. Ф. Скарына - паэт-філосаф, які не можа не здзіўляць арыгінальнасцю і трапнасцю асацыяцый.

3. Сведчаннем паэтычнага дару Ф. Скарыны з'яўляюцца яго філасофскія ўрыўкі з прадмоў і пасляслоўяў, якія справядліва называюць вершамі*: "Понеже от прирожения...", "Веруй в Бога единаго..." і інш.

4. Псалтыр - музычны інструмент, які "гудбо гусли". "Псалтыр" - адна з кніг Бібліі, у якой змешчаны малітвы і хваласпевы Госпаду.

5. Лексічныя: *шыбеніца, скрыжалі, раздзел.*

Марфалагічныя: *знаменують, бывають, замыкають, пишуть, пишешь.*

6. *Скрыжалъ* - дошка, пліта з напісаным на ёй тэкстам.

Скрыжалі - пра тое, што захоўвае, куды занесены памятныя падзеі, даты, імёны, вечныя законы, "залатыя правілы" цывілізацыі.

7. Не капай на каго яму, бо сам увалішся.

Хто на другога яму капае, сам часта ў яе трапляе. Не бі чужога цела - будзе сваё цэла. Не гатуй людзям пятлі: сам павесішся."

8. "Псалтыр".

**"Ісус Сірахаў".** Ісус Сірахаў - мысліцель эпохі элінізму, аўтар кананічнай біблейскай "Кнігі Прамудрасці Ісуса, сына Сірахава". Даследчыкі мяркуюць, што яна была створана ў Іерусаліме каля 200 г. да н. э. У прадмо-

ве да ўсёй Біблії Скарына двойчы зазначае пераважна этычны характар зместу кнігі "Ісус Сірахаў", якая, на яго думку, змяшчае "всю науку о добрых нравах".

**"Еклесіяст"** ("Эклезіяст"). Слова "Еклесіяст" Скарына перакладае як Саборнік, тлумачыць гэту назву так: "Нарицается же сия книга Соборник, понеже не ко единому человеку в ней пишеть, но ко всему собору людей, а не единого человека мысль и кохание являеть, но всего собора". У прадмове Скарына гаворыць пра 3 кнігі, якія нібыта напісаў Саламон, - "Еклесіяст", "Прытчы Саламона" і "Песня песням". Анатуючы змест "Еклесіяста", Скарына сцвярджае, што Саламон "пишет о науце всех людей п035посполите сущих в летех мужества, приводячи им на память суету, беду и працу сего света". Асноўную думку кнігі Скарына перадае словамі "Еклесіяста":. "Суета над суетами и все суетно и утиснение духово". Паказана марнасць спроб знайсці сэнс жыцця "в царствах и в пановании", "в богатестве и в скарбах...".

**"Выхад".** Пра выхад іудзеяў з егіпецкага рабства, пра іх 40-гадовы пакутніцкі шлях да зямлі абяцанай, пра 10 запаведзяў: "Веруй в Бога единаго...", пра дапамогу Госпада на гэтым пакутніцкім шляху: "яко манну бог паслал с небеси на пищу и воду вывел от тверда каменя и к питию людем во пустыни", як караў егіпцян дзесяццю напасцямі: "иже наведе рукою Моисеевою на всю землю египетскую".

**"Юдзіф".** Пра гісторыю Асірыйскай, Вавілонскай і Персідскай дзяржаў, абставіны патрыятычнага ўчынку Юдзіфі. Галоўную думку кнігі Скарына сфармуляваў афарыстычна, вобразна: "Понеже от прирожения..."

9. Паслядоўнікі Францыска Скарыны ў галіне **кнігадрукавання:** Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Пётр Мсціславец, Іван Фёдараў, Андрэй Волан, Ян Даманеўскі, Даніэль Ланчыцкі, браты Мамонічы, Мікола Чаховіц і інш.;

**мовазнаўства:** Лаўрэн Зізаній Тустаноўскі ("Азбука", "Лексіс..." і "Граматыкагславенская...", Вільня, 1596 г.), Мялецій Сматрыцкі ("Граматыкі славенскай правільнае сінтагма", Еўе, 1619 г.), Памва Бярында ("Лексікон славенароскі...", Кіеў, 1627 г.. і Куцейна пад Магілевам, 1653 г.), Іван Бужэвіч ("Граматыка славенская" па-латыні і арабску, 1641, 1643, 1645 гг., Парыж і Арас);

**вершаскладанння:** Андрэй Рымша, навалацінскі паэт Мікола Гусоўскі, Казімір Пашкевіч, Сімяон Полацкі (пісаў на старабеларускай і старамаскоўскай), Ян Чачот, Уладзіслаў Сыракомля, Янка Лучына, Францішак Багушэвіч, з сучасных - Пімен Панчанка, Максім Танк і інш.

10. **Сігнет** - знак на творы мастацтва, які азначае прыналежнасць яго пэўнаму мастаку і з'яўляецца пастаяннай выявай (замест подпісу) якой-небудзь фігуры, сімвала. У выданнях Скарыны шматразова паўтараецца выява сонца і месяца з чалавечымі тварамі. Выбар сімвала яўна не выпадковы. Шчакаціхін у 1925 г. пісаў, што знак гэты быў створаны і абраны Скарынам "у якасці свайго асабовага герба, а мо нават і талісмана". Ён бачыць у ім адлюстраванне факта нараджэння Скарыны ў год сонечнага зацьмення ў Беларусі (1486) і ахоўны талісман ад дрэннага. Сёння выказваецца меркаванне, што ў выяве сонца з промнямі і месяца - перамога святла над цемрай, жыцця над смерцю. Знак Скарыны трактуецца як хвала і слава кнізе - крыніцы святла, мудрасці, дабрачыннасці, ведаў - і з'яўляецца своеасаблівым сімвалам беларускага кнігадрукавання і ТБМ (Таварыства беларускай мовы) імя Ф. Скарыны.

Камплект № 10

1. Закон вечнасці ў тым, каб чыніць людзям тое, чаго сабе жадаеш, і не ўчыняць другім такога, чаго сабе

не пажадаеш. Гэты закон павінен быць запісаны ў сэрцы кожнага чалавека.

... Валадарыць светам любоў, самая дасканалая з усіх каштоўнасцей і даброт людскіх, без якой марна ўсё ў свеце.

Варыянт:

Валадарыць светам любоў, бо яна самая дасканалая з усіх каштоўнасцей і даброт, бо без яе ўсё ў свеце марнае.




Сказ складаны, сцвярджальны, складаназалежны. Галоўны сказ - няпоўны, у ім апушчаны выказнік (напрыклад, *заключаецца).* Два даданыя сказы - дапаўняльныя інфінітыўныя аднародныя, яны паясняюць указальнае слова *тым у* галоўным сказе, якое з'яўляецца дапаўненнем, і звязваюцца падпарадкавальным злучнікам *каб,* які ў другім сказе апушчаны. Паміж сабой гэтыя сказы звязваюцца злучальным злучнікам *і: каб чыніць людзям тое і не ўчыняць другім такога.* У кожным сказе ўказальныя словы *тое* і *такога,* якія з'яўляюцца дапаўненнямі, паясняюцца даданымі дапаўняльнымі і звязваюцца са сказамі, у якіх паясняюць указальнае слова, злучальнымі словамі *чаго* (займеннікі ў ролі дапаўнення). Гэтыя сказы таксама аднародныя, аднасастаўныя, абагульнена-асабовыя.

Структура сказаў-варыянтаў перакладу другой часткі тэксту такая.

Першы сказ складаназалежны з даданым азначальным, які паясняе ў галоўным сказе слова *любоў.* Галоў-

ны сказ ускладнены адасобленым прыдаткам, які таксама паясняе слова *любоў.* Другі ж сказ таксама складаназалежны, але з двума даданымі аднароднымі, якія паясняюць ужо не дзейнік у галоўным сказе, а дзеяслоў-выказнік і якія з'яўляюцца даданымі прычыны: *любоў валадарыць светам* ч а м у? *бо яна..., бо без яе... .*

3. Публіцыстычны, бо ставіць на мэце пераканаць чытача, папулярызаваць пэўныя ісціны.

4. Публіцыстыка. Паэзія.

5. Нагорнай пропаведзі Ісуса Хрыста, знакамітага "Залатога правіла".

Пра гэта падрабязна ў камплекце № 1.

6. Прадмовы і пасляслоўі Ф. Скарыны - узор публіцыстыкі, але асобныя, і вельмі многія, урыўкі з яго публіцыстычнай спадчыны - дасканалыя вершы. І ў гэтым урыўку кожны радок - сэнсавая і інтанацыйна-сінтаксічная еднасць. Менавіта такая кампазіцыйная структура **свабоднага верша.** Паўтаральная інтанацыя, якая выражана ў падобнай сінтаксічнай будове (у вершы Ф. Скарыны гэта аднародныя сказы і дзеепрыметныя звароты ў іх), і вызначае своеасаблівы рытм верша як адзін з галоўных яго атрыбутаў. У гэтым істотнае адрозненне публіцыстыкі Ф. Скарыны ад публіцыстыкі яго прадаўжальнікаў. Аднак мова Цёткі, напрыклад, дае ўсе падставы сцвярджаць аб пераемнасці ў яе творчасці скарынінскіх традыцый менавіта ў плане адноснай рытмізаванасці. Што да лірызму ў публіцыстыцы паслядоўнікаў Ф. Скарыны, то гэта пераемнасць асабліва відавочная.

7. Варыянт перакладу:

Як ад нараджэння
звяры, што блукаюць у пушчах,
помняць бярлогі свае;
як птушкі, што лунаюць у паднябессі,
ведаюць гнёзды свае;

як рыбы, што плаваюць у моры і рэках,
чуюць віры свае;
як пчолы бароняць вуллі свае, -
гэтаксама і людзі,
дзе нарадзіліся і выраслі з ласкі Божай,
да таго месца вялікую маюць любоў.

З а ў в а г а . У беларускай сучаснай літаратуры ёсць некалькі паэтычных рэмінісцэнцый гэтага ўрыўка. Сказ уяўляе сабой такую сінтаксічную адзінку, як перыяд*, чым і тлумачыцца пастаноўка працяжніка паміж першай, структурна насычанай аднароднымі кампанентамі, і другой, галоўнай часткай, у якой утрымліваецца асноўная інфармацыя і ад якой залежыць першая частка. І разбор трэба пачаць з другой часткі, бо ў ёй знаходзіцца галоўны сказ для ўсяго складаназалежнага, чым і з'яўляецца ўвесь тэкст.

Гал. сказ: *гэтаксама і людзі да таго месца вялікую маюць любоў.*

Дадаты азначальны, няпоўны сказ *дзе нарадзіліся і выраслі з ласкі Божай* паясняе ў галоўным указальнае слова *таго,* якое з'яўляецца азначэннем, і звязваецца з галоўным злучальным словам *дзе.*

Чатыры аднародныя дадаными спосабу дзеяння паясняюць. у галоўным сказе значэнне акалічнасці, выражанай прыслоўем *гэтаксама,* паказваючы на характар, спосаб ажыццяўлення дзеяння, і звязваюцца з галоўнымі паўторнымі злучнікамі *як,* якія паказваюць таксама на дадатковае адценне параўнання. У сярэдзіне трох даданых спосабу дзеяння з чатырох аднатыпных, аднародных стаяць тры даданыя азначальныя, кожны з якіх паясняе адпаведнае слова ў сказе, да якога адносіцца: *звяры, птушкі, рыбы,* і звязваецца з ім злучальным словам *што* ў ролі дзейніка. Чацвёрты дададзены спосабу дзеяння *як пчолы бароняць вуллі свае* не паясняецца ніякім даданым, як тры папярэднія.




8. Беларускай мове не ўласцівы дзеепрыметнікі цяперашняга і прошлага часу з суфіксамі *-уч-(-юч-), -ач-(-яч-), -уш-, -ш-.* Дзеепрыметныя звароты трэба перакладаць дадзенымі сказамі, каб пазбегнуць ужывання дзеепрыметнікаў (гл. кампл. № 3).

9. Асацыятыўнасць, параўнанне, супастаўленне з'явы ў жыцці людзей, іх важнейшай рысы з выявамі прыроды, часткай якой людзі і з'яўляюцца. Аднатыпныя сінтаксічныя канструкцыі, эпіфара* *(своя)* спрыяюць паўнаце выяўлення думкі, усебаковаму, пераканаўчаму, вобразна-канкрэтнаму апісанню абстрактнага паняцця *патрыятызм.* Перыяд* жа спрые паўнаце, закончанасці выказанай думкі, тэматычнаму адзінству, афарыстычнасці.

10. Усе - папулярызатары Бібліі. У. Ліпскі зрабіў адаптаваны пераказ некаторых біблейскіх сюжэтаў для дзяцей "Як Бог стварыў свет".

Камплект № 11

1. Першы просты сказ - двухсастаўны.

Граматычная аснова: *летапісцы лічаць і называюць.* Другі сказ - складаны з рознымі відамі сувязі. У ім першы просты - аднасастаўны, пэўна-асабовы. Выказнік - *разбяромся.*

Другі - просты безасабовы. Выказнік - *здаецца.*

Трэці - просты двухсастаўны. Граматычная аснова - *век названы.*

Чацвёрты - просты двухсастаўны. Граматычная асаснова - *дзяржсіўца ставіў багацце духоўнае перад багаццем і шчасцем зямным.* На карысць менавіта такога падыходу да вычлянення граматычнай асновы сведчыць наступнае. Абмежавацца толькі словам *ставіў* у вызначэнні выказніка не дазваляе кантэкст, бо тут *ставіў* не ежу на стол, не спектакль у тэатры, не нават гарады. Увесь гэты выраз - перыфраза, яна азначае *аддаваў перавагу духоўнаму над матэрыяльным,* якую па-за дадзеным кантэкстам мэтазгодна чляніць на кампаненты сказа:

<u>*Аддаваў перавагу*</u> - выказнік. <u>*Аддаваў перавагу*</u>

чаму? <u>*духоўнаму*</u> (дапаўненне). <u>*Аддаваў перавагу*</u>

над чым? *над матэрыяльным* (яшчэ адно дапаўненне).

Дадзены ж кантэкст і структура словазлучэння *(ставіў багацце... перад...)* не дазваляюць такога расчлянення.

Наогул, увесь тэкст уяўляе сабой дыдактычны матэрыял для вырашэння цяжкіх пытанняў сінтаксісу, у прыватнасці размежавання членаў сказа.

Да прыкладу, два першыя радкі другога ўрыўка ўяўляюць сабой таксама перыфразы*. "Прагнасць нажыцца пад шыльдаю варты закона" - карупцыя. "Сквапнасць - загрэбці кавалак у бліжняга з рота" - у кантэксце казнакрадства. Гэтыя выразы мэтазгодна ўсведамляць як аднародныя дапаўненні: *пратараніў (вынішчыў)* ш т о ? *карупцыю і казнакрадства.* Пярэчанні апанентаў могуць быць такія: адасабленне словаспалучэння, у якім галоўнае слова - інфінітыў, дае падставы лічыць яго азначэннем. *Сквапнасць* якая? *загрэбці...*

Неадназначным будзе і вылучэнне граматычнай асновы ў наступным простым сказе (даданым меры і ступені) да папярэдняга галоўнага. Здавалася б, усё проста: сказ двухсастаўны з граматычнай асновай *завад*

*вывеўся,* але ж гэты выраз устойлівы, што на карысць усведамлення сказа як аднасастаўнага, безасабовага. Прыменім і тут прыём трансфармацыі: нават парасткі, зародкі вынішчаны. Сказ двухсастаўны. У наступным складаназалежным сказе з дададным уступальным граматычная аснова *ён быў* і *я пяю.* У апошнім складаназлучаным - *ён насяліў* і *водгук патрапіў.*

*2.* На беларускую - Язэп Семяжон, а на рускую - Якаў Парэцкі і Язэп Семяжон.

*3. Превыше богатства и счастья ставил...*

*Перад багаццем і шчасцем зямным пастаянна ставіў...*

У спалучэнні, характэрным для беларускай мовы, *ставіў перад* залежнае слова ставіцца ў творным склоне. А ў рускай мове ў такім выпадку ўжываецца беспрыназоўнікавая канструкцыя з дапаўненнем у родным склоне.

*Слышать своими ушами - чуць на свае вушы; видеть своими глазами - бачыць на свае вочы; пойти за водой - пайсці па ваду; Нина читает лучше Ивана - Ніна чытае лепей за Івана; шуба отца - бацькаў кажух.*

4. *Век.* (4.1. Стагоддзе. 4.2. Жыццё, перыяд існавання. 4.3. Вельмі доўгі час, усё жыццё. 4.4. Перыяд, эпоха.)

*... І называюць той век залатым...* Самы плённы перыяд, спрыяльны для чаго-небудзь, перыяд росквіту, пад'ёму, шчасця.

*... Век той названы...* Перыяд, эпоха, характэрная чым-небудзь. Перыяд (век) княжання Вітаўта адзначаны ўмацаваннем дзяржавы, яе суверэнітэту, моцы, палітычнымі, эканамічнымі і духоўнымі здабыткамі.

*... Што на вякі нават завад іх вывеўся...* На доўгі час.

*Век насяліў свой* - сваё жыццё.

Сінонімы* *(багацце* і *шчасце; прагнасць* і *сквапнасць.);* антонімы *(духоўнае* і *зямное);* перыфразы* (*злата дзяржавы* - духоўнасць; *прагнасць нажыцца...* і *сквапнасць - загрэбці...* - карупцыя, хабарніцтва, казнакрадства); фразеалагізмы *(загрэбці... з рота; завад вывеўся);* архаізм*

*(злата);* вобразнасць* *(Густа ён справамі век насяліў свой, і водгук...).* Стылістычная роля ўсіх гэтых сродкаў - выяўленне сутнасці княжання Вітаўта, яго ролі ў нацыянальнай гісторыі і пачуцця захаплення яго мудрасцю.

5. У беларускай мове, як і ў іншых нацыянальных мовах, ёсць шэраг слоў, якія ў рускамоўным дачыненні не маюць аднаслоўнага адпаведніка. Пераклад семантыкі такіх слоў, аб'ём паняцця, што яны абазначаюць, і эмацыйныя іх адценні вымушаюць перадачы не словамі, а словазлучэннямі рускай мовы. Гэта словы безэквівалентнай лексікі: *алей - растительное масло, буслянка - гнездо аиста.*

Слоўнік беларускай безэквівалентнай лексікі (у рускамоўным дачыненні) склала Ірына Шкраба, называецца ён "Самабытнае слова" (Мн.: Бел. Эн., 1994).

6. *Загрэбці з рота, завад вывеўся.*

Гэта варыянты фразеалагізмаў *вырываць з зубоў (з горла); вырываць (вывесці з коранем),* калі адзін з кампанентаў ужываецца ў зменным выглядзе або замяняецца іншым.

*Загрэбці з рота* - вырваць з горла (зубоў). Азначае "дамагацца чаго-небудзь настырна і любымі сродкамі".

*Завад выводзіць* - поўнасцю, канчаткова знішчыць. Сінонімы: *зраўняць з зямлёю; не пакінуць каменя на камені; сціраць з твару зямлі; вырваць з коранем.*

7. *Княжанне Вітаўта* - назоўнікавае, кіраванне;
*лічаць княжанне* - дзеяслоўнае, кіраванне;
*лічаць росквітам* - дзеяслоўнае, кіраванне;
*росквітам княства Літоўскагсі* - назоўнікавае, кіраванне;
*росквітам краю* - назоўнікавае, кіраванне;
*нашага краю* - назоўнікавае, дапасаванне;
*усе летапісцы* - назоўнікавае, дапасаванне;
*называюць век* - дзеяслоўнае, кіраванне;
*той век* - назоўнікавае, дапасаванне.

8. *...Прагнасць нажыцца пад шылъдаю варты закона, сквапнасць - загрэбці кавалак у бліжняга з рота* - у кантэксце карупЦыя, хабарніцтва і казнакрадства.

9. *Злата, бранная, благоговейно, алчность, ныне и присно.*

Выкарыстанне гэтых слоў у абодвух тэкстах надае ім узнёсласць, патэтыку, урачыстасць і адпавядае, спрыяе выражэнню галоўнай думкі - уславіць князя Вітаўта, яго справы ў імя ўмацавання дзяржавы.

10. Праблемы дзяржаўнасці і суверэнітэту. Ад чаго залежыць росквіт дзяржавы? Якім павінен быць дзяржаўца?

11. Праз вобразы Вітаўта і Усяслава Чарадзея. Апісанне іх княжання, "вячыстых" спраў, а таксама мастацкая характарыстыка іх як гістарычных асоб - рэтраспекцыі.

12. Варыянт адказу:

Багацце духоўнае, духоўнасць нацыі - гэта не толькі гісторыя, культура, традыцыі, мова, роўнасць усіх перад законам (у прававой дзяржаве), выкананне ўсімі законаў, але і духоўная культура, стан душы кожнага чалавека.

*13. Дзяржаўца, князь, валадар, правіцель. Вячыстыя, вечныя, несмяротныя, неўміручыя.*

*14. Вячыст\ыя\, дзяржаўца тыранічн\ыя\, прагнасць.*

*Вячыстыя* (прыметнік) - якія жывуць у вяках. *Вячыстыя* <- век (суфіксальны спосаб).

*Дзяржаўца* (назоўнік) - той, хто стаіць на чале дзяржавы, кіруе ёю.

*Дзяржаўца* <— дзяржава (суфіксальны спосаб).

*Тыранічныя* (прыметнік) - уласцівы тыранам. *Тыранічныя* - тыран (суфіксальны спосаб).

*Прагнасць* (назоўнік) - уласцівасць прагнага. *Прагнасць* <— *прагны* (суфіксальны спосаб).

15. *Княжанне, багацце* - фанетычнае падаўжэнне*. *Княства, яму, насяліў, вячыстых, летапісцы* - акание* і яканне*.

*Водгук, гэтай* - прыстаўныя зычныя*.

*Песню, прагнасць* - асіміляцыя* гукаў па мяккасці.

Камплект № 12

1. Складаны сказ, сцвярджальны, складаназалежны. Галоўны сказ - аднасастаўны, пэўна-асабовы, развіты, ускладнены аднароднымі членамі сказа (дапаўненнямі): *купалы, дахоўку, калідоры, прыцемак, хваласпевы, гул.* Два даданыя азначальныя паясняюць у галоўным словы *горада* і *гул* і звязваюцца з галоўным злучальнымі словамі *які* ў ролі дапаўнення і *што* ў ролі дзейніка. Першы даданы азначальны - аднасастаўны, пэўна-асабовы, развіты (выказнік - *магу назваць).* Другі даданы азначальны - двухсастаўны, развіты (граматычная аснова - *што ўлівае).*




2. Насычанасць аднароднымі дапаўненнямі, развітымі дапасаванымі азначэннямі садзейнічае паўнаце апісання і выяўленню пачуцця захаплення, любові, удзячнасці, настальгічнага смутку па дарагім і незваротным. Лірызм, узрушанасць і эмацыйнасць дасягаецца і клічнымі сказамі, і аднатыпнымі сказамі (пэўна-асабовымі, развітымі мноствам аднародных дапаўненняў), і паўторамі *(памя-*

*таю, там),* і злучнікавымі паўторамі *і.* Усё гэта ў спалучэнні з інверсіяй* *(душы, маладой, бясхмарнай, - шчаслівай)* робіць мову рытмізаванай, што таксама спрыяе лірызму, выяўленню элегічнага настрою, стану душы, у якой спявае сум, у якой смутак светлы. Аўтарскі знак (працяжнік паміж аднароднымі азначэннямі) выяўляе філасофію пісьменніка, што маладосць і адпаведны стан душы ў тую пару - гэта не толькі найвялікшае шчасце, але крыніца, адкуль потым чэрпаем успаміны і сілы для пераадолення ўсіх нягод і няшчасцяў.

3. Назоўнікавыя: *думкі мае; думкі акрыленыя; вод празрыстых* (дапасаванне); *вод Палаты* (кіраванне);

дзеяслоўнае: *імчаць да вод* (кіраванне);

дзеепрыметнае: *акрыленыя ўспамінамі* (кіраванне).

4. *Гасцінец* - дарога (амонім).

*Абраз* (з абразом) - ікона, выява святога, гэта амаформ, бо другое значэнне слова - тое, што і вобраз, яны супадаюць гучаннем і напісаннем толькі ў асобных граматычных формах. Лексічнае значэнне амонімаў выяўляецца ў кантэксце. У адрозненне ад мнагазначных слоў, у якіх паміж значэннямі захоўваецца семантычнае адзінства, амонімы - словы зусім розныя, якія супалі ў гучанні. У слоўніках амонімы падаюцца ў розных слоўнікавых артыкулах і пазначаюцца надрадковай парадкавай лічбай: *кіт¹, кіт²*. А вось, да прыкладу, слова *вал* - мнагазначнае; тут - у значэнні "доўгі, высокі земляны насып".

5. Увесь тэкст можна лічыць разгорнутай перыфразай, бо ён уяўляе сабой вобразнае, лірычнае апісанне Полацка (у гэтай моўнай загадцы галоўныя прыметы горада). Кантэкстуальная перыфраза - *калыска мае маладосці* (Полацк).

6. *Пабожнасць, акрыпеныя, нявінныя.*

*Пабожнасць* (назоўнік) - уласцівасць пабожнага.

*Пабожнасць* <u>*пабожн*</u>*ы* (суфіксальны).

*Акрыленыя* (дзеепрыметнік) - прымета паводле акрыліць; тыя, каго акрылілі.

*Акрыленыя* <- <u>*акрылі*</u>*ць* (суфіксальны).

7. Фанетычнае падаўжэнне - *скляпеннем, задуменнаю, колоссе.*

Марфалагічнае падваенне: *адданых, чуллівае, нявінныя.*

Фанетычныя асаблівасці:

аканне*, яканне*: *памятаю, города, арганаў, вялікім, сяброў, скляпеннем* і інш.;

дзеканне* і цеканне*: *у касцёле, немаўляці, маладосці.*

Марфалагічныя асаблівасці (некаторыя):

7.1. З адрознення ў родзе вынікае несупадзенне ў скланенні (*плошчадь* - III скл. у рус. мове, *пляц* - II скл. у бел. мове).

7.2. Больш частае ўжыванне канчатка *-у (-ю)* у родным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду: *гаю.*

7.3. Уніфікаваная форма назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў (канчаткі *-і, -ы): купалы, гульні, хваласпевы.* У рускай мове - *-и, -ы, -а, -я.*

7.4. Вельмі звужанае ўжыванне кароткіх прыметнікаў, выцесненае поўнымі формамі: *прыемнае, задуменнаю.*

7.5. У беларускай мове дзеясловы I спражэння ў 3-й асобе адзіночнага ліку абвеснага ладу не маюць канчатка *-ць*, а дзеясловы II спражэння маюць: *улівае, імчаць.*

8. Мастацкі. **Эпітэты** *(над задуменнаю рэчкаю; чуллівае працэсіі; сціплую дахоўку; душы маладой, бясхмарнай,- шчаслівай; думкі, акрыленыя ўспамінамі; ля самотнага слупа; нявінныя гульні),* **метафары** *(улівае пабожнасць у сэрца),* **перыфразы** - усё гэта сродкі вобразнасці, што і з'яўляецца адметнасцю мастацкага стылю.

9. [с'ц'і-плу-jу], [п'а-шча-ны].

10. Зло ў творах Яна Баршчэўскага падаецца не толькі ў абліччы агідных пачвар, цмокаў, карузлікаў, жамяры (фантазія пісьменніка не абмежавана ў іх паказе), але вельмі часта яно надзвычай прывабнае, зманлівае, зіхоткае. А самай страшнай сілай валодае зло ў белых адзеннях. Менавіта зло ў белых адзеннях імкнецца валадарыць не адной, а ўсімі душамі. Белая Сарока прыслала Скамароху вялізны мех золата, "каб быў верны сам і іншых знайшоў, адданых ёй". Такім парадаксальным апісаннем зла пісьменнік перасцерагае нас, заклікае быць абачлівымі і асцярожнымі, падрыхтаванымі да сустрэчы з такой "прыгажосцю". Тая ж ідэя, тая ж перасцярога гучыць і ў адным з Нагорных казанняў (камплект № 2).

11. Алмаз.

12. Плачка, шляхціц Завальня, Янка.

"Мінулае вучыць нас, як жыць сёння", - сцвярджае Ян Баршчэўскі. Так павінна быць, але, на жаль, не вучыць. І сімвалічны, скразны вобраз Плачкі таму доказ. Плачка - сімвал Беларусі, яе пакутніцкага лесу, яе трывогі і смутку за нас, яе няўдзячных дзяцей, што "адракліся, прадалі і аддалі ў палон" сваю Маці, што прамянялі скарбы духоўныя на заклятыя скарбы зямныя, а праз тое і ўсе нашы пакуты і няшчасці.

Камплект № 13

1. Першы сказ - складаны, з рознымі відамі сувязі. Першая яго частка ўяўляе складаназалежны сказ з двума даданымі аднароднымі азначальнымі, якія паясняюць у галоўным сказе дзейнік, выражаны назоўнікам *край,* і звязваюцца з галоўным злучальным словам *дзе.* Спалучэнне знакаў (коскі і працяжніка) абумоўлена канструкцыяй сказа, якая ўяўляе сабой перыяд: першая частка - даданыя аднародныя сказы, другая - галоўны сказ. Асаблі-

васць галоўнага сказа ў тым, што ў ім дзейнік выражаны назоўнікам, які паўтараецца праз дзве сінтаксічныя адзінкі - два аднародныя даданыя сказы. Другая частка ўсяго складанага сказа - таксама складаназалежны сказ, які з папярэднім складаназалежным сказам звязваецца бяззлучнікавай сувяззю; складанасць сінтаксічнай будовы вымагае пастаноўкі кропкі з коскай, а не адной коскі. Галоўны сказ другой часткі - поўны, двухсастаўны (граматычная аснова: *залаты век не скончыўся),* ускладнены пабочным словам. Першы даданы сказ - азначальны, ён паясняе дзейнік у галоўным сказе і звязваецца з галоўным злучальным словам *калі,* якое ў сказе з'яўляецца акалічнасцю, таму сказ двухсастаўны развіты (граматычная аснова: *чалавек не разумеў).* Другі даданы дапаўняльны паясняе ў першым даданым дзеяслоў-выказнік і звязваецца з папярэднім злучальным словам *што,* на якое падае лагічны націск. Трэцяя далучальная частка ўяўляе сабой просты сказ і далучаецца да ўсяго сказа злучальным злучнікам і. Гэтая "далучальнасць" і аслабленне сувязі з папярэднімі часткамі абумоўлівае пастаноўку таксама кропкі з коскай. Сказ двухсастаўны, поўны, развіты (граматычная аснова: *рэчкі з малака і мёду).* Схема сказа:




Другі сказ - просты двухсастаўны, поўны, развіты, сцвярджальны. Сцвярджэнне *(усе сумуюць)* выражана рытарычным пытаннем. чым і абумоўлена пастаноўка пытальніка.

Апошні сказ - клічны, складаны бяззлучнікавы. Абодва простыя ў ім - поўныя, двухсастаўныя, развітыя.

2. Тэкст мастацкі, аб чым сведчыць і сфера прымянення (лірычнае адступленне ў мастацкім творы), і мэта (выяўленне духоўнага вопыту, пачуццяў, эмоцый, уздзеянне на пачуцці чытача), і асноўныя стылярысы (вобразнасць, эмацыйнасць, рытмізаваная мова і інш.).

3. Сінонімы* *(шчырсісць* і *даверлівасць; сяброў* і *прыяцеляў; зычлівых* і *добрых; нядоля* і *пакуты),* кантэкстуальныя сінонімы *(жаданні* і *думкі; настаўнікаў* і *прыяцеляў),* ужыванне слоў з пераносным значэннем* *(залаты век; з малака і мёду; ляцець на крычах),* складаныя сінтаксічныя канструкцыі, аднатыпныя сказы, шматлікія паўторы *(край, дзе, там),* клічны сказ і рытарычнае пытанне* - усё падначалена паўнаце апісання радзімы і маладосці, а таксама выяўленню адпаведных гэтаму пачуццяў, якія віруюць у душы чалавека, што па пэўных прычынах вымушаны пакінуць самае дарагое і любімае. Узрушанасць, усхваляванасць, глыбокі смутак і жальба, нават адчай, што нельга дасягнуць жаданага, - такія пачуцці віруюць і ў тэксце, аб чым, да ўсяго, сведчыць і шматкроп'е ў канцы апошняга сказа.

4. [шчас'л'івуіу], [маладос'ц'і], [шчырас'ц'], [дав'эрл'івас'ц'].

5. *Выгнаннік* - дысідэнт.

Ф. Скарына, Ф. Багушэвіч, Н. Арсеньева, Ларыса Геніюш і шмат іншых, хто ў розныя часы і вякі, слугуючы Бацькаўшчыне, не мелі магчымасці жыць на радзіме.

Дысідэнты - гэта не толькі вераадступнікі (толькі ў такім значэнні падае гэта слова наш 5-томны тлумачальны слоўнік пад рэдакцыяй К. Крапівы), але і "іншадумцы, не згодныя з пануючай ідэалогіяй" (Словарь иностранных слов. М.: Русский язык. С. 89).

6.

6.1. Горбатого могила исправит.

6.2. Утро вечера мудренее.

6.3. Два сапога - пара.

6.4. Что посеешь, то и пожнешь.

Пераклад ажыццяўляецца шляхам падбору аднолькавых або блізкіх сэнсам адпаведнікаў, калькаваць нельга.

7. *Рэчкі теш з малака і мёду* - молочные реки с кисельными берегами.

8. "Той чалавек шляхетны, які, жывучы на гэтым свеце, слухае адно загады Божыя".

*Ян Баршчэўскі*

Шляхетнасць - выхаванасць, далікатнасць, інтэлігентнасць, адукаванасць, духоўнасць, дабрачыннасць.

9. У камплекце № 2.

10. Традыцыйнае: найперш зацікавіць чытача, і такім чынам давесці да яго важнейшыя жыццёвыя ісціны, "загады Божыя". Яшчэ фантастычнае - сродак стварэння экстрэмальных сітуацый, якія найлепш выяўляюць веліч, моц адных ці, наадварот, духоўную беднасць, маральнае падзенне другіх.

11. Жывёлы, звяры ў паганскіх легендах, народных казках вельмі часта ўвасабляюць і дабро. Напрыклад, вуж у "Дамавіковай удзячнасці" - носьбіт дабра. У творах Яна Баршчэўскага, напісаных паводле хрысціянскіх народных паданняў, адзіным рэальным носьбітам і ўвасабленнем дабра з'яўляецца чалавек. За рэдкім выключэннем, ягоныя сродкі барацьбы з незлічонымі, разнастайнымі сіламі зла таксама рэальныя - добрыя справы дзеля бліжняга свайго. Менавіта ад добрых, канкрэтных, рэальных спраў і гіне зло.

У народных ці літаратурных казках, паганскіх легендах перамагчы зло носьбітам дабра дапамагаюць птушкі, звяры, нават нежывыя прадметы. У творах Баршчэўскага толькі Чалавек супрацьстаіць злу ў розных яго выяўленнях. Кот Варгін, Белая Сарока, чорны сабака, вуж, нават жамяра - усё гэта слугі д'ябла. Су-

праць усіх іх - адзін Чалавек. Перамогу вызначаюць стан яго душы і пажаданыя Богу ўчынкі.

**Алегорыя** патрэбна Яну Баршчэўскаму не толькі дзеля дасягнення займальнасці ці стварэння у сюжэце крытычных сітуацый, якімі выпрабоўваюцца героі. Яна сама па сабе з'яўляецца спосабам выяўлення пісьменніцкай філасофскай канцэпцыі: толькі Чалавек і толькі рэальнымі справамі здольны знішчыць зло. У гэтым максімалізм і аптымізм Яна Баршчэўскага.

12. Шляхціц Завальня - скразны вобраз, ён "цэментуе" змест, надае твору жанравую непаўторнасць. За гасціннасць усе падарожныя павінны распавядаць Завальні казкі, без якіх ён, як цар Шахрыяр з арабскіх казак "Тысяча і адна ноч", заснуць не мог.

Праз шляхціца Завальню, яго разважанні, афарыстычную мову пісьменнік найчасцей выяўляе сваю пісьменніцкую пазіцыю, свой светапогляд. філасофію.

Шляхціц Завальня ўвасабляе лепшыя нацыянальныя якасці беларускага народа: гасціннасць, мудрасць, клопат пра будучыню і нашчадкаў, любоў да роднай зямлі, пабожнасць...

Але нават не гэта вызначыла выбар назвы твора, бо ён усё-такі слухаў, а не распавядаў (другая назва, напрыклад, арабскіх казак - у гонар апавядальніка, а не іх аматара, слухача Шахрыяра), бо сваю філасофію пісьменнік выяўляе не толькі праз гэты вобраз, бо такімі ж якасцямі ў творы надзелены не адзін шляхціц Завальня.

Але ёсць рысы, якія вылучаюць яго (і гэта галоўнае!) з шэрага іншых герояў твора. Гэта - цікавасць да мінулага, усведамленне велічы і духоўнага багацця народа і выяўленне гэтага багацця ў казках, паданнях, песнях, прыказках і прымаўках. Лепш за іншых шляхціц Завальня разумее, што "шмат праўды" ў гэтых паданнях, што мінулае павінна! вучыць нас, як жыць сёння. Яго ўсведамленне - не толькі ў словах, а найперш у

справах. Ён - своеасаблівы мецэнат духоўнасці, ахоўнік тых, хто збярог гэтыя скарбы народныя ў сваёй памяці і душы. Шляхціц Завальня - "скарбнік вечнасці", без такіх людзей парвецца повязь вякоў і пакаленняў, а мы станем манкуртамі. Пра гэта толькі і мараць "асташкоўцы", якія запаланілі нашу прыгожую зямлю, прынеслі сюды сваю мову, свае брыдкія, бесчалавечныя звычаі і норавы, разбэсцілі сваімі непрыстойнымі песнямі моладзь, павынішчалі багацце лясоў, азёр... У кожнага народа былі свае "асташкоўцы", але былі і свае шляхціцы Завальні. У нас гэта - і Язэп Драздовіч, і Вацлаў Ластоўскі, і Фёдар Янкоўскі, і многія іншыя.

13. Пераклад "Шляхціца Завальні..." на беларускую мову зрабіў М. Хаўстовіч.

Камплект № 14

1. Складаны, з рознымі відамі сувязі. Першая частка сказа ўяўляе складаназалежны сказ з паслядоўным падпарадкаваннем. Галоўны сказ - поўны, двухсастаўны, развіты. Першы даданы меры і ступені *(што... аж душы светла)* паясняе, канкрэтызуе ў галоўнай частцы значэнне ўказальнага слова *такой.* Гэты сказ безасабовы, развіты, звязваецца з галоўным падпарадкавальным злучнікам *што.* Другі даданы ўмовы *(куды ні глянь).* Дыягнастычным прыёмам вызначэння віду гэтага сказа можа стаць "проба" на замену яго сінанімічным *(калі паглядзіш навокал).* Гэты даданы ўмовы стаіць у сярэдзіне першага даданага і звязваецца з ім злучальным словам *куды.* Уставачная канструкцыя з сумежнымі злучнікамі і абумовіла пастаноўку коскі паміж імі.

Другая частка складанага сказа ўяўляе чатыры простыя сказы, звязаныя паміж сабой бяззлучнікавай сувяззю. Усе чатыры сказы паясняюць, канкрэтызуюць

першую частку і звязваюцца з ёй бяззлучнікавай сувяззю, што і абазначаецца адпаведным знакам - двукроп'ем. Першыя два простыя сказы гэтай другой часткі аднатыпныя: двухсастаўныя, неразвітыя, выказнікі выражаны прыметнікамі. Трэці просты сказ таксама Двухсастаўны, развіты, выказнік у ім выражаны дзеепрыметнікам і мадальнай часціцай *быццам,* а ў такім выпадку коска перад *быццам* не ставіцца. Чацвёрты просты двухсастаўны, развіты, ускладнены параўнальным зваротам, які з'яўляецца азначэннем і паясняе дзейнік. На карысць таго, што параўнальны зварот з'яўляецца азначэннем, а не акалічнасцю спосабу дзеяння, што паясняў бы дзеяслоў-выказнік *стракацяць,* гаворыць і тое, што параўнальны зварот, выражаны назоўнікам у форме назоўнага склону, набліжаецца сваёй функцыяй да прыдатка.

Трэцяя частка, далучальная, звязваецца з папярэднімі злучнікам *і.* Гэта просты, поўны, двухсастаўны, развіты сказ (граматычная аснова: *край віднееца),* ускладнены параўнальным зваротам у ролі акалічнасці спосабу дзеяння і паясняе дзеяслоў-выказнік. Назоўнік *возера* з'яўляецца дапаўненнем, а не азначэннем (край чаго? *возера),* бо замена словазлучэння на *азёрны край* як дыягнастычны прыём створыць сінтаксічную аманімію і зменіць семантыку слова *край.* Для параўнання: *край* чаго? *стала* (нельга *сталовы край).* Схема:




2. Аднатыпныя сказы, складаная сінтаксічная будова сказаў, параўнальныя звароты, інверсія* *(надзяліў Гасподзъ; старонку нашу; паркаль дарагі; з хвою гус-*

*тога; дзяцеліна салодкая),* клічныя сказы - усё спрыяе паўнаце апісання, выяўленню пачуцця захаплення і любові да роднага краю, лірызму, узрушанасці і ўсхваляванасці тэксту, рытмізаванасці мовы.

3. Стыль тэксту мастацкі, аб чым сведчаць асноўныя стылярысы: вобразнасць, канкрэтнасць, эмацыйнасць, ацэначны характар моўных сродкаў *(старонку, ветрыкам)* і інш.

*Стракацяць* - пестрят.

*Дзяцеліна* - клевер.

*Ядловец* - можжевельник.

4. Прыгажо[с'ц']ю, [с'в']етла, [с'в']ётлыя.

*5.1-* узмацняльная часціца; *такой* - указальны займеннік; *што* - падпарадкавальны злучнік; *куды* - прыслоўе; *ні-* узмацняльная сцвярджальная часціца; *аж* - узмацняльная часціца; *быццам* - мадальная параўнальная часціца (*быццам абсыпаны); як* - мадальная параўнальная часціца *(як паркаль); і* - злучнік; *амаль* - удакладняльная часціца; *быццам* - параўнальны злучнік *(быццам кавалак).*

6. Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка.
Той дораг куток, дзе рэзан пупок.
"Мой родны кут, як ты мне мілы".

*Я. Колас*

"Понеже от прирожения..."

*Ф. Скарына*

"Не шукай ты шчасця, долі на чужым далёкім полі".

*Я. Купала*

7. Тэкст насыпаны аднатыпнымі двухсастаўнымі сказамі, у якіх выказнік выражаны прыметнікамі *(лясы цяністыя; паветра чыстае, мяккае; нябёсы бязвоблачныя; твар вясёлы; сэрца добрае* і інш.). Прэпазіцыя прыметнікаў у дачыненні да назоўніка *(вельмі простыя і душэўныя нашы людзі)* вызначыла тып сказа - аднаса-

стаўны, назыўны, развіты з аднароднымі азначэннямі, акалічнасцю меры і ступені *вельмі* і азначэннем *нашы.*

8. [давоц'], [бјус'а].

Камплект N° 15

1. Трэці сказ - пытальна-рытарычны, заключае ў сабе сцвярджэнне ў форме пытання, на якое не чакаецца адказ; складаназалежны, у якім восем даданых азначальных паясняюць у галоўным два назоўнікі: сем даданых - слова *берагоў* (у значэнні прастораў Радзімы наогул) і адзін - слова *азёр.* Усе даданыя звязваюцца з галоўным злучальным словам *дзе,* толькі ў адным сказе *(нівы гутарку вядуць)* яно апушчана. Асаблівасць галоўнага сказа ў тым, што ён разрываецца чатырма даданымі азначальнымі, якія, адпаведна нормам сінтаксісу, стаяць адразу пасля азначаемага слова. Месца працягу галоўнага сказа вымагае пастаноўкі кропкі з коскай. Кропка з коскай ставіцца і пасля даданай часткі, якая паясняе слова *азёр* у працягу галоўнага сказа, што выключае двухсэнсавасць, арыентуе чытача на адпаведную інтанацыю, усведамленне сэнсавай аддаленасці суседніх даданых сказаў, якія хоць і аднатыпныя, але адносяцца не да гэтага слова, а да слова *берагоў.*

Схема сказа:




2. Рытарычнае пытанне*.

3. Першыя два - вакатыўныя сказы.

Наступныя два - развітыя звароткі.

Вакатыўныя сказы - аднасастаўныя, у якіх галоўным і адзіным членам сказа з'яўляецца назва асобы -

адрасата прамовы, але у ім не толькі называецца асоба ці прадмет, да якой звернута прамова, але інтанацыяй выражаюцца розныя адценні думкі ці пачуцця (папрок, страх, трывога, радасць і інш.). На вакатыўнасць сказа "працуе" і кантэкст: далей будзе апісанне гэтага прадмета ці асобы, а не "размова" з ім. Пры звароту далей у тэксце-будуць займеннікі *ты* ці *вы: Мой родны кут! Як ты мне мілы!.. Забыць цябе не маю сілы.*

4. Пачуццёвасць, узрушанасць, усхваляванасць - у абодвух тэкстах, але ў першым выяўляецца пачуццё любові і захаплення родным краем, а ў другім - болю, смутку і нават абурэння, што ў такога багацця і пекнаты такі пакутніцкі лёс. Рытарычныя пытанні*, вакатыўныя сказы, мноства аднатыпных сказаў - усё падначалена паўнаце апісання і выяўленню пачуццяў. Аднак у другім тэксце найбольшую сэнсавую нагрузку нясуць антонімы* і антанімічныя выразы *(смецце - гожасць; галеча - багацце),* бо яны найлепш выяўляюць супярэчлівасць пачуццяў: любові і нянавісці, захаплення і смутку.

5. *Думкі думае; бары-лясы.*

Парушэнне літаратурнай нормы: *народны фольклор, самыя найвышэйшыя, аб 'ядналіся ў адно, свая аўтабіяграфія, свободная всікансія.*

6. З *смеццем* [с']; *з галечай* [з]; *з долі* [з]; *з зямлёй* [з'];
*з келіхам* [с]; *з жыцця* [ж]; *з шапаценнем* [ш].

7. Асіміляцыя* гукаў па мяккасці. Лішняе слова - *расквітнеў,* бо гукі [з] і [с] не памякчаюцца перад *г, к, х.*

8. Варыянт адказу:

Вырашэнне гэтай праблемы, адказ на хвалюючае нас сёння пытанне і ў сюжэце паэмы "Сымон-музыка", і ў лірычных і філасофскіх адступленнях.

Войны, несупынныя войны нішчылі наш край:

Тут схадзіліся плямёны
Спрэчкі сілаю канчаць...

(тэксты чытайце ў камплекце № 20).

У выніку гэтых войнаў быў зрабаваны народ, а самая жудасная выява гэтага рабства - рабства духоўнае, рабская псіхалогія. Ва ўнісон гэтаму і купалаўская выснова, што ў спадчыну нам дасталася і "пашана да пакут". Самым пераканальным вытлумачэннем, чаму мы сёння такія, з'яўляецца і аповесць М. Гарэцкага "Ціхая плынь". З нас і ўсяго нашага не толькі здзекаваліся, але зрабілі так, каб мы самі адракліся ад роднага, саромеліся яго, выракаліся і нават глуміліся з яго, як выракаюцца бяздумныя няўдзячныя дзеці сваёй маці (узгадаем эпізоды пра "Якдыкхай", бырку). А калі прыгадаць і рэпрэсіі...

Трагедыя вайны не толькі ў тым, што яна руйнуе, нішчыць, забірае жыцці людзей, а найперш у тым, што яна знішчае самых лепшых, самых таленавітых, якія б сваю духоўнасць і талент перадалі нашчадкам. Войны вынішчаюць генафонд нацыі, рвуць повязь вякоў і пакаленняў.

Колькі талентаў звялося,
Колькі іх і дзе ляжыць...

9. Добра быць у дарозе, якую ты сам сабе выбіраеш.

Кожны народ мае свой гонар.

Чалавек жыве дзеля дабра, для служэння праўдзе.

У істоце кожнага страху ляжыць наша няведанне, наша цемната.

Ёсць мова, зразумелая для ўсіх, і ёсць мова, даступная для нямногіх.

Назад не прыйдзе хваля тая, што з быстрай рэчкай уплывае.

Мой родны кут, як ты мне мілы!.. Забыць цябе не маю сілы.

Вітай жа дарогі, і новыя далі, і вечнага руху святыя скрыжалі...

Самае галоўнае - не страціць усведамлення ўласных памылак.

Забілі зайца, не забілі, але ж, брат, груку нарабілі.

Камплект № 16

1. Паэму "Сымон-музыка" Якуб Колас прысвяціў беларускай моладзі, з якой ён звязваў надзеі на будучыню свайго народа і Бацькаўшчыны. Вобразам Сымона ўслаўляецца духоўнае багацце і талент беларускага народа, сцвярджаецца думка, што сапраўднае мастацтва павінна быць непарыўна звязана з роднай зямлёй і народам. З вобразам Сымона звязана і вырашэнне філасофскай праблемы* - узаемін незвычайнай, таленавітай асобы і грамадства, адказнасці грамадства за зберажэнне найвялікшай нацыянальнай каштоўнасці - талентаў.

2. Галоўная тэма ўсіх твораў, акрамя паэм "Бандароўна" і "Магіла льва", - тэма таленавітасці беларускага народа; галоўная праблема - праблема прызначэння мастацтва і ролі мастака ў грамадстве.

Усе творы, акрамя твора З. Бядулі "Салавей", - паэмы, з іх усе, акрамя паэмы "Люцыян Таполя", - рамантычныя.

Галоўнымі героямі ўсіх твораў з'яўляюцца асобы незвычайныя, выключныя, моцныя, надзеленыя незвычайным дарам: талентам (як Гусляр, Сымон, Салавей, Люцыян Таполя), прыгажосцю, гармоніяй знешняга і ўнутранага хараства (як Бандароўна: *Хараства такого ў свеце не было й не будзе...),* фізічнай сілай (як Машэка). Усе яны кідаюць выклік абставінам, уступаюць у канфлікт, выпрабоўваюцца крытычнай сітуацыяй, нават сітуацыяй выбару: *Ну, што воліш сабе выбрацъ, пышная паненка...; Запяеш па душы, дасі ўцехі гасцям - поўны гуслі насыплю дукатаў. Не пад мысль будзе песня каму-небудзь нам - канапляную возьмеш заплату.*

Сюжэтная аснова рамантычных паэм Янкі Купалы - фальклорная.

3. Разгорнутая перыфраза абазначае мастацкі твор наогул і паэму "Сымон-музыка" ў прыватнасці. Вобразна, афарыстычна апісаны ўсе галоўныя атрыбуты твора як факта мастацтва: яго прызначэнне, аснова, вытокі *(адбітак родных з'яў),* вобразнасць (у *словах-вобразах),* адрасат *(для вас, душою чулых)...*

Складаная сінтаксічная канструкцыя сказаў (першы складаны сказ уяўляе сабой перыяд з мноствам аднародных членаў і двух даданых азначальных сказаў, якія паясняюць адзін з аднародных членаў *ніцей,* у першай частцы перыяду і трох аднародных выказнікаў у другой, асноўнай частцы перыяду*), адасобленыя аднародныя азначэнні *(пазычаны, адбіты, У сэрцы перажыты. I росамі обмыты Дзянніц маіх, дзянніц маіх мінулых; душою чулых),* параўнальныя звароты *(як доўг, як дар),* прыназоўнікавая анафара* - усё спрыяе паўнаце апісання твора як факта мастацтва. Кантэкстуальныя сінонімы* *(скарб, доўг, дар),* выкарыстанне слоў у пераносным значэнні* *(струмвніўся няспынна, Вясёлкавым ірдзеннем мне спяваў),* паўторы *(Дзянніц маіх, дзянніц маіх мінулых; Як доўг, як дар)* робяць тэкст не толькі рытмізаваным, але і выяўляюць узрушанасць, усхваляванасць, пачуццёвасць аўтара і яго філасофскае ўсведамленне твора як таямніцы, разгадаць да канца якую не дадзена нікому, бо то - дар Усявышняга. Схема першага сказа-перыяду:




К а м е н т а р ы й . Першы сказ (перыяд*) - складаны з рознымі відамі сувязі (падпарадкавальнай і злучальнай). Першая частка - складаназалежны сказ з двума аднароднымі даданымі азначальнымі, якія звязаны з галоўным сказам злучальным словам *якіх* і паясняюць у галоўным сказе дапаўненне-назоўнік *ніцей.* Паміж сабой гэтыя ад-

народныя даданыя азначальныя сказы звязваюцца адзіночным злучнікам і, таму перад ім коска не ставіцца. Галоўны сказ - двухсастаўны, поўны, развіты, ускладнены аднароднымі выказнікамі *збірайся, струменіўся, спявай і* сямю дапаўненнямі, якія ў сваю чаргу таксама развітыя: *ад зямлі, ад гомону, ад казак, ад песень, ад воблікаў, ад июла.ху, ад тысячы.* Працяжнік ставіцца паміж часткамі перыяду.

Другая частка ўсяго сказа — просты, двухсастаўны, поўны, развіты, звязваецца з галоўным першай часткі злучнікам і, перад якім ставіцца коска.

5. Ума холодных наблюдений
 И сердца горестных замет.

6. Першы сказ з верша М. Танка "Родная мова": *З легендаў і казак...* і сказ з вершаванага апавядання М. Багдановіча "Вераніка": *Калі ж асеннія навіны змянілі сад...* (поўнасцю сказ у камплекце № 23).

7. Сказ сцвярджальны, просты, поўны, двухсастаўны, развіты, ускладнены чатырма аднароднымі адасобленымі азначэннямі, якія стаяць пасля азначаемага назоўніка *скарб.* Гэтыя азначэнні выражаны двума адзіночнымі дзеепрыметнікамі і двума дзеепрыметнымі зваротамі. Трэці зварот з чацвёртым звязваецца адзіночным злучнікам і, таму перад ім коска не ставіцца. Чацвёрты зварот ускладнены паўторам слоў *дзянніц маіх.* Сказ ускладнены яшчэ дзвюма аднароднымі акалічнасцямі, выражанымі параўнальнымі зваротамі, якія паясняюць дзеяслоў-выказнік, а таксама адасобленым азначэннем, выражаным прыметным зваротам, які паясняе асабовы займеннік *вас.*

8. *Дзянніца* - заранка, ранішняя зорка.

9. Слова мнагазначнае, а літаратура як від мастацтва - гэта вобразнае адлюстраванне жыцця: "Адбітак родных з'яў", "У словах-вобразах" - "скарб", "... у сэрцы перажыты", для "душою чулых". Адметная асаблівасць літаратуры ў тым, што гэта мастацтва слова, а не гукаў, не рухаў, не фарбаў і інш. І гэтага мастацтва пясняр дасягае вобразнасцю ў шматлікіх яе праявах, умоўнасцямі з мэтай уздзеяння на пачуцці чытача.

10. Фанетычнае падаўжэнне*: *жыццё, быццё, ірдзеннем.*

Марфалагічнае падваенне*: *няспынна, вольнаплынных, дзянніц.*

11. Вылучаюцца частатой ужывання ў беларускай мове дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу з суфіксамі *-н-* і *-т-: пазычаны, адбіты, перажыты, обмыты;*

ужываннем канчатка *-у (-ю)* у родным склоне назоўнікаў мужчынскага роду: *шолаху, выхаду.*

12. *Пясняр, песнятворца, паэт, прарок, вершапісец.*

13. *Закінут\ых\, няспынна, струменіўся.*

*Закінутых* (дзеепрыметнік) - прымета паводле *закінуць; тыя, каго закінулі.*

*Закінутых* <г- *закінуць* (суфіксальны).

*Няспынна* (прыслоўе) - прымета паводле *няспынны.*

*Няспынна* <— *няспынны* (суфіксальны).

*Струменіўся* (дзеяслоў) - дзеянне паводле *струменіў.*

*Струменіўся* <— *струменіў*$_i$ (постфіксальны).

Камплект № 17

1 і 2. Першы сказ - пытальны, сцвярджальны складаназалежны з аднароднымі даданымі дапаўняльнымі, якія звязваюцца з галоўным злучнікамі *ці* (у трэцім даданым гэты злучнік апушчаны; а паміж сабой другі даданы з трэцім звязваюцца злучнікам і, перад якім коска не ставіцца). Другі даданы ўскладнены адасобленай акалічнасцю *(пакінуўшы свой дым і чад).* Схема:



Трэці сказ - пытальны, складаназалежны, у якім першы даданы азначальны звязваецца з галоўным злучальным словам *якіх* і паясняе ў галоўным указальнае слова *гэтакіх.* Другі даданы дапаўняльны паясняе першы даданы. Схема:




У апошнім сцвярджальным, складаназалежным, сказе першы даданы ўмовы (адначасна з адценнем і прычыны, і часу) звязваецца з галоўным злучнікам *ксілі.* Адценне часу ў сказе відавочна з кантэксту (патомак засумуецца калі? праз пэўны час, калі яму стане вядома). Адценне прычыны, бо засумуецца чаму? па якой прычыне? дазнаецца пра нас нядобрае, саромнае, прыкрае, на што ўказвае кантэкст* і інфармацыя наступнага даданага дапаўняльнага сказа *(што нейкі з нас... не йшоў... і ... не прастаў, а ... тантаў, ... тантаў),* які звязваецца з першым даданым умовы злучнікам *што.* У сярэдзіне гэтага даданага стаіць і адносіцца да яго трэці даданы ўступальны *(хоць быў не зломак)* і звязваецца з другім даданым злучнікам *хоць.* Змест гэтай дадай уступальнай часткі супярэчыць фактам, пра якія паведамляецца ў той частцы, да якой далучаецца ўступальная. Схема:



3. Дакор, папрок, нават абурэнне рабскай псіхалогіяй, стратай гонару і годнасці сваіх сучаснікаў, ды і нашай таксама, бо твор вельмі надзённы, сучасны.

*Судзіці суд, прысуд, суд* (гісторыі).

Паэт папярэджвае, што за ўсё трэба будзе адказваць і плаціць.

4. Тэкст насычаны метафарамі*, увасабленнямі*, эпітэтамі*: *самі сабой не гандлявсілі; чарадсі зняваг мінулых нас не з'ела; выдасць непадкупны аб нас гісторыя прысуд; у сведкі запісы пакліча; суд гісторыі цяжкі* і інш.

5. *Плечы гнуць у крук* - цярпець, прыніжацца;

*прастаць сцежкі* - ісці смела, упэўнена, не баяцца;

*таптаць сябе* - прыніжацца, не шанавацца, дазваляць другім здзекавацца з сябе;

*не ўлад і неўпапад* - у поўнай неадпаведнасці з чым-небудзь; не так, як трэба, безвынікова, кепска.

6. *Судзіці суд; магчымасці магчымай; дбайнсі дбалі; аглядам гляне.*

Стылістычная мэта паўтарэння ў словазлучэннях аднакаранёвых ці роднасных слоў з тым самым значэннем - узмацніць іх сэнсавую ролю, надаць ім большую значымасць у выражэнні думкі твора. -

7. *Судзіці, патомак, прысуд, дабравольна, непадкупны, сведкі, зломак, не прастаў, нашчадак,* ад слова *чада* (дзіця, *арх.).*

8. *Зломак* - слабы, надарваны чалавек;

*скеміць* - зразумець, разабрацца, сцяміць;

*уцяміць* - зразумець сэнс, змест чаго-небудзь.

Усе тры словы - размоўныя, уласцівыя бытавой сферы. Іх стылістычная афарбоўка сведчыць аб прыналежнасці да гутарковага стылю. Ужыванне іх у мастацкім стылі наогул і ў канкрэтным (слоў *зломак* і *уцяміць)* творы ў прыватнасці - мэтавае, бо спрыяе эмацыйнасці, узрушанасці, выяўленню пачуцця папроку, абурэння і няз-

годы з абставінамі і неадпаведнымі паводзінамі ў іх людзей, не зломкаў, але якія не паважаюць саміх сябе.

9. *Судзіці* - судзіць; *пакінуці* - пакінуць. *Паліча, пераліча* - палічыць, пералічыць. Як падкрэсліваюць даследчыкі, у Я. Купалы была выключная памяць на жывое слова народа. У купалаўскім вершы знайшлі адлюстраванне рысы жывога маўлення. Так, у шматлікіх выпадках зафіксавана пачатковае *й* у словах (у дадзеным тэксце *не йшоў).* Яскравая марфалагічная асаблівасць мовы Я. Купалы - канчаткі -е, -а ў 3-й асобе адзіночнага ліку дзеясловаў II спражэння: *паліча, пераліча,* суфікс *-ці-* ў інфінітывах: *судзіці, пакінуці.* Родныя гаворкі - адна з падвалін мовы Я. Купалы.

10. *Патомак* - нашчадак, наследнік, спадчынец;
*знявагі*-здзекі, абразы, прыніжэнні, глум, паняверка;
*гонар* - годнасць, вартасць, павага;
*ноеыя пакаленні* - патомкі, нашчадкі.

11. *Аб свой гонар дбайна дбалі*- пра свой гонар; аб сваім гонары.

12. [з'н'а-вах], [с'ц'э-шк'і], [ма-хчы-ма-с'ц'і].

13. Складаныя сінтаксічныя канструкцыі ў вершы, мноства аднародных членаў: *добровольна, без прынук; дбалі, не гандлявалі, не неслі ў петлі дум і рук; гляне і разбярэ; пакліча, клікне, паліча, пераліча; не йшоў, не прастаў, таптаў* - садзейнічаюць паўнаце апісання становішча народа, яго рабскай псіхалогіі ва ўсіх яе выявах. Гэтыя сродкі ў спалучэнні з інтанацыяй (пытальныя і клічныя сказы, шматкроп'е), інверсія (*засумуецца патомак; прыйдзе... грамада; зняваг мінулых; песень гэтакіх* і інш.) надаюць твору эмацыйнасць, выяўляюць аўтарскую ўсхваляванасць, узрушанасць.

14. Ідэяй незалежнасці, суверэнітэту. Творы прасякнуты аптымізмам, верай, што маладая Беларусь зойме *свой пачэсны пасад між народамі.*

15. Варыянты адказу:

15.1. "А чаго ж, чаго захацелася ім..."

15.2. "Ці жыць далей у няволі, ці разжыцца новай доляй, новы ўнесць пасад".

15.3. "Занімай, Беларусь маладая мая, свой пачэсны пасад між народамі!"

Камплект N° 18

1. Сказ сцвярджальны, складаназалежны з трыма даданымі. Два дадання ўмовы з адценнем прычыны - аднародныя, якія з галоўным сказам звязваюцца злучнікам *калі.* Трэці дададзены дапаўняльны паясняе ў галоўным сказе інфінітыў *думаць,* які з'яўляецца азначэннем *(прывычку* якую? *думаць)* і звязваецца з галоўным сказам падпарадкавальным злучнікам *што.* Працяжнік у гэтым складаназалежным сказе - аўтарскі, ці эмфатычны,* знак, ён падкрэслівае катэгарычнасць сцвярджэння, узмацняе яго.

Схема сказа:




2. *Прыяцель, збаўца, прыхільнік.* Сябар, друг, выратавальнік.

*Не хочам загінуць, быць вечнымі рабамі.* Прапасці, знікнуць, счэзнуць.

*Прыйдзе і выратуе.* Пазбавіць, дапаможа, прыхінецца, прычыніцца, паспрыяе, паспагадае.

*Бацькаўшчына, сялібы, хаты.* Радзіма, родны край, Айчына.

*Сыны і ўнукі.* Нашчадкі, патомкі, падрастаючае пакаленне.

*Бурны і векапомны.* Неспакойны, лёсавызначальны, лёсаносны, вырашальны.

*Пакліча і загадаў.*

*Самачыннасць, смеласць, незалежнае жыццё.* Суверэнітэт, самастойнасць, дзяржаўнасць, незалежнасць.

З а ў в а г а. Выдзеленыя сінонімы і кантэкстуальныя сінонімы выпісаны з артыкула.

3. *Благую* (прывычку) - кепскую, заганную. У рускай мове *благую* - добрую: *благими намерениями...*

Дыван, твар, трусы, люстра і інш.

*4. Час праявіць і нам* - прыйшла пара, патрэбна. *Час* (векапомны) - перыяд, эпоха, пэўная колькасць гадоў у жыцці чалавецтва, дзяржавы, народа.

*Гісторыя* - у тэксце: рэчаіснасць у працэсе развіцця.

5. *Загінуць* (не хочам загінуць) - частка састаўнога дзеяслоўнага выказніка;

*быць* (не хочам быць) - тое ж;

*пакінуць* (павінны пакінуць) - тое ж;

*думаць* (прывычку думаць) - азначэнне;

*праявіць* (час праявіць) - частка састаўнога дзеяслоўнага выказніка;

*даць* (загадае даць) - дапаўненне.

6. Публіцыстычны. Назначэнне дадзенага тэксту - інфармацыя і эмацыйнае ўздзеянне, уздзеянне на свядомасць. Ва ўрыўку артыкула ёсць уласцівыя публіцыстычнаму стылю штампы: *нашага падрастаючага пакалення; у будаванні новага жыцця; векапомны час; новага незалежнага жыцця. Патомкі, край, гісторыя, самачыннасць, рабы, няволя* - грамадска-палітычная лексіка публіцыстыкі. Даходлівасць, папулярнасць, эмацыйнасць, палымянасць маўлення дасягаюцца ўжываннем і зваротkaў, і фразеалагізмаў, і пытальных, і пабуджальных сказаў, і паўтораў *(самы найлепшы; калі не),* і сінонімаў.

7. У камплекце № 12 - пра адрозненне **мнагазначнасці** ад **аманіміі.**

8. *Самачыннасць* - незалежнасць, суверэнітэт, самастойнасць. Залежнасць, рабства, прыгнет.

9. Артыкул*. Сучаснасць у тым, што і сёння, на жаль, ёсць людзі, якія не ўсведамляюць самачыннасць як найвялікшую каштоўнасць нацыі, іх не пераконваюць тыя ж довады, якія прыводзіць у сваім артыкуле Янка Купала.

10. Гэта **рамантычныя паэмы,*** напісаныя паводле фальклору, галоўныя героі якіх - асобы выключныя, моцныя, незвычайныя, што выпрабоўваюцца экстрэмальнымі сітуацыямі, сітуацыямі выбару. Падрабязней пра гэта - у камплекце № 16.

11. *Прыхільнік, бацькаўшчына.*

*Прыхільнік* (назоўнік) - той, хто прыхільны да чаго ці каго-небудзь.

*Прыхільнік* <— *прыхільны* (суфіксальны спосаб).

*Бацькаўшчына* (назоўнік) - бацькава спадчына.

*Бацькаўшчына бацькава* (суфіксальны спосаб).

12. Узмацняльнай часціцай.

13. [с'м'э-ла-с'ц'і], [ат-кас], [жы-ц'а].

Камплект№19

1. Сказ сцвярджальны, складаназалежны з двума аднароднымі даданымі прычыны, якія звязваюцца з галоўным падпарадкавальным злучнікам *бо,* які ў другім даданым апушчаны. Паміж сабой даданыя аднародныя звязваюцца адзіночным злучнікам *і*, перад якім коска не ставіцца.

Галоўны сказ двухсастаўны (граматычная аснова: *мы павінны дамагацца*), поўны, развіты дапаўненнем *яе* і аднароднымі акалічнасцямі, звязанымі паўторным злучнікам *і.*

Першы даданы - поўны, двухсастаўны, неразвіты. Другі даданы - поўны, двухсастаўны, развіты дапасаваным азначэннем *нашы.* Схема:




2. Публіцыстычны. Пра лексічныя - па аналогіі з папярэднім камплектам.

Сінтаксічныя: насычанасць аднароднымі членамі, пытальныя і клічныя сказы, звароткі, злучнікавыя паўторы, інверсія служаць і паўнаце апісання, і эмацыйнасці.

3. *Незалежнасць* - самастойнасць, свабода, *месты* - гарады.

**4. Фразеалагізмы:**

4.1. Прыкра, непрыемна слухаць нешта недарэчнае, непрыстойнае.

4.2. Нядобрае пажаданне таму, хто гаворыць ці робіць не тое, што трэба.

4.3. Прычынідь вялікую непрыемнасць каму-небудзь.

4.6. Не было і звання - знішчана, не засталося ад нечага нічога.

4.7. Нікому не сакрэт - усім вядома.

4.9. Нічога не зрабіў дзеля нечага.

4.10. Нядобразычліва ставіліся, мелі нядобрыя патаемныя намеры.

4.11. Нажыцца на чужым, скарыстаўшы выпадак.

**Вобразныя аўтарскія выразы:**

4.4. Скарыстаць у сваіх інтарэсах, нажыцца.

4.5. Знішчыць.

4.8. Не дбалі аб сваім гонары, не шанаваліся.

4.13. Чакаюць зручнага моманту, рыхтуюцца.

**Публіцыстычныя штампы:**

4.12. Займала пачэснае месца сярод іншых культур.

5. *Пашану да пакут* - рабскую псіхалогію. Перыфразай-аксюмаранам*.

6. Афарызмы*: 6.2; 6.3; 6.5; 6.6; 6.7; 6.8; 6.10.

Астатнія - крылатыя выразы*.

Крылатыя словы адрозніваюцца ад афарызмаў тым, што, па-першае, звычайна больш шырока ўжываюцца, а па-другое, у іх склад уваходзяць не толькі закончаныя думкі-суджэнні, але і трапныя найменні, нярэдка аднаслоўныя: *Пан сахі і касы - мужык.*

7. Трэба з жалем прызнаць, што крылатыя словы з беларускіх крыніц яшчэ амаль не сабраны. Ёсць толькі адна кніжачка такога роду - "Крылатыя словы і афарызмы" Ф. М. Янкоўскага (Мн., 1973).

Камплект № 20

1. Сказ сцвярджальны, складаны з рознымі відамі сувязі. Першая частка яго - складаназалежны з даданым мэты, які звязваецца з галоўным сказам падпарадкавальным злучнікам *каб.* Другая частка - таксама складаназалежны сказ. У ім галоўны безасабовы сказ ускладнены аднароднымі выказнікамі *(цяжка раніць, пад прыгон узяць, апаганіць, душу вынесці на здзек).* Два аднародныя даданыя мэты паясняюць выказнікі ў галоўным сказе і звязваюцца з ім падпарадкавальнымі злучнікамі *каб.* Трэці даданы дапаўняльны *(хто такія іх дзяды)* паясняе выказнік *не ведалі* ў другім даданым мэты і звязваецца з ім злучальным словам *хто,* якое з'яўляецца выказнікам. Першая з другой часткай звязваецца злучнікам *а,* перад якім ставіцца кропка з коскай, бо гэтага вымагае сэнсавая самастойнасць сказаў і складаная структура. Схема:



2. Крылаты выраз*: *колькі талентаў звялося.*

Перыфраза* *тут схадзіліся плямёны спрэчкі сілаю канчаць* азцачае *войны,* несупынныя войны, што вяліся на нашай зямлі і спусташалі яе.

Перыфраза *У той кнізе людскіх спраў* азначае *ў гісторыі.*

3. У тэкстах мноства кантэкстуальных сінонімаў* (сінанімічныя аднародныя выказнікі ў другім сказе: *гвалтоўнасці творыў, будаваў острог; барбсірскім копылом мерыў волю і свободу, а культуру нёс з калом; ступаў, талачыў* і *драсаваў;* аднародныя адасобленыя сінанімічныя азначэнні), фразеалагізмаў* *(мерыў капылом; душу вынесці на здзек).* Асноўным сродкам стварэння вобразнасці ў тэкстах з'яўляецца ўжыванне слоў і словаспалучэнняў з пераносным значэннем: *сам лёс, мусіць, для спакусы гэты край нет адзначаў; і лілася кроў нявінна; будаваў астрог народу; а культуру нёс з калом* і шмат іншых метафарычных выразаў. З сінтаксічных сродкаў - дамінуюць аднародныя члены сказа, складаныя сінтаксічныя канструкцыі, клічныя сказы, што спрыяе не толькі паўнаце апісання пакутніцкага лёсу нашай краіны і народа, прычын гэтых пакут, але і экспрэсіўнасці, эмацыйнасці, узрушанасці.

4. Акрамя ўжо названых стылістычных прыёмаў, якімі дасягаецца напал выказвання, вылучаюцца .паўторы *(колькі, каб),* звароткі, выклічнікі і рытарычнае пытанне*.

5. **Сінекдаха** - разнавіднасць метанімічных пераносаў. Гэта ўжыванне назвы нейкай часткі прадмета замест цэлага і наадварот:

*А побач юныя бароды размовы тонкія вядуць.*

*Г. Бураўкін*

У тэксце: *Швед набытак наш паліў, А ўрад царскі самачынна Тут гвалтоўнасці тварыў...; І без жалю капытамі Конь казацкі тут ступаў...*

6. Паўторы, сінонімы і сінанімічныя выразы.

7. *Непрызнаных,* але *не аплаканых нікім (не* з поўнымі дзеепрыметнікамі пішацца асобна, калі пры іх ёсць паясняльныя словы, г. зн. у дзеепрыметных зваротах).

8. [атс'п'аваных], [пос'в'істам], [б'ажал'у], [с калом], [з jарынам'і].

9. Паводле фанетычнага прынцыпу:

*сходзіліся, зваявсіць, знішчыць* (правапіс прыставак на *з* і с);

*прыйшлося,* але *падышоў (-ы, -і, -й* пасля прыставак);

і *ўнукі, паліў, твары* (правапіс *ў* і *у);*

*невядомых, адспяваных, вынесці, плямёны* (правапіс *е,* я);

*казацкі* (спалучэнне зычных перад -ск-);

*здзекі, дзяды* (правапіс *д* і *т).*

Паводле марфалагічнага прынцыпу:

*без жалю, з калом, над прыгон* (правапіс прыназоўнікаў, правапіс *е* ў прыназоўніках і часціцы *не);*

*сляды, здзек, знішчыць* (асіміляцыя гукаў па мяккасці на пісьме не перадаецца);

*адспяваных, адзначаць* (правапіс прыставак на *-д* і *-б);*

*людскіх* (*д* перад с у прыметніках і назоўніках захоўваецца);

*цяжкі* (правапіс глухіх і звонкіх).

Паводле лексіка-сінтаксічнага прынцыпу:

*самачынна* (правапіс складаных слоў).

10. *Здзек, вынесці, сляды, гвалтоўнасці, звялося, адспяваных, посвістам.*

Асіміляцыя* гукаў па мяккасці паводле сучаснага правапісу не перадаецца.



*Непрызнаных* (дзеепрыметнік) - прымета паводле дзеяння *не прызнаць (якіх не прызналі).*

*Непрызнаных* <— *не прызнаць* (суфіксальны спосаб і зліццё часціцы са словам).

*Гвалтоўнасці* (назоўнік) - уласцівасць *гвалтоўных.*

*Гвалтоўнасць* - *гвалтоўны* (суфіксальны).

*Казацкі* (прыметнік) - які належыць ці характэрны *казаку.*

*Казацкі* (казак + ск + і) <—казак (суфіксальны).

*Людскіх* (прыметнік) - які ўласцівы ці належыць *людзям.*

*Людскіх людзі* (суфіксальны).

12. *Спакусы* - соблазны;
*прыгон* - крепостное право, крепостная зависимость;
*скарбы* - сокровища, богатства;
*ашука* - обман, ложь;
*гвалтоўнасць* - насилие, рабство;
*астрог* - тюрьма;
*барбарскім капылом* - варварским образом.

Да слова *прыгон.* Яно належыць да безэквівалентнай лексікі*. Такія словы - сведчанне багацця і самабытнасці мовы.

У лексіцы беларускай мовы, як і іншых нацыянальных моў, ёсць шэраг слоў, якія ў рускамоўным дачыненні не маюць аднаслоўнага адпаведніка. Пераклад семантыкі такіх слоў, аб'ём паняцця, што яны абазначаюць, і эмацыйныя іх адценні вымушаюць перадачы не словамі, а словазлучэннямі рускай мовы. Гэта словы безэквівалентнай лексікі: *алей* - растительное масло, *буслянка* - гнездо аиста.

Слоўнік беларускай безэквівалентнай лексікі (у рускамоўным дачыненні) склала Ірына Шкраба, называецца ён "Самабытнае слова" (Мн., 1994).

13. "Сымон-музыка"- рамантычная паэма*, а "Новая зямля" - рэалістычная з усімі характэрнымі для іх жанравымі асаблівасцямі.

14. *Эх, чаго нам не прыйшлося, брацце мілыя, ужыць!* Часціца *не* - для ўзмацнення сцвярджэння. *Як не любіць нашу краіну!* З тым жа значэннем ужываецца і часціца *ні.* Параўнаем: *Як ні любіў, як ні шанаваў, усё роўна не дагадзіў. Што ні прыйшлося выцерпець, вынесці, мы засталіся людзьмі.* Каб не памыліцца ў выбары часціцы *не* ці *ні* для выражэння ўзмацнення сцвярджэння, раім карыстацца вельмі зручным і простым спосабам. Не пішацца ў самастойных сказах ці ў галоўным сказе складаназалежнага: *Як не імкнуцца да лепшага, калі ад гэтага залежыць і лёс нашчадкаў?*

*Ні* пішацца ў даданых сказах: *Куды ні глянеш, усюды пекната.*

15. Узмацняльнай часціцай, бо і тут нічога не злучае, а злучнік і служыць для сувязі аднародных членаў сказа або частак складаназлучанага. У сказе *каб не ведалі і ўнукі* ўзмацняльнай часціцы *і* сінанімічна часціца *нсіват.*

Камплект № 21

1. Першы сказ - апавядальны, сцвярджальны, складаназалежны. Галоўны сказ - *Бедны той.* Першы даданы дзейнікавы паясняе, канкрэтызуе дзейнік, выражаны ўказальным займеннікам *той.* Гэты першы даданы сказ ускладнены двума адасобленымі аднароднымі дапаўненнямі *апрача грошы, апрача багацця* і адасобленым прыдаткам з паўторным словам: *скарбаў душы,* якi сінанімічны слову *духоўнасць.* Другі даданы - звязваецца з галоўным злучальным словам хто - азначальны, ён паясняе ў першым даданым назоўнік *багацця* і стаіць адразу пасля яго. Звязваецца з першым даданым злучальным

словам *каторае,* якое ў сказе з'яўляецца дзейнікам. Схема сказа:




Другі сказ - апавядальны, сцвярджальны, складаназалежны. Галоўны сказ - *Такі скарб... гэта любоў да... .* Ён двухсастаўны, развіты, ускладнены аднароднымі дапаўненнямі. Граматычная аснова: *скарб гэта любоў.* Каб пераканацца, што першы назоўнік з'яўляецца выказнікам, а другі дзейнікам, прыменім прыём замены аднаго з назоўнікаў словазлучэннем з назоўнікам у творным склоне *(любоў з'яўляецца скарбам).* Даданы азначальны сказ паясняе ў галоўным указальнае слова *такі* і звязваецца з галоўным сказам злучальным словам *каторы,* якое ў сказе з'яўляецца дапаўненнем.

Другі сказ (урывак 1.3) - пабуджальны, складаны з living рознымі відамі сувязі, структурна дзеліцца на дзве часткі. Першая частка - складаназалежны сказ з двума аднароднымі даданымі мэты, якія звязваюцца з галоўным падпарадкавальным злучнікам *каб.* Другая частка - просты, двухсастаўны, поўны, развіты (граматычная аснова: *сіла не здолее забіць).* Першая і другая часткі звязваюцца паміж сабой злучальным злучнікам і. Схема:




2. Публіцыстычны. Мэта тэкстаў - уздзеянне на свядомасць і пачуцці, форма - зварот. Выразнасці і эмацый-

насці выказвання аўтарка дасягае ўмелым скарыстаннем агульнанароднай лексікі, паўторамі лексемы *скарбы,* лагічным выдзяленнем яе ў тэксце. Аднародныя члены сказа, эмацыйна-экспрэсіўнае адчляненне азначэнняў, сінтаксічны паралелізм, інверсія - прыёмы, з дапамогай якіх ствараецца ўрачысты тон кантэксту. Метафарычныя выразы, традыцыйныя сімвалы *(з усходам сонца; цемрай начной; каб холодны сівер іх не замарозіў)* надаюць тэксту прамоўніцкі пафас, перадаюць заклік да духоўнага адраджэння, маральнага і грамадзянскага сталення моладзі. Афарыстычна гучаць радкі пра гарманічную; духоўна багатую асобу: *Бедны той...*

3. Артыкул* "Шануйце роднае слова!" С. Александровіч назваў "палымяным гімнам беларускай мове, яе багаццю і сіле". Ён пераклікаецца з "Пагоняй" М. Багдановіча, з "Ворагам беларушчыны" *Я.* Купалы. У ім відавочны рэмінісцэнцыі* з прадмоў да зборнікаў Ф. Багушэвіча, з яго афарызмам "адзежа душы чалавека". Мова - адзежа душы чалавека, а ўздзець "чужую апратку" - страціць уласную душу, страціць сябе. У артыкуле Цёткі рэмінісцэнцыя афарызма "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!" Ф. Багушэвіча, на што яна сама ўказвае: "Толькі не кідайце роднай мовы: бо сапраўды для свайго народа тады вы ўмёрлі!"

4. Скарбы душы нельга адабраць.
Духоўнасць - вечны скарб.
Моладзь зберажэ родную мову.
Клопат пра ўласную душу - умова годнай будучыні.

5. *Умёрлі* ў значэнні будучага часу;

*адабраць* - частка састаўнога дзеяслоўнага выказніка *(не здолее адабраць),*

*развіваць* - лагічны аўтарскі знак (двукроп'е) не дазваляе разглядаць інфінітыў як удакладняльнае азначэнне да назоўніка *павіннасць.* Аўтарскі знак дыктуе ўсведамленне ўсяго сказа як складанага бяззлучнікавага,

другі сказ - інфінітыўны, у якім інфінітывы *развіваць, узбагачваць* - аднародныя выказнікі;

*забіць* - частка састаўнога дзеяслоўнага выказніка *(не здолее забіць)*\

*працаваць* - азначэнне.

6. Дзеяслоўнае, кіраванне: *ляжыць на вас; развіваць мову; узбагачваць народ; узбагачваць знанием; узбагачваць культурой.*

Дзеяслоўнае, прымыканне: *развіваць далей.*

Назоўнікавае, дапасаванне: *павіннасць вялікая; мову родную; народ свой.*

7. Марфалагічнае падваенне: *становіцца.*

Фанетычнае падаўжэнне: *жыццёвай.*

8. *Ёю* [jojy].

9.

9.1. Памерці. 9.2. Пахаваць. 9.3. Аплакаць. 9.4. Жалейка. 9.5. Жыць. 9.6. Маршчыны. 9.7. Хлебаробы. 9.8. Вучоныя.

10. Маладосць.

Камплект № 22

I. 1. Складаны сказ з рознымі відамі сувязі. Сказ складаецца з дзвюх структурных частак. Першая частка - складаназалежны сказ з даданым акалічнасным часу (двухсастаўны няпоўны, бо ў ім апушчаны дзейнік *свечка;* сказ ускладнены ўдакладняючымі азначэннямі *тоненькая і пахілая).* Галоўны сказ - безасабовы.

Другая частка таксама складаназалежны сказ з двума даданымі. Галоўны сказ разрываецца даданым азначальным, які паясняе ў галоўным сказе назоўнік *людзі* і далучаецца да яго злучальным словам *якія* (злучальнае слова з'яўляецца дзейнікам у даданым азначальным сказе). Другі даданы дапаўняльны паясняе ў галоўным ска-

зе дзеяслоу-выказнік і звязваецца з галоўным падпарадкавальным злучнікам *што.* Гэты дадзены сказ няпоўны, у ім апушчаны дзейнік *людзі.* Ён ускладнены ўдакладняючым дапаўненнем. -Першая частка з другой звязваюцца злучальным злучнікам і. Схема сказа:




2. Стыль тэксту публіцыстычны, бо ён рэалізуе функцыі паведамлення і ўздзеяння. Тэкст багаты на інфармацыю пра жыццё і дзейнасць М. Багдановіча. Выкарыстанне грамадска-палітычнай лексікі і фразеалогіі *(дала сэнс самаахвярнаму жыццю; пакінула ў памяці нашчадкаў; усе сілы і магутны талент аддаў да астатку, да апошняй кроплі... Беларусі; ад роднай зямлі, ад матчынай мовы; імгненні вечнасці* і інш.) арганічна спалучаецца з вобразнасцю, эмацыйна-ацэначнымі сродкамі мовы.

Сродкамі сувязі ў тэксце з'яўляюцца паўторы слоў *(Максім Багдановіч),* сінонімы і сінанімічныя выразы *(аднаго з найвыдатнейшых беларускіх паэтаў; аднаго з самых любімых сыноў нацыі; адным з самых дасведчаных мужоў свайго часу; класікам роднай літаратуры),* займеннікі *(ён, яго, ягонаму).*

3. Перыфразы*: *25 свечак адпалала на зямным бяседным стале* - пражыў 25 год; *паасла апошняя тоненькая і пахілая* - памёр; *паклалі ў камяністую крымскую зямлю* - Максім Багдановіч пахаваны ў Крыме, у Ялце.

Стылістычны сінтаксіс, у прыватнасці, паўторы: *аднаго з найвыдатнейшых, аднаго з самых любімых; адарваны ад роднай зямлі, ад матчынай мовы, ад пошуму...; самым гарачым, самым трапяткім, самым светльш пачуццём; любоў да Радзімы, да маці-Беларусі; яна зрабіла яго паэтам, яна дала сэнс... жыццю, яна пакінула...* і інш.

Інверсія*: *пагасла апошняя, тоненькая і пахілая; вучыўся ён; каханне сваё напаткаў; талент аддаў.*

Гэтыя і іншыя мастацкія сродкі **(эпітэты, метафары)** спрыяюць эмацыйнасці, узрушанасці выяўлення пачуццяў, робяць мову тэксту рытмізаванай.

**4.** *Матчынай, матухнай, маці;*

*свечак, святым;*

*Беларусі, беларускіх;*

*народжаны, Радзімы.*

*5. Свечка, сваякі, нарачоная, дасведчсіны, пачуццё, нашчадкі, браначка, матчына* і інш.

*Свечка* называецца таму, што дае святло;

*сваякі* - свае, родныя, блізкія, крэўныя;

*нарачоная* - суджаная, наканаваная лёсам, рокам;

*дсісведчаны* - які многа ведае, валодае ведамі;

*пачуццё* - здольнасць чуць, адчуваць. рэагаваць на пэўныя раздражняльнікі, абставіны і інш.;

*нашчадкі* - нашы дзеці (чада - дзіця);

*браначка* - якую бралі, рабавалі, нішчылі, адбіралі, палонілі;

*мсітчына* (мова) - прыметнік, вытворны; які належыць матцы.

*Матчына* <—*матка* (сўфіксальны спосаб).

*Матчына.*

6. [па-с'п'а-ва-jyu'j, [а-ду-ка-цы-jу], [да-с'в'э-чаных], [ма-чы-най].

II. 1. Асацыятыўнасць, вобразнасць, метафарычнасць - адметная асаблівасць творчасці* Рыгора Барадуліна, яго стылю. Метафарычнасць, прычым індывідуальная, аўтарская, вылучае і гэты верш, пра які так ухвальна азваўся Васіль Быкаў. Па сутнасці, гэты філасофскі верш уяўляе сабой вянок мет'афар і аўтарскіх перыфраз.

*Лёс да кожнага прыходзіць босы* - напачатку ўсе мы роўныя, усім нам даецца адно - жыццё;

*...каб бядзілі кожнага турботы, як абуць свой лёс у лапці, ў боты* - кожны павінен многа працаваць, высільвацца, старацца, каб зрабіць сваё жыццё лепшым, багацейшым, шчаслівейшым;

*...боссю - каб нячутна! - ходзіць лёс* - ніхто не застрахаваны ад нечаканых паваротаў лесу;

*...пасталы змяніць на кірзачы* - дамагацца і дасягаць лепшага, "бяды пазбыціся", як сказаў *Я.* Купала;

*...грукай збітым, як парог, абцасам* - старайся, многа працуй, каб дасягнуць жаданага;

*...смелы і ў руцэ з кавалкам ласым* - аўтарская **перыфраза,** сэнс якой - шчаслівы, удачлівы, які дасяг мэты;

*...лёс разуты* - антанімічная папярэдняй аўтарская кантэкстуальная перыфраза, сэнс якой - няшчасныя;

*...ногі босаму не адтапчы* - не будуй сваё шчасце на няшчасці іншых, спагадай няшчасным, не нажывайся, не багацей на іх беднасці і няшчасці.

2. Сінанімічныя **гістарызмы** *лапці* і *пасталы* ў кантэксце антанімічныя сінонімам *боты* і *кірзачы,* бо першыя сімвалізуюць гаротны лёс, а другія - крыху лепшы, шчаслівейшы.

**Сінонімы** і **антонімы** выкарыстаны паэтам, каб паказаць жыццё людское ва ўсёй разнастайнасці і супярэчлівасці: не ўраўнаваў Бог лесу, не ўраўнуе і людзей, як у народзе кажуць. У кожнага - свая дарога, свой лёс.

**Дыялектызм** *заўсягды* ў заключных, афарыстычных, радках верша служыць сцвярджэнню адвечнай народнай ісціны: якіх бы вяршынь ні дасягнуў, не забывай пра няшчасных, пакрыўджаных, пра калек і сірот - пра "босых".

Аўтарскія **неалагізмы** *бядзілі* і *боссю* суадносяцца паміж сабой, як барадулінскія *філалагіні* і *неруш, нагбом.* Першыя - словатворчасць паэта, другія - неруш матчынай мовы, дыялектызмы, якія, дзякуючы Рыгору

Барадуліну, сталі ўсіхнім набыткам і ўзбагацілі літаратурную мову, набылі вобразнае, паэтычнае, нават афарыстычнае значэнне.

*Пасталы, лапці* - гістарызмы. Пасталы - тое ж, што і лапці, а таксама "даўні мяккі сялянскі абутак з цэлага кавалка скуры, які носіцца з анучамі і прывязваецца да ног аборамі" (ТСБМ, т. 4, с. 87). У вершы гэтыя сінанімічныя гістарызмы сімвалізуюць беднасць, нястачу, з якімі кожны хацеў бы не знацца.

Спалучэнне "вольны нявольнік" - аксюмаран*, моўны парадокс, спалучэнне неспалучальнага, тыпу "сумная краса", "невыпадковая выпадковасць", "багаты жабрак", "бедны багацей", "мілы дурань", "салодкі палон", "гарачы снег", нарэшце - "Міласэрнасць плахі" (такая назва аднаго са зборнікаў Р. Барадуліна).

Моўныя парадоксы-аксюмараны* садзейнічаюць адлюстраванню супярэчнасцей, складанасцей, парадоксаў жыцця і вечных праблем. Прыгадаем у Францішка Багушэвіча: "Не надта свободна ў гэтай свабодзе" (верш "Быў у чыстцы"). За спалучэннем "вольны нявольнік" стаіць таямніца вечнай праблемы: "Што залежыць і што не залежыць ад чалавека?"

3. У народзе кажуць: "Дурны той, хто ў полі калёсы заносіць..." Гэта значыць, хто манеўруе, рэзка паварочвае. Непатрэбная гэта справа: ты не на дарозе, а ў полі - едзь як хочаш, як зручна. *А яму.* (лесу) *не занасіць калёсы* - ідзе як хоча, нават *боссю - каб нячутна! - ходзіць лёс,* падсцерагаючы чалавека ў любым месцы і ў любы момант - ад яго не схаваешся.

Камплект № 23

1. Сказ уяўляе сабой перыяд* - сінтаксічную адзінку з выразным падзелам на дзве часткі. Першая - 8 анафа-

рычных, аднародных даданых сказаў часу, якія далучаюцца да галоўнага сказа падпарадкавальным злучнікам *калі.* У 3, 4, 6 і 7-м сказах гэтыя злучнікі апушчаны, а паміж сабой 2-і з 3-м і 5-ы з 6-м звязваюцца злучальным злучнікам а; 3-і з 4-м і 6-ы з 7-м звязваюцца злучнікам і. Паасобныя часткі перыяду раздзяляюцца кропкай з коскай. На мяжы першай і другой частак перыяду ставяцца коска і працяжнік. 2-я частка ўяўляе сабой галоўны сказ у складаназалежным сказе - перыядзе.

Схема сказа:




2. Перыядам*. Анафарычнасць, аднароднасць даданых сказаў першай часткі перыяду спрыяе паўнаце апісання (у дадзеным вершы - *восені).* Паўнаце апісання спрыяюць і аднародныя члены *(чаромха, ліпа, стройны клён; стагнаў і грымеў),* адасобленая акалічнасць, азначэнні-эпітэты.

Адным з крытэрыяў багацця мовы наогул і мовы пісьменніка ў прыватнасці з'яўляюцца складаны сінтаксіс, разнастайнасць і багацце сінтаксічных адзінак, якімі карыстаецца пісьменнік і якія яму падуладны.

Максіму Багдановічу падуладны выключна ўсе сінтаксічныя адзінкі - ад адна- і двухслоўных, якімі з'яўляюцца, напрыклад, намінатыўныя сказы ці неразвітыя двухсастаўныя, да такіх складаных, як **перыяд.** І прыведзены ўрывак з вершаванага апавядання "Вераніка" таму доказ.

Пра вялікія магчымасці адасобленых азначэнняў, прыдаткаў, акалічнасцей, клічных сказаў у выяўленні

пачуццяў душы натхнёнай, радаснай, зачараванай *высокаю красою* сведчыць і другі ўрывак са згаданага твора.

Аўтарскі сінтаксіс М. Багдановіча вылучаецца разнастайнасцю і багаццем ускладненых сінтаксічных канструкцый.

3. Дзякуючы інструментоўцы на зычныя гукі *[к], [в], [ц], [дз], [с], [т], [г], [х], [ч], [р], [ж], [ш]* ствараецца эфект гукаў восені: непагадзі, шуму ветру *(асенні вецер дзіка стагнаў і глуха па начах грымеў у наш жалезны дах).* У яго вершах чуем раскаты грымотаў ("Бура"), скрып снегу ("Зімой"), пошум лесу *(Чуеш гул? - Гэта сумны, маркотны лясун...),* глухое бубненне даху ("Завіруха"). Хораша выяўляецца ў паэтычных радках звонкае і плаўнае гучанне беларускага слова, таму так добра кладуцца вершы паэта на музыку.

Беларуская мова, яе *звонкае "дзе" і густое "чаго"* (П. Панчанка) дае пісьменнікам багатыя магчымасці гукавой інструментоўкі **(алітэрацыі).** Да прыкладу, верш Р. Барадуліна "Матылёк" можа быць узорам гукавой інструментоўкі. Паэт, які надзвычай тонка адчувае не толькі лексічныя і граматычныя, але і фанетычныя магчымасці беларускай мовы, здолеў у невялікім вершы ажно 59 разоў паўтарыць гукаспалучэнні *лі-ле-лё-ля-ла-лы...* і ні разу не ўжыць гука *[р].*

Дзякуючы адпаведным гукавым паўторам у вершах Р. Барадуліна імітуецца грукатанне грому *(Тут бярозы каркаюць і крахкаюць, Глухнуць ад птушынае гурмы),* грукат колаў цягніка *(Дакладную рыфму абкатваюць колы: капыток - кіпяток, капыток - кіпяток, кіпяток, кіпяток...).*

**4.** *Прад высокаю красою* - **крылаты выраз.**

**Афарызмы** і **крылатыя выразы** М. Багдановіча - у пытанні № 3 і адказе на яго ў камплекце № 24.

Пра агульнае і адметнае паміж **афарызмамі** і **крылатымі выразамі** гл. у камплекце № 19.

5. *Пайна, у тэй, чэрты, ядыны, цэль.*
*Пайна* - напоўнена;
*у тэй* - у той;
*чэрты* — рысы;
*ядыны* - адзіны;
*вечны цэль* - вечная мэта.

Выдадзены ў 1913 г. адзіны прыжыццёвы зборнік М. Багдановіча "Вянок" адлюстроўвае стан беларускай літаратурнай мовы пачатку XX ст. У творах паэта знаходзім і словы, формы слоў, якія не сталі нарматыўнымі *(дзіцёнак, сведак, устёныя, дзярэўі, лети ад мяне, двакроць, капшчызна, залатар, у палёх, артыста шчыры, дайсці жадань сваіх).* Паэт, які жыў у рускамоўным асяродцзі, сам перакладаў свае вершы на рускую мову, асобныя і пісаў па-руску ("Зеленя"), не мог пазбегнуць русізмаў (*варсіціца, пуць, нявідзімых, труды, цэль, брызгі, мяцель, шапталісь, абліваяя срэбрам, ліючайся ракі, пранёсшыхся днёў* і інш.).

Парадокс: у кантэксце твораў генія гэтыя чужародныя, не ўласцівыя нашай мове словы і формы не сапсавалі яе, а, наадварот, арганічна з'ядналіся і ва ўнісон з нашай меладычнай мовай загучалі музыкай: гарманічна, натхнёна, лірычна. Гэта, бадай, феномен М. Багдановіча, а феномен не патрабуе вытлумачэнняў, дакладней, выключае іх. Па асацыяцыі нагадаем толькі, як узбагаціла мову твораў А. Твардоўскага беларуская лексіка.

6. Гэта пытанне адносіцца да ліку складаных пытанняў сінтаксісу, як, прынамсі, і размежаванне развітых зваротkaў і вакатыўных сказаў. На карысць развітага звароткa тут указвае займеннік 2-й асобы *(ты),* а на карысць адасобленага прыдатка - займеннік 3-й асобы *(ён, яна)* ці азначаемы назоўнік.

*(Паводле "Сучаснай беларускай пунктуацыі"*
*Г. Н. Клюсава і А. Л. Юрэвіча.)*

7. *Натхнённай.*

Рознымі могуць быць меркаванні юных лінгвістаў. Важна адно: усведамленне таго, што "памылка" з'яўляецца мэтавай.

*Натхнёная душа* - аб'ект, вынік наведання яе госці нябеснай, а *натхнённая* душа - вынік уласнай працы яе. Усё жыццё М. Багдановіча з'яўляецца яркім прыкладам таго, што "душа обязана трудиться", што стан душы чалавека залежыць і ад яго самога.

Прыметнік *натхнёны* абазначае прымету як даннасць, а дзеепрыметнік *натхнённы* (у рускай мове *причастия* пішуцца з дзвюма *нн)* абазначае прымету як вынік намаганняў, працы - высілкаў душы.

8. *Пекнасць* - гожасць, прыгажосць, хараство і інш.;
*згадка* - успамін;
*вечны цэль* - ідэал.

9. У. Маякоўскі сцвярджаў, што "без рыфмы верш рассыплецца. Рыфма прымушае нас вяртацца да папярэдняга радка, прымушае ўспомніць яго, прымушае ўсе радкі, што афармляюць адну думку, трымацца разам".

Вершаванае апавяданне "Вераніка" напісана секстэтам*, або шасцірадкоўем.

Першыя чатыры радкі спалучаюцца апаясанай, або кальцавой (АББА), а 5-ы і 6-ы радкі - сумежнай, або парнай (ВВ), рыфмай (мужчынскай і жаночай).

Апошні верш М. Багдановіча "У краіне светлай..." напісаны катрэнам*, або чатырохрадкоўем; рыфма - перакрыжаваная (АБАБ). Рыфма жаночая (націск падае на перадапошні склад).

10. Апавяданне, бо ў ім ёсць сюжэт (апісанне дзяцінства і юнацтва лірычнага героя, узаеміны і каханне да дачкі суседзяў Забелаў, сустрэчы і ростані, светлы сум і ўспаміны пра каханне). Апавяданне напісана не празаічнай, а вершаванай мовай, прыкметамі якой з'яўляюцца строфіка, рытм, рыфма, а галоўнае - пачуццёвасць, уз-

рушанасць, усхваляванасць, выяўленне ўнутранага стану героя, яго думак і пачуццяў, філасафічнасць твора.

11. Перыфраза Джаванні, узятая М. Багдановічам за эпіграф, азначае ідэал. У творы М. Багдановіч увасобіў свой ідэал высокай красы, якая адна толькі і здольна пакінуць след у памяці і душы, натхняць яе: *А ў сэрцы хараша было, там запалілася святло.*

12. Крым, Ялта. А кніга "з друкарні пана Марціна Кухты" - адзіны прыжыццёвы зборнік "Вянок".

"Пераглядаю гэтымі днямі свой "Вянок". Недахватаў розных - гібель... Але ў ёй усё ж такі ёсць і творчасць, і натхненне, і сур'ёзная праца. Узяў я карандаш, палавіну вершаў выкасаваў зусім, другую прабую абгладзіць. Дадам да гэтай другой палавіны лепшыя з вершаў 1912-1915 гг., і выйдзе зборнік "Маладзік" або "Красавік".

...Выйдзе яшчэ адзін зборнічак -"Пярсцёнак". А з вершаў апошняга часу і трэці - "Шыпшына". М. Багдановіч. 1915 г."

13. Зборнік "Шыпшына".

14. [сх'і-л'і-ла-с'а], [з'і-ја-ју-чы].

*Пекнасць.*

*Пекнасць* - назоўнік; уласцівасць *пекнага;*

*пекнасць пекны* (суфіксальны спосаб).

*Зачараванны.*

*Зачараваны* - дзеепрыметнік; той і такі, якога *зачаравалі.*

*Зачараваны* <— *зачараваць* (суфіксальны спосаб).

Камплект № 24

1. Складаназалежны сказ з даданым азначальным. Галоўны сказ ускладнены пабочным сказам *я верую,*

аднароднымі выказнікамі *не зсісне, а рынецца* і параўнальным зваротам *майляў крыніца.* Дадены азначальны сказ далучаецца да галоўнага злучальным словам *каторая,* якое з'яўляецца дзейнікам. Дадены сказ ускладнены аднароднымі акалічнасцямі спосабу дзеяння і адасобленай акалічнасцю спосабу дзеяння, выражанай дзеепрыслоўным зваротам.




2. Намінатыўны, указальны сказ, ускладнены развітым звароткам, выражаны клічнай формай назоўніка, як, да прыкладу: "Здароў будзь, зямляча!", "Брацця! Ці зможам грамадскае гора?", "Краю мой родны!", "Успамянём, мой дружа, у багатай чужыне аб беднай, далёкай сваёй старане".

Тыповыя для беларускай мовы звароткі ўласцівы і паэтычным радкам Янкі Купалы, прычым клічную форму набываюць не толькі традыцыйныя словы-звароты *(браце, дружа, нябожа, паночку, старча),* але і словы, арыентаваныя на кніжную сферу ўжытку: *дэпутаце, украінча:* "Пасаромся, дэпутаце...", "Гэй, песняру мой, браце мой родны...", "Чаго вам хочацца, панове, які вас выклікаў прымус забіць трывогу аб тэй мове, якой азваўся беларус?"

3. Пра афарыстычнасць, філасафічнасць творчасці М. Багдановіча.

Усе **крылатыя выслоўі** (пра гэта сведчыць іх "крылатасць") шырока ўжываюцца, сталі сапраўднымі літаратурнымі прыказкамі.

Усведамленне сэнсу гэтых выслоўяў залежыць ад сітуацый.

3.3. Так можна сказаць і пра пісьменніка, для якога няма забароненых тэм, і пра мудрага чалавека, які здольны атрымаць урок, зрабіць вывад з любой парады, непрыемнай сітуацыі і ў будучым скарыстаць вопыт для дасягнення мэты, насуперак усяму.

3.4. Часам пазбавіцца ад ілюзій ці іншых памылак можна толькі праз адмоўны вопыт, непрыемнасці, горкую праўду. Прыгадаем, як многа дало Лявону Зяблiку бадзянне па судах: толькі ў выніку гэтага ён пазбавіўся ад ілюзій, што пры такім рэжыме можна знайсці праўду, дабіцца справядлівасці праз суд.

3.9. Гэта крылатае выслоўе аналагічна біблейскаму "не хлебам адзіным жыве чалавек". Яго прыгадваюць, калі даводзяць пра ролю духоўнага ў жыцці грамадства. Тое ж самае сцвярджаў Мікола Гусоўскі, славячы Вітаўта, які "перад багаццем і шчасцем зямным пастаянна ставіў багацце духоўнае - злата дзяржавы".

4. Афарызмы Коласа глядзіце ў адказах на пытанне № 14 камплекта № 20.

5. Сяргей Вакар з'яўляецца аўтарам выдатнага помніка Максіму Багдановічу. Помнік пастаўлены ў цэнтры Мінска, недалёка ад дома, дзе нарадзіўся паэт.

6. *Маладзік, сход, поўня, ветах.*

*Маладзік* - малады месяц, месяц у 1-й квадры.

*Сход* - месяц на зыходзе, перыяд ад поўні да ветаху.

*Поўня* - фаза месяца, калі ён відзён увесь (поўны).

*Ветах* - месяц у апошняй квадры, на зыходзе, стары (ветхі).

Месяц ноччу, што натхніла паэта на верш і якую ён так вобразна апісаў, быў у першай квадры, у маладзіку, пра што сведчыць эпітэт *і маркотныя месяца рожкі.* Маркотныя, сумныя, павернутыя ўніз, што нагадвае выяву тэатральнай маскі, якая сімвалізуе смутак, трагедыю.

7. Эпітэты: *змейкай срабрыстай, маркотныя рожкі, морозную мглу;*

параўнанні і метафары: *уюцца змейкай... дарожкі; месяца рожкі;*

перыфраза: *брызгі золата ў небе* - зоркі;

аманімія - *месяц;* полісемія (мнагазначнае, пераноснае значэнне) - *золата.*

8. Складаны сказ з рознымі відамі сувязі: падпарадкавальнай, бяззлучнікавай і злучальнай.

Паміж простымі, звязанымі злучальным злучнікам і, коска не ставіцца, бо ў іх ёсць агульны для двух сказаў член - акалічнасць часу *ў пору.*




9. Агульнае - асацыятыўнасць, параўнанне, апісанне нейкай падзеі, з'явы, факта з мэтай філасофскага абагульнення, выяўлення пісьменніцкай філасофскай думкі, канцэпцыі.

Тэма "Санета" - патрыятычная; ідэя - выяўленне аптымізму, веры ў свой край, народ, яго сілы, светлую будучыню, як і ў вершы "Беларусь, твой народ дачакаецца".

Верш "Бывае, вада перапоўніць" - на тэму паэта і паэзіі. Ідэя верша - у відавочнай біблейскай рэмінісцэнцыі: *Адзін дае людзям ізлішкі, другі ўсё, што мае.* Гэты "другі" - паэт. Толькі такі, ва ўяўленні М. Багдановіча, сапраўдны паэт: самаахвярны, што аддае сябе Радзіме і народу без астатку, аддае *апошні свой скарб.*

*10. Ставок,* сажалка - пруд (руск.).

11. Скарб, багацце, каштоўнасць. У кантэксце - талент, душа, сэрца, розум.

Камплект № 25

2, 6. Апокрыфы* - своеасаблівы від і жанр царкоўна-рэлігійнай літаратуры. Гэтыя творы тэматычна звя-

заны з Бібліяй, але па змесце разыходзяцца з афіцыйна прынятай легендай, таму яны і былі забаронены царквой. Неафіцыйны характар, дэмакратызм і арыгінальнасць зместу, займальнасць забяспечылі апокрыфам папулярнасць у насельнікаў.

Біблейскія рэмінісцэнцыі* вельмі моцныя ў творчасці М. Багдановіча: прыгадаем "Страцім-лебедзь".

Роля біблейскіх рэмінісдэнцый у "Апокрыфе" надзвычай разнастайная - ад апоры на аўтарытэт Бібліі і яе галоўнай ідэі да прытчавасці як асноўнага мастацкага сродку. Але галоўнае - гэта стварэнне мнагазначнасці, вобразнасці і напаўненне філасофскім зместам.

Модным было перакананне М. Багдановіча, што народ, які не ўсведамляе ролі духоўнага ў сваім жыцці і грэбуе духоўным, пазбаўлены будучыні, бо ў рэшце рэшт страчвае і матэрыяльнае, і духоўнае. У "Апокрыфе" гэта вечная біблейская ісціна напоўнена нацыянальным зместам: "І хадзіў ён па ўсяму нашаму краю: і па Міншчыне, і па Віцебшчыне, і па Магілёўшчыне, і па Задзвінскай зямлі...". Лепш за іншых М. Багдановіч усведамляў, што калі не вырашаць праблему духоўнасці, то праблематычным стане само існаванне нашай нацыі. Таму твор і яго ідэя вельмі актуальныя і сучасныя сёння.

"Апокрыф" - твор філасофскі і таму дапускае ў прачытанні яго і акцэнты на іншыя праблемы, у прыватнасці на праблему і ролю мастака і мастацтва ў грамадстве. На мастацтва як частку духоўнасці і ўмову яе адначасова. Васількі - сімвал духоўнасці наогул і мастацтва ў прыватнасці.

3. Ідэя твора сфармулявана ў афарыстычным, што стала крылатым, выслоўі* "нашто каласы, калі няма васількоў", аналагічным біблейскаму "не хлебам адзіным", але больш катэгарычным, настойлівым, бо для нашай нацыі гэта сапраўды пытанне жыцця і смерці. Пра неабходнасць усведамлення гэтай ісціны прароча папярэ-

джваў нас Максім Багдановіч самымі апошнімі радкамі "Апокрыфа": *Але гора вам, людзі...*

4. *Васількі* - валошкі.

Травіца-брат-сястрыца, браткі, братаўкі; падбел; крываўнік; медуніца; здрыжнічкі; дзьмухавец;

праўдзівікі, маслякі, чырвонагаловікі, рыжыкі, савякі.

Усе назвы - **матываваныя.**

5. *Благое* (зелле) - кепскае, дрэннае, непатрэбнае, шкоднае.

*Благое* (намерение) у рускай мове - добрае.

*Твар* - аблічча і *тварь* (руск.) - а) мерзость, б) живность.

*Дыван* - кілім. *Диван* (мяккая мэбля) - канапа (пабеларуску).

7. Якая роля духоўнага ў жыцці народа і чалавека? Чаго варты матэрыяльныя каштоўнасці без духоўнага? Якая роля музыкі (мастака) у грамадстве?

8. *Жыта, васількі, колас.*

"Даўно ўжо затапталі вы іх (сляды Хрыста)" - забыліся на вечныя ісціны, грэбуеце вечнымі каштоўнасцямі, не клапоціцеся пра душу і духоўнае, парушаеце "законы прироженыи".

"Няма лепш цвяточка над васілёчка" - няма нічога даражэйшага і мілейшага за роднае.

9. *Жнейкі* - тыя, што жнуць;

*спажытак* - тое, што ўжыта, што неабходна для жыцця;

*гаспадар* - той, хто валодае дарам Госпада, каму *Гасподзь даў.* Гістарычна гэта слова складаецца з двух, як у рускай мове *судьба* - суд Бога;

*збожжа* - тое, што дадзена Богам, самае галоўнае для жыцця.

10. Тэй - той;

*паўчаючы* - павучаючы;

*маглíся бы* - маглі б;

з *каранем - з* коранем, з карэннем;

*шчасліў* - шчаслівы;

*няма лепшага цвяточка* (лепшай кветачкі), *чым васілёчак* (за васілёчак) - *нет цветочка лучше василёчка.*

Камплект № 26

1. Першы сказ - просты, двухсастаўны, ускладнены аднароднымі дзейнікамі, перад якімі ставіцца двукроп'е, бо ў сказе ёсць абагульняльнае слова.

2-і сказ - просты, двухсастаўны, неразвіты.

3-і сказ - склаДаны, бяззлучнікавы, у якім 3 аднатыпныя (двухсастаўныя з аднароднымі выказнікамі і інверсійным парадкам слоў) звязваюцца інтанацыйна.

4-ы сказ - просты, безасабовы.

5-ы сказ - складаназалежны з даданым акалічнасным мэты.

6-ы сказ - складаназалежны з даданым азначальным, ускладненым аднароднымі выказнікамі, які з галоўным сказам звязваецца злучальным словам *катораe.* Галоўны сказ двухсастаўны, няпоўны, у ім апушчаны дзейнік *кусцікі,* які лёгка ўзнаўляецца з папярэдняга сказа. Сказ ускладнены выказнікам-паўторам і аднароднымі выказнікамі.

(Стала) *жыць* - частка састаўнога дзеяслоўнага выказніка;

(сталі) *шаптацца* - частка састаўнога дзеяслоўнага выказніка;

(прыдумалі) *узгадаваць* - дапаўненне;

*паправіць* - выказнік.

2. **Мастацкі стыль,** бо мэта тэксту - эстэтычнае ўздзеянне на духоўны свет чытача. Мастацкая вобразнасць дасягаецца алегарычнымі вобразамі, метафарамі (*сталі шаптацца паміж сабой кусцікі; прыдумалі ўзгадаваць і* інш.), эпітэтамі *(цёмныя ночкі, ад страшэнных навальніц).*

Тэксту ўласціва канкрэтнасць, эмацыйнасць, што дасягаецца ацэначным характарам моўных сродкаў *(кусцікі, лісточкі, страшэнныя, карэньчыкі, ночкі, ввлізарнае).*

3. Насычанасцю аднароднымі членамі дасягаецца паўната апісання. Інверсіяй* (*ветры лютыя, навальніцы страшэнныя, паводкі глыбокія, галінамі сваімі, ад паводак бараніла, гулялі ветры, каціліся паводкі* і інш.), паўторамі *(раіліся, раіліся; дрэнна, зусім дрэнна),* аднатыпнай канструкцыяй сказаў і членаў сказа дасягаецца рытмізаванасць мовы, эмацыйнасць і пачуццёвасць апісання.

Сродкі сувязі - паўтор слова *кусцікі,* займеннікі *іх, ім.*

4. *Гадунец* - гадаванец, выхаванец, вучань, паслядоўнік. *Гадунец* - гэта і вырашчаная, выгадаваная расліна або жывёла.

5. *Сталі шаптацца паміж сабой;*
*думалі ўзгадаваць паміж сябе:*

6. *Разра[с'л']іся, ку[с'ц']ік,і, [з'іх];*
*паво[тк']і, [с'ц']ерагло.*

7. *Каторае бы.* Сучаснае напісанне - *каторае б.*

8. *Каторае* (у апошнім сказе). Сінанімікай злучальных слоў мэтазгодна карыстацца, каб пазбегнуць таўталогіі. Сінонім - *якое.*

9. "Гадунец" - філасофскае метафарычнае апавяданне-прытча*, а паколькі філасофскае, то і прачытанне яго можа быць рознае. Нехта ўсвядоміць твор як асуджэнне бяздумнай бязмернай дабрыні і самаахвярнасці, што ўзгадавала сваю пагібель. Нехта - як перасцярогу і папярэджанне пра наступствы дыктатуры, узгадаванай неабачлівасцю, бяздумнасцю тых, хто вёў і натхняў "гадунца", хто таксама адказны за тое, што здарылася. Нехта ў прачытанні зробіць акцэнт на праблему бацькоў і дзяцей, нехта - на вечную праблему барацьбы новага са старым ці праблему чорнай няўдзячнасці і перамогі зла над дабром *(але гадунец гэты закрыў ім і... сонца).*

*І - пагінулі кусцікі!*

"Гадунец гэты" - так аўтар выявіў і свае адносіны да таго, хто сапраўды перамог. Але каго перамог? У імя чаго?

10. Байкі* ("Дачэсныя");

рэалістычныя апавяданні ("Зарабляюць", "Гаротная");

метафарычныя апавяданні ("Бярозка", "Гадунец", "Дуб-Дзядуля");

вершы ў прозе* ("Раны", "Васілёк", "Чаму?");

казкі* ("Што сказаў певень", "Падласенькі");

прытчы* ("Хлеб", "Баба");

анекдоты* ("Пазыка", "З маленькім білецікам");

раман* ("Золата").

11. Сатырычная накіраванасць, жанравая разнастайнасць, алегарычнасць - агульнае ў творчасці К. Крапівы і Ядвігіна Ш. Пры ўсёй разнастайнасці творчасці К. Крапівы і Ядвігіна Ш. байка - асноўны жанр. Аднак К. Крапіва - байкапісец, а Ядвігін Ш. - баечнік. "Няма спрэчкі, што ў асобе Ядвігіна Ш. мы маем аднаго з найлепшых баечнікаў нашых часоў", - пісаў М. Багдановіч. Баечнік - збіральнік, апрацоўшчык, інтэрпрэтатар сюжэтаў народных баек, прытчаў і інш.

Камплект № 27

1. Верш у прозе*. Твор паэтычны па змесце і празаічны па форме выяўлення гэтага зместу. У ім няма вершаванага рытму, метра і рыфмы, але твор вылучаецца іншымі прыкметамі паэтычнага выказвання:

вобразнасцю, канцэнтрацыяй тропаў;

павышанай эмацыйнасцю і асацыятыўнасцю паміж асобнымі паняццямі;

сінтаксісам (паўторы, інверсія і інш.);

кампазіцыяй (падзел на абзацы, што нагадваюць строфы);

адсутнасцю сюжэта і філасофскай заглыбленасцю.

М. Гарэцкі "Стогны душы"; З. Бядуля "Плач пралескаў"; Я. Брыль "Жменя сонечных промняў"; З. Прыгодзіч "Валошкі" і інш.

2. Анафара: "Бываюць раны большыя і меншыя", "Меншыя...", "Большыя...".

Градацыя - паступовае павышэнне, узмацненне эмацыйна-сэнсавай выразнасці пэўных слоў ці выразаў, што ўзмацняе экспрэсію выказвання, асабліва калі адначасова ўжываюцца якія-небудзь паўторы (у дадзеным творы іх мноства):

Гэтак на целе.

Гэтак на сэрцы.

Гэтак на душы.

Менавіта паўторы і градацыя ў дадзеным творы нясуць найбольшую нагрузку ў выражэнні ідэі: самыя цяжкія і незагойныя, невылечныя раны - душэўныя.

Па прынцыпу градацыі ў гэтым творы групуюцца і іншыя словы, да прыкладу: *рубцы, крывавяцца* і *смерць.*

3. Працяжнікі ў тэксце - аўтарскія. Больш правільна назваць іх не аўтарскімі (усе знакі ў аўтографе - і нарматыўныя, і індывідуальныя - належаць, безумоўна, аўтару), а інтанацыйнымі, або эмфатычнымі*. Гэта не свавольства аўтара, а сродак сэнсава-інтанацыйнай маляўнічасці, выяўленне аўтарскай канцэпцыі. Нагадаем верш У. Караткевіча, прысвечаны М. Багдановічу:

Мы табой ганарымся - і плачам,
Мы нясём цябе ў сэрцы праз дым.
Нізка голаў схіляю, юнача,
Перад вечным глаголам тваім!

Тут працяжнік паміж аднароднымі членамі, звязанымі злучнікам і.

Шматкроп'е ў сярэдзіне сказа абазначае замінку, пошукі належнага спосабу выражэння думкі, хваляванне, раптоўны пераход да іншага і парадаксальнасць выкладзенай думкі. Такая матывацыя цалкам адпавядае пастаноўцы шматкроп'я ў канкрэтным творы.

4. [ ш ] - 5; [ ч ] - 1; [ э ] - 5; [ з'] - 0; [ л'] - 4; [ і ] -1.

5. Складаны сказ з рознымі відамі сувязі. Працяжнікі ў другім простым сказе можна ўсведамляць як эмфатычныя знакі.

Першы просты двухсастаўны сказ ускладнены пабочным кампанентам *(праўду кажучы)* і аднароднымі часткамі састаўнога іменнага выказніка.

Другі просты двухсастаўны сказ з далучальна-ўдакладняльнай, вылучальнай часткай, у якую ўваходзіць пабочнае слова. Якраз гэта далучальная частка мае больш важнае значэнне, большую інфарматыўную змястоўнасць, што і аформлена спалучэннем знакаў - косак і працяжнікаў.

Гэты другі просты сказ з'яўляецца галоўным у складаназалежным сказе з паслядоўным падпарадкаваннем. Першы дадзены сказ прычыны звязваецца з галоўным падпарадкавальным злучнікам *бо.* Гэты сказ двухсастаўны (граматычная аснова - <u>*гара была страшэнная*</u>*).*

Другі дадзены азначальны сказ адносіцца да першага дадзенага, паясняе ў ім слова *гара* і звязваецца з ім злучальным словам *дзе.* Гэты сказ таксама двухсастаўны (граматычная аснова - <u>*нічога не радзіла*</u>*),* адмоўны, ён ускладнены вылучальнымі аднароднымі дапаўненнямі *апроч грэчкі ды ярыцы.*

З гэтым складаназалежным сказам злучальнай сувяззю (супраціўным злучнікам *але)* звязваецца яшчэ адзін складаназалежны сказ з дададным азначальным сказам *што аж дзівіўся народ,* які паясняе ўказальнае слова *такі*

ў галоўным сказе, якое з'яўляецца азначэннем. Абодва сказы двухсастаўныя, толькі дадзены сказ - неразвіты.

З гэтым складаназалежным сказам бяззлучнікавай сувяззю звязваюцца два аднародныя намінатыўныя, а дакладней, эмацыйна-ацэначныя сказы *веліч, таўсціня.* І нарэшце, апошняя сінтаксічная частка - зноў складаназалежны сказ з дадзеным акалічнасным меры і ступені, які звязваецца з галоўным сказам *а сукі так разрасліся* падпарадкавальным злучнікам *што* і паясняе ў ім указальнае слова *так* у ролі акалічнасці. З другім намінатыўным сказам гэты складаназалежны звязваецца злучальным злучнікам *а.* Схема сказа:




6. *Амаль не ўся веска* - назоўнікавае, дапасаванне;

*зайздросціла мне* - дзеяслоўнае, кіраванне;

*зайздросціла надзелу* - дзеяслоўнае, кіраванне;

*майго надзелу* - назоўнікавае. Пра дапасаванне гаварыць няма падставы, бо ў кантэксце галоўнае слова стаіць у давальным склоне, а залежнае ў родным. Сінтаксічныя нормы патрабуюць поўнага "суладдзя" ў словазлучэннях, звязаных сувяззю дапасавання: *майму надзелу.* Літаратурная норма патрабуе ў дадзеным кантэксце прыназоўнікавага кіравання:

*зайздросціла мне з-за майго надзелу* (зайздросціла з-за надзелу) або інтанацыі ўдакладнення, што вымагае і пастаноўкі адпаведнага знака - коскі: *зайздросціла мне, майму надзелу.*

7. Узмацнілася адмоўнае значэнне.

8. *Праўду кажучы; можа.*

Першы пабочны кампанент прызначаны для інтымізацыі адносін гаворачай асобы да слухача з мэтай пераканаць, запэўніць, выклікаць давер.

Другі пабочны кампанент выражае ацэнку верагоднасці, няпэўнасці таго, пра што гаворыцца ў сказе.

9. Стыль тэксту - мастацкі, пра што сведчыць і мэта зносін - эстэтычнае ўздзеянне на духоўны свет чалавека праз мастацкія вобразы, і сфера прымянення - мастацкі твор, у прыватнасці апавяданне. Мастацкі прыём твора - аповед не ад асобы аўтара, а ад асобы аднаго з літаратурных персанажаў з мэтай большага ўздзеяння, пераканаўчасці, рэалізму - патрабуе адпаведнага стылістычнага афармлення. Прыведзены ўрывак з апавядання Ядвігіна Ш. вызначаецца ўжываннем элементаў гутарковага стылю: пабочныя словы, узмацняльныя часціцы *(ані, аж),* формы суб'ектыўнай ацэнкі *(страшэнная, веліч, таўсціня, зямліца),* размоўна-бытавая лексіка, паўтарэнні, фразеалогія *(свет бы под сябе хацеў падгарнуць),* далучальныя канструкцыі і інш.

10. *Больш\ы\ выгаднейш\ы\, лепш\ая\, горш\ая\, страшэнн\ая\.*

*Страшэнная* - прыметнік; які наводзіць *страх.*

*Страшэнны* <— *страх* (суфіксальны спосаб).

*Выгаднейшы* - прыметнік; у якім якасці больш, чым у *выгадным.*

*Выгаднейшы выгодны* (суфіксальны спосаб).

*Большы, лепшая, горшая* - граматычныя формы ступеняў параўнання, утвораныя ад розных каранёў: *вялікі, добрая, кепская.* Гэтыя формы ўтвораны шляхам суплетывізму*.

11. "Дачэсныя"- байка* з прыкметамі памфлета*.

*Дачэсныя* - бессаромныя, несумленныя, нячэсныя, крыжа на такіх няма.

У вобразе гаспадыні пісьменнік паказаў такую выяву зла, як сквапнасць, несправядлівасць, несумленнасць, чорную няўдзячнасць, калі за дабро плацяць злом. Гэтым вобразам пісьменнік сцвярджае, што зло спараджае толькі зло, азвярэласць, помслівасць, носьбітамі якіх у байцы з'яўляюцца ваўкі, што некалі былі найлепшымі хатнімі прыяцелямі і вартаўнікамі.

Леў увасабляе дыктатуру, правадырызм, уладу нагогул, якая ўсталёўвалася ў выніку давядзення грамадства да стану азвярэласці, калі "свой свайго не пазнае". "Не перабіраючы, што і чыё, хапайце і ежце", - раіць леў ваўкам. Рабуй нарабаванае, жыві ў лесе, дзе правіць закон сілы. Леў і ёсць увасабленне страшнай разбуральнай сілы, здольнай абудзіць усё самае нізкае ў іншых, арганізаваць іх і маніпуляваць імі ў сваіх мэтах. Усё - дзеля таго, каб "паміж згоднай даўней воўчай сям"і пачаліся звадкі, завялося шальмоўства". Каб "загаціць пекла да варотаў", каб "няпраўда праўду акілзала", як вобразна сказаў Купала. Каб машына Кафкі круцілася і рабіла сваю жудасную справу, - у яе трэба заліваць паліва: "даўгавечную карову" прыдумаў леў для ваўкоў, якія "не толькі малако дачыста сцягнуць, але цісн уць, ажно пакуль да крыві не дабяруцца", "ціхачом, а хоць кавалачак і лыткі з беднай жывёлы" ўрвуць. Ведама ж - не свая карова, агульная.

Каторая ж з выяў зла самая страшная? Адназначнага адказу тут быць не можа, бо нехта будзе даводзіць, што - несправядлівасць як першапрычына ўсіх астатніх бед і няшчасцяў. Нехта будзе даводзіць, што найбольшай сілай валодае зло, надзеленае ўладай.

Нехта будзе мець рацыю, робячы акцэнт на праблеме адказнасці, бо, сапраўды, той, хто дазваляе сабой маніпуляваць, ужо перастае быць толькі ахвярай, а становіцца хаўруснікам зла і яго носьбітам - таксама дачэсным.

1. Складаны сказ з рознымі відамі сувязі. Галоўны сказ (двухсастаўны, развіты) разрываецца чатырма аднародным! даданымі акалічнаснымі сказамі, якія паясняюць акалічнасць *уночы* ў галоўным сказе і звязваюцца з імі злучальным словам *калі,* агульным для ўсіх чатырох даданых сказаў. Усе даданыя аднародныя сказы звязваюцца паўторнымі злучнікамі *і* і злучнікам *ды* ў значэнні і. У такім выпадку коскі ставяцца, як пры аднародных членах сказа, г. зн. перад другім і, якое звязвае другі і трэці даданыя сказы.

Першы дадзены сказ - двухсастаўны развіты. Другі - двухсастаўны, ускладнены аднароднымі выказнікамі. Трэці і чацвёрты - двухсастаўныя развітыя. Галоўны сказ - двухсастаўны, ускладнены аднароднымі адзіночнымі адасобленымі азначэннямі, якія стаяць пасля азначаемага слова *агонь.*

Коска з працяжнікам ставіцца таму, што гэта сказ з характэрнымі рысамі перыяду - выразным падзелам на дзве часткі, анафарычнай будовай сказаў першай часткі. Схема сказа:




Апошні сказ - складаназалежны з паслядоўным падпарадкаваннем.

Галоўны сказ разрываецца двума даданымі і ўскладнены пабочным словам. Першы дадзены азначальны сказ паясняе назоўнік у галоўным сказе і звязваецца з ім злучальным словам *якім* у ролі акалічнасці. Другі дадзены азначальны паясняе назоўнік у першым даданым і звязваецца з ім злучальным словам *дзе* ў ролі акалічнасці.

Схема сказа:




2. [С'арод гэтых], [н'і с к'ім], [патрымл'івала], [с'в'ац'ілас'а], [спадн'ізу], [з'н'эйк'іх], [раск'інуўс'а], [с'аротыдн'а], [н'абачыла].

3. *Лятункі,* летуценні, мроі, мары - мечты;

*доля,* лёс, наканаванне - судьба;

*уцеха,* суцяшэнне - утешение;

*неразгаданы,* таемны, таямнічы, загадкавы, незразумелы - неразгаданный;

*не наракала,* не скардзілася, не жалілася, не плакала, не крыўдзілася - не нарекала.

4. 5. Мастацкі, бо сферай яго выкарыстання з'яўляецца мастацкі твор, у дадзеным выпадку - філасофскае алегарычнае апавяданне, "казка жыцця", якая рэалізуе эстэтычную функцыю ўздзеяння праз мастацкія вобразы, экспрэсіўныя і выяўленчыя сродкі мовы, пераносна-вобразныя значэнні слоў (метафары: *не бачыла яна* (бярозка) *сонца; не наракала ніколі на сваё сірочае існаванне; пачувала волю; ні з кім не гаварыла;* эпітэты: *сумным вокам; незайздросная доля; сірочсіе існаванне; агонь, бледны, неразгаданы і прыемны;* параўнанні: *я к чужаніца; месяц сумным вокам).* Інверсія (*не бачыча яна; патыхаў ветрык; заціхалі птушкі; гарэў агонь; расла бярэзінка* і інш.), аднародныя сінтаксічныя канструкцыі надаюць мове тэксту рытмізаванасць, эмацыйнасць, мінорнасць. Насычанасць тэксту аднароднымі азначэннямі, дапаўненнямі спрыяе паўнаце апісання. Экспрэсія і лірызм дасягаюцца таксама ўжываннем назоў-

нікаў з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі: *бярозка, бярэзінка, ветрык, астравок.*

Сродкі сувязі ў тэксце - паўтор слова і яго форм, асабовыя займеннікі.

7. *Бярэзінк\а\, неразгадан\ы\, наракал\а\.*

*Бярэзінка* - назоўнік, форма слова *бярэзіна.*

*Бярэзінка бярэзіна* (суфіксальны спосаб).

*Наракала* - форма прошлага часу (жаночы род) дзеяслова *наракаць,* якая ўтварылася пры дапамозе суфікса -л-.

*Неразгаданы* - дзеепрыметнік; які не разгадаць.

*Неразгаданы* <— *неразгадаиь* (прыставачна-суфіксальны спосаб).

8. Філасафічнасцю, большай ступенню іншасказальнасці. Алегорыя баек заўсёды напоўнена сатырычным зместам, да таго ж у байках яна заўсёды адназначная. Алегорыя ў "Казках жыцця" Я. Коласа напоўнена філасофскім, шматзначным сэнсам, яна сімвалічная і служыць для выяўлення філасофскай і пісьменніцкай канцэпцыі. І ўсведамленне яе чытачамі таксама неадназначнае, яно залежыць ад іх прачытання. І не толькі дрэвы "да гэтага часу вядуць спрэчку", "ці добра зрабіў вяз, развеяўшы гэты туман, гэты прыгожы туман зменнага шчасця беднай бярэзінкі", але і ў чытачоў не можа быць адназначнага адказу на гэта пытанне, адназначнага ўсведамлення філасофіі твора.

9. Галоўная філасофская праблема - што лепей: горкая праўда ці салодкая мана? Што лепей: жыць мроямі і лятункамі ці праўдай жыцця, якой бы горкай яна ні была? Алегорыя казкі "Кажух старога Анісіма" таксама філасофская і шматзначная. Нехта ўсвядоміць Анісіма і яго кажух як сімвал старога, рэакцыйнага, аджыўшага і шкоднага, з якім, як тыя хлопцы, трэба весці бязлітасную

барацьбу. Нехта - як спадчыну мінулага, у якой не ўсё так кепска, з якой трэба не змагацца, а берагчы і захоўваць. Нехта наогул усвядоміць кажух як маральныя прынцыпы, духоўны вопыт і ідэалы, з якімі іх носьбіты ні пры якіх абставінах не могуць развітацца і паступіцца імі. Ці патрэбна з імі змагацца? Можа, наадварот, - паважаць прынцыпы тых, хто жыве побач, нават калі яны састарэлі, калі яны не такія, як усе. Можа, трэба быць да іх цярпімымі і цярплівымі, а не ваяваць і вынішчаць?

10. Байку справядліва лічаць сатырычнай камедыяй у мініяцюры. Паміж байкамі Крапівы і камедыямі А. Макаёнка многа агульнага: сатырычная накіраванасць, злы здзеклівы смех, іронія, гратэск; камічная сітуацыя як найлепшы сродак выявіць і высмеяць зло ў любых праявах; дыялогі і маналогі; выкарыстанне прыказак, прымавак; афарыстычнасць.

Камплект № 29

1. Складаназалежны сказ з паслядоўным падпарадкаваннем. Галоўны сказ двухсастаўны, развіты, ускладнены аднароднымі азначэннямі. Першы даданы азначальны сказ звязваецца з галоўным злучальным словам *які* ў ролі дзейніка. Сказ двухсастаўны, ускладнены аднароднымі акалічнасцямі *з баек, вершаў.* Другі даданы азначальны паясняе назоўнік *вершаў* у першым даданым і звязваецца з ім злучальным словам *што* ў ролі дзейніка.

Схема сказа:



Трэці сказ - складаназалежны з сузалежным неаднародным падпарадкаваннем. Галоўны сказ (двухсастаўны, развіты) разрываецца першым даданым азначальным, які звязваецца з галоўным сказам злучальным словам у ролі дзейніка і паясняе ў галоўным слова *стыхія.* Другі' дададзены азначальны сказ паясняе ў галоўным сказе ўказальнае слова *такой* у ролі азначэння і звязваецца з ім злучальным словам *што.* Сказ ускладнены аднароднымі азначэннямі. Схема сказа:




Чацвёрты сказ - складаны бяззлучнікавы. Першы просты - двухсастаўны. Другі просты сказ двухсастаўны, развіты, ускладнены аднароднымі дапаўненнямі і аднароднымі адасобленымі акалічнасцямі, выражанымі дзеепрыслоўнымі зваротамі. Гэты сказ раскрывае, паясняе, удакладняе сэнс першага простага, таму паміж імі ставіцца двукроп'е. Трэці просты таксама двухсастаўны, развіты, ускладнены аднароднымі дзейнікамі.

2. **Публіцыстычны,** сфера выкарыстання якога - публіцыстычны артыкул, асноўная функцыя - інфармацыя пра адметнасць творчасці К. Крапівы і яе прапаганда. Тэксту ўласцівы даходлівасць, эмацыйнасць, у ім выразна акрэслены аўтарскія адносіны да апісанага, у прыватнасці да К. Крапівы і яго творчасці: захапленне *(акружанае народной любоўю імя; вялікі талент* і інш.), усведамленне яе значнасці і непаўторнасці. Шырока выкарыстоўваецца ў тэксце грамадска-палітычная лексіка і фразеалогія (*талент; свежую газету; самадзейныя*

*спектаклі, сходкі; размаўляў са сваім чытачом; убачылі свет; забяспечыла паэту-сатырыку самую широкую і ўдзячную аўдыторыю; шырокавядомае... імя прыйшло ў літаратуру; у пачатку дваццатых гадоў; уваходзіць у родную глебу* і інш.), рэсурсы стылістычнага сінтаксісу (насычанасць аднароднымі членамі).

Галоўным сродкам сувязі ў тэксце з'яўляюцца сінонімы: *Кандрат Крапіва; паэт-гумарыст і сатирик; вялікі талент; у крапівінскім таленце.*

3. *Аўдыторыя* - слухачы, чытачы. Другое, асноўнае, значэнне гэтага слова - памяшканне, прызначанае для чытання лекцый, дакладаў.

*Гісторыя* - расказ, апавяданне, аповед.

Слова **мнагазначнае:**

Рэчаіснасць у працэсе развіцця. *Законы гісторыі.*

Сукупнасць фактаў і падзей, якія адносяцца да мінулага чалавечага грамадства. *Беларусь увайшла ў гісторыю як краіна-партызанка.*

Навука аб развіцці чалавечага грамадства. *Гісторыя Рэспублікі Беларусь.*

Навука, якая разглядае паслядоўнае развіццё, змяненне якой-небудзь галіны прыроды або культуры. *Гісторыя беларускай літаратуры.*

Паслядоўнае развіццё чаго-небудзь. *Гісторыя народной дыпламатыі.*

Сукупнасць фактаў і падзей, звязаных з нечым. *Сямейная гісторыя.*

Здарэнне, падзея, выпадак. *Камічныя гісторыі з уласнсіга жыцця.*

Прыкметай **полісеміі** з'яўляюцца наяўнасць ва ўсіх словах некалькіх звязаных паміж сабой значэнняў, якія развіліся з першапачатковага. Мнагазначнымі з'яўляюцца словы *крыло* (8 значэнняў), *зямля* (6) і інш. Усе значэнні гэтых слоў падаюцца ў тлумачальных слоўніках у адным артыкуле пад лічбамі 1, 2, 3 і г. д.

**Амонімы** - словы, семантычна не звязаныя паміж сабой. У тлумачальных слоўніках раскрыццю лексічных значэнняў слоў-амонімаў прысвячаецца адпаведная колькасць слоўнікавых артыкулаў. *Бабка, бокс, кран, ліст* - амонімы.

4. *Рагатала ўся Беларусь; забяспечыла паэту-сатырыку самую шырокую і ўдзячную аўдыторыю.*

**Метанімія** - гэта перанос назвы аднаго прадмета ці з'явы на іншы прадмет ці з'яву на аснове сувязі паміж імі. Сувязь можа быць паміж прадметам і матэрыялам, з якога зроблены прадмет; посудам і змесцівам; месцам і людзьмі *(Беларусь - краіна* і *Беларусь сустракала);* прадметам і яго ўладальнікам; аўтарам і яго творам.

5. *Крапіва, крапівінскі* (талент);

*абыходзіліся, сходкі, уваходзіць;*

*сатырык, сатырычных;*

*перасмешнікі, смех;*

*досціп, дасціпнасць.*

*Крапівінскі* - прыналежны прыметнік; які належыць Крапіве.

*Крсіпівінскі* <— *Крапіва* (суфіксальны спосаб).

*Сатырык* - назоўнік; той, хто працуе ў жанры *сатыры.*

*Сатырык* <— *сатыра* (суфіксальны спосаб).

*Сатырычн\ы* - марфемны аналіз (для параўнання са словаўтваральным).

*Сатырычны* - адносны прыметнік; які мае адносіны да сатыры, змяшчае ў сабе сатыру.

*Сатырычны* <— *сатыра* (суфіксальны спосаб).

*Дасціпнасць* - назоўнік; уласцівасць дасціпнага.

*Дасціпнасць* <— *дасціпны* (суфіксальны).

*Досціп* - назоўнік, тое, што і *дасціпнасць,* умение сказаць востра, дасціпна.

*Досціп* <— *дасціпны* (бессуфіксальны спосаб).

*Перасмешнік* - назоўнік; той, хто любіць высмейваць, выставіць на смех.

*Перасмешнік* <- *смех* (прыставачна-суфіксальны спосаб).

6. Якасныя: *напорыстай, магутнай, самую шырокую і ўдзячную, свежую, блізкай, вострых, дзіўных, вялікі, родную, вядомае, камічнага, сатырычных.*

Адносныя: *вясковыя, спрадвечную, сялянскі.*

Прыналежныя: *у крапівінскім* (таленце).

Развіццё пераносных значэнняў у адносных прыметніках прыводзіць да пераходу іх у якасныя, а прыналежныя прыметнікі набліжаюцца да адносных (у літаратуры яны іншы раз называюцца адносна-прыналежнымі): *народнай любоўю.*

З вялікай літары пішуцца прыметнікі, утвораныя ад асабовых імён і клічак жывёл пры дапамозе суфіксаў *-ев- (-ёв, -ёў), -ов- (-ав; -аў-), -ін (-ын-): Купалаў верш, Коласавы паэмы.*

З малой літары пішуцца прыметнікі, утвораныя пры дапамозе суфіксаў *-айск-, -еўск-, -інск-: крапівшскі* талент, *коласаўскія* традыцыі, *купалаўскі* рамантызм. З вялікай літары гэтыя ж прыметнікі пішуцца ў тым выпадку, калі яны ўваходзяць у састаў назваў, суадносных з назвамі са словамі "імя", "памяці": *Коласаўскія* чытанні (чытанні памяці Коласа), *Купалаўская* прэмія, *Купалаўскі* тэатр.

7. *Свежая газета,* сённяшняя. Учарашняя;

*свежы хлеб* - толькі што спечаны. Чэрствы;

*свежая прасціна* - чыстая. Брудная;

*свежае паветра* - не забруджанае, напоўненае кіслародам. Загазаванае;

*свежы вецер* - халодны. Цёплы;

*свежая афарбоўка* - яркая. Цьмяная, вылінялая, выцвілая;

*свежае лісце,* трава - зялёнае. Звялае;

*свежыя ўражанні* - выразныя, ясныя, незабыўныя. Забытыя, неакрэсленыя;

*свежы голас* - малады, сакавіты. Старэчы, хрыпаваты, сіплы, нізкі;

*свежы румянец* - здаровы;

*свежыя сілы, часці* - новыя, не знясіленыя, не стомленыя. Спрацаваныя, стомленыя;

*свежы след, свежае пажарышча, свежая рана* - якія толькі што з'явіліся, новыя. Затаптаны, стары (пра след); зажыўшая (пра рану), былыя (пра пажарышчы);

*свежы чалавек* - новы, невядомы;

*свежая думка* - арыгінальная, парадаксальная. Шэраговая, артадаксальная, састарэлая.

У фразеалагізмах:

*глянуць свежым вокам* - паглядзець што-небудзь іншаму чалавеку;

*на свежую галаву* - пасля адпачынку, пакуль не стаміўся;

*па свежых слядах* - зараз жа, адразу;

*свежая капейка* - толькі што зробленыя грошы.

8. Гумар і сатыра* - мастацкія прыёмы, заснаваныя на паказе чаго-небудзь у камічнай форме. І гумар, і сатыра - гэта смех як сродак мастацтва, але гумар - гэта "добры" смех, які ўзвышае героя, робіць яго эстэтычным, больш цікавым, блізкім і зразумелым для чытача, а сатыра - "злы" смех, які прыніжае героя, выяўляе самыя агідныя якасці, носьбітам і ўвасабленнем якіх ён з'яўляецца. Сатыра спрыяе гіпертрафіраванаму паказу зла ў мастацтве. І гумар, і сатыра - сродкі займальнасці ў літаратурным творы, праз якія пісьменнік рэалізуе геданістычную* функцыю твора, тым самым дасягае большага ўздзеяння на чытача. Гумар і сатыра - не самамэта пісьменніка,

а найперш сродак рэалізацыі і выяўлення пэўнай філасофскай канцэпцыі. Так, у вобразе дзядзькі Антося Якуб Колас стварыў ідэал чалавека, нацыянальны тып беларуса. І роля гумару як аднаго з мастацкіх сродкаў у рэалізацыі пісьменніцкай задумы не апошняя.

Міколка і дзед Астап (аповесць М. Лынькова "Міколка-паравоз"), Васька Шкетаў (апавяданне М. Лынькова "Над Бугам"), Іван і Санька (трылогія І. Сяркова "Мы з Санькам..."), цётка Марфешка і бабуля Івана з той жа трылогіі - гумарыстычныя вобразы. Роля гумару ў стварэнні гэтых вобразаў разнастайная, але ўсіх герояў ён узвышае, славіць, робіць прывабнымі для чытача.

Гарлахвацкі і Зёлкін, Моцкін і Калібераў, Дажывалаў і Караўкін, панямонскія "інтэлігенты" - толькі некалькі партрэтаў з бясконцай галерэі сатырычных вобразаў. Гэта - "свінтусы грандыёзусы", агідныя ў сваей маральнай выроднівасці. Пафасу сцвярджэння пісьменнікі-сатырыкі дасягаюць праз адмаўленне, і найпершая роля ў гэтым належыць сатыры, злому, здзеклівому, вынішчальнаму смеху.

**9. Алегорыя, сатыра, камічныя сітуацыі, выкарыстанне народнай фразеалогіі, дыялогаў і маналогаў, афарыстычнасць, "крылатасць"** - жанравыя асаблівасці байкі, і ўсе яны істотныя, а пры таленавітым выкарыстанні і спалучэнні забяспечваюць твору мастацкую вартасць. Вызначальнай жа з'яўляецца **алегорыя,** бо без яе мастацкі твор будзе іншага жанру (сатырычны верш, напрыклад, ці сатырычная камедыя), ідэя ў байцы (таго. вымагае жанр) выражаецца найперш праз іншасказальнасць - алегорыю.

10. Камічная сітуацыя найлепш выяўляе сутнасць персанажа, самыя ганебныя якасці, носьбітам якіх ён з'яўляецца, бо вымушае яго праявіць сваю сапраўдную сутнасць. Праілюструем гэта на байках К. Крапівы.

Стала баба памагаць...
Седзячы на возе.

*"Дзед і Баба"*

*Памагаць, седзячы на возе* - такая сутнасць непамерна раздутых чыноўніцкіх штатаў, бюракратаў, што пухірамі на деле ў народа, без якіх бы "каня як чорт панёс".

І наш Асёл за працу ўзяўся шчыра:
Як можна вушы свае шырай
Ён растапырыў, распрастаў
І проці Сонца стаў...

*"Сава, Асёл ды Сонца"*

Праўда, дабро непераможныя, і ўсе намаганні *Сонца засланіць* аслінымі вушамі - марныя.

...Вось толькі сяду ў каляіну,
Плячом пад кола таркану
І к чорту воз перавярну.

*"Жаба ў каляіне "*

Сіле можа супрацьстаяць толькі большая сіла, а пад *кола Жаба не падлазь* - такая філасофія байкі.

І дзіва дзіўнае было там цэлай часці,
Што можна з халастых ды "ўсе пяць куль" папасці.

*"Махалыіік Іваноў"*

Падхалімства, як і зло наогул, - бязмежныя, у падхалімаў няма ніякіх прынцыпаў, маралі.

І вось за дурасць гэту
Яго вучоным раз празвалі нейк насмех,
А каб двара не перабег,
На шыю прывязалі мету.
- Вось, - кажуць, - і дыплом табе.
Што гэта за "дыплом" - Баран ні "мя", ні "бэ",
Аднак жа перад Кошкаю пачаў ён ганарыцца...

*"Дыпламаваны Баран "*

Дурасць і тупасць самі па сабе не існуюць, яны заўсёды ў пары з пыхай, высакамер'ем, як псіхалагічна тонка заўважыў сатырык, заадно папярэдзіўшы, што вялікая небяспека ідзе не ад бараноў, а ад бараноў дыпламаваных, не ад дурасці, шэрасці, а ад шэрасці ваяўнічай.

Пралезлі праз хамут канёвы персі й ногі,
І затрымаўся ён аж ледзь на жываце.

*"Саманадзейны Конь "*

*Да славы прагныя, ды вузкія ў плячах* найлепш выяўляюцца менавіта ў сітуацыі ўлады, на пасадзе. І тады ўсім становіцца відавочна, што кароль жа голы, што хамут не мог затрымацца на іх шыі, што воз, якога яны так праглі, не пацягнуць з хамутом на жываце.

Ці верыце яшчэ вы, мілыя мае?
Ён (Казёл) нават малака дае.

*"Сваяўство "*

Падхалімства, пратэкцыянізм, дыктатура - таксама "жывёлы з аднаго хлява".

Мэты іх вядомыя, для дасягнення іх не грэбуюць ніякімі сродкамі, на ўсё гатовыя тыя, што вядуць Казла да ўлады, будуць пець яму гімны і сцвярджаць, што "ён нават малака дае". Сатырык папярэджвае, што ў падобных сітуацыях, каб не стаць заложнікам інтрыг, шарлатанства жывёл "з аднаго хлява", важна ўсведамленне, што малако "ляпей кароўе".

11. [дз'а-ц'к'і].

Камплект № 30

1. Другі сказ - складаны бяззлучнікавы, складаецца з чатырох простых, тры безасабовыя аднародныя сказы

паясняюць, раскрываюць сэнс першага (двухсастаўнага простага, у якім дзейнік і выказнік выражаны займеннікамі, таму паміж імі ставіцца працяжнік). Другі просты ад першага аддзяляецца двукроп'ем, а трэці ад другога і чацвёртага - кропкай з коскай.

Трэці сказ - складаны з рознымі відамі сувязі. Структурна сказ дзеліцца на дзве часткі: першая - просты двухсастаўны, другая - складаназалежны сказ з даданым уступальным. Гэты складаназалежны сказ паясняе, раскрывае сэнс першага простага, таму паміж імі ставіцца двукроп'е. Схема:




Наступны сказ - просты, двухсастаўны, аналагічны першаму простаму ў папярэднім складаным. "Шпаркасць..." - сказ просты, аднасастаўны, безасабовы, інфінітыўны.

*У той жа час...*- складаны з рознымі відамі сувязі. Па сваёй будове сказ адпавядае складаназалежнаму сказу з паслядоўным і сузалежным падпарадкаваннем; сказу, у якім даданыя часткі звязваюцца паміж сабой бяззлучнікавай і злучальнай сувяззю.

Галоўны сказ двухсастаўны, няпоўны, у ім апушчаны дзейнік *час,* які лёгка ўзнаўляецца з папярэдніх сказаў, а слова *час* уваходзіць ва ўстойлівае словазлучэнне *ў той жа час* і сінанімічна выразу *разам з тым* ці слову *адначасна.* Таму дзейнік апушчаны яшчэ і з мэтай пазбегнуць таўталогіі.

Першы даданы двухсастаўны прычыны разрываецца даданым азначальным, а сам з галоўным сказам звязваецца падпарадкавальным злучнікам *бо,* які агульны яшчэ для аднаго аднароднага даданага сказа пры-

чыны. Паміж сабой гэтыя два аднародныя даданыя сказы прычыны звязваюцца бяззлучнікавай сувяззю і раздзяляюцца коскай. Два апошнія аднародныя даданыя азначальныя сказы паясняюць у другім даданым назоўнік-выказнік *з 'явы* і звязваюцца з гэтым паясняемым сказам злучальнымі словамі *якія,* а паміж сабой злучнікам і, перад якім коска не ставіцца. Схема:




7-ы сказ - складаназлучаны з агульным для двух простых сказаў членам - адасобленай акалічнасцю, выражанай назоўнікамі і прыназоўнікам *нягледзячы* на, таму коска паміж простымі сказамі не ставіцца.

Сказ клічны. Абодва простыя ў ім - двухсастаўныя, развітыя.

Наступны сказ - складаны з рознымі відамі сувязі, злучальнай і бяззлучнікавай, у якім 6 простых сказаў звязваюцца папарна злучнікам і. Усе простыя сказы - аднародныя: двухсастаўныя, неразвітыя, з састаўнымі іменнымі выказнікамі, у 5 сказах дзеяслоўная звязка апушчана.

*Адзін у свой час...*- складаназлучаны сказ, у якім два простыя звязваюцца супраціўным злучнікам *а.* Першы просты - двухсастаўны, развіты. У ім дзейнік выражаны субстантываваным лічэбнікам *адзін.* Састаўны іменны выказнік *быу вялікім чалавекам.* Другі просты сказ двухсастаўны няпоўны, у ім апушчаны дзейнік *ён,* што даказваецца аднароднай канструкцыяй наступнага сказа, дзе ў другім простым гэты дзейнік ёсць. Выказнік выражаны фразеалагізмам *нічога не варт.*

Канструкцыя наступнага сказа адрозніваецца ад прааналізаванага тым, што другі просты сказ у ім з'яўляецца і галоўным для даданага мэты (аднасастаўнага, выказнік складаны - *заняцца вялікаю справаю).* Схема:




*Адзін не мае часу...*- складаны сказ з рознымі відамі сувязі: злучальнай і падпарадкавальнай. Схема:




Апошні сказ - складаназалежны. Даданы азначальны ўскладнены аднароднымі выказнікамі.

2. Стыль тэксту - публіцыстычны, бо рэалізуе функцыі інфармацыйнасці і ўздзеяння на чытача. У тэксце выкарыстоўваецца грамадска-палітычная лексіка і фразеалогія: *дзірка ў бюджэце; акты найвышэйшай гуманнасці ці нечувалага здзеку; асоба чалавека; адзінкі часу; з пэўнай заканамернасцю; ніякага дачынення не маюць; папярэджваюць час.* Тэкст вызначаецца вечнасцю і адначасна актуальнасцю тэмы (час і яго ўсведамленне, выкарыстанне людзьмі). У тэксце арганічна спалучаюцца лагічна-абстрактная і мастацкая формы адлюстравання рэчаіснасці, чым і рэалізуецца тып маўлення - разважанне*.

Т э з і с: час - катэгорыя абстрактная, паняцце адноснае.

Д о в а д: шматлікія доказы гэтай абстрактнасці *(нешта бясконца бясчулсіе і бесстаронняе; нешта не-*

*чувана шпарка-імклівае; нельга змераць; нельга ўбачыць, пачуць...; нельга запрэгчы ў плуг* і інш.).

В ы в а д: нягледзячы на абстрактнасць і адноснасць гэтага паняцця, сутнасць чалавека вызначаецца яго адносінамі і ўсведамленнем часу, стаўленнем да яго.

Сродкамі актывізацыі ўвагі чытача і сродкам стварэння вобразнасці і эмацыйнасці ў тэксце выступаюць фразеалагізмы* *(носа ўцерці; нічога не варт; куды дзець лішні час; "убіваюць" час; марна трацяць час);* шматлікія паўторы слоў *(час, нешта, адзін, другі);* выкарыстанне мнагазначнасці* слова *час;* аднародныя сінтаксічныя канструкцыі, эпітэты*, клічны сказ і інш.

3. Паўторы слова *час,* займеннікі (асабовы *ён* у розных формах, адмоўны *нішто* і неазначальны *нешта)*-сродкі сувязі ў тэксце.

4. *Заткнуць дзірку* (у бюджэце) - ліквідаваць нехватку, разлічыцца з даўгамі;

*у той жа час* - разам з тым, адначасна;

*не мае часу носа ўцерці* - вельмі заняты пільнаю, важнаю справай;

*"убіваць" час,* марна траціць час - бяздзейнічаць, гультаяваць, займацца тым, што не варта чалавека.

Гэтыя **фразеалагізмы** з'яўляюцца сродкам актывізацыі ўвагі чытача, спрыяюць філасафічнасці тэксту, падрыхтоўваюць чытача да ўспрымання далейшага аповеду, а ён будзе злым, здзеклівым - сатырычным - пра чалавека-хамелеона, здольнага мяняць сваё аблічча, прозвішча, прыстасоўвацца да розных абставін і ў розныя часы, пра чалавека без маралі і прынцыпаў. Фразеалагізмы ў тэксце і ўвесь тэкст як філасофскі ўступ да твора працуюць на жанр яго - памфлет*. Памфлет - твор сатырычнага, выкрывальнага зместу, які мае на мэце вострае высмейванне пэўнай адмоўнай грамадскай з'явы. Як слушна зазначаюць аўтары "Слоўніка літаратуразнаўчых тэрмінаў" М. А. Лазарук і А. Я. Ленсу, пам-

флет - жанр публіцыстычны. Ён па асаблівасцях будовы, спосабу тыпізацыі жыццёвых з'яў блізкі да нарыса. Памфлет - гэта па сутнасці сатырычны нарыс.

5. У самых розных значэннях:

як усеагульная аб'ектыўная форма існавання матэрыі;

як перыяд, эпоха, пэўная колькасць гадоў у жыцці чалавецтва, дзяржавы *(наш час, час мінулы);*

як адпаведны момант, спрыяльны ці, наадварот, неспрыяльны для якіх-небудзь дзеянняў *(час залаты і час пракляты );*

як пэўны прамежак у паслядоўнай змене гадзін, дзён, гадоў, у які што-небудзь адбываецца *(у свой час быў вялікім чалавекам; час доўгі і час кароткі)* і шмат іншых.

Наогул, стылістычны эфект навізны, індывідуальнасці, філасафічнасці тэксту найперш і дасягаецца выкарыстаннем **мнагазначнасці** слова, перабудовай устойлівых выразаў-заменай іх кампанентаў *(не мае часу носа ўцерці; куды дзецъ лішні час).*

6. *Нечувана, нечувал\ага\, бясчул\ае\;*

*змераць, мера\ем\, заканамернасц\ю\;*

*резудзельн\ым\, безудзельнасць\□\.*

7. Назоўнікамі.

Пераход лічэбнікаў у назоўнікі называецца субстантывацыяй*.

8. *Бюджэт* - разлік прыходаў і расходаў дзяржавы, прадпрыемства на пэўны тэрмін;

*гуманнасць* - дабрыня, дабрачыннасць, чуласць, чалавечнасць;

*акт* - учынак, падзея;

*афарбоўка* - колер, адценне колеру каго-, чаго-небудзь;

*гарбата* - чай і інш.

9. Тэкст насычаны кантэкстуальнымі **сінонімамі.** Усе аднародныя выказнікі ў 2-м сказе і аднародныя азначэнні ў 3-м сказе - кантэкстуальныя сінонімы, бо "працуюць" на адно: абгрунтаванне абстрактнасці паняцця *час.*

**Сінонімы:** *нязменнае і нерухомае; нерухомасць і безудзельнасць; скарыстоўваюць, папярэджваюць; "убіваюць " час і марна трацяць час.*

Прыкметай публіцыстычнага стылю з'яўляецца і шырокае выкарыстанне **антанімii,** магчымасці якой у абмалёўцы, выяўленні разнастайнасці з'яў, падзей, людзей, іх супярэчнасцей, канфліктаў паміж імі неабмежаваныя: *гуманнасць - здзек; нечувана шпарка-імклівае і нязменнае, нерухомае.*

Антанімічнымі паміж сабой з'яўляюцца ўсе азначэнні-эпітэты, устойлівыя словазлучэнні і словаспалучэнні ў апошнім абзацы *(вялікім чалавекам - нічога не варт; не мае часу - лішні час).*

10. "Гаваркое", "красамоўнае" прозвішча - адзін з мастацкіх прыёмаў стварэння вобраза, як партрэт, дыялог, маналог, выпрабаванне экстрэмальнай сітуацыяй і інш. Гэта - разнавіднасць аўтарскай характарыстыкі, спосаб выяўлення аўтарскіх адносін да праяў жыцця, увасобленых у персанажы, да праблем, якія праз яго выражаюцца ў творы.

Дабрыян (камедыя К. Крапівы "Брама неўміручасці") - носьбіт і ўвасабленне дабра.

Захар Крамянец (апавяданне М. Лынькова "Сустрэчы") - увасабленне стойкасці, цвёрдасці, нязломнасці.

Самі за сябе гавораць прозвішчы Дабровіча і Шчырэцкага (камедыя "Ідылія" Дуніна-Марцінкевіча).

А вось прыклады аўтарскай антыпатыі і бескампраміснасці да розных выяў зла, увасобленага ў сатырычных персанажах.

Гарлахвацкі - горлам бярэ, нахабны, цынічны, бязлітасны да сваіх ахвяр.

Караўкін - каравы, брудны, амаральны чалавек.

Мікіта Зносак (п'еса Я. Купалы "Тутэйшыя") - анамалія, недачалавек, абдзелены чалавечымі якасцямі. Зносак - маленькае курынае яйка.

Моцкіны, каліберавы, шусцікі, дажывалавы, зёлкіны, бажашуткавы, самасеі, цыцохі - усе гэтыя "свінтусы грандыёзусы" розных калібраў вельмі жывучыя, моцныя, шустрыя...

"Другі, бывае, дабрадзей, пашану страціўшы ў людзей, на тым часамі спаганяе, што прозвішча мяняе". У героя сатырычнага нарыса-памфлета* "Мой сусед" ажно трайное прозвішча, ён таксама яго мяняе, але не таму, што яно яму "не падабаецца", а каб прыстасавацца да абставін: за рускімі - ён Лукавіцын, за палякамі - Цыбульскі, у перыяд беларусізацыі - Цыбулькевіч. А за ўсімі знешнімі метамарфозамі - поўнае маральнае банкруцтва і дэградацыя - прыстасавальніцтва, хамелеонства, флюгерства. Твор, напісаны ў 1927 г., вельмі актуальны і сёння: учарашнія ваяўнічыя "праваслаўныя атэісты" сталіся "шчырымі" вернікамі, камуністы - дэмакратамі...

11.1 **гіпербала,** і **гратэск** - мастацкія прыёмы моцнага паравелічэння якасцей, уласцівасцей прадмета або з'явы з мэтай мастацкай выразнасці, паказу рэчаіснасці і яе выяў "праз павелічальнае шкло".

Гіпербалізаваны паказ жыцця ўласцівы рамантычным творам, у аснове якіх фальклорныя матывы ці вобразы ("Шляхціц Завальня..." Яна Баршчэўскага, рамантычныя паэмы Я. Купалы). Прыгадаем незвычайную фізічную сілу Машэкі.

Гіпербала - дзейсны сродак эстэтычнага ўздзеяння на чытача і выяўлення аўтарскіх адносін да герояў і з'яў жыцця, адлюстраваных у творы, - захаплення, абурэння:

Хараства такога ў свеце
Не было й не будзе...

*Я. Купала. "Бандароўна"*

Жыў доктар у нашай мясціне -
Няма ўжо такіх дактароў...

*П. Панчанка. "Сэрца і крыж"*

Але, каб выбраць лепшую з дарог,
Патрэбна мудрасць працы,
Нашых сэрцаў;
Патрэбны маці, бацька, педагог.

А іх няма.
Альбо ў мізэрнай дозе.
Разлад.
Развод.
Сіроцтва ўсё часцей.
І ходзяць беспрытульна па дарозе
Мільёны нашых страчаных дзяцей...

*П. Панчанка. "Ратуйце нашы душы!"*

Гіпербалізавана, праз павелічальнае шкло, па-максімалісцку (апошні ўрывак) паказана бездухоўнасць, поўнае бязладдзе і поўная перад ім капітуляцыя, адсутнасць сіл, здольных процістаяць злу. Эфект катэгарычнасці дасягаецца спалучэннем гіпербалы і парцэляцыі*: "А іх няма".

Гратэск жа пераважна ўжываецца ў сатырычных творах. Гратэскава паказана невуцтва, хабарніцтва, поўнае прафесійнае банкруцтва Кручкова, які не ведае нават, колькі дзён у месяцы, блытае не толькі указы, але і дзяржаўцаў, эпохі. Гратэскава выпісаны амаль усе сатырычныя персанажы К. Крапівы, А. Макаёнка, М. Матукоўскага (прыгадаем "Мудрамер"). Часам

гратэск мяжуе з фантастыкай, спалучаецца з ёй, але ёй не тоесны. У гратэску натуральныя адносіны саступаюць месца алагічным, а нечуваныя, незвычайныя сітуацыі выклікаюць часам самую звычайную рэакцыю персанажаў. Прыгадаем, як фантастычная падзея (вынаходніцтва Дабрыяна, адкрыццё ім эліксіру неўміручасці) памкнула персанажаў да зусім звычайных, паўсядзённых дзеянняў: нехта спрабуе падкупіць Дабрыяна, даць яму хабар, нехта запалохвае, а нехта, зразумеўшы, што прайсці ў браму неўміручасці не ўдасца, вырашае скарыстаць сітуацыю і зрабіць бізнес на ўласнай... мачы. Ад першага ўражання: "Такога не можа быць!" - чытач непазбежна прыходзіць да высновы: "Такое, на жаль, было ці бывае", бо яму адкрываецца глыбокі сэнс самых смелых гратэскавых збудаванняў.

Камплект № 31

1. Першы сказ - просты, двухсастаўны, развіты.

Другі - просты, абагульнена-асабовы.

Трэці - просты, пэўна-асабовы, у якім выказнік абазначае дзеянне пэўнай асобы.

Чацвёрты - складаназлучаны, у якім першы просты - пэўна-асабовы, няпоўны, у якім адсутнічае дапаўненне *грыбоў,* але яно лёгка ўзнаўляецца з кантэксту, з папярэдніх сказаў. Другі просты - безасабовы.

Пяты сказ - просты, двухсастаўны, няпоўны, бо ў ім апушчаны выказнік *растуць,* на састаў выказніка ўказвае і акалічнасць *кругом.* Сказ ускладнены аднароднымі дзейнікамі.

Шосты сказ - складаназалежны з дададным азначальным, які злучаецца з галоўным сказам злучальным словам *што* ў ролі дзейніка. Галоўны сказ - аднасастаўны, абагульнена-асабовы, ускладнены аднароднымі адасобленымі азначэннямі.

Схема:




Сёмы сказ - складаны з рознымі відамі сувязі: бяззлучнікавай і злучальнай. Усе тры простыя сказы - двухсастаўныя, але першыя два - неразвітыя, а трэці - развіты.

Восьмы сказ - двухсастаўны, няпоўны, у ім апушчаны выказнік *растуць* ці *стаяць*.

Дзевяты сказ - двухсастаўны, развіты, у ім нельга асобна вычляняць *у сэрцы,* гэта не акалічнасць, а частка складанага выказніка *ў сэрцы мрояцца,* а развіты ён мноствам адасобленых аднародных азначэнняў, якія парцэлююцца (выдзяляюцца са сказа), але ўтвараюць з ім адно сінтаксічнае цэлае. Гэтыя аднародныя азначэнні - дапасаваныя і недапасаваныя - выражаны адзіночнымі прыметнікамі, прыметнымі і дзеепрыметнымі зваротамі, параўнальнымі зваротамі, назоўнікам *(сям'ёй)* і назоўнікамі з прыназоўнікамі *(без чарвяточыны, пад галіной).*

Апошні сказ - складаназалежны з двума аднароднымі даданымі ўступальнымі, звязанымі з галоўным сказам падпарадкавальным злучнікам *хоць,* які ў другім даданым сказе апушчаны, а паміж сабой два аднародныя даданыя ўступальныя звязваюцца адзіночным злучнікам і, перад якім коска не ставіцца. Схема:




Галоўны сказ - пэўна-асабовы, няпоўны, у якім апушчана дапаўненне *грыбоў,* развіты, ускладнены адна-

роднымі азначэннямі. Ён таксама парцэлюецца аднароднымі выказнікамі *шукаю* (шчырых), (іншых) *не бяру.* Абодва дададныя ўступальныя - двухсастаўныя, поўныя, развітыя.

Пра **парцэляцыю** і **парцэляваныя словы,** спалучэнні слоў і сказы, якія разам з асноўным выказваннем утвараюць адно сінтаксічнае цэлае, чытайце ў падручніку Л. І. Сямешкі, І. Р. Шкрабы, З.І.. Бадзевіч "Курс беларускай мовы". Мн.: Універсітэцкае, 1996. С. 491.

2. Такі сінтаксічны сродак называецца парцэляцыяй*. Парцэляваныя часткі, вылучаныя са сказа, вызначаюцца інфарматыўнасцю, эмацыйнай экспрэсіўнасцю, стылістычнай выразнасцю. Яны ў тэксце маюць больш важнае значэнне, чым асноўнае выказванне, бо галоўная інфармацыя тут не проста пра мару і пошукі грыбоў, а пра іх якасць - толькі праўдзівыя: *іншых не бяру.*

Тэкст насычаны аднароднымі сказамі і аднароднымі адасобленымі членамі, што спрыяе паўнаце апісання самай запаветнай мары, а ў спалучэнні з інверсіяй *(гараць рыжкі, ірдзяцца сыраежкі...)* аднароднасць працуе на рытмізаванасць мовы, выяўляе эмацыйны стан душы лірычнага героя, гаму пачуццяў: ад надзеі да расчаравання і катэгарычнага адмаўлення, наперакор усяму, задаволіцца існым. І пасля горкага расчаравання - зноў надзея. І зноў пра тое ж. Планка не зніжаецца.

3. Усе назвы грыбоў у тэксце - матываваныя, а таксама словы *чарвяточына, грыбніца.* Матывацыя - адзін з асноўных прынцыпаў намінацыі (называние прадметаў рэчаіснасці). Сувязь матывацыі і намінацыі ў тым, што прадмет атрымлівае назву па нейкай адметнай сваёй прыкмеце. Гэта можа быць форма, колер, памер, функцыя, падабенства да чаго-небудзь, якасць.

*Паганкі* - паганыя, кепскія, атрутныя, неядомыя грыбы. *Мухаморы* (паводле функцыі) - мораць, труцяць

мух. *Маслякі* - паводле падабенства да масла, з паверхняй клейкай, маслянiстай. *Чырвонагаловікі, рыжыкі* - паводле колеру. *Сыраежкі,* бо іх можна есці сырымі. *Баравікі* - белыя грыбы, якія растуць у баравых мясцінах. *Грыбніца* - грыбное цела, якое складаецца з бясколерных тонкіх ніцей і дае жыццё новым грыбам. *Чарвяточына* - дзірка ў чым-небудзь, праедзеная чарвякамі; месца, сапсаванае, паточанае чарвякамі.

Рыжы - *рыжык* (суфіксальны спосаб);

сава - *савяк* (суфіксальны спосаб);

паган-ы - *паганка* (суфіксальны спосаб);

грыбн-ы - *грыбніца* (суфіксальны спосаб);

масл-а - *масляк* (суфіксальны спосаб);

баравы - *баравік* (суфіксальны спосаб);

сыр-ая еж-а - *сыраежка* (складанасуфіксальны спосаб);

мух морыць - *мухамор* (складанасуфіксальны спосаб);

чырвоная галава - *чырвонагаловік* (складанасуфіксальны спосаб).

Аўтарскі неалагізм: *чырвоныя галовікі.*

*4.* Да філасофскай лірыкі. Філасофская думка верша, што лёс чалавека, яго шчасце ў многім залежаць ад людзей, якія на яго шляху сустракаюцца; што сапраўдных людзей *без чарвяточыны* намнога менш у параўнанні з *мухаморамі, паганкамі, маслякамі, савякамі;* што чалавек сам у адказе за свой выбар сяброў,- рэалізавана ў творы з дапамогай умоўнасцей: асацыяцый*, метафар*, параўнанняў*.

5. Само жыццё і такая яго праява, як узаеміны з людзьмі, пошукі сапраўдных сяброў, горыч расчаравання ад сустрэчы з няшчырымі, няпраўдзівымі, слізкімі, увасабляецца ў алегарычным вобразе пошуку *шчырых, а такіх няма* - грыбоў.

Верш надзвычай метафарычны, у ім няма ніводнага слова, словазлучэння ці фразы, ужытых у прамым сэнсе. Колькасць і якасць метафар - адна з прыкмет паэтычнага таленту і крытэрый мастацкай вартасці твора. Гэта і дазваляе паэту пазбегнуць публіцыстычнасці, маралізавання, а значыць, і не зніжае мастацкай вартасці твора.

6. Паэтка стварыла ў вершы свой ідэал сапраўднага чалавека. На яе думку, сапраўдныя людзі - *гэта шчырыя, праўдзівыя,* стойкія, *што крэменъ,* здольныя на братэрскія ўчынкі, здольныя дапамагчы ў цяжкую хвіліну, здольныя да аб'яднання з такімі, як самі. Сапраўдныя ведаюць і памятаюць свае вытокі, карані, а сумленне іх чыстае, не папсаванае, не паточанае шашалем здрадніцтва, адступніцтва, страху, маны... Толькі праз адну дэталь *над галінай* паэтка перадае нам свой уласны вопыт, што сапраўдныя, шчырыя - часцей за ўсё непрыкметныя, някідкія, яны не *гарацъ,* як рыжыкі, не *ірдзяцца,* як сыраежкі, не выскакваюць на самае віднае месца, на ўзмежак, як тыя *чырвоныя галовікі.* Вялікая праца душы, відушчае і чуйнае сэрца патрэбны, каб не прайсці міма іх.

Раніца жыцця - самая светлая і залатая пара - пражыта, *сонейка ўжо падышло ўгару,* і няшмат шчырых, праўдзівых сустрэлася на шляху *(і мой яшчэ зусім не поўны кошык),* і час для пошуку белых ужо не лепшы, але ж надзеі губляць не трэба. І не квапіцца на іншыя - *іншых не бяру.* Не задавальняцца тым, што ёсць.

7. Эпітэт *шчырых* у кантэксце - аўтарскі, філасофскі, нечаканы, бо спалучэнне *шчыры грыб* - парадокс. *Шчыры* - ацэначны прыметнік, якім вызначаецца якасць толькі асобы чалавека. Праз "надзяленне" грыба ўласцівасцямі, якасцямі асобы паэт выяўляе сваё пісьменніцкае ўсведамленне галоўнай вартасці сапраўднага чалавека.

8. *Баравікі,* праўдзівікі, белыя грыбы.

9. [Дошч], [з'л'ічыш], [раз'м'аклых], [апус'ц'іл'і], [рышк'і], [сырајешк'і], [с'л'ізгајуца], [мас'л'ак'і], [на ўз'м'эшку], [з'јадданыја];

[дошч], [з'ја-дна-ны-ја].

10. Ларыса Геніюш прайшла ўсе кругі пекла ГУЛАГа, пра што яна расказала ў кнізе мемуараў "Споведзь". Каля 200 выдатных дзеячаў нацыянальнай культуры было асуджана, большасць з якіх загінула. Пра той пракляты час, калі "крывёй напоўнілі поймы рэк", калі бурліла "адчаем слёз людскіх разводдзе", пра нашы невымерныя страты лепш не сказаць, як сказаў Колас: "Колькі талентаў звялося..."

У часы сталінскага генацыду былі расстраляны Вацлаў Ластоўскі, Браніслаў Тарашкевіч, Міхась Чарот, Уладзіслаў Галубок, Платон Галавач, Максім Гарэцкі, Міхась Зарэцкі. Сасланы былі "на мукаў чвэрць стагоддзя" Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча. За кратамі і ў ссылках апынуліся Сяргей Грахоўскі, Уладзімір Жылка, Андрэй Мрый, Кузьма Чорны і мн. інш.

Пра той час сведчыць дакументальная і мемуарная літаратура: аповесці і апавяданні С. Грахоўскага "Зона маўчання", кніга мемуараў Л. Геніюш "Споведзь" і Выбраныя творы Л. Геніюш (Мн., 2000).

11. Пра перыяд сталінскага генацыду ў гаротным лёсе нашага народа - аповесці В. Быкава "Аблава" і "Знак бяды", апавяданні "Жоўты пясочак", "Бедныя людзі", творы П. Пруднікава "Яжовыя рукавіцы", "Пекла", Ф. Аляхновіча "У кіпцюрах ГПУ" і інш.

12. Слова *самастойнасць.* Гэтага вымагае не толькі кантэкст, але і тое, што для гордай нязломнай Л. Геніюш паняцці "радзіма" і "воля" былі неад'емныя. Яна была не проста ахвярай жудаснай машыны сталінізму, але барацьбіткай, палкай, неўтаймоўнай, з яго палітыкай - барацьбіткай за волю і незалежнасць Бацькаў-

шчыны. Яна заўсёды ўсведамляла, што ў народа не павінна быць большай каштоўнасці як воля *(незалежнасць, самастойнасць, самачыннасць, суверэнітэт).*

Сэнс прымаўкі *"Слаўны бубны...",* што ўсё чужое да часу, пакуль яго добра не зведаеш, здаецца лепшым, чым сваё: і людзі, і мясціны, і звычаі. Сінонімамі да гэтай прымаўкі будуць: *У суседа ўсё лепшае. Чужыя жоначкі як перапёлачкі.* Адпаведная ў рускай мове: *В чужих руках ломоть шире.* Не тоеснымі, але блізкімі па значэнні будуць і такія: *На Падоллі пірагі па коллі, а мы прыйшлі і там іх не знайшлі. Там вароты пірагом падпёрты. Добра там, дзе нас няма.* Рускі адпаведнік - *Там хорошо, где нас нет.*

Камплект № 32

1. Складаназалежны сказ з паслядоўным і сузалежным падпарадкаваннем. Галоўны сказ - двухсастаўны, поўны, развіты. Першы даданы дапаўняльны сказ аднасастаўны, няпэўна-асабовы, ускладнены аднароднымі акалічнасцямі, выражанымі назоўнікамі з прыназоўнікамі. Гэты даданы сказ звязваецца з галоўным падпарадкавальным злучнікам *што.* Два даданыя азначальныя сказы паясняюць у першым даданым дапаўняльным розныя словы: *над Дняпром, і на Балтыцы* - і звязваюцца з ім злучальным словам *дзе.* Першы з гэтых двух даданых - аднасастаўны, няпэўна-асабовы, развіты. Другі - двухсастаўны, няпоўны, у ім апушчаны дзеяслоў-выказнік *жывуць,* развіты. Схема сказа:



2. Асноўны сродак сувязі ў тэксце - паўтор слоў *там* і *дзе.* Аднародныя сінтаксічныя канструкцыі, аднародныя члены сказа, **анафарычнасць,** шматлікія паўторы *там, дзе* надаюць твору выключную экспрэсію, спрыяюць выяўленню ў лірычнага героя пачуццяў захаплення, гордасці за свой край, робяць верш рытмічным, пафасным, аптымістычным, жыццесцвярджальным.

3. Амаль увесь верш, пачынаючы з 4-й страфы *Ёсць яшчэ адзін куточак...,* уяўляе сабой разгорнутую **перыфразу,** своеасаблівую моўную загадку - мастацкае, вобразнае апісанне Беларусі, - і ні разу не названа слова *Беларусь.* Назва твора "Край паэтаў" - таксама перыфраза: Беларусь. Метанімічнай перыфразай з'яўляецца ў вершы выраз: *на землях Руставелі і Сабіра* - у Грузіі і Азербайджане. Апошнія два радкі *жанчына сінявокая...* - таксама перыфраза - Лявоніха.

**А** *нешта... з пякучым перцам* - **эўфемістычная перыфраза,** яна абазначае гарэлку, пярцоўку. Такімі перыфразамі карыстаюцца, калі хочуць пазбегнуць слоў, якія маглі б абразіць эстэтычны густ чытача або слухача.

*Зямля пад белымі крыламі; зямля Заслонава, Купалы, Якуба Коласа зямля* (Беларусь) - прыклады **літаратурных перыфраз,** якія з'яўляюцца сродкам вобразнасці і моўнай выразнасці твора. А вось прыклады традыцыйных перыфраз: *другі хлеб* - бульба; *беларускі шоўк* - лён, *беларускае мора* - Нарач; *сейбіты разумнага, добрага, вечнага* - настаўнікі; *краіна-партызанксі* - Беларусь; *лясныя рыцары* - партызаны.

4. *Смела дзятлы пішуць вершы на бяросце* - багата прырода нашага краю. *Там машыны з канюшынай не ў спрэчцы...* - станоўча вырашаюцца экалагічныя праблемы. Гэта - метафары. У творы вельмі многа эпітэтаў: *чарнічныя ўсе ночы, сунічныя ранкі; край залата-*

*косы, край зялёны; куточак запаветны* і інш. Усе гэтыя мастацкія сродкі з ужо згаданымі сінтаксічнымі, якія асабліва "працуюць" на паўнату апісання, падначалены выражэнню ідэі верша: выяўленню пачуцця любові, гордасці за наш чароўны, самабытны край, галоўнае багацце якога - таленты.

5. *Нібыта маку* - вельмі многа;

*дае ў падлікаx маху* - памылілася, пралічылася, спудлавала;

*не бяруць у рот ні кроплі* - цвярозыя, не п'юць гарэлкі.

Здавалася б, парадаксальна ў такім пафасным, экспрэсіўным вершы выкарыстанне фразеалагізмаў, эўфемізмаў, выразаў тыпу *сто разоў цалуюць там і яшчэ трошкі; бо красуня перад ім не зсідаецца; там зубрыная гарэлка прадаецца,* бо ўсё пералічанае надае твору і гумарыстычнае гучанне. Аднак валадарства гумару неабмежаванае: ён здольны ў роўнай меры і прынізіць, і ўзвысіць. Таму, спалучыўшы, на першы погляд, неспалучальнае, П. Панчанка дасягае найбольшага эстэтычнага і эмацыйнага ўздзеяння на чытача.

6. [бјўц'], [п'э-с'н'а-ро́ў], [рэ-цы], [С'в'і-ц'ас'].

7. *Паляскавала.* Арфаграфія гэтага слова - *паляскавала,* дзеяслоў з суфіксам *-ва-.*

Суфікс *-ава-(-ява-)* пішацца ў неазначальнай форме дзеясловаў і ў асабовых формах прошлага часу, калі ў формах цяперашняга (будучага простага) часу суфіксальныя *-ав-(-яв-)* чаргуюцца з *-у-(-ю-)* і дзеясловы заканчваюцца на *-ую(-юю): камандавацъ - каманду́ю; даследаваць - даследую.*

Калі ж у формах цяперашняга (будучага простага) часу суфікс не мяняецца і дзеяслоў заканчваецца на *-аю,* то ў неазначальнай форме і формах прошлага часу захоўваецца суфікс *-ва-:*

*расказваць - расказваю - расказвала;*

*палясkваць - палясkваю - палясkвала;*

*выменьваць - выменьваю - вымвньвала.*

Эмфатычнымі*, г. зн. індывідуальнымі, ненарматыўнымі, могуць быць не толькі знакі прыпынку, націск, але і напісанне слова, калі гэтага вымагае менавіта рытміка, інтанацыя, танальнасць твора ці пэўны яго фрагмент, а кантэкст вымагае сінтэзу рытмікі (апошнія два радкі - рэмінісцэнцыя "Лявоніхі") і спеўнасці, галоснасці, а закрыты склад гэтаму перашкаджаў бы.

*8. Чулочки; ботиночки, башмачки; родная сторона, уголок.*

Формай слова з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі дасягаецца ацэначная экспрэсія слова, з дапамогай якой аўтар выяўляе пачуцці любові, захаплення, замілаванасці прадметам апісання. Прыгадаем у Купалы: *як маліны яе губкі; як дзве зоркі яе вочкі; ручкі белы апусціла, звесіла галоўку* (паэма "Бандароўна").

9. Лірычныя: "Краіна мая", "Сінія касачы", "Край паэтаў".

Эпічныя: "Герой", "Сэрца і крыж".

Сатырычна-публіцыстычныя: "Здарэнне ў гасцях", "Сумленне", "Ратуйце нашы душы".

10. Азначэннем, бо адносіцца да слова *нешта,* а не да слова *п'юць. Нешта* - якое? - *з пякучым перцам.* Разам са словам *нешта ў* кантэксце з'яўляецца перыфразай *(пярцоўка).* А залежнасць *з мужным сэрцам* ад назоўніка *людзі* - відавочная.

Камплект № 33

1. Першы сказ - складаназалежны з даданым часу з адценнем прычыны. Галоўны сказ ускладнены паўторным зваротkам і аднароднымі складанымі выказ-

нікамі *(колькі слёз пралілі, колькі начэй недаспалі).* Дадзены сказ звязваецца з галоўным злучальным словам *калі,* ён двухсастаўны, развіты, ускладнены адасобленай акалічнасцю, выражанай дзеепрыслоўным зваротам.

Другі сказ - складаназалежны з даданым азначальным, які звязваецца з галоўным злучальным словам *якія* ў ролі дзейніка. Галоўны сказ - двухсастаўны, поўны, развіты, ускладнены адасобленымі азначэннямі, чатыры з якіх выражаны адзіночнымі прыметнікамі і звязваюцца паміж сабой папарна злучнікамі і, а пяты, выражаны прыметным зваротам, звязваецца з папярэднім бяззлучнікавай сувяззю.

Трэці сказ - складаны з рознымі відамі сувязі, бяззлучнікавай і злучальнай. Першыя два простыя сказы звязваюцца паміж сабой бяззлучнікавай сувяззю. Яны абодва двухсастаўныя, поўныя, развітыя. Трэці просты сказ звязваецца з папярэднім супраціўным злучнікам *але.* Гэты сказ аднасастаўны, поўны, безасабовы (выказнік - *не трэба ўзнагароды),* развіты. Тры наступныя простыя сказы раскрываюць, удакладняюць, паясняюць сэнс папярэдняга простага, таму перад імі ставіцца двукроп'е. Паміж сабой гэтыя тры простыя звязваюцца бяззлучнікавай сувяззю.

Першы з гэтых трох простых *жывіце толькі, дзеці, не памірайце* - аднасастаўны, пэўна-асабовы, ускладнены зваротам і аднароднымі выказнікамі[1].

Два апошнія простыя ў гэтым складаным - двухсастаўныя, у іх выказнікі выражаны дзеясловамі будучага простага часу, якія страцілі сваё часавае значэнне, і часціцай *няхай.* Схема сказа:

[1] У апошні час сінтаксісты схіляюцца да думкі, што зваротак у падобных сказах ("Дзядзечка-саколік, насып мне ягад у прыполік") таксама з'яўляецца членам сказа. Аўтары вучэбнага дапаможніка "Сучасная беларуская пунктуацыя" Г. Н. Клюсаў і А. Л. Юрэвіч называюць такі зваротак звароткам-дзейнікам.

□ , □ , але □ : □ , □ , □

2. Лексічныя:

сінонімы *(трапяткія, пяшчотныя; міне, не кране; хвароба, бяда-гора; жывіце, не памірайце);* антонімы *(любві і гневу; трапяткія і мужныя; пяшчотныя і суровыя ).*

Сінтаксічныя: звароткі; паўторы *(колькі, няхай, толькі);* аднародныя члены сказа і адасобленыя члены сказа; інверсія *(сэрцы, трапяткія і мужныя; адцвітаюць вочы; пакрываюцца твары);* парцэляваны выказнік, аформлены клічным сказам. Гэтыя лінгвістычныя сродкі спрыяюць і паўнаце апісання матчынай любові, самаахвярнасці, і паказваюць розную ступень цяжкага душэўнага стану чалавека і наогул разнастайнасць гэтага стану ў залежнасці ад сітуацыі *(поўныя любві і гневу; пяшчотныя і суровыя...),* і выяўляюць экспрэсію, узрушанасць, усхваляванасць аўтара. Гэтымі сродкамі дасягаецца таксама і рытмізаванасць тэксту.

3. [а-ц'в'і-та-јуц'], [сх'і-л'іў-шы-с'а].

<u>*Нязгасн\ыя*</u>, <u>*недаспал\і*</u>

*Нязгасныя* (дзеепрыметнік), якія *не згасаюць.*

*Нязгасныя* не згасаць (прыставачна-суфіксальны).

4.1. *Процьма* - вельмі многа, безліч;

4.2. *наскрозь бачыць* - вельмі добра ведаць каго-небудзь; разумець намеры, задумы чые-небудзь;

4.2. (ведае), *чым я дыхаю* - (ведаць), што ўяўляе з сябе хто-небудзь, які яго настрой, інтарэсы, намеры;

4.2. *растуць рогі* (рогі павырасталі) - хто-небудзь стаў непакорным, непаслухмяным;

4.3. *на чорны дзень* - цяжкая часіна;

4.3. *не за гарамі* - набліжаецца, хутка наступіць, адбудзецца нешта;

4.4. *ажаніць* - пра дзяцей, якія заслугоўваюць пакарання;

4.5. *не чхнуць* - не проста, складана, цяжка;

4.5. *як аблупленага* (ведаць) - вельмі добра, да дробязей;

4.6. *скусваць быркі і пакласці зубы на паліцу* - галадаць;

4.7. *насілі чэрці* - пра таго, хто недарэчы, не ў пару ходзіць, бадзяецца дзе-небудзь;

4.7. *шукаў сабе хваробы* - лезці ў небяспечную, рызыкоўную справу;

4.7. *головы пазносіць* - загінуць, скалечыцца, не мінуць бяды;

4.8. *у вас папелі, а ў нас паелі* - пра таго, хто спазніўся, прыйшоў не ў пару на вельмі важную для яго справу;

4.9. *ад рук адбіўся* - выйшаў з паслушэнства, перастаў слухацца;

4.10. *насіць на руках* - любіць, шануе, беражэ.

Асаблівасць выкарыстання фразеалагізмаў у дылогіі І. Сяркова "Мы з Санькам..." у тым, што з дапамогай іх ствараецца эфект камізму. Галоўны герой аповесці 11-гадовы падлетак, ад імя якога вядзецца аповед, часта не разумее пераноснага сэнсу трапных народных выслоўяў, якія ён найчасцей чуе ад сваёй бабулі Матроны, ці разумее іх падсвядома, толькі ў пэўнай сітуацыі *(ёй здаецца, што ў мяне растуць рогі; дзіўна, як такую мажную падняць, не тое што яшчэ насіць* - пра Санькаву маці, якую бацька насіў на руках).

5,6. Аповесць і ўся трылогія - прыгодніцкая, гумарыстычная. У першай і другой аповесцях трылогіі аповед вядзецца ад імя галоўнага героя - 11-гадовага падлетка. Спрошчана было б усведамляць назначэнне такой формы аповеду толькі як спосаб пранікнення ва ўнутраны свет героя, бачання Падзей ягонымі вачыма,

спасціжэння яго думак і пачуццяў. Манера аповеду якраз і не ўкладваецца ў гэты стэрэатып, у гэта пракрустава ложа. Бязмежна наіўнае, па-дзіцячаму непасрэднае бачанне героем падзей якраз і супярэчыць здароваму сэнсу, а думкі і пачуцці дзяцей чытач спасцігае не раней, чым яны ўжо рэалізаваны (дзеці дастаюць з сажалкі гранаты, якія, як яны падцікавалі, не ўзарваліся, сушаць іх у печы, хітруюць з немцамі, прыхавалі і "таўкачык" - гранату!). Дзіцячая непасрэднасць, якая ў звычайнай сітуацыі выклікала б толькі замілаванне, у сітуацыі штохвіліннай рызыкі для іх жыцця, калі яны ходзяць па краі бездані і не раз зазіраюць у вочы смерці, не ўсведамляючы гэтага, апісана пісьменнікам пранізліва трагічна*. І дасягаецца эфект трагічнага парадаксальным спалучэннем неспалучальнага. Манера аповесці "Мы з Санькам..." яшчэ раз даказвае, што валадарства гумару сапраўды неабмежаванае. Назначэнне **гумару** ў творы не толькі і не столькі **геданістычнае, эстэтычнае,** колькі ўзмацняе трагізм гучання, шчымлівым болем адзываецца ў сэрцы чытача. Многа ў нашай літаратуры трагічных твораў пра вайну, але роўных дылогіі І. Сяркова па сіле ўздзеяння няшмат. Трагізм узмацняюць камічныя і трагікамічныя сітуацыі *(цурык; спраўненькі таўкачык; штаны з арлом; ішла да калодзежа - быў комін, іду назад - няма коміна* і шмат іншых), манера аповеду, стылістычнае выкарыстанне фразеалагізмаў, бабуліна словатворчасць *(спеваніна, Ярманія)* і інш.

І толькі тады, калі інстынкт самазахавання аднаго з нашых "герояў" прытупляецца прагай гераічнага настолько што смерць ужо не толькі зазірнула яму ў вочы, а нахілілася над ім і занесла сваю касу, калі ўжо не да жарцікаў і жартачак,- умешваецца аўтар: ні драбніцы гумару - шчымлівы, пранізлівы і разам з тым стрыманы ў выяўленні ўласных пачуццяў аўтарскі тэкст. І не

свае, аўтарскія, а матчыны пачуцці ("Маці шкада...") - самы магутны акорд у паказе трагедыі вайны. Так праз трагедыю дзяцей-сірот і матак аўтар паказвае трагедыю вайны. Аўтар "умешваецца" і ратуе нашага любімца, нашу надзею. Каб некалі зразумеў тую дзіўную параду дзеда Ахрэма ў самы крытычны для сябе момант: "За мяне стань - не так вецер будзе". Каб здзейсніў сваю мару стаць камандзірам. Без такіх, як Іван і Санька, не было б у нас будучыні.

На стылістычным выкарыстанні фразеалагізма, а дакладней эўфемізму*, "цайсці да Бога" ствараецца трагікамічная сітуацыя пра Глышкаў кажушок і бабулін пасаг. Шкада было іх, асабліва бабулінай гарусавай хусткі, дзякуючы якой хлопчык упершыню ўбачыў бабуліну прыгажосць. Але дзіця і з гэтага здарэння, як з вайны, што адкрывала перспектывы подзвігу, знайшло для сябе выгаду. Адно шчыміла сэрца і стрымлівала Івана - бабуля пагражала неслухам, што пойдзе да Бога, у чым хлопчык адчуваў самую вялікую небяспеку, а бяду - большую, чым вайна. А раз такое здарылася, то і "бабулька, мабыць, цяпер не будзе так часта збірацца паміраць. Няма пасагу - трэба нажыць".

Пра гумар у іншых творах беларускай літаратуры гл. у камплекце № 29.

Камплект № 34

1. Першы сказ - складаны з рознымі відамі сувязі. У ім выдзяляюцца дзве структурныя часткі. Першая ўяўляе сабой складаназалежны сказ з двума даданымі, звязанымі з галоўным сузалежным паралельным падпарадкаваннем.

Галоўны сказ разрываецца першым даданым дапаўняльным (двухсастаўным, неразвітым, няпоўным,

у якім апушчаны дзейнік *ён),* які звязваецца з галерным падпарадкавальным злучнікам *што* і паясняе выказнік у галоўным сказе. Галоўны сказ - двухсастаўны, поўны, развіты.

Другі даданы азначальны паясняе ў галоўным сказе слова *дзень* і звязваецца злучальным словам *калі.* Гэты сказ двухсастаўны, поўны, развіты, ускладнены двума радамі аднародных акалічнасцей *(спачатку, а потым; насцярожана, прагна).* Выдзяленне акалічнасцей *спачатку насцярожана* можна лічыць эмфатычным*.

Другая структурная частка ўяўляе сабой складаназалежны сказ з паслядоўным падпарадкаваннем.

Галоўны сказ - двухсастаўны, поўны, развіты, ускладнены ўдакладняючымі акалічнасцямі *да галін і галінак, да сучка.* Першы даданы азначальны (двухсастаўны, поўны, развіты) паясняе ў галоўным назоўнік *сучка* і звязваецца з галоўным злучальным словам *што* ў ролі дзейніка. Другі даданы азначальны (аднасастаўны, безасабовы, поўны, развіты) паясняе ў першым даданым назоўнік-дапаўненне *лісток* і звязваецца з галоўным злучальным словам *які* ў ролі дапаўнення. Трэці даданы акалічнасны часу паясняе, канкрэтызуе акалічнасць часу *тады* ў другім даданым і звязваецца з ім злучальным словам *калі.* Гэты сказ двухсастаўны, поўны, развіты, ускладнены аднароднымі акалічнасцямі і неаднароднымі азначэннямі. Схема сказа:



Другі сказ - складаназлучаны, у якім два простыя, двухсастаўныя, поўныя звязваюцца злучальным злучнікам і, перад якім ставіцца коска. Другі просты сказ неразвіты.

Схема:



Трэці сказ - складаны з рознымі відамі сувязі. У ім таксама выдзяляюцца дзве структурныя часткі.

Першая ўяўляе сабой складаназалежны сказ. Галоўны сказ разрываецца даданым дапаўняльным, які звязваецца з галоўным злучальным словам *што* ў ролі дапаўнення. Гэты дадaны сказ двухсастаўны, няпоўны, у ім апушчаны дзейнік *ён,* які лёгка ўзнаўляецца з галоўнага сказа.

Галоўны сказ - двухсастаўны, няпоўны, у ім прапушчана абагульняльнае слова *ўсё,* развіты, ускладнены аднароднымі выказнікамі *страпянуў* і *ўбачыў* і аднароднымі дапаўненнямі *дзень, хату, сядзібу, вёску, поплаў, мур лесу,* некаторыя з якіх развіты паясняльнымі словамі і словазлучэннямі, параўнальным зваротам. Перад аднароднымі членамі пасля апушчанага абагульняльнага слова, відавочнага з кантэксту, ставіцца двукроп'е.

Два аднародныя даданыя азначальныя сказы паясняюць у галоўным сказе назоўнік-дапаўненне *лесу* і звязваюцца з галоўным сказам злучальнымі словамі *дзе* і *адкуль* у ролі акалічнасцей. Абодва гэтыя аднародныя азначальныя сказы звязваюцца паміж сабой злучальным злучнікам і, перад якім коска не ставіцца. Абодва гэтыя сказы двухсастаўныя, поўныя, развітыя. Першы ўскладнены ўдакладняльным дзейнікам *клён,* тоесным з папярэднім дзейнікам *ён.* Другім аднародным даданым азначальным сказам *адкуль прыйшоў летась*

*ласы на садавіну вожык* заканчваецца першая структурная частка, бо выказнікі *прыйшоў ды так і застаўся зімаваць* няма падставы ўсведамляць як аднародныя з выказнікам папярэдняга сказа *прыйшоў.* Гэта ўжо граматычная аснова новага сказа, які з'яўляецца галоўным у складаназалежным сказе, што і ўяўляе сабой другая структурная частка ўсяго сказа. А гэты галоўны сказ з'яўляецца двухсастаўным, няпоўным, у ім апушчаны дзейнік *вожык,* які легка ўзнаўляецца з папярэдняга сказа. На карысць таго, што гэта новы сказ, а не працяг папярэдняга, сведчыць, па-першае, кантэкст. Інфармацыя дадэнага сказа аб тым, што вожык прыйшоў з лесу. Галоўная ж інфармацыя наступнага, што вожык застаўся зімаваць у садзе, зладзіўшы ў ямцы непадалёк кубло. Па-другое, адасобленая акалічнасць *зладзіўшы ў ямцы непадалёк кубло* ніяк не адносіцца, не паясняе дзеяслоў *прыышоў,* а паясняе выказнік *застаўся зшаваць,* бо інакш атрымаецца, што ён зладзіў кубло не ў садзе, а ў лесе, што супярэчыла б інфармацыі не толькі гэтага простага, а ўсяго складанага сказа.

Галоўны сказ другой структурнай часткі ўскладнены аднароднымі выказнікамі, адасобленай акалічнасцю і адасобленым прыдаткам *порсткі колкі клубочак.* Даданы азначальны (двухсастаўны, поўны, развіты) звязваецца з галоўным сказам злучальным словам *якога* ў ролі азначэння (ч ы ю?), якое стаіць у сярэдзіне сказа, а таму коска ставіцца не перад ім, а перад пачаткам сказа. Першая і другая структурныя часткі звязваюцца бяззлучнікавай сувяззю і раздзяляюцца коскай, якую можна лічыць эмфатычным* знакам, бо развітасць абедзвюх частак вымагае пастаноўкі кропкі з коскай.

Схема:



2,3. Мастацкі, бо гэта стыль мастацкага твора - апавядання.

Дзякуючы майстэрскаму выкарыстанню моўных сродкаў: **метафар** *(учэпіста трымау лісток; клён убачыў; дзе ён, клён, калісьці нарадзіуся; адчуваў цеплыню);* **эпітэтаў** *(п'янкія сокі; ласы на садавіну вожык; порсткі клубочак; кволую цеплыню);* **параўнанняў** (як *ясны восеньскі дзень; мур лесу; плямамі гусей; колкі клубочак)* - пісьменнік стварыў вобраз клёна. Вобразнасць* узмацняецца тым, што нежывыя прадметы (клён) надзелены ўласцівасцямі і рысамі чалавека: клён не толькі бачыць і чуе, ён надзелены такімі якасцямі і пачуццямі, якімі, на жаль, абдзелены многія, каго называюць *homo sapiens.* Клён памятае, радуецца, спагадае, трывожыцца, здзіўляецца, шкадуе - нават дапамагае.

Клён - сімвал духоўнасці, прыгажосці, вечнасці.

У творы ўзняты многія філасофскія праблемы*: чалавека і прыроды; бацькоў і дзяцей; адказнасці чалавека за свае ўчынкі; бездухоўнасці і чэрствасці людской; маральна-этычнага выбару; генетычнай памяці і повязі пакаленняў; вынішчэння сваіх каранёў; вернасці і здрады; прыгажосці і выродлівасці... Пісьменнік выпрабоўвае ўсіх сваіх герояў адносінамі да прыроды, прыгажосці і сцвярджае, што дабро, якое не супрацьстаіць злу, не змагаецца з ім, а спадзяецца на яго літасць,- такое дабро не проста перастае быць дабром, не проста становіцца ахвярай зла, а становіцца яго хаўруснікам і нават самазабойцам. Той, хто ў сітуацыі выбару паміж духоўным і матэрыяльным (а менавіта такі выбар, а не выбар паміж уласным жыццём і смерцю павінен быў зрабіць гаспадар клёна) аддае перавагу другому, той у рэшце рэшт страціць і духоўнае, і матэрыяльнае,- вось пра што папярэджвае пісьменнік. Хто не дбае ці не заступаецца за прыгажосць, у таго няма будучыні. І сыны гаспадара - першы таму доказ. Зда-

валася б, розныя яны, але хаўрус са злом параўнаў іх, а пакуты сумлення аднаго з іх справы ўжо не вырашаюць - прыгажосць, духоўнасць загублена. І ўваскрэсіць яе ўжо немагчыма. Нават калі адумаемся.

4. *Прагна,* неўтаймоўна, хутка - жадно.

*Выпетраны,* ссохлы, высушаны - пожухлый.

*Бурштынавы,* жоўты - янтарный.

*Завейная,* снежная - вьюжная.

Мур, сцяна - стена.

*Ласы,* падкі, прагны - падкий, охочий.

*Кубло,* жытло - жилище.

*Порсткі,* хуткі, жвавы - быстрый, юркий.

*Кволая,* маладзенькая, далікатная - нежная.

*Халадэча,* стынь, люты холад - холодища.

5. [а-та-ла-jэ], [njан-к'і-jа], [а-чу-ваў].

6. Якасныя: *бунтоўныя, п'янкія, бурштынавы, новая, пяшчотна-клейкая, агромністае, завейная, жоўта-блакітная, невялікая, багатая, белыя, няроўны, лілавата-зялёны, ласы, порсткі, колкі, маленькая, кволая.*

Адносныя: *зімовы, зімовая.*

*Зшовы* - прыметнік; які бывае зімой, звязаны з зімой.

*Зімовы* <— зіма (суфіксальны спосаб).

*Няроўны* - прыметнік.

*Няроўны не роўны* (прыставачны спосаб).

7. Сінтаксічныя амонімы - гэта канструкцыя, якая можа атрымаць больш чым адну семантыка-сінтаксічную інтэрпрэтацыю.

Парадак слоў у пачатку першага сказа *Ён даведаўся, што памрэ ў той самы дзень...* і здольнасць слова *памрэ* спалучацца з суседнімі правакуюць рознае разуменне сэнсу сказа, а значыць, і верагоднасць пунктуацыйнай памылкі. Пераадолець гэта дапаможа кантэкст і сітуацыя маўлення, усведамленне таго, што клён *вяс-*

*ной даведаўся пра сваю смерць,* а не тое, што клён *даведаўся, што памрэ вясной.*

Сінтаксічная аманімія ў сказе ўяўная. Пазбегнуць памылкі дапаможа ўдумлівае назіранне за формай дзеясловаў-выказнікаў. Дзеясловы-выказнікі галоўнага сказа *даведаўся* і даданага азначальнага *пацягнулі* ў форме прошлага часу падказваюць, што словаспалучэнне *ў той самы дзень* належыць галоўнаму сказу, а не даданаму дапаўняльнаму *што памрэ:* даведаўся *калі,* а не памрэ *калі.* Калі б словаспалучэнне *ў той самы дзень* належала даданаму дапаўняльнаму сказу *што памрэ,* то дзеяслоў-выказнік у даданым азначальным сказе быў бы ў форме будучага часу: *калі карані... пацягнуць з адталае зямлі... сокі.* Такі сэнс сказа паўплываў бы і на форму дзеяслова-выказніка ў наступным простым сказе: *і тыя пабягуць.*

Усведамленне структуры сказа ўплывае не толькі на пунктуацыю, але і на арфаграфію: пасля коскі *ў* не пішацца *(..што памрэ, у той самы дзень...).*

Прыклады сінтаксічнай аманіміі: *карабель абстраляў бераг; выступаць вечарсім ён адмовіўся; яму трэба пазваніць.*

Мяняючы лагічны націск, атрымліваем фактычна розныя суджэнні. Такім чынам, адна сінтаксічная форма можа перадаваць новы змест.

9. ...Калі ж не паслухаецца хто і вынесе з манастыра, хай не дапаможа яму святы крыж ні ў жыцці гэтым, ні ў будучым, хай пракляты будзе ён святой жыватворнаю Тройцаю ды святымі айцамі 300 і 50 (?) сямі сабораў святых айцоў і хай напаткае яго доля Іуды, які прадаў Хрыста. Хто ж насмеліцца ўчыніць такое ... валадар або князь, або епіскап ці ігумення, або іншы які чалавек, хай будзе на ім гэты праклён. Еўфрасіння ж, раба Хрыстова, што справіла гэты крыж, здабудзе вечнае жыццё з усімі святымі...

*Пераклаў У. Арлоў*

10. Надпіс зроблены на царкоўнаславянскай мове, але ў ім відавочны ўплыў жывой беларускай мовы з яе аканнем*: *манастыр, акованье.* Гэта ўздзеянне адчуваецца і ў лексіцы: *пискоупъ (епіскап), древо, злото.*

11. Зусім верагодна, што тэкст гэтай "клятвы" прадыктавала майстру Лазару Богшу Ефрасіння Полацкая, каб навекі захаваць у сваім горадзе гэты сімвал палітычнай самастойнасці і культурнага росквіту Полацкага княства - старажытнага правобраза Беларусь Да 1941 г. крыж зберагаўся ў Магілёўскім краязнаўчым музеі, дырэктарам якога пэўны час быў Вацлаў Ластоўскі. Крыж знік у час вайны.

12. У 1992 г. у серыі "Святыя зямлі беларускай" выйшла кніга У. Арлова "Еўфрасіння Полацкая".

Камплект № 35

1. Першы сказ - складаназалежны з даданым азначальным. Галоўны сказ ускладнены звароткам, які ў такога тыпу сказах, як лічаць многія навукоўцы, у прыватнасці Клюсаў і Юрэвіч, з'яўляецца звароткам-дзейнікам. Даданы - двухсастаўны, поўны, развіты, ускладнены аднароднымі выказнікамі *(згадаю або не згадаю).* З галоўным сказам звязваецца злучальным словам *якіх* у ролі дапаўнення.

Другі сказ - складаназалежны з даданым мэты. Галоўны сказ - двухсастаўны, няпоўны, у ім апушчаны дзейнік *я,* развіты, ускладнены пабочным сказам і адасобленым прыдаткам *або па мячы і па кудзелі.* Даданы сказ - безасабовы, інфінітыўны, развіты, ускладнены аднароднымі дапаўненнямі.

Чацвёрты сказ - складаназалежны з даданымі спосабу дзеяння і ўмовы, які стаіць у сярэдзіне сказа і звязваецца з ім злучнікам *калі.* Гэты даданы двухсастаў-

ны, поўны, развіты, ускладнены аднароднымі дзейнікамі *(заснавальнік ці нехта з (са) ... продкаў)* і пабочным словам *прынамсі.* Галоўны сказ - аднасастаўны, абагульнена-асабовы, развіты. Ён разрываецца дададзеным сказам спосабу дзеяння *як і належыць*, у якім апушчана частка выказніка *маляваць.*




Пяты сказ - складаназалежны з даданым прычыны, звязаным з галоўным падпарадкавальным злучнікам *бо.* Гэты сказ аднасастаўны, безасабовы, ускладнены аднароднымі дапаўненнямі. Галоўны сказ - аднасастаўны, няпэўна-асабовы, развіты.

Шосты сказ - складаназалежны з паслядоўным падпарадкаваннем.

Галоўны сказ двухсастаўны, поўны, развіты, ускладнены аднароднымі дапаўненнямі. Першы даданы азначальны з адценнем часу лаясняе ў галоўным назоўнік *рукі* і звязваецца з ім злучнікам *калі.* Гэты даданы сказ двухсастаўны, поўны, ускладнены аднароднымі акалічнасцямі. Другі даданы раскрывае мэту таго, пра што гаворыцца ў першым даданым сказе, і далучаецца да яго злучнікам *каб.* Гэты сказ аднасастаўны, безасабовы, ускладнены аднароднымі выказнікамі. Схема:




Апошні сказ - складаназалежны.

Галоўны сказ *(пачынае здаваццa)* - аднасастаўны, безасабовы, няпоўны (у ім прапушчана дапаўненне *мне),* неразвіты. Першы дадзены сказ часу паясняе выказнік у галоўным і далучаецца да галоўнага злучнікам *калі.* Гэты сказ двухсастаўны, поўны, развіты, ускладнены аднароднымі дапаўненнямі. Другі дадзены дапаўняльны выконвае ролю дапаўнення да выказніка галоўнай часткі. Гэты сказ двухсастаўны, поўны, развіты, ускладнены аднароднымі азначэннямі і дапаўненнямі. Схема:




2. Аўтабіяграфічная аповесць У. Арлова "Мой радавод...", фрагмент з якой прапануецца для аналізу, уяўляе сабой сінтэз **мастацкага** і **публіцыстычнага** стыляў, бо выкарыстанне іх забяспечвае функцыі інфармацыі і эстэтычнага ўздзеяння на чытача. І ўздзеянне гэта дасягаецца не толькі растлумачэннем важнасці і актуальная пастаўленых у творы праблем, але і праз мастацкія вобразы. Канкрэтныя падзеі і людзі, апісаныя рукой майстра, набылі сілу мастацкага абагульнення і эстэтычнага ўздзеяння. Слова-паняцце перайшло ў слова-вобраз, створаны ўяўленнем пісьменніка ў адпаведнасці з яго эстэтычнай ацэнкай, мысленнем, філасофскай канцэпцыяй.

Актуальнасць грамадска-палітычнай тэмы (неабходнасць усведамлення народам сваіх каранёў, вытокаў, гістарычнай і генетычнай памяці), пафаснасць, узнёсласць мовы, а месцамі абуральна-іранічная, здзеклівая інтанацыя, наяўнасць слоў, словазлучэнняў, характэрных для газетных артыкулаў *(радаводнага дрэва; у цывілізаваным свеце; сем дзесяцігоддзяў; нястом-*

*на выкарчоўвалі; улауранық майстроў прыгожага пісьменства),* адкрытая ацэначнасць - вось некаторыя моўна-стылёвыя рысы гэтага тэксту як публіцыстычнага. Пра вобразнасць як самую істотную рысу мастацкага твора ўжо адзначалася.

*3. Не зблытацца* - выказнік;

*ведаць* - частка (выказальная) састаўнога дзеяслоўнага выказніка;

*выклікаць* - частка састаўнога дзеяслоўнага выказнша;

*пасадзіць і пачаць* - выказнікі;

*здавацца* - частка састаўнога дзеяслоўнага выказніка;

*адно* - абмежавальная часціца.

4. *Продкі* - антонімы: *нашчадкі, наследнікі, патомкі, дзеці, спадчыннікі, спадкаемцы.*

Сінонімы: *продкі, прашчуры, папярэднікі, бацькі, дзяды, прадзеды.*

*На мячы і па кудзелі* - па бацьку і маці. У гэтым ёмістым вобразным выразе нашых продкаў - усведамленне сацыяльнай і грамадскай існасці мужчыны і жанчыны. Жанчына - зберагальніца, ахоўніца жытла, сям'і, роду; мужчына - ваяр, рыцар, ахоўнік і абаронца найперш бацькоўскай зямлі, Радзімы, а значыць, і роду таксама;

5. *Улаўраныя* - увитые лаврами, маститые. *Прыгожае пісьменства* - изящная словесность. Кантэкстуальнае адценне гэтых слоў іранічна-здзеклівае.

6. Пісьменнік ставіць праблему генетычнай памяці і сцвярджае, што без яе народ і кожны чалавек пазбаўлены будучыні; даследуе вытокі і прычыны нашага бяспамяцтва і бездухоўнасці. Нават з гэтых двух невялічкіх урыўкаў відавочна акрэсленая аўтарская пазіцыя і перакананне, што найпершай "адзежай" памяці, як і душы, розуму, з'яўляецца слова, мова, што, губляючы слоўка, мы страчваем генетычную інфармацыю, а стра-

ціўшы мову, мы станем наогул бяспамятнымі. А ад бяспамяцтва да скanання вельмі кароткая дыстанцыя. Пачуцці віны, дакору, шкадавання, што ў нас не як у людзей, удзячнасць, замілаванне, настальгія, светлы сум пра незваротнае і нарэшце здзеклівая іронія на адрас тых, хто найперш і павінен быць памятлівым,- такія аўтарскія пачуцці віруюць у тэксце. Лінгвістычным сродкам дасягнення лірызму з'яўляецца выкарыстанне асабовых і прыналежных займеннікаў: *я, мне, яна, мае, ейнае.*

7. *Яленец* (ядловец) (можжевельник); *кураслеп* (лютик); *мацярдушка* (душица); *валошка* (василёк); *кратоўнік* (баранчик); *шалей* (белладонна); *чабор* (богородская трава); *медуніца, дзяцеліна* (клевер); *святаяннік,* (зверобой); *бабоўнік* (калужница); *аўсюг* (овёс луговой);
*прымак* (нарцисс); *ясакар* (тополь); *дужэц* (шалфей).
Большасць з прыведзеных назваў (па "Расійска-крыўскім слоўніку" В. Ластоўскага) - матываваныя,
"гаваркія" словы.
*Урок батанікі* - перанос назвы паводле падабенства функцый зусім розных рэчаў (урок школьны і ўзаеміны з бабуляй, памяць пра яе мудрасць, здольнасць чытаць кнігу роднай прыроды на роднай мове). Гэта надае выказванню некаторую гумарыстычнасць, выяўляе аўтарскае пачуццё захаплення, удзячнасці сваёй бабулі, якая сапраўды заслугоўвае эпітэта захавальніцы скарбаў, захавальніцы вечнасці.
8. *Іван-чай* - скрыпень.
*Маць-і-мачаха* - падбел.
*Іван-ды-мар'я* - братаўкі, браткі, трыкраска, травіца-брат-сястрыца.
У згаданым слоўніку В. Ластоўскага, у "Беларуска-расійскім слоўніку" М. Байкова і С. Некрашэвіча.
9. Ідэя* верша - у апошніх радках, якія ўяўляюць сабой кантэкстуальную перыфразу* (экалагічныя праблемы). Максім Танк і Уладзімір Арлоў сц

юць, што занядбанне роднага, ігнараванне скарбу, якім з'яўляецца мова, і генетычнае бяспамяцтва, парушэнне гармоніі чалавека і прыроды - звёны аднаго ланцуга, імя якому - бездухоўнасць.

У 1993 г. пачаў выдавацца "Лексічны атлас беларускіх народных гаворак" у пяці тамах. Першы том лексічнага атласа прысвечаны расліннаму і жывёльнаму свету.

Гартаючы атлас, не перастаём здзіўляцца багаццю семантыкі дыялектнай мовы, яе сінаніміі.

Вось колькі сінанімічных лексем скарыстоўваецца ў жывых народных гаворках дзеля характарыстыкі паняцця - дзеяння *стракатаць* (пра сароку): стракоча, шчабеча, трашчыць, чаркае, чырыкае, чаркаціць, чыкае, чычыкае, чэркае, шчакоча, сакоча, скергеча, крычыць.

Так, напрыклад, да назвы расліны *чабор* ёсць да 12 варыянтаў: чобар, чабор, чабер, чабур, чомбар, чамбор, чаборык, чабарок, чобрык, чабрэц, шчабрэц, чабурэц. Гэтулькі ж варыянтаў і да слова *дзяцеліна:* дзятліна, дзятлавіна, дзятлевіна, дзятлаўка, дзятліца, дзяцельна, дзяцельнік, дзяцеляўнік, дзяцельніца, дзягцеліна, ятлына, ятылныця.

Навуковае і агульнакультурнае значэнне гэтай працы значна выходзіць за межы мовазнаўства. Матэрыялы атласу могуць служыць навуковай базай для даследчыкаў сумежных навук - гісторыкаў, археолагаў, этнографаў.

10. У гідраніміі (назвах водных аб'ектаў) Беларусі ў значнай ступені адлюстраваліся асаблівасці прыродных умоў краю, праявілася цесная сувязь чалавека з навакольным светам і вялікая роля ў яго жыцці флоры і фаўны, пра што сведчаць наступныя назвы: Баркі, Алешня, Альхоўка, Асінаўка, Баброўка, Бобрыч, Бярозаўка, Бярэзіна, Дубаўка, Ельня, Жабінка, Замошша, Мядзведак і інш.

1. Першы сказ - складаназалежны з паслядоўным і сузалежным падпарадкаваннем.

Галоўны сказ - двухсастаўны, поўны, развіты. Першы даданы - дзейнікавы, ён паясняе дзейнік у галоўным сказе, выражаны ўказальным займеннікам *тыя.* Гэты сказ двухсастаўны, поўны, неразвіты, з галоўным звязваецца злучальным словам *хто* ў ролі дзейніка. Два даданыя аднародныя дапаўняльныя сказы паясняюць дзеяслоў-выказнік *лічыць* у першым даданым сказе і звязваюцца з ім падпарадкавальным злучнікам *што.* Першы з гэтых аднародных сказаў - аднасастаўны, безасабовы, у ім выказнік выражаны адмоўным словам *няма.* Сказ развіты, ускладнены аднароднымі недапасаванымі азначэннямі *(у мастацтве і літаратуры).* Каб пераканацца, што гэта не акалічнасці і не дапаўненні, прыменім прыём замены назоўнікаў на дапасаваныя азначэнні: *законы* я к і я? *мастацкія і літаратурныя.*

Другі даданы дапаўняльны - таксама безасабовы (выказнік *-можна папіхаць),* развіты.

Апошні даданы сказ - спосабу дзеяння, ён паясняе выказнік *можна папіхаць* у папярэднім даданым дапаўняльным сказе і звязваецца з ім злучнікам *як.* Гэты сказ аднасастаўны, безасабовы, неразвіты. Схема сказа:



Сказ *Ці даравальна...*- складаназалежны з рознымі відамі сувязі. Галоўны сказ - сцвярджальны, а не пытальны. Ён аднасастаўны, безасабовы, развіты, састаўны дзеяслоўны выказнік - *ці даравальна забываць,* што тоесна *недаравальна забываць.*

Два аднародныя даданыя дапаўняльныя сказы паясняюць выказнік у галоўным і звязваюцца з ім падпарадкавальнымі злучнікамі *што.* Абодва сказы - двухсастаўныя, поўныя, развітыя, першы ўскладнены аднароднымі выказнікамі *труба, звон, барабан, не жалейка, не свісцёлка.* Паколькі дзейнік і выказнік выражаны назоўнікамі ў назоўным склоне, то паміж імі ставіцца працяжнік. Два наступныя даданыя мэты раскрываюць мэту і прызначэнне таго, пра што гаворыцца ў другім з двух аднародных дапаўняльных сказаў, і звязваюцца з ім падпарадкавальнымі злучнікамі *каб.* Паколькі сэнс гэтых двух сказаў супярэчлівы, то яны паміж сабой звязваюцца супраціўным злучнікам *а.* Абодва гэтыя сказы аднасастаўныя безасабовыя, развітыя. У другім сказе параўнанне *як сігнал* з'яўляецца часткай выказніка *гучаць як сігнал,* таму перад *як* коска не ставіцца. Апошні даданы азначальны сказ паясняе назоўнік *сігнал* у другім з двух даданых мэты і звязваецца з ім злучальным словам *які* ў ролі дзейніка. Гэты сказ двухсастаўны, поўны, развіты. Схема:



2. Рытарычнае пытанне.

3. *Талент,* дар, здольнасць, геніяльнасць;

*мастак,* творца;

*канфлікт,* барацьба, супярэчнасць;

*сігнал,* папярэджанне, знак;

*элегія* - мнагазначнае слова: лірычны твор, прасякнуты пачуццём смутку, журбы, роздуму; вакальны ці інструментальны твор задуменнага, сумнага характару; пераноснае значэнне - сум, журба, меланхолія. У кантэксце выкарыстана ў пераносным значэнні.

4. *Камунікатыўны* - які здзяйсняе зносіны, сувязі. *Камунікатыўная функцыя мовы, літаратуры;*

*эстэтычны* - які мае адносіны да прыгожага ў жыцці і мастацтве; прыгожы, мастацкі; звязаны з успрыманнем прыгожага ў жыцці і мастацтве. *Эстэтычныя погляды;*

*эўрыстычны* - які мае адносіны да метадаў пошуку і адкрыцця новага. *Эўрыстычны метад навучання;*

*геданістычны* - забаўляльны, які мае адносіны да забаў, уцех, асалоды. *Геданістычная функцыя мастацтва.*

5. Функцыі мастацтва: пазнавальная, выхаваўчая, камунікатыўная, эстэтычная, эўрыстычная, геданістычная.

Усе функцыі мастацтва, акрамя апошняй - геданістычнай, з асаблівай мастацкай сілай рэалізаваны ў творчасці В. Быкава. Апошнюю ён адмаўляе, а ў дачыненні да ваеннай тэмы адмаўляе катэгарычна.

6. Асаблівасці творчасці В. Быкава.

6.1. Асноўная тэма - ваенная.

6.2. Асноўны жанр - малафарматная аповесць* з абмежаваным прасторава-часавым і падзейным разваротам, з нешматлікай колькасцю дзейных асоб. Не панарамны паказ вайны, а паглыбленне ў псіхалогію чалавека на вайне.

6.3. Вастрыня сюжэтаў, якая дасягаецца выпрабаваннем герояў экстрэмальнымі і звышэкстрэмальнымі сітуацыямі, сітуацыямі выбару. Героі В. Быкава - асобы выключныя, моцныя.

6.4. Псіхалагізм, матывацыя ўчынкаў герояў. В. Быкаў усімі творамі сцвярджае, што нічога выпадковага на свеце не бывае, усё мае свае вытокі.

6.5. Перамежаваны паказ сучаснага і мінулага ("Абеліск", "Кар'ер" і інш.).

6.6. Філасофская накіраванасць і праблематычнасць. Вострая палемічнасць некаторых аповесцей ("Абеліск", "У тумане", "Сотнікаў", "Пайсці і не вярнуцца").

6.7. Трагізм.

6.8. Сучаснасць праблем, узнятых у творах пра мінулае.

6.9. Рэалізм.

В. Быкаў сцвярджае, што сіла мастацтва "мае свае вельмі канкрэтныя рысы і выдатна рэгулюецца вялікім крытэрыем - Праўдай жыцця. Праўда жыцця, абставін і паводзін чалавека ў пэўных жыццёвых акалічнасцях - вось магутны крытэрый нашага рэалістычнага мастацтва" (З выступлення на пленуме СП БССР у 1985 г.). Аднойчы прысягнуўшы на вернасць праўдзе, пісьменнік не здраджвае ёй і сёння. "З праўдай магчыма ўсё, без яе немагчыма нічога. Усё мінецца, а праўда застанецца! Якая вялікая мудрасць заключана ў гэтых чатырох словах векавой народнай ісціны",- пісаў В. Быкаў у 1972 г., хутка пасля смерці А. Твардоўскага, прыпіска якога ў віншаванні з майскімі святамі з рэдакцыі "Нового мира" ў 1969 г. "Усё мінецца, а праўда застанецца" была для В. Быкава дабраславёнай і выратавальнай у вельмі крытычны момант яго жыцця, бо для пісьменніка-франтавіка барацьба са злом і няпраўдай не закончылася 9 мая 1945 года...

Выкананне галоўнага закону мастацтва ў творах В. Быкава забяспечваецца і жыццёвай асновай твораў, і трагізмам іх.

7. Перамежаваны паказ сучаснага і мінулага ў творах В. Быкава служыць матывацыі ўчынкаў герояў, даследаванню вытокаў маральнага ўзыходжання ці, наадварот, - падзення або, як у "Абеліску", выпрабаванню герояў памяццю, адносінамі да мінулага. Праз рэтраспекцыі, як у аповесці "Знак бяды", таксама дасягаецца глыбокі псіхалагізм. Быкаў застаецца верным сабе і ў няўмольнай ісціне: усё мае свае вытокі, нічога выпадковага не бывае. Чалавек застаецца адданым сабе і сваім маральным прынцыпам. Аднак рэтраспекцыя нясе яшчэ адну, і галоўную, нагрузку ў гэтым творы - паказаць заканамернасць і сувязь паміж сталінізмам і гітлерызмам, фашызмам. Гэта два звяны ў ланцугу бязмежных пакут беларускага народа. Злачынствы сталінізму не менш жудасныя, чым злачынствы фашызму: забойствы, знішчэнне людзей, што лічыцца недапушчальным, радзімым грахом, разбурэнне гнёздаў, калечанне лёсаў, давядзенне людзей да адчаю, страты веры. Разрываюцца самыя моцныя сувязі паміж людзьмі - кроўныя, родасныя. Жаніх, вымушаны "раскулачваць" нявесту, даведзены да адчаю, канчае жыццё самагубствам. Але самае страшнае - разбураецца векавая народная мараль, ствараюцца такія абставіны, сітуацыі, якія "мабілізуюць", рэалізуюць самыя ганебныя якасці чалавека, больш таго - яны заахвочваюцца, а бар'ераў для такіх мярзотнасцей ужо не існуе, яны знішчаны, іх пераступілі.

8. **Публіцыстычны,** бо здзяйсняе функцыі ўздзеяння і інфармацыі. Ён выкарыстоўваецца ў публічных выступленнях, грамадска-палітычных артыкулах і г. д. Моўна-стылявыя рысы гэтых тэкстаў: актуальнасць тэмы (законы мастацтва і жыцця; прызначэнне маста-

ка і мастацтва ў грамадстве); пераканаўчасць, доказнасць, эмацыйнасць, пафаснасць; наяўнасць слоў і словазлучэнняў, характэрных для публічных выступленняў і артыкулаў (*агульнавядома; найпершы абавязак; гнойныя раны чалавецтва; сігнал трывогі; для барацьбы за лепшую будучыню; ідэалагічныя руплійцы; палітычныя вывады; законамі грамадскага жыцця; канфліктаў; гармонія; няўмольных законаў* і да т. п.). Галоўная думка першага тэксту, што ў мастацтве, як і ў жыцці, ёсць свае законы, якімі нельга ігнараваць і якія нельга парушаць. Галоўная думка другога тэксту сфармулявана ў першым сказе. Акрамя названых лексічных стылявых сродкаў, якімі рэалізавана ідэя, трэба назваць рытарычна-пытальны сказ, паўторы *(вельмі і вельмі),* паралелізм *(у жыцці..., а ў мастацтве),* антытэзу і інш.

9. *Руплійц\ы\, паспешлів\ыя\, даравальна.*

*Руплійцы* - назоўнік; тыя, якія *руплівыя.*

*Руплійцы* <— *руплівыя* (суфіксальны).

*Даравальна* - прыслоўе, прымета па дзеянню паводле *даравальны.*

*Даравальна* <— *даравальны* (суфіксальны).

[гра-ма-цка-ја], [ба-ра-дз'ба].

10. [шчас'ц'э], [ц'ашкас'ц'], [пас'п'эшлівыја],

[с'в'іс'ц'олка], [с'в'эт], [з'дз'эјучым'і], [барадз'бы].

11. Ва ўсіх выпадках дзеясловы неазначальнай формы з'яўляюцца або выказнікамі, або ваказальнай часткай састаўнога дзеяслоўнага выказніка, а ў першым сказе другога тэксту дзеясловы *ўскрываць* і *дамагацца* - аднародныя дзейнікі, а назоўнік *абавязак* - выказнік. Калі адзін з галоўных членаў мае ярка выражанае ацэначнае значэнне, то незалежна ад пазіцыі ён амаль заўсёды выконвае функцыю выказніка. Некаторыя сінтак-

сісты прапануюць нулявую звязку замяніць паўзнамянальнай, а дзеяслоў - назоўнікам.

*Ускрыванне ... і дамаганне ... з'яўляюцца абавязкам літаратуры.*

12. Што ёсць подзвіг? Якога чалавека можна лічыць героем?

Што ёсць віна, а што бяда? Што ёсць памылка, а што злачынства? За што чалавек заслугоўвае пакарання і пагарды, а за што - літасці і спачування?

Ці бываюць сітуацыі, якія мацнейшыя за самага моцнага чалавека? Што ёсць чалавек перад няўмольнай сілай абставін? Што залежыць ад чалавека ў сітуацыі, якая мацнейшая за чалавека? Ці мае права чалавек судзіць другіх і распараджацца іх лёсамі?

У чым сіла і слабасць чалавека?

Чым вызначаецца сутнасць чалавека?

Што самае трагічнае для нацыі, народа?

Дзе вытокі нашых сённяшніх бед і няшчасцяў, нашай бездухоўнасці?

Камплект N° 37

1. Першы сказ - складаны з рознымі відамі сувязі. У ім выдзяляюцца дзве структурныя часткі. Першая ўяўляе сабой складаназалежны сказ з паслядоўным падпарадкаваннем. Галоўны сказ - аднасастаўны, абагульнена-асабовы, развіты. Першы даданы дапаўняльны - двухсастаўны, неразвіты, ён звязваецца з галоўным злучальным словам *кім* у ролі іменнай часткі састаўнога іменнага выказніка. Другі даданы часу паясняе выказнік у першым даданым сказе і звязваецца з ім злучнікам *калі.* Гэты сказ двухсастаўны, няпоўны (у ім апушчаны дзейнік *ён),* неразвіты. Першая з другой структурнай часткай звязваецца злучнікам і.

Другая структурная частка - складаны бяззлучнікавы сказ. Першы сказ у ім - двухсастаўны, развіты. Другі просты сказ раскрывае, паясняе, дапаўняе сэнс першага сказа, таму паміж імі ставіцца двукроп'е. Гэты сказ - двухсастаўны, няпоўны, у ім апушчаны дзейнік *ён* і дзеяслоўная звязка *будзе.* Сказ неразвіты, ускладнены аднароднымі выказнікамі. Схема сказа:




Перадапошні сказ - складаны з рознымі відамі сувязі, складаецца з трох простых. Першы сказ *(я так думаю)* - двухсастаўны, развіты. Другі просты *(у тым... найпершя заслуга...)* - двухсастаўны, няпоўны.

Апошні сказ - складаназалежны з даданым уступальным, які звязваецца з галоўным уступальным злучнікам *хай.* Даданы двухсастаўны неразвіты Ускладнены пабочным словам *можа.*

2. Аўтарскае выдзяленне слова *што* мяняе сэнс сказа, акцэнтуе ўвагу чытача на якасць прадмета, а не на яго існасці, не на тое, што мы *ёсць* як нацыя (гэта канстатуецца як ісціна, даннасць), а на тое, *якія* мы як нацыя: дастойныя, годныя, паважаныя, не горшыя за іншых у свеце. Лагічнае выдзяленне слова *што* надае яму статус самастойнай часціны мовы - займенніка (ён у кантэксце сінанімічны займенніку *якія),* ён з'яўляецца злучальным словам у ролі азначэння.

Параўнаем гэты сказ са сказам, у якім слова *што* лагічна не выдзелім.

*У тым, што мы ёсць сёння як нацыя і народ,- найпершая заслуга Францішка Скарыны.*

У гэтым сказе *што* - падпарадкавальны злучнік. Акцэнт у сказе на тое, што без Скарыны само ўсведамленне нас, беларусаў, як нацыі і народа, а значыць і наша існаванне як нацыі, было б праблематычным. Без Ф. Скарыны нам яшчэ цяжэй было б даказваць, што мы самабытная нацыя са сваёй культурай, гісторыяй, традыцыямі, а значыць, і адстойваць сваю самастойнасць, дзяржаўнасць.

3. Стыль - **мастацкі.** Гэты тэкст выдатна пацвярджае тое, што стылі не ізаляваны адзін ад аднаго, што яны знаходзяцца ў заўсёдным узаемапранікненні. Так, у мове мастацкай літаратуры (а дадзены тэкст з'яўляецца фрагментам аповесці) могуць узаемадзейнічаць у большай ці меншай ступені элементы розных стыляў. У дадзеным - гутарковага (непаўната сказаў, выкарыстанне простых, складаназлучаных і бяззлучнікавых сказаў, са складаназалежных пашыраныя з даданымі дапаўняльнымі; высокая экспрэсіўнасць і эмацыйнасць; выкарыстанне пабочных слоў і сказаў, выразаў тыпу *не дай бог,* народнай лексікі: *галеча, заробкі, сухоты)* і публіцыстычнага. Гэта маналог аднаго з герояў аповесці, які палкі ў сваім імкненні і жаданні давесці журналісту-субяседніку, што ўсё жыццё настаўніка Мароза - подзвіг, што яго імя павінна быць напісана на абеліску. Гэты фрагмент маналога самы філасофскі: субяседнік разважае наогул пра ролю настаўніка ў грамадстве, чым і абумоўлена наяўнасць у тэксце прыкмет публіцыстычнага стылю: *не было нічога больш важнага і карыснага; штодзённая... праца тысяч бязвесных сейбітаў на гэтай духоўнай ніве; нацыя і грамадзяне; найпершая заслуга сельскіх настаўнікаў* і інш.

Гэтыя публіцыстычныя стылярысы вельмі натуральныя ў такім мастацкім тэксце, яны адначасова з'яўляюцца моўнай самахарактарыстыкай героя - чалавека разумнага, адукаванага, перакананага, адданага

сваёй справе, шчырага ў жаданні пераканаць заезджага карэспандэнта, які ў сваю чаргу зможа пераканаць іншых, такіх, як Ксяндзоў. На жаль, Ксяндзоў не адзіны ў сваім прагматызме, бяспамяцтве, цынізме і бездуховнасці. Таму і мова персанажа, публіцыстычна-прамоўніцкая, у тэксце гучыць натуральна, "працуе" і на вобраз, і на ідэю ўсяго твора.

Тып маўлення - разважанне.

Т э з і с: прафесія настаўніка - самая ганаровая і пачэсная раней на Беларусь

Д о в ад: самыя лепшыя, самыя дастойныя, насперакор усім нястачам і нягодам, імкнуліся ёю авалодаць.

В ы в а д: ад настаўніка залежыць духоўнасць нацыі.

4. Аднаму з герояў, пра што даводзілася раней. 1ншая справа, што сваю філасофскую канцэпцыю аўтар рэалізуе, выяўляе не толькі Праз лірычныя і філасофскія адступленні, а праз пэўныя вобразы, дыялогі і маналогі персанажаў, доказам чаго і з'яўляецца вобраз Ткачука і яго маналогі.

5. *Бязвесныя сейбіты на духоўнай ніве* - настаўнікі. Прыклады перыфразаў у адказе № 3 камплекта № 32.

6. Падпарадкавальны ўступальны злучнік.

Каб пераканацца ў гэтым, заменім яго сінанімічным *нягледзячы на тое што:*

*Нягледзячы на тое што, магчыма, я і памыляюся, але я так лічу.*

І яшчэ сказ.

*Хай праз гэта мяне, магчыма, чакаюць непрыемнасці, нават пакуты, усё ж не магу паступіцца праўдай і сумленнем.*

А ў сказе *Хай праменяцца дні, Беларусь, над тваімі палямі* (Г. Пашкоў) слова *хай* - пабуджальная часціца.

У сказе *Хай прынясе вады* - формаўтваральная часціца, яна служыць для ўтварэння загаднага ладу.

7. *Сухоты* - туберкулёз.

*Крываўка* (дизентерия), *жабка* (ангина), *жаўтачка* (Боткина), *вогнік* (антонов огонь, струп на лице), *адзёр* (корь), *кароста* (чесотка), *пранцы* (сифилис).

Усе гэтыя назвы - **матываваныя словы.** *Крываўка* - таму што праяўленнем гэтай хваробы з'яўляецца крывавы панос. *Жабка* - таму што, паводле народнай медыцыны, хваробу лечаць дыханием на жабу і г. д.

8. <u>*Настаўніцк\ага*</u> (настаў+нік+ск+ага).

*Настаўніцкі* - прыметнік; які належыць *настаўніку. ;*

*Настаўніцкінастаўнік.*

*Настаўнік* + *ск* + *і* - <u>*настаўнік*</u> (суфіксальны).

*Свйбітаў (бязвесных)* - назоўнік, *сейбіт,* той, хто *сее.*

*Сейбіт* <— *сей-аць* (неазн. ф. дзеясл.) (суфіксальны спосаб).

*Сейбіт\аў*\. Марфемны аналіз.

*Сейбітаў (пот)* - прыметнік; які належыць *сейбіту.*

*Сейбітаў* *с*<u>*ейбіт*</u> (суфіксальны спосаб).

<u>*Сейбітаў*</u>\\. Марфемны аналіз.

9. Твор - вострапалемічная **аповесць,** пабудаваная на спрэчцы, канфлікце паміж Ткачуком і Ксяндзовым; ваенная і сучасная тэмы перамежаваны; вострасюжэтная (герой выпрабоўваецца сітуацыяй выбару). Вастрыня сюжэту ўзмацняецца тым, што герой свядома, наперакор угаворам не рабіць гэтага, ідзе на верную смерць, добра разумеючы, што не выратуе сваіх вучняў і загіне сам. Гэта і дае падставу некаторым, напрыклад Ксяндзову, усведамляць учынак Мароза не подзвігам, як таго дамагаецца Ткачук, а недарэчнасцю, глупствам.

10. Цэнтральная філасофская праблема аповесці - праблема гераічная: што ёсць подзвіг?

Назва твора сімвалічная. Абеліск - сімвал чалавечай памяці. Памяць - гэта інфармацыя аб мінулым, адзін з наймагутнейшых сродкаў повязі вякоў і пакаленняў. Бяспамяцтва парве гэту повязь - і тады канец. Пісьменнік выпрабоўвае сваіх герояў-сучаснікаў не экстрэмальнай, як Мароза, сітуацыяй, а памяццю, адносінамі да мінулага. Цынізм і бездухоўнасць Ксяндзова выяўляюцца найперш праз гэта выпрабаванне.

11. Трагізм - адна з асаблівасцей* творчасці В. Быкава. І ў гэтым пісьменнік застаецца верным праўдзе жыцця, а яно, тым болей ваеннае,- не казка са шчаслівым канцом. Усімі сваімі творамі пісьменнік сцвярджае, што за ўсё на свеце трэба плаціць, а за перамогу дабра над злом, за святы дзень 9 Мая - жыццём самых лепшых, самых высакародных. А "колькі талентаў звялося"!.. І ці не ў гэтым адна з прычын нашых сённяшніх праблем, нашай бездухоўнасці?

12. Адказ у камплекце № 31, п. 11.

Камплект № 38

1. Трэці сказ - складаназалежны з сузалежным і паслядоўным падпарадкаваннем.

Галоўны сказ *(усё ж яна пакваплілася на чужое)* - двухсастаўны, поўны, развіты.

Да галоўнага сказа адносяцца два даданыя ўступальныя сказы, змест якіх супярэчыць факту, падзеі, пра якую паведамляецца ў галоўным.

Першы даданы ўступальны сказ стаіць перад галоўным і звязваецца з ім уступальным злучнікам *хай* з часціцай *сабе.* Гэты сказ няпоўны, у ім апушчаны дзейнік і выказнік (*яна пакваплілася),* якія лёгка ўзнаў-

ляюцца з кантэксту. Другі даданы ўступальны сказ стаіць пасля галоўнага і звязваецца з ім злучальным словам *чаго.* Гэты сказ таксама няпоўны. у ім апушчаны дзейнік *яна.* Ён развіты. Наступны даданы азначальны паясняе назоўнік *Яхімаўшчыне* ў другім даданым уступальным сказе і звязваецца з ім злучальным словам *дзе.* Гэты сказ двухсастаўны, поўны, развіты, ускладнены аднароднымі выказнікамі і акалічнасцямі ўступкі *праз беднату і нястачу.* Наступны даданы дапаўняльны паясняе выказнік *старалася* ў даданым азначальным сказе і звязваецца з ім падпарадкавальным злучнікам *каб.* Гэты сказ двухсастаўны, поўны, развіты. Схема сказа:




Першы сказ другога абзаца - складаны з рознымі відамі сувязі. У ім выдзяляецца некалькі структурных частак. Першая частка ўяўляе сабой складаназалежны сказ з даданым азначальным, які стаіць у сярэдзіне галоўнага і звязваецца з ім злучальным словам *што.* І галоўны, і даданы сказы - двухсастаўныя, поўныя. Галоўны сказ - неразвіты (*ноч* - дзейнік, а ўсе астатнія словы - складаны выказнік, бо сэнс словаспалучэння тоесны *была трывожная, пакутлівая,* а толькі словаспалучэнне *была поўная* не валодае функцыяй выказальнасці, інфарматыўнасці).

Другая структурная частка адначасова і раскрывае, паясняе змест першай, і паказвае на вынік таго,

пра што гаворыцца ў ёй. Таму паміж імі ставіцца працяжнік, а звязваюцца паміж сабой структурныя часткі бяззлучнікавай сувяззю.

Другая структурная частка ўяўляе сабой складаны сказ з рознымі відамі сувязі. Першы з другім сказам звязаны злучальнай сувяззю, а трэці з другім - падпарадкавальнай. Другі просты сказ з'яўляецца адначасова галоўным для апошняга даданага дапаўняльнага.

Першы просты сказ другой часткі - двухсастаўны, поўны, развіты, ускладнены аднароднымі выказнікамі, звязанымі паміж сабой паўторнымі злучнікамі і, таму перад кожным з іх ставіцца коска. Сэнс другога сказа супярэчыць таму, пра што гаворыцца ў першым, яны звязваюцца паміж сабой супраціўным злучнікам *але*.

Другі просты - двухсастаўны, поўны, развіты. Даданы дапаўняльны - аднасастаўны, безасабовы. Схема сказа:




**2. Мастацкі.**

Складаныя сінтаксічныя канструкцыі, мноства аднародных і адасобленых членаў сказа, паўторы, пытальныя сказы выдатна перадаюць душэўны стан герояў, у першую чаргу Сцепаніды, яе барацьбу з самой сабой, пакуты сумлення, усю гаму пачуццяў і складанасць стану душы. Парадаксальна: перад намі аўтарскі тэкст, а ствараецца ўражанне, быццам чытаем унутраны маналог гераіні, настолькі моцная сувязь паміж аўтарам і яго гераіняй, настолькі глыбокае пранікненне пісьменніка ў яе душу.

Тэкст надзвычай лірычны. Мы адчуваем спачуванне аўтара сваей гераіні, а галоўнае - любоў і захапленне ёю, бо чалавек, у якога ёсць пачуццё віны, якога мучыць сумленне, які здольны ўсвядоміць свой грэх і пакаяцца,- такі чалавек заслугоўвае менавіта захаплення. У гэты момант свайго жыцця Сцепаніда не здолела перамагчы сябе. Натуральнае чалавечае жаданне лепшай долі аказалася мацнейшым за яе. І праз усё жыццё, як пакутніцкі крыж, пранясе яна пачуццё віны за ўласную слабасць. І не толькі душэўнымі пакутамі, а справамі будзе выкупляць сваю віну: яе літасць і чалавечнасць да пана Адолі варты не меншага захаплення. І не яе ўжо віна, што той налажыў на сябе рукі...

А вось пра сілу Петрака і яго перамогу над сабой пісьменнік скажа па-мужчынску стрымана, яго ж, Петраковымі, словамі: "Не пайду, і ўсё. Не магу я..."

Тыповай рэплікай, вызначальнай слабога чалавека, аўтар дасягае парадаксальнага* эфекту. Гэта ж якую сілу трэба мець, каб не пераступіць, ды яшчэ ў сітуацыі, калі само шчасце плыве табе ў рукі! "Не пайду, і ўсё. Не магу я..." Як сказаў, так і зрабіў, хоць не асудзіў бы яго ніхто, бо гэта быў, як кажуць, падарунак лесу. Ёсць парог, пераступаць які нельга. Нельга - і ўсё, як бы нам таго ні хацелася, як бы ні віравала ў нашай душы адвечнае, інстынктыўнае "Я!", "Мае!", "Мне!". Гэты парог - уласнае сумленне.

*3. Гонар* - маральная годнасць, павага, пашана, вартасць.

*Гонор* у рускай мове - ганарлівасць, фанабэрыстасць, пыхлівасць, высакамер'е.

*Благі* (у тэксце: *ён быў не благі, пан Адоля)* - кепскі, нялюдскі.

*Благой* (порыв) - харошы, добры, высакародны.

*Ліст* - пісьмо. *Лист* - адзіночНы лік да слова *листы, листья.*

4. *Валвыканком.* У гэтага слова дзіўны лёс, яно - прадукт і сведка пэўнага часу ў гісторыі нашай краіны, яно "вандравала" з аднаго пласта лексікі ў другі. У 20-я гады, як і *камбед, нэп, калектывізацыя, стаханавец,* спачатку было нязвыклым,- новым (неалагізмам*), потым стала актыўным, агульнаўжывальным. Потым, калі функцыю валвыканкомаў сталі выконваць сельсаветы, слова *валвыканком* стала **архаізмам,** а цяпер, калі і сельсаветы зліквідаваны,- гэта ўжо гістарызм.

У творах на гістарычную тэматыку **гістарызмы** і **архаізмы** выкарыстоўваюцца для ўзнаўлення гістарычных абставін пэўнай эпохі і мовы герояў.

Гістарызмы: *дзядзькаванне, лучнік, баярын, веча, магнат, лёкай, цівун, рэкрут, вярста, фунт, валока, дзесяціна, талер, дукат, керанкі, лікбез, губкам.*

Архаізмы: *атрамант* (чарніла), *чало* (лоб), *ланіты* (шчокі), *персі* (грудзі), *перст* (палец), *тэстамент* (запавет, дакумент на валоданне спадчынай).

5. "І намаўчаліся, і нашапталіся" - **антонімы,** але ў тэксце з'яўляюцца кантэкстуальнымі **сінонімамі,** словамі, якімі перадаецца стан пакут, пошукаў выйсця, сітуацыя выбару.

Не маюць антонімаў словы з канкрэтным значэннем (бяроза, стадыён), тэрміны (афікс, пігмент), уласныя імёны (Васіль, Дзвіна), лічэбнікі, займеннікі і службовыя часціны мовы, акрамя некаторых прыназоўнікаў з прасторавым значэннем, паміж якімі могуць устанаўлівацца антанімічныя адносіны: *над - пад; з - у; ад - да.*

Антонімы выкарыстоўваюцца для стварэння кантрастных характарыстык асоб, прадметаў, падзей, думак, паняццяў, вобразаў. Такое стылістычнае выкарыстанне антонімаў ёсць **антытэза.**

Лета збірае - зіма паядае. (Прыказка.)

Слову **жывому** - на глебу ўрадлівую,
**Мёртваму** слову - на камень, на жвір.
**Шчыраму** сэрцу - долю шчаслівую,
**Чэрстваму** сэрцу - балота і вір.

*С. Дзяргай*

Выдзеленыя словы - антонімы, а словазлучэнні паміж сабой - кантэкстуальныя антонімы.

Аксюмаран - спалучэнне неспалучальнага, аб'яднанне процілеглых сэнсам паняццяў, якія ў спалучэнні даюць новае, парадаксальнае ўяўленне, ствараюць экспрэсіўны эфект, выяўляюць філасофію і парадоксы жыцця: *светлая журба; звонкая цішыня; гарачы снег, салодкі палон; горкая радасцъ; мілы дуранъ; жывы нябожчык.*

6. *Узяць без ведама; украсці; узяць без дазволу.*

*Як жыць, не ўзяўшы.*

*Не прыдумаў суцяшэння сумленню.*

7. [С'ц'эпан'іда], [радас'ц'], [іс'ц'і], [на дас'в'эц'і], [з'в'эс'іў].

*Яе* [ ja-jэ ] 2 літары - 4 гукі.

[а-чу-вац'] - 8 літар, 6 гукаў;

[спа-дз'а-ва-н'ах] - 12 літар, 10 гукаў.

8. *Намаўчал\і\ся, нашаптал\і\ся, адчуваць.*

*9.* У першым абзацы - выяўленне пачуццяў, стану душы чалавека ў сітуацыі выбару. Пра асаблівасць аўтарскай мовы, ролю лінгвістычных сродкаў у дасягненні лірызму, экспрэсіі, эмацыйнасці, эфекту злітнасці, еднасці з думкамі і пачуццямі гераіні ўжо адзначалася.

Другі ж абзац - уласна-аўтарскі тэкст, апісанне гераіні не знутры, а быццам здаля, збоку, стрыманая канстатацыя выніку душэўнай барацьбы, *пакут, развag і*

*хістанняў.* Лірызм у гэтым абзацы дасягаецца паўторамі злучніка *і*, прыстаўкі *на-* ў дзеясловах мнагакратнага значэння *(напакутаваліся, і нашапталіся, і намаўчаліся).* І мы адчуваем і аўтарскую спагаду сваёй гераі, і асуджэнне абставін, якія вымагаюць чалавека праявіць не лепшыя свае якасці. А свае адносіны да ўчынка Петрака аўтар выказаў адным, наўдзіў трапна падабраным дзеясловам для ўводу простай мовы: *вырашыў.* Не сказаў, не вымавіў, не выдыхнуў, не адсек, а менавіта вырашыў: *яшчэ раз трохі разважыўшы, вырашыў.* Сутнасць чалавека заўсёды вызначаецца рашэннем, якое з'яўляецца вынікам *пакут, развог і хістанняў* - такое пісьменніцкае і чалавечае крэда В. Быкава. Гэтым жа крытэрыем, гэтай меркай ён і вывярае сваіх герояў.

10. Сіла "слабасці" Петрака выявілася не толькі ў гэтай сітуацыі і не толькі ў магутным пратэсце - таксама выбар. А Галгофа, абўджаная да жыцця, дзякуючы яго нечалавечым высілкам? А скрыпка, купленая ў самыя змрочныя моманты жыцця, у самыя галодныя, за якую потым рызыкаваў жыццём, каб вярнуць? А паездка ў Мінск да Чарвякова, каб вызваліць з бяды блізняга? Заступіцца за другога здольны толькі моцны чалавек.

Прага жыцця, інстынкт самазахавання вельмі моцныя ў Петраку, а страх як ахоўная рэакцыя арганізма ў пэўныя моманты яго жыцця дамінуе над усімі другімі пачуццямі, што настойліва падкрэслівае і аўтар: "палохаючыся, нязграбна схлусіў Пятрок", "каторы ўжо раз спалохаўшыся", "збіты з панталыку, ён проста забыўся на словы", "у Петрака дробненька трэсліся рукі і ўсё нутро зябка дрыжэла". Нават бескампрамісная Сцепаніда разумее Петрака і яго высілкі "неяк паддобрыцца, нават падлізацца да чужынцаў, дагаджаць ім у малым ці ў большым", каб уратавацца ад смерці,

але для моцнай асобы ёсць каштоўнасць, якая вышэйшая нават за жыццё,- годнасць і гонар. І калі прыніжэнне годнасці бязмежнае, то для моцнай асобы наступае крытычны момант, за якім - магутны пратэст, хай сабе гэта каштуе жыцця. Крытэрыем моцнай асобы з'яўляецца галоўны прынцып, якім не паступаюцца, парог, які не пераступаюць ні пры якіх абставінах, а ў самы крытычны момант - рашучае і ўсё вызначальнае: "Не пайду, і ўсё!.."

11. Гі дэ Мапасан пісаў: "Геніяльным з'яўляецца толькі такі твор мастацтва, які адначасова ўяўляе з сябе сімвал і дакладнае выражэнне рэчаіснасці". Іншымі словамі, адным з крытэрыяў мастацкай вартасці твора з'яўляецца колькасць і якасць умоўнасцей*. Аповесць "Знак бяды" цалкам адпавядае гэтаму крытэрыю. У ёй мноства розных умоўнасцей, але дамінуючымі сярод іх з'яўляюцца знакі-сімвалы: скрыпка - сімвал таленавітасці беларускага народа; крыніца - сімвал невычэрпнай сілы народа і зямлі, на якой жыве гэты пакутніцкі народ; хата Петрака і Сцепаніды - сімвал Беларусі і яе геапалітычнага становішча: хто ішоў на яе і праз яе, той і пакідаў "чырвоны пас на белым тле" яе; і бомба - сімвал народнага гневу і помсты...

12. Мноства ў аповесці і знакаў бяды: мёртвая птушка на Галгофе Петрака і Сцепаніды, спілаваны камсамольцамі крыж як сімвал адрынутай веры, смерць Янака, крык вароны... Чытач мае права на сваё ўсведамленне максімальнасці аднаго з усіх знакаў бяды, нашто і скіроўвае назва твора: знакаў бяды мноства, а ў загаловак вынесены нейкі адзін. Які ж?

Таленавітаму твору патрэбен таленавіты чытач. Крытэрыем таленавітага прачытання твора з'яўляецца ўсведамленне чытачом аўтарскай канцэпцыі і філасофіі, бо ад гэтага залежыць усведамленне ідэі філасофіі твора наогул.

Выступаючы на пленуме СП БССР у 1985 г., В. Быкаў сцвярджаў: "Здаўна вядома, што сувязь часоў - не абстрактнае паняцце, гэта катэгарычная прадумова міру і паступальнага развіцця грамадства, і гора (выдзелена намі) таму грамадству, дзе гэтая сувязь ірвецца. Утвараецца пустка, якую, як вядома, не трывае прырода; духоўная ж. пустка не толькі спыняе развіццё нацыі,- яна адкідвае яго да нуля. І тады зноў патрэбны стагоддзі высілкаў, подзвігаў апосталаў духу, каб вярнудь нацыю і грамадства ў іх гістарычны рад".

Калі напаткала нас гэта бяда-гора і разарвала повязь вякоў і пакаленняў? У найноўшай гісторыі - гэта сталінскі генацыд і апошняя вайна.

"Адно з самых недаравальных злачынстваў сталіншчыны,- пісаў В. Быкаў у 1989 г. у артыкуле "Назад ці наперад?" - ліквідацыя традыцыйнай хрысціянскай маралі, спрадвечнай сістэмы элементарных жыццёвых правілаў... Некалі імі ў поўным аб'ёме валодаў народ, цяпер жа не валодае ніхто..."

Самым максімальным знакам бяды ў аповесці з'яўляецца смерць Петрака і Сцепаніды, носьбітаў векавой народнай, "традыцыйнай хрысціянскай" маралі, ды яшчэ ад рук сваіх жа суайчыннікаў, тых, каго сталіншчына ўзгадавала, мабілізавала і прызвала. Менавіта такія, як Пятрок і Сцепаніда, і здзяйсняюць гэту повязь вякоў і пакаленняў, а з іх гібеллю "сувязь ірвецца". Гэта гібель сімвалізуе і нашы пакуты сёння, наша бязвер'е і бездухоўнасць і адказвае на пытанне: чаму мы такія, чаму выракаемся таго, чаго нідзе ў свеце не выракаюцца?

Камплект № 39

1. Першы сказ - складаназалежны з двума аднароднымі даданымі дапаўняльнымі, звязанымі з галоўным

падпарадкавальным злучнікам *як,* які ў другім дадаными сказе апушчаны, а паміж сабой два дадания звязваюцца злучнікам а.

Галоўны сказ - двухсастаўны, поўны, развіты, ускладнены аднароднымі выказнікамі.

Абодва дадания сказы - аднасастаўныя, няпэўнаасабовыя, развітыя. Схема:




Апошні сказ верша - складаназлучаны з агульным для двух простых сказаў членам *(у гэты час),* таму паміж простымі перад злучнікам і коска не ставіцца.

Абодва сказы - двухсастаўныя, поўныя, развітыя. Схема:




2. [Б'аз'л'ітасна], [с'л'озы].

3. Спалучэнне кропкі і працяжніка - эмфатычны*, індывідуальны знак. У гэтым вершы працяжнік - не проста сродак вобразнасці, а спосаб выяўлення аўтарскага светаўспрымання, філасофіі. Гэта працяжнік не паміж членамі сказа, а паміж двума папярэднімі сказамі, у якіх канстатацыя фактаў, выяў жыцця, і наступным, у якім лаканічнае азначэнне ўсяго апісанага, імя якому - *зло, царства д'ябла.*

4. 5. У першай частцы — інфармацыя, канстатацыя зла ў розных выявах. Зло шматаблічнае, бязмежнае, пералік яго выяваў можна доўжыць і доўжыць, але не ў тым назначэнне мастацтва наогул і гэтага верша ў прыватнасці. Кожны зло зведаў на сабе, і ў кожнага сваё

ўспрыманне яго. Шматкроп'ямі юная паэтка не абмяжоўвае і нашы, чытацкія, асацыяцыі. Яна абмежавалася канстатацыяй толькі некаторых, на яе думку, максімальных выяваў зла: сіла папрана, а ў матак адбіраюць дзяцей. І ў гэтым фрагменце верш вонкава пазбаўлены ўсякай метафарычнасці. Вонкавая адсутнасць метафар - мэтавая: праўда жыцця мацнейшая за любыя ўмоўнасці, і вобразнасць тут сапраўды была б недарэчнай.

Другая частка - філасофская, метафарычная. У ёй няма ніводнага слова, ужытага ў прамым значэнні. Яна - лірычная і парадаксальная па змесце, нечаканая і, здавалася б, алагічная зместу першай: зло твораць іншыя, а лірычны герой усведамляе свой грэх, сваю віну за тое, што творыцца навакол, і не ім.

Выратаванне душы, духоўнасць наогул, як найвышэйшае праяўленне і перадумова Царства Дабра, пачынаецца з усведамлення кожным з нас свайго граху, сваёй віны, за ўсё, што творыцца навакол, з пакаяння - сцвярджае дзевяцігадовы філосаф. Толькі тады на нашы душы пакладзе сваю руку Бог. Калі ж не ўсвядомім гэтага, не адумаемся - Бог адступіцца ад нас, а чорт, як папярэджваў нас Купала, загаціць "пекла да варотаў".

6. **Лірычны герой -** вобразны сродак, мастацкі прыём, спосаб выяўлення аўтарам пачуццяў, думак, спосаб рэалізацыі аўтарскай філасофскай канцэпцыі і ідэі твора адначасова.

Гэты верш з'яўляецца ілюстрацыяй таго, што нельга атаясамліваць асобу аўтара і лірычнага героя. Аўтарам твора з'яўляецца дзевяцігадовая дзяўчынка, а лірычным героем - асоба мужчынскага полу, чалавек, жыццёвага вопыту і мудрасці якога хапіла б на ўсіх нас, чым узмацняецца эфект абагульнення. *І ўспомніў я грэх свой,* а, паводле Бібліі (а біблейскія рэмінісцэн-

цыі ў творы відавочныя), дзеці ў тым узросце, у якім і аўтарка верша,- наогул бязгрэшныя істоты.

7. Твор В. Куставай "Грэх" - свабодны* верш, сапраўды свабодны і ад традыцыйнага рытму, і ад рыфмы, але не свабодны ад саміх асноў паэзіі.

Рытм і рыфма ў паэзіі з'яўляюцца сродкамі эмацыйнай арганізацыі мовы. Чым жа іх адсутнасць кампенсуецца ў свабодным вершы?

Перш за ўсё - своеасаблівай вобразнасцю*, умоўна-асацыятыўнай вобразнасцю, якая, узнаўляючы глыбока ўнутраныя, змястоўныя сувязі паміж прадметамі і з'явамі, патрабуе пэўных высілкаў, працы душы і розуму. Гэта паэзія інтэлектуальная, філасофская, з багатым падтэкстам, які патрабуе ад чытача "садумання", "сатворчасці" з паэтам. Вобразнасць у свабодным вершы "філасафічная".

Свабодны верш - гэта не нагрувашчванне вобразаў, не кампазіцыйная адвольнасць. Ён патрабуе ніколькі не меншай арганізаванасці, чым верш рыфмаваны. Яго вонкавая прастата не мае нічога агульнага са спрошчанасцю, свабода - з хаосам.

Адсутнасць рыфмы кампенсуецца інтанацыяй, якая выступае ў поўнай згодзе з сінтаксісам. І верш В. Куставай - таму доказ.

Свабоднымі вершамі з'яўляюцца многія вершы М. Танка: "Жадаю вам", "Я помню звычай старадаўні", "Перапіска з зямлёй" і інш.

Свабодным вершам з'яўляецца і ўрывак з прадмовы Ф. Скарыны да кнігі "Юдзіф".

8. Адказ гл. у камплекце № 10.

*9. Фіранка* - занавеска, шторы, гардзіны. "Адкрыў я фіранку..." - стаў усведамляць сябе ў гэтым свеце, разважаць, аналізаваць.

10. *Адбіра\юць\, бязлітасна* (бяз+літ+ас+н+а).

11. Заметка насычана фразеалагізмамі* - устойлівымі спалучэннямі з пераносным сэнсам.

*Цягнуць назад* - адставаць у нейкай справе і тым самым перашкаджаць іншым дасягнуць пэўных вынікаў;

*бібікі біць, лынды біць* - гультаяваць;

*спусціўшы рукавы* - абыякава;

*плесціся ў хвасце* - адставаць у нейкай справе;

*ад рук адбіцца* - выйсці з паслушэнства, не паддавацца ўздзеянню;

*ад сэрца адлягло* - супакоіцца, адчуць палёгку;

*ламаць галаву* - напружана думаць;

*біцца як рыба аб лёд* - без выніку і плену старацца;

*з сіл выбіцца* - стаміцца, змарыцца;

*запець Лазара* - прыкінуцца няшчасным, забедаваць;

*не вешаць носа* - не сумаваць, не траціць надзеі;

*адным махам* - адразу;

*не апускаць рук* - не траціць волі і жадання да дзейнасці;

*зарубіць сабе на носе* - цвёрда запомніць, мець на ўвазе;

*кіснуць са смеху* - смяяцца;

*не круціцца як вош апечаная* - паводзіць сябе стрымана, самавіта;

*не лічыць варон* - слухаць уважліва;

*матаць на вус* - прыкмячаць, запамінаць, браць пад увагу;

*з галавы вылецела* - забылася;

*глуздом варушыць* - думаць, разважаць;

*глупства пароць* - гаварыць неразумнае;

*за жываты хапацца* - моцна смяяцца;

*далека не наедзеш* - не дасягнеш жаданага выніку;

*зубы сцяўшы* - упарта, настойліва, цярпліва, праз сілу;

*даводзіць да ладу* - спарадкаваць, закончыць пачатае насуперак нежаданню, неахвоце;

*не кідаць слоў на вецер* - выконваць абяцанае;

*за пояс заткнуць* - перамагчы.

12. Паводле сферы выкарыстання (насценгазета), функцый і заданы (інфармацыя, уздзеянне), актуальнасці тэмы (неабходнасць арганізацыі разумовай дзейнасці як умовы паспяховай вучобы) гэты тэкст публіцыстычны. Аднак, каб зацікавіць пэўнай праблемай, актывізаваць увагу чытачоў, зрабіць выклад больш даступным і эмацыйным, у тэксце юнкорам выкарыстаны прыёмы індывідуалізацыі і псіхалагізацыі, уведзены дыялог (прыкметы "мастацкасці") і прыкметы гутарковага стылю (апісваюцца бытавыя зносіны, узаеміны сяброў): няпоўныя і аднасастаўныя, пытальныя і пабуджальныя сказы, актыўнае ўжыванне фразеалагізмаў.

Як вядома, кожны стыль характарызуецца пэўным наборам спецыфічных прыкмет. Аднак стылі не ізаляваныя адзін ад аднаго. Яны знаходзяцца ў заўсёдным узаемапранікненні.

Камплект № 40

1. Першы сказ - складаны з рознымі відамі сувязі. Ён уяўляе сабой дзве структурныя часткі. Першая - просты сказ, двухсастаўны, поўны, развіты. Другая частка - складаназалежны сказ з даданым дапаўняльным, які стаіць перад галоўным сказам і канкрэтызуе дапаўненне ў ім, выражанае ўказальным займеннікам *таму.* Ён звязваецца з галоўным сказам злучнікам *калі.* І галоўны, і даданы сказы - аднасастаўныя, няпэўнаасабовыя, развітыя. Першая з другой структурнай часткай звязваюцца бяззлучнікавай сувяззю, паміж імі ставіцца двукроп'е, бо другая частка паясняе, дапаўняе, раскрывав змест першай. Схема:




Другі сказ - складаны з рознымі відамі сувязі. Шэсць раўнапраўных самастойных сказаў (аднасастаўныя, няпэўна-асабовыя, няпоўныя, бо ва ўсіх прапушчаны выказнікі *клалі,* якія лёгка ўзнаўляюцца з папярэдняга складанага сказа), развітыя, паясняюцца агульным для ўсіх шасці даданым мэты (ён аднасастаўны, безасабовы), які далучаецца да гэтых сказаў падпарадкавальным злучнікам *каб.* Другі просты з шасці самастойных з'яўляецца адначасова галоўным для даданага азначальнага, з якім даданы звязваецца злучальным словам *што.* Увесь сказ уяўляе сабой своеасаблівы перыяд: у ім выразны падзел на дзве часткі, анафарычная будова сказаў першай часткі. Паасобныя часткі перыяду раздзяляюцца кропкай з коскай.

Схема:




Трэці сказ - складаназалежны з паслядоўным падпарадкаваннем. Галоўны сказ ускладнены звароткам, які, як ужо адзначалася ў камплекце № 35, сінтаксісты разглядаюць як зваротак-дзейнік у такога тыпу сказах. Першы даданы мэты раскрывае прызначэнне таго, пра што гаворыцца ў галоўным сказе, і звязваецца з ім падпарадкавальным злучнікам *каб.* Гэты даданы сказ мэты двухсастаўны, поўны, развіты. Другі даданы да-

паўняльны сказ паясняе дапаўненне ў першым даданым сказе, выражанае ўказальным займеннікам *тое,* і звязваецца з гэтым даданым сказам злучальным словам *што.* Гэты даданы дапаўняльны сказ двухсастаўны, поўны, развіты. Схема:




2. *У час развітання* - калі памру.

*Музыка* грае на скрыпцы. Яго *музыка* натхняе людзей на дабро.

Матываваныя словы: *араты, сявенъка, стралец, музыка, бубен, жалейка, падкова, шавец, вінакур, грамніца.*

Гэтыя назвы матываваныя, яны маюць унутраную форму, г. зн. што іх значэнне перадаецца з дапамогай іншага значэння, і мы разумеем, чаму менавіта так названы прадмет, прымета, дзеянне: *сявенька* ад слова *сеяць, стралец - страляць, араты - араць, шавец - шыць* і г. д.

3. *Таму* ў першым сказе - займеннік *той* у давальным склоне. У сказе - дапаўненне. *Таму* ў трэцім сказе - прыслоўе прычыны, у сказе з'яўляецца акалічнасцю. Слова *таму* можа быць часткай састаўнога падпарадкавальнага злучніка. *Вучань не рашыў задачу, таму што не засвоіў тэарэтычны матэрыял.*

4. *Капыл* - кавалак дрэва ў форме ступні, на якім шавец робіць абутак;

на *чый капыл* - чыім-небудзь спосабам, на чый-небудзь манер;

на *адзін капыл* - аднолькава;

*гнуць на свой капыл* - рабіць па-свойму, не зважаючы на думку іншых;

*і з капылоў далоў* - зваліцца з ног, паваліцца;

*дратва* - тоўстая, моцна прасмоленая або навошчаная нітка для шыцця абутку і іншых скураных вырабаў;

*дубіца* - дубільнае рэчыва, раствор;

*сявенька* - лубянка для ручной сяўбы;

*грамніца* - грамнічная свечка; свечка, якую асвячаюць у касцёле ці царкве на Грамніцы (хрысціянскае свята, якое прыпадае на 15 лютага, Стрэчанне).

5. *Грамніцы* - свята, а *грамніца* - грамнічная свечка.

Паранімія* - частковае супадзенне па гучанні слоў, якія адрозніваюцца паміж сабой значэннем: *дыпламант і дыпламат; адрасат і адрасант.*

У беларускай мове сустракаюцца такія словы не толькі парамі, але па тры ці нават па чатыры ў адным радзе:

*асабісты* уклад - *асаблівы* эфект уздзеяння - *асабовы* займеннік;

*адзінксівы* выпадак - *адзіночны* лік - *адзінокі* чалавек - *адзіны* шлях, выбар.

Пры недастатковым валоданні мовай адбываецца памылковае словаўтварэнне *(дажджавая* восень, замест *дажджлівая; дымная* шашка замест *дымавая; гліняны* бераг замест *глiністы; гліністы* посуд замест *гліняны).*

У 1977 г. выйшаў першы слоўнік паронімаў беларускай мовы С. М. Грабчыкава "Цяжкія выпадкі ўжывання блізкіх па гучанню слоў", у 1980 г. - яго ж слоўнік "Міжмоўныя амонімы і паронімы" і ў 1994 г. - "Слоўнік паронімаў беларускай мовы".

6. *Аб'ездчык* старажуе, пільнуе, даглядае лес. *Алейнік* - робіць, б'е масла. *Гарбар* - вырабляе скуры. *Грабар* - землякоп, капае, да прыкладу, студні. *Ганчар* -

вырабляе гліняны посуд. *Каморнік* - мерыць зямлю, землямер. *Маляр* беліць і фарбуе сцены. *Муляр* - каменшчык, будаўнік. *Смалакур* - варыць смалу. *Тынкоўшчык* - тынкуе сцены. *Цясляр* будуе дамы з дрэва. *Стэльмах* - вырабляе калёсы. *Сталяр* робіць дзверы і вокны.

7. Сутнасць чалавека вызначаецца справай, якой ён прысвяціў сваё жыццё, - сцвярджае паэт, а метафарай *каб напісаў я вам пра тое, што ўсіх чакае на тым свеце* лаканічна і вычарпальна рэалізуе галоўную філасофскую ідэю і праблему твора - праблему прызначэння мастака, творцы ў грамадстве.

У народзе не раз можна пачуць: калі б хто змог адтуль вярнуцца і расказаць, "як там жывецца", то разам вырашылася б мноства праблем у гэтым свеце. Людзі ведалі б, дзеля чаго жывуць, чым толькі і трэба даражыць, жывучы імгненне на гэтай зямлі. І гэта паўплывала б на іх думкі, паводзіны, справы сёння тут. Але гэта нявдзейснае.

Біблейскія* і фальклорныя рэмінісцэнцыі выкарыстаны паэтам для сцвярджэння таго, «што паэт-прарок, і толькі яму дадзена здзейсніць нявдзейснае: бачыць, чуць, разумець, ведаць тое, чаго не могуць убачыць, пачуць, зразумець астатнія. Папярэдзіць, перасцерагчы, падказаць здольны паэт, бо яму дадзена больш, чым усім астатнім. І папярэджваюць, і настаўляюць, і перасцерагаюць, толькі людзі не слухаюць пракокаў. Сапраўды: **няма прарокаў у сваёй Айчыне!** Складаны сінтаксіс, анафарычная будова сказаў, мноства канкрэтных назоўнікаў - усё ў вершы для выражэння абстрактных паняццяў: сэнс жыцця і яго разнастайнасць, складанасць, пакутлівыя пошукі чалавекам адказу на вечныя праблемы - пошук ісціны.

8. [Б'ас'в'ата]; [брат ы дз'ац' ка]; [с'м'эх і грэх];

[н'аг'эглы] ([г] - выбухны); [шапкају]; [ацадз'іц']; [ац'с'у'л']; [адус'улі; [з'м'ан'э]; [с к'ім]; [Кас'п'аров'іч]; [ск'інуц']; [пац'імкав'ічам'і].

9. Сінтаксічна верш уяўляе сабой адзін складаны сказ з рознымі відамі сувязі - перыяд* (сінтаксічная адзінка з дзвюх частак).

Першая частка складаецца з трох анафарычных складаназалежных сказаў, звязаных паміж сабой бяззлучнікавай сувяззю, адзін ад аднаго гэтыя тры складаназалежныя сказы аддзяляюцца кропкай з коскай.

Усе галоўныя сказы - двухсастаўныя. Усе даданыя пры іх - даданыя ўмовы з адценнем прычыны. З галоўнымі сказамі яны звязваюцца анафарычнымі злучнікамі *калі.*

Другая, галоўная частка перыяду, бо ў ёй заключана галоўная інфармацыя і ідэя сказа-верша, - таксама складаназалежны сказ з даданым умовы з адценнем прычыны. Першая і другая часткі перыяду раздзяляюцца, як і заўсёды ў перыядзе, коскай і працяжнікам, а звязваюцца паміж сабой злучнікам і ў значэнні злучніка *але.* Гэты злучнік адначасова выконвае ролю ўзмацняльнай часціцы.

Схема сказа:




Ва ўсіх галоўных сказах ёсць дзейнік *ты,* а ў апошнім адсутнічае, што ўплывае не толькі на тып сказа (ён ужо не двухсастаўны, а аднасастаўны, абагульне-

на-асабовы), але і на ступень абагульнення філасофскай думкі.

Тры першыя даданыя ўмовы маюць відавочнае адценне прычыны, у чацвёртым даданым сказе - толькі значэнне ўмовы, што таксама "працуе" на ідэю верша.

10. Абодва вершы адносяцца да філасофскай лірыкі; будова сказаў у іх анафарычная. Другі верш "Голас ..."- складаны бяззлучнікавы сказ, які складаецца з чатырох аднатыпных, анафарычных, як і ў першым вершы, сказаў.

У абодвух вершах дамінуючымі мастацкімі сродкамі з'яўляюцца анафары* (прычым і лексічная, і сінтаксічная) і градацыя* (стылістычная фігура, паступовае нарастанне або, наадварот, аслабленне ўражання, пачуцця, перажывання).

11. Стыль творчасці М. Танка вызначае яго схільнасць да філасофскага* ўспрымання і адлюстравання жыцця, выкарыстання фальклору* і фальклорных элементаў, метафарычнасці*, і пры ўсёй разнастайнасці метрыкі выкарыстання вялікіх магчымасцей менавіта свабоднага верша* з усімі характэрнымі для гэтага жанра лірыкі асаблівасцямі.

12. Назвы ўсіх гэтых вершаў аднайменныя з назвамі зборнікаў М. Танка.

## Паказальнік імён

З а ў в а г а. Курсівам падаюцца нумары старонак, прысвечаных стылю, асаблівасцям творчасці пісьменнікаў. Напрыклад, пра адметнасці стылю В. Быкава чытайце на староках 74, 76, 228, 229, 230, 237/245.

## Паказальнік некаторых тэрмінаў, азначэнняў і заданняў*

## Змест

##### Літаратура


1. Беларуская энцыклапедыя. - Мн., 1996-1999. - Т. 1-8.
2. Беларускія пісьменнікі (1917-1990): Даведнік. - Мн., 1994.
3. Францыск Скарына і яго час: Энцыклапедычны даведнік. - Мн., 1998.
4. Беларуская мова: Энцыклапедыя. - Мн., 1994.
5. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. - Мн., 1996.
6. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. - Мн., 1977-1984. - Т. 1-5.
7. Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Даведнік. Каментарыі. - Мн., 1989.
8. Лабынцаў Юрый. Скарынаўскі каляндар. - Мн., 1990.
9. Евангелие Господа нашего Иисуса Христа. На четырех языках: эллинском, славянском, российском и белорусском. С параллельными местами. - Мн., Белорусский Экзархат, 1991.
10. Сямешка Л.І., Шкраба І.Р., Бадзевіч З.І.. Курс беларускай мовы. - Мн., 1996.
11. Беларуская мова / Пад агульнай рэдакцыяй Л.М. Грыгор'евай. - Мн., 1994.
12. Лепешаў І.Я. Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы. - Мн., 1993. - Т. 1-2.
13. Бардовіч А.М., Шакун Л.М. Марфемны слоўнік беларускай мовы. - Мн., 1989.
14. Сучасная беларуская літаратурная мова: Лексікалогія. Фанетыка. Арфаграфія. - Мн., 1993.
15. Русско-белорусский словарь. - 5-е изд., исправленное. - Мн., 1994.
16. Грабчыкаў С.М. Слоўнік паронімаў беларускай мовы. - Мн., 1994.
17. Сучасная беларуская літаратурная мова. Марфалогія / Пад рэд. Ф.М. Янкоўскага. - Мн., 1980.
18. Лазарук М.А., Ленсу А.Я. Слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў. - Мн., 1996.
19. Рагойша В.П. Паэтычны слоўнік. - Мн., 1979.
20. Мысліцелі і асветнікі Беларусі: Энцыклапедычны даведнік. - Мн., 1995.
21. Клышка М.К. Слоўнік сінонімаў і блізказначныхтэрмінаў. - Мн.. 1976.
22. Санько З. Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем. - Мн., 1991.
23. Ластоўскі В. Расійска-крыўскі (Беларускі) слоўнік. - Коўна, 1924.
24. Старабеларускія лексіконы: "Лексисъ съ толкованіемь словенскіх мовъ просто", "Лексис..." Л. Зізанія, "Синонима славенороссская". - Мн., 1992.
25. Старычонак В.Дз. Беларуская літаратура: ад А да Я. - Мн., 1998.
26. Арлоў Уладзімір. Еўфрасіння Полацкая. Евросиния Полоцкая. - Мн., 1992.
27. Цікоцкі М.Я. Стылістыка беларускай мовы. - Мн., 1995.
28. Шакун Л.М. Гісторыя беларускага мовазнаўства. - Мн., 1995.
29. Байкоў М. і Некрашэвіч С. Беларуска-расійскі слоўнік. - Менск, 1926.
30. Шкраба Ірына. Самабытнае слова. - Мн., 1994.
31. Янка Купала: Энцыклапедычны даведнік. - Мн., 1986.